# ЯЎГЕН АНІШЧАНКА




*Збор*
*твораў*
*у шасці*
*тамах*

**Выдавец**
**Віктар**
**Хурсік**

# ЯЎГЕН АНІШЧАНКА

*том* **3**

## *СССР*

***Святы саюз свабодных рыцараў***

***Дакументы паўстання 1794 г. у Літоўскай правінцыі***

*Укладанне*
*рэдакцыя*
*прадмова*

**Мінск 2006**

*УДК 94(476)*
*ББК 63.3(4 Беи)*
*А32*

Анішчанка Я. К.

*А32* Збор твораў. У 6-ці т. Т.3. СССР: Святы саюз сваб. рыцараў. Дакум. паўст. 1794 г. у Літоўс. правінцыі /Я. К. АнішчанкаМн:Выд. В.Хурсік, 2006.—306 с.

*ISBN 985-6718-69-4 (т.3)*
*ISBN 985-6718-15-5*

*Дадзены зборнік працягвае знаёміць чытача з дакументамі паўстання 1794 г., што знаходзяцца ў архіве Польскай акадэміі навук у Курніку. У ім змешчаны надрукаваныя ў свой час вышэйшым і мясцовым кіраўніцтвам паўстання універсалы па прапагандзе вызваленчых ідэй і мабілізацыі жыхароў ВКЛ у іх падтрымку.*

*УДК 94(476)*
*ББК 63.3(4 Беи)*

**ISBN 985-6718-69-4 (т.3)**
**ISBN 985-6718-15-5**

## *Спіс дакументаў*

*1. 19 красавіка. Ліст Д. Пільхоўскага да гродзенскага дэкана І. Свяжынскага адносна даведак пра святароў* ........ 14
*2. 24 красавіка. Апісанне паўстання ў Вільна* ........ 14
*3. 24 красавіка. Абвяшчэнне Віленскай радай паўстання пачатку сваёй арганізацыі і кампетэнцыі* ........ 17
*4. 24 красавіка. Абвяшчэнне Я. Ясінскага галоўнакамандуючым узброенымі сіламі паўстання ў ВКЛ* ........ 21
*5. 28 красавіка. Зварот скарбовай дэпутацыі Віленскай рады да удзельнікаў Таргавіцкай канфедэрацыі аб звароце грошай* ........ 22
*6. 29 красавіка. Сведчанне Віленскай рады аб ахвераваннях М. К. Агінскага, М. Граноўскага, А. Пацэя і іншых асоб* ........ 23
*7. 1 мая. Наказ Віленскай рады арандатарам дзяржаўных маёнткаў адносна іх фінансавай адказнасці* ........ 25
*8. 1 мая. Заклік Віленскай рады насельнікаў ВКЛ да агульнага узбраення* ........ 27
*9. 2 мая. Зварот Віленскай рады да ўсіх уласнікаў аб выдачы стралкоў* ........ 30
*10. 2 мая. Зварот С. Корсака да сваіх сялян у Данюшава* ........ 31
*11. 3 мая. Увядзенне Віленскай радай свайго кантролю над лінейным войскам* ........ 32
*12. 3 мая. Універсал Віленскай рады аб агульным узбраенні ў княстве* ........ 33
*13. 3 мая Акт падтрымкі паўстання Эйшышскім паветам* ........ 36
*14. 4 мая. Зварот Віленскай рады да жыхароў ваколіц аб выдачы коней* ........ 37
*15. 7 мая. Універсал Віленскай рады аб унясенні падаткаў, уведзеных Вялікім сеймам* ........ 38
*16. 8 мая. Абвяшчэнне гродзенскім магістратам сваіх мер адносна кантрыбуцыі з горада* ........ 40
*17. 9 мая. Акт падтрымкі паўстання Гродзенскім паветам з узорам прысягі* ........ 42
*18. 9 мая. Загад Віленскай рады адносна бурлакоў* ........ 45
*19. 9 мая. Універсал Віленскай рады аб камплектаванні войска рэкрутамі і ахвотнікамі* ........ 46
*20. 9 мая. Узорная прамова святара да вернікаў* ........ 51
*21. 10 мая. Інструкцыя для інтэндантаў у парафіях* ........ 54
*22. 10 мая. Арганізацыя крымінальнага суда паўстання ў ВКЛ* ........ 55
*23. 10 мая. Адозва М. К.Катла да абывацеляў Ашмянскага павета* ........ 57
*24. 10 мая. Заклік Гродзенскай парадкавай камісіі да жыхароў павета да агульнага ўзбраення* ........ 58

*25. 11 мая. Адмена Віленскай радай пабору шэлягавага ........ 62*
*26. 12 мая. Універсал К Ельскага адносна пераходаў без пашпартоў ........ 62*
*27. 13 мая. Указ К. Ельскага аб прысылцы у Гродна рамеснікаў ........ 63*
*28. 14 мая. Універсал Мерацкай камісіі аб унясенні падаткаў з павета ........ 64*
*29. 14 мая. Рэгламент дзейнасці дэпутацыі публічнага забеспячэння Віленскай рады ........ 66*
*30. 15 мая. Інструкцыя павятовым генерал-маёрам ........ 70*
*31. 15 мая. Абвяшчэнне складу Гродзенскай парадкавай камісіі ........ 74*
*32. 15 мая. Увядзенне гродзенскай камісіяй адказнасці членаў Таргавіцкай канфедэрацыі за мінулую дзейнасць ........ 77*
*33. 15 мая. Напамін гродзенскай камісіі удзельнікам Таргавіцы аб звароце пабраных імі грошай ........ 79*
*34. 16 мая. Заклік К. Ельскага да жыхароў Гродзенскага павета аб пастаўцы коней ........ 80*
*35. 16 мая. Абвяшчэнне К.Ельскага адносна запісу ў валанцёры ........ 81*
*36. 17 мая. Адозва гродзенскай камісіі да татар павета ........ 81*
*37. 17 мая. Распісанне функцый аддзелаў Гродзенскай парадкавай камісіі ........ 82*
*38. 17 мая. Рэарганізацыя складу парафій Гродзенскага павета ........ 87*
*39. 19 мая. Прамова І. Храптовіча на рынку г. Гродна ........ 88*
*40. 19 мая. Заклік гродзенскай камісіі абывацеляў павета да добраахвотнай падтрымкі паўстання ........ 90*
*41. 19 мая. Напамін гродзенскай камісіі сваім членам аб іх абавязках ........ 92*
*42. 19 мая. Меры гродзенскай камісіі адносна жабракоў і валацугаў ........ 93*
*43. 19 мая. Загад гродзенскай камісіі аб паслухмянасці жыхароў вярхоўным уладам паўстання ........ 94*
*44. 20 мая. Універсал гродзенскай камісіі адносна рэкрутаў, кантаністаў і ахвотнікаў ........ 96*
*45. 20 мая. Адозва гродзенскай камісіі да абывацеляў аб займе ........ 99*
*46. 20 мая. Распісанне паштовай службы Гродзенскага павета (крэсаў) ........ 101*
*47. 20 мая. Пастанова гродзенскай камісіі аб бурлаках ........ 104*
*48. 20 мая. Універсал гродзенскай камісіі аб перапісу жыхароў і выдачы пашпартоў ........ 107*
*49. 20 мая. Напамін гродзенскай камісіі уласнікам адносна пастаўкі коней у войска ........ 110*
*50. 21 мая. Зварот Т. Касцюшкі да жыхароў ВКЛ ........ 111*
*51. 21 мая. Зварот гродзенскай камісіі да святароў павета за грашыма ........ 113*
*52. 22 мая. Напамін гродзенскай камісіі шляхце павета яе рыцарскіх абавязкаў бараніць край ........ 114*

*53. 22 мая. Абвяшчэнне Віленскай радай сваёй часовай улады і паблажлівасці да таргавічан ....117*
*54. 22 мая. Расклад правіянцкіх складоў Гродзенскага павета ....119*
*55. 23 мая. Распісанне збожжавай ссыпкі ў Гродзенскім павеце ....124*
*56. 24 мая. Разнарадка гродзенскім камісарам для прыняцця прысягі ад насельнікаў павета ....127*
*57. 24 мая. Абвяшчэнне Мерацкай камісіі пра забарону вывазу прадуктаў за мяжу ....133*
*58. 24 мая. Зварот Мерацкай камісіі да сялян ....134*
*59. 24 мая. Пастанова гродзенскай камісіі аб канфіскацыі срэбра ў духавенства павета ....136*
*60. 25 мая. Забарона гродзенскай камісіяй несанкцыянаваных прамоў да народа ....138*
*61. 26 мая. Увядзенне гродзенскай камісіяй адказнасці за недазволеныя прамовы ....139*
*62. 27 мая. Удакладненні гродзенскай камісіі адносна забароны экспарту ....140*
*63. 29 мая. Загад гродзенскай камісіі адносна ўнясення падаткаў ....142*
*64. 29 мая. Універсал Віленскай рады аб арганізацыі абароны г. Вільна ....143*
*65. 27 мая.Прадпісанне Віленскай рады аб абыходжанні з рускімі салдатамі і палоннымі ....149*
*66. 30 мая. Арганізацыя парадкавых камісій у ВКЛ ....151*
*67. 30 мая. Арданакс Т. Касцюшкі А. Казаноўскаму на фарміраванне палка коннай міліцыі Гродзенскага павета ....156*
*68. 31 мая. Загад К. Ельскагаа ротмістрам адносна вярбоўкі шляхты ....157*
*69. 30 мая. Распісанне паштовых гонаў (крэсаў) у Гродзенскім павеце ....158*
*70. 31 мая. Універсал гродзенскай камісіі аб агульным узбраенні павета ....160*
*71. 1 чэрвеня. Пастанова Віленскай рады адносна маёнткаў асуджаных кіраўнікоў Таргавіцкай канфедэрацыі ....162*
*72. 3 чэрвеня. Арганізацыя крымінальнага суда ў Кароне і ВКЛ ....163*
*73. 5 чэрвеня. Загад Варшаўскай рады цэхам аб пашыўцы ботаў ....170*
*74. 5 чэрвеня. Загад Варшаўскай рады купцам і рамеснікам ВКЛ аб недазволенасці самавольнага вырабу і вывазу медзі і волава ....170*
*75. 5 чэрвеня. Прадпісанне Гродзенскай камісіі аб утрыманні правіянцкіх складоў ....171*
*76. 5 чэрвеня. Загад К. Ельскага святарам парафій на рассылку універсалаў і іх адказнасці пры гэтым ....173*
*77. 6 чэрвеня. Універсал Варшаўскай рады да жыхароў ВКЛ адносна склікання паспалітага рушэння і агульнага узбраення ....174*

*78. 6 чэрвеня. Увядзенне гродзенскай камісіяй адказнасці загадчыкаў правіянцкіх складоў*......176
*79. 9 чэрвеня. Напамін Віленскай рады таргавічанам аб іх адказнасці*......178
*80 10 чэрвеня. Ардананс Т. Касцюшкі аб пачатку дыверсійных рэйдаў углыб акупіраваных тэрыторый*......179
*81. 12 чэрвеня. Зварот гродзенскай камісіі да яўрэяў павета адносна іх удзелу у паўстанні*......180
*82. 12 чэрвеня. Дазвол гродзенскай камісіі А. Казаноўскаму на вярбоўку коннага палка*......181
*83. 12 чэрвеня. Адозва А. Казаноўскага да шляхты павета аб яе вярбоўцы у конны полк*......182
*84. 13 чэрвеня. Інструкцыя гродзенскай камісіі аб паборах на мастах і пераездах*......183
*85. 14 чэрвеня. Універсал Варшаўскай рады аб паступленні з жабракамі*......184
*86. 14 чэрвеня. Універсал Варшаўскай рады аб увядзенні скарбовых заручэнняў за пастаўку прадуктаў*......185
*87. 14 чэрвеня. Вызваленне гродзенскай камісіяй шляхты ад паспалітага рушання за вярбоўку у полк Казаноўскага*......186
*88. 15 чэрвеня. Увядзенне гродзенскай камісіяй прымусовага вырабу палатна яўрэйкамі*......187
*89. 15 чэрвеня. Універсал гродзенскай камісіі аб адмене пастаўкі коней з 25 дымоў*......188
*90. 15 чэрвеня. Загад гродзенскай камісіі аб пастаўцы касінераў з павета*......189
*91. 16 чэрвеня. Рэзалюцыя Варшаўскай рады аб адкрыцці актаў зямянскіх судоў*......190
*92. 17 чэрвеня. Зварот Варшаўскай рады да жыхароў Кароны і ВКЛ адносна дэкларацыі Пецярбурга ў адрас сялян*......191
*93. 17 чэрвеня. Заклік гродзенскай камісіі жыхароў павета да добраахвотнай пастаўкі рэчаў і прадуктаў на мэты паўстання*......193
*94. 18 чэрвеня. Заява гродзенскай кантрыбуцыйнай камісіі жыхарам*......194
*95. 20 чэрвеня. Зварот ЦД да насельнікаў ВКЛ за добраахвотнымі ахвяраваннямі*......199
*96. 20 чэрвеня. Заручэнне гродзенскага магістрата адносна добраахвотнага запісу у міліцыю павета*......200
*97. 21 чэрвеня. Загад гродзенскай камісіі усім святарам аб іх адказнасці*......201
*98. 23 чэрвеня. Устанаўленне Вярхоўнага крымінальнага суда ў Кароне і ВКЛ*......201
*99. 23 чэрвеня. Прадпісанне гродзенскай камісіі аб пастаўцы сухароў*......206
*100. 23 чэрвеня. Наказ Цэнтральнай дэпутацыі паборшчыкам вінакурных падаткаў*......207
*101. 27 чэрвеня. Тлумачэнні ЦД парадку збора рэкрутаў з 5 і 25 дымоў*......207

*102. 27 чэрвеня. Загад гродзенскай камісіі сваім камісарам аб люстрацыі збожжавай ссыпкі ў павеце ...209*
*103. 30 чэрвеня. Прадпісанне ЦД адносна транспарту пад харчовыя паборы у паветах ...210*
*104. 30 чэрвеня. Распараджэнне гродзенскай камісіі аб змене свайго складу ...213*
*105. 5 ліпеня. Распараджэнне гродзенскай камісіі наконт складак дымоў на пастаўку коней і рэкрутаў ...214*
*106. 7 ліпеня. Рэзалюцыя гродзенскай камісіі аб увядзенні цялесных пакаранняў сялян за схову дызэрціраў і нявыдачу рэкрутаў ...214*
*107. 11 ліпеня. Загад гродзенскай камісіі яўрэям аб змене імі строя ...215*
*108. 17 ліпеня. Рэзалюцыя гродзенскай камісіі адносна аплаты 5-дымовых рэкрутаў па квітанцыях ...215*
*109. 21 ліпеня. Апісанне штурма г. Вільна і яго абароны ...216*
*110. 25 ліпненя. Арганізацыя новага утрымання правіянцкіх складоў у Гродзенскім певеце ...218*
*111. 26 ліпеня. Прадпісанне ЦД аб канфіскацыі царкоўнага срэбра ў Гродзенскім павеце ...220*
*112. 26 ліпеня. Пастанова Варшаўскай рады аб дазорах ...221*
*113. 30 ліпеня. Рэзалюцыя гродзенскай камісіі аб крымінальнай адказнасці за дызерцірства і недазволеныя пераходы ...228*
*114. 13 жніўня. Рэзалюцыя кантрыбуцыйнай камісіі Гродзенскага павета ...229*
*115. 20 жніўня. Пастанова гродзенскай камісіі аб выкананні розных універсалаў Варшаўскай рады ...229*
*116. 20 жніўня. Пастанова Варшаўскай рады адносна забеспячэння войска ...235*
*117. 23 жніўня. Рэзалюцыя камісіі аб парадку уплаты кантрыбуцыі з г. Гродна ...236*
*118. 24 жніўня. Пастанова гродзенскай камісіі аб пастаўцы кажухоў у войска з рэзалюцыямі Варшаўскай рады ад 1 і 15 жніўня ...237*
*119. 25 жніўня. Пастанова гродзенскай камісіі аб паборы ботаў, кашуль і сярмяг з рэзалюцыяй Варшаўскай рады ад 17 жніўня ...238*
*120. 30 жніўня. Узнаўленне гродзенскай камісіяй крымінальнай адказнасці за нявыдачу рэкрутаў, фурманак і брычак ...240*
*121. 30 жніўня. Рэзалюцыя Варшаўскай рады наконт аплаты за пастаўку фуража ...241*
*122. 6 верасня. Рэзалюцыя гродзенскай камісіі на загад Варшаўскай рады ад 23 жніўня адносна перапісу духавенства ў княстве ...243*
*123. 11 верасня. Заклік Варшаўскай рады да абывацеляў ВКЛ не супрацоўнічаць з расійскімі акупантамі ...244*

*124. 11 верасня. Устава Варшаўскай рады аб займе і дэпазітах у ВКЛ* ..... *247*
*125. 18 верасня. Рэзалюцыя гродзенскай камісіі адносна вызвалення сялян ад пабору рэкрутаў* ..... *256*
*126. 21 верасня. Распараджэнне ЦД аб парадку унясення і прыняцця займаў* ..... *257*
*127. 24 врасня. Зварот гродзенскай камісіі да парафіяльных святароў у справе прыняцця імі функцый настаўнікаў у дазорах* ..... *258*
*128. 24 верасня. Загад гродзенскай камісіі жыхарам павета на пастаўку жывёлы у войска* ..... *260*
*129. 27 верасня. Абвяшчэнне гродзенскай камісіі пра адказнасць духавенства за схову рэчаў* ..... *261*
*130. 30 верасня. Заклік ЦД жыхароў ВКЛ да хуткага вымалоту ураджая на патрэбы войска* ..... *262*
*131. Тарыф дымоў у парафіях Гродзенскага павета* ..... *263*
*132. Агульны стан правіянцкіх складоў Гродзенскага павета ў жніўні верасні* ..... *280*
*133. 7 кастрычніка. Рапарт аддзела жыўнасці Гродзенскай камісіі ў Цэнтральную дэпутацыю аб забеспячэнні маршыруючых войск* ..... *281*

## № 1. 19 красавіка. Ліст Д. Пільхоўскага да гродзенскага дэкана І. Свяжынскага адносна даведак пра капланаў

Ліст ксяндза Пільхоўскага, віленскага афіцыяла, напісаны ксяндзу, гродзенскаму дэкану Свяжынскаму пад датай 19 красавіка 1794 г.

Для належнага ведання патрэбнага ў розных афіцыйных выпадках і абставінах і асабліва для прыстойнага ўтрымання даверанага мне ўрада афіцыяла, пасылаю вашай мосці пану маю рэквізіцыю з тым, каб ты меў ласку, не чакаючы новай візітацыі, паведаміць мне дакладным рапартам пра царкоўных капланаў, жывучых у тваім дэканаце з улікам капланаў, служачых па панскіх дварах, па наступных пунктах: 1. Колькі кожны мае гадоў жыцця. 2 . Колькі год з'яўляецца капланам. 3. Як доўга трымае царкоўны сан і таксама спраўляе ў касцёлах духоўныя паслугі. Май ласку загадаць ягамосцям панам капланам, належачых да твайго дэканату, каб яны пры наведванні Вільна па сваіх інтарэсах афіцыйна прадстаўляліся мне. Спадзяюся на хуткую дапамогу ягамосці пана, як супрацоўніка Хрыстовай вінніцы, у чым застаюся з належнай пашанай.

*Давід Пільхоўскі, прэлат, суфраган, віленскі афіцыял*
*БПАНК, с. 35188, л. 8. Копія.*

## № 2. 24 красавіка. Апісанне паўстання ў г. Вільна

Горад Вільна, аточаны расійскім войскам пад камандай генерала Арсеньева і значнай колькасцю расійскіх штаб- і унтэр-афіцэраў, быў пакрыўджаны гвалтам над двума палкамі мясцовага гарнізона, які здарыўся ў той сталіцы пры арышце і вывазу па загаду расійскай каманды ягамосцяў Бжастоўскага, пінскага старасты, Радзішэўскага, старадубскага харунжага, ксяндза Богуша, прэлата, і Грабоўскага, галоўнага адваката, а таксама іншых нявінных асоб, ужо папярэджаных. Аднак усё гэта не зрабіла б так хутка шчаслівай рэвалюцыі, каб не тое, што гетман Касакоўскі, старшынствуючы у віленскай вайсковай камісіі, радай і сакрэт-

нымі зносінамі з Ігельстромам займеў нейкія падазрэнні адносна штаб-афіцэраў краёвага войска і рашыў іх арыштаваць. Ягамосць пан Ясінскі, палкоўнік інжынераў, унікнуўшы асабістага і ўжо непазбежнага арышту, пастараўся мужнасцю і сваёй кемлівасцю вызваліць сябе, горад і Айчыну з няволі разам з калегамі афіцэрамі польскага войска, якога ў Вільні было не болей двух скарочаных кампаній 4-га рэгімента, таксама двух такіх жа з 7-га рэгімента, прыданых для аховы камісіі, і прыкладна такой жа лічбы ужо скарочанай літоўскай артылерыі, з якой аддзяліўшы яшчэ меншую частку, ён ужыў да свайго замеру. Ясінскі хаваўся ў Вільна пры звестках аб праследзе гетмана. А ўначы з 22 на 23 красавіка ён склаў і вышкаліў шчаслівы сакрэтны план атакі Масквы, стаячай у Вільна. Невялікія часткі салдат пад кіраўніцтвам вызначаных і добра падрыхтаваных афіцэраў з розных вуліц разам збліզіліся да рынку і атакавалі гаўптвахту. Тады ж адна з тых частак атакавала варту самога генерала. Гук стрэлу гарматы пад цэйхгаузам каля гадзіны начы стаў момантам для такога раптоўнага і шчаслівага нападу, што адразу былі захоплены сама гаўптвахта з двумя гарматамі на рынку, а потым пабіта генеральская варта. Сам генерал з усімі штаб-і обер-афіцэрамі без усякага апору былі арыштаваны і забраны прама ў сваіх кватэрах. Маскалёў ахапіў такі агульны страх, што іх бралі разгубленымі і без зброі прывадзілі і замыкалі ў касцёле св. Казіміра на рынку. Гарматы, харугвы, штандары, амуніцыя, магазіны, каса – усё трапіла ў нашы рукі. Атака не цягнулася больш двух поўных гадзін, за якія было забіта некалькі расійскіх салдат і столькі ж ранена. З польскага войска ранена ўсяго некалькі і маецца адзін забіты. Паколькі малая частка польскага войска, назначаная на гэтак смелую атаку, не магла ахапіць усе непрыяцельскія сілы, перавышаючыя не меней як у 10 разоў, а тым больш разам авалодаць маскоўскімі гарматамі пад Пагулянкай, то маёр Тучкоў з тымі гарматамі рэціраваўся у напрамку Гродна, а маскоўскія каманды, стаяўшыя раздольна на прадмесці, уцякаючы у іншыя мясціны, запалілі тыя прадмесці. Пажар не сціхаў з гадзіну, пакуль не загас. Тым часам былі арыштаваны генерал Арсеньеў, палкоўнік Языкоў, падпалкоўнік

Рэбек, 5 маёраў, 1 плац-маёр, 4 капітаны, 11 паручнікаў, 8 падпаручнікаў, 1 ад'ютант, 12 прапаршчыкаў і карнетаў, 2 лекары, 1 капелан, 1 канцэлярыст, 964 унтэр-афіцэры і радавыя. Не было ні сіл, ні неабходнага часу для атакі маёра Тучкова, які аціанцаваўся з гарматамі пад Пагулянкай і спаліў там карчму і ўсе сядзібы. Далей ён працягваў сваю рэціраду са зверствам, палячы вёскі, двары і корчмы на тракту ад Вільна да Гродна.

Гетман Касакоўскі, ненавісны сваёй варце і ўсяму войску, быў безабаронны. Аднак калі афіцэры прыйшлі браць яго з ложка у арышт, толькі адзін яго ад'ютант Рудзінскі схапіўся з пісталетам у абарону гетмана, за што быў застрэлены у лоб. Гетман жа быў арыштаваны і дастаўлены 24 красавіка ў цэйхгауз. Карыстаючы момантам адкрытай вольнасці, якую ім амаль што цудоўным чынам паслала высокае прадбачанне, прысутныя тады на публічным рынку абывацелі Вільна падпісалі акт паўстання літоўскага народа і ўсе сабраныя ўрачыста яму прысягнулі. Затым з'явіўся адпаведна гэтаму універсал пад № 1, які заклікаў усе ваяводствы і паветы да агульнага злучэння вакол утворанай дэпутацыі Нарадовай рады і крымінальнага суда, абвясціўшы на ўсю правінцыю сродкі утрымання парадку і абмыслення агульнай абароны. За ім другі універсал далучыў Віленскі акт у падтрымку Кракаўскага, каб ваяводствы і паветы злучаліся у аднастайнай мэце і аднолькавых намерах, ўзнавіўшы парадкавую камісію згодна з Канстытуцыяй 3 мая і даўнімі сеймікамі. Пасля ж стварэння 25 красавіка Нарадовай рады, дэпутацый і крымінальнага суда, на гетмана Касакоўскага выпаў дакрэт аб пакаранні, па якому ён і быў павешаны на рынку перад гауптвахтай у прысутнасці ўсіх магістратур, незлічонага войска, пры агульным вокліч і розгаласу людскога гаму.

*БПАНК, с. 3189, л. 19-19 адв. Друк.*

### *№ 3. 24 красавіка. Абвяшчэнне Віленскай рады паўстання сваёй арганізацыі і кампетэнцыі*

Ардынацыя Найвышэйшай рады літоўскага народа

У цяперашнім рэвалюцыйным стане Айчыны найвышэйшая ўлада літоўскага народа заключана ў часовай нарадовай радзе, якая апрача учыненых у акце паўстання 24 дня распараджэнняў для хутчэйшага паратунку, мае моц і найвышэйшую уладу на ўвесь час, пакуль народ прызнае патрэбным гэты святы вырата-вальны саюз, пастанаўляць усё тое, што палічыць здатным для збавення Айчыны, таксама як і на тое, каб са зменай абставін своечасова адмяніць усё пастаноўленае ёю па аднадумству або па большасці галасоў пленума той жа Рады, заўжды у адпаведнасці з актам паўстання народа пад начальствам Тадэвуша Касцюшкі, які, як Найвышэйшы начальнік збройнай сілы абодвух народаў, мае волю і ўсю моц заўжды засядаць у Літоўскай радзе і ў кожнай яе дэпутацыі, калі толькі палічыць гэта патрэбнай рэччу.

1. Гэту Найвышэйшую раду будуць складаць асобы, пазнача-ныя актам паўстання літоўскага народа, і дэлегаты, высланыя як ваяводствамі і паветамі, так і асобнымі галоўнымі гарадамі.

2. Для састаўлення камплекту Найвышэйшай рады патрэбна прысутнасць на сесіі не менш 11 асоб.

3. Кожны дзень рада будзе мець 2 сесіі, г. зн. адну з 9 гадзін раніцы да гадзіны дня, а другую з 4 гадзін абеда аж да 8 гадзін вечара.

4. Старшыні будуць мяняцца штодзень пры захаванні чаргі ад-паведна парадку літар алфавіта. Калі б чарговы старшынствуючы не прыехаў на назначаную сесію, і не мелася камплекта з 11 чал., тады сесію павінен пачаць першы за ім па парадку алфавіта.

5. Нікому не дазваляецца гаварыць без дазволенага яму голаса прэзідэнтам, а калі б хто гаварыў надзвычайную матэрыю, то старшыня мае права вярнуць яго да распачатай матэрыі.

6. Усе распараджэнні Найвышэйшай рады павінны рашацца адзінагалосна або большасцю адкрытых галасоў.

7. У радзе павінны быць 2 пратаколы, адзін з якіх будзе ўт-

рымліваццa адным з радцаў адкрытым для запісу штодзённых распараджэнняў і рэзалюцый, а другі, прызначаны для сакрэтных пастаноў, якія будуць запісвацца рукой таксама аднаго з засядацеляў рады.

8. Усе прысланыя ў раду мемарыялы належыць адсылаць у дэпутацыі, што зацвярджаецца рукой старшыні.

9. Па завяршэнні кожнай сесіі пратакол павінен зачытвацца і нікому не дазваляецца разыходзіцца, аж пакуль усе прысутныя не падпішуць пратакол.

10. Рапарты дэпутацый Найвышэйшая рада будзе атрымліваць 2 разы у тыдзень, г. зн. у сераду і пятніцу. Акрамя таго, на кожную пастанову рады дэпутацыям належыць пісаць пратаколы. У выпадку жа здарэння важных абставін, патрабуючых неадкладнага рашэння або паведамлення, Найвышэйшай радзе трэба зараз жа учыніць рапарт у дэпутацыю.

11. Свае распараджэнні Рада будзе абвяшчаць грамадскасці праз друкаваныя ўніверсалы.

12. Рапарты пра стан войска павінны пасылацца прама ў Раду.

13. Розныя грашовыя асігнацыі могуць выдавацца толькі Радай.

14. Рада тымчасова будзе выдаваць патэнты генерал-маёрам, выбраных абывацелямі ў ваяводствах і паветах і не належачых да краёвага войска.

15. Рада будзе назіраць, каб ніводны абывацель без дазволу не выязджаў з края. Гэтая ж самая забарона выезда тычыцца і асоб Рады з тым дадаткам, што ніхто не можа аддаліцца з Вільна без дазволу або наказу Рады.

16. Адзін з радцаў будзе трымаць сшытак атрыманых мемарыялаў з паведамленнем даты і чаргі іх наступлення, а другі радца будзе запісываць прысланыя у Раду рапарты у такім жа сшытку.

17. Да камандуючага кожнай значнай дывізіі войска Найвышэйшая рада прыдасць двух камісараў са свайго кола, а гэтыя выбраныя да калон і дывізій камісары Найвышэйшай рады маюць моц затрымліваць падазроных асоб і потым неадкладна рапартаваць дэпутацыі бяспекі.

18. Маючы у кожным выпадку па акту паўстання літоўскага народа найвышэйшую уладу, для зручнага і грунтоўнага распараджэння справамі Рада ўтварыла крымінальны суд, таксама дэпутацыі скарбу, бяспекі і публічнага забеспячэння, як гэта запісана і ў прысланым пазней Варшаўскім акце. Знаходзячы там жа таксама вайсковую дэпутацыю, Рада стварае і яе для патрэб Літоўскай правінцыі з ліку асоб Найвышэйшай рады і ніжэй прадпісвае абавязкі асобна для кожнай дэпутацыі.

19. Заведваць канцылярыяй Рады будзе прысягнуўшы камісар, які выберыць патрэбных сабе пісараў, а тыя абавязаны выканаць прысягу.

20. Рада будзе мець над войскам найвышэйшую уладу, для чаго з той жа Рады будуць выбраны тры асобы, якія разам з камандзірамі будуць укладаць планы ваенных аперацый і якія будуць запісвацца ў асобны сакрэтны пратакол. Тыя ж асобы павінны ведаць аб усіх абаротах войска і дзеяннях камандзіраў, для чаго будуць атрымліваць ад камандзіраў сакрэтныя рапарты у якасці камісараў Рады, прыстаўленых да камандзіраў. Паколькі Найвышэйшая рада мае ўладу над усім войскам, то калі б яна пажадала ў поўным складзе ведаць сакрэтны пратакол і сакрэтныя рапарты, тады іх належыць прадставіць на пленум, а ў выпадку якога-небудзь неспрыяння дастаўцы, Рада заўжды можа змяніць тых асоб.

Прысяга для асоб, вызначаных з Рады для укладання планаў, прадпісваецца такая. "Я, №, у вачах бога прысягаю Айчыне ў тым, што буду ёй верным, што не паддамся на здраду ні сілай, ні ўзнагародай, захаваю верна сакрэт і толькі па наказу Найвышэйшай Рады прадстаўлю ў камплекце пратакол і сакрэтныя рапарты, што пра здраду каго-небудзь або небяспеку краю данясу не марудзячы, у чым мне ды паможа пан бог".

21. Ідучы па прыкладу Кракаўскага акта, Найвышэйшая рада вызначыць у кожным ваяводстве і павеце крымінальны суд з ліку асоб, якія былі выбраны на ўрад земскіх і гарадскіх суддзяў на апошніх выбарах вольных сеймікаў, а арганізацыю такіх судоў яна прадпіша і абвесціць універсалам.

22. У адпаведнасці з тым жа Кракаўскім актам, Найвышэйшая рада прадпіша арганізацыю і абавязкі цывільна-вайсковых камісій у ваяводствах і паветах.

23. Нарэшце, нікольні не адхіляючыся ад акта паўстання народа ў Кракаве пад начальствам Т. Касцюшкі, Найвышэйшая рада слова ў слова абвяшчае абавязкі Рады з 5-га пункта тагож акта.

Найвышэйшая рада можа пастанаўляць аб часовых абывацельскіх падатках, аб кіраванні і карыстанні маёнткамі і рознымі нарадовымі фундушамі, аб унутраных і замежных займах. Тая ж Рада распарадзіцца аб рэкрутах, забяспячэнні збройнай сілы усімі вайсковымі патрэбамі накшталт зброі, амуніцыі, адзежы, забяспечыць народ і войска харчовым дастаткам, будзе дбаць аб парадку і бяспецы у краі, устараняць розныя перашкоды і прысміраць супраціўныя мэце нашага паўстання намеры, будзе даглядаць за тым, каб справядлівасць здзяйснялася хутка і спраўна, будзе клапаціцца аб падтрымцы нашага народа суседнімі народамі, нарэшце, будзе займацца выпраўленнем грамадскай думкі і ажыўленнем народнага духа з тым, каб Айчына і вольнасць сталі дэвізам для найбольшых ахвераванняў усіх жыхароў польскай зямлі.

Прысяга асоб Нарадовай рады. "Я, №, у вачах усемагутнага бога прысягаю народу і маёй Айчыне у тым, што будучы прызваны у Напйвышэйшую раду літоўскага народа і прысягнуўшы ужо ў акце паўстання бараніць Айчыну сваім жыццём і маёмасцю, буду правіць верна і зычліва для Айчыны, не буду браць ніякіх пенсій ні ад каго, ні з-за мяжы, ні з края, не буду шукаць і жадаць ніякай узнагароды або асабістай карысці за тую паслугу Айчыне, не зраблю ніякіх інтрыг або партый і буду асцерагаць ад таго ўсіх іншых, строга захаваю ва ўсіх абставінах паратунку Айчыны давераны мне сакрэт, буду верна паслухмяны розным указам Рады. Усяму гэтаму прысягаю шчыра, добраахвотна і пачціва, у чым мне ды паможа бог і нявінная мука яго сына".

24. Моцай Рады заўжды будзе зняць асоб самой Рады і яе дэпутацый пры падазрэнні і перакананні ў выступленні супраць акта паўстання народа або ссэкрэта Рады і яе дэпутацый. Адказнасць

за вядомыя правіннасці згодна з правам будзе спадаць на кожную убраную з Рады асобу.

25. Калі асоба будзе знята з Рады за правіннасці са складу асоб, ахопленых актам паўстання літоўскага народа, тады Рада сакрэтным галасаваннем выберыць на яе месца іншую. Калі ж такая асоба будзе са складу дэлегатаў ад ваяводстваў, паветаў або галоўных гарадоў, тады Найвышэйшая Рада адашле адпаведны выбар пераемніка ў тыя месцы, адкуль яны былі выбраны з тлумачэннем прычын, па якіх тая ці іншая асоба была выдалена з Найвышэйшай рады.

Згодна з пратаколам. Іосіф Нарбут, сакратар Найвышэйшай нарадовай літоўскай рады.

*БПАНК, с. 35195, л. 21-22 адв.*

### *№ 4. 24 красавіка. Абвяшчэнне Я. Ясінскага галоўнакамандуючым узброенымі сіламі паўстання ў ВКЛ*

Найвышэйшая нарадовая рада Вялікага княства Літоўскага, прызнаючы тэрміновую патрэбу устанаўлення галоўнакамандуючага збройнай сілай літоўскага народа, каб гэтым адкрыта знесціся з Найвышэйшым начальнікам збройнай сілы абодвух народаў ягамосцю Т. Касцюшкам і мець здольнасць перадаць усю сваю збройную сілу пад вышэйшае начальства Т. Касцюшкі, назначае галоўнакамандуючым той жа сілы у правінцыі ВКЛ ягамосць Якуба Ясінскага, палкоўніка літоўскіх інжынераў, наказвае яму зносіцца з Найвышэйшым начальнікам той сілы абодвух народаў, слухацца ўсякіх яго распараджэнняў і загадвае зараз жа абвясціць пра давераную ягамосць Якубу Ясінскаму уладу над усім войскам.

*Іосіф Несялоўскі, навагрудскі ваявода, старшыня*
*Бенедыкт Марыконі, пісар ВКЛ*
*Станіслаў Мірскі, пісар ВКЛ*
*Міхал Бжастоўскі, староста мінскі*
*Дамінік Нарбут, войскі лідскі*
*Міхал Грабоўскі, канюшы ВКЛ*

*Станіслаў Валовіч, падкаморы рэчыцкі*
*Мікалай Саба Храпавіцкі, маршалак аршанскі*
*Валенцій Гарэцкі, войскі віленскі*
*Бенедыкт Карп, харунжы упіцкі*
*Іосіф Коцел, палкоўнік ВКЛ*
*Каэтан Нагурскі, харунжы Шавельскага павета*
*Тадэвуш Высагерд, зямянін віленскі*
*Мікалай Мараўскі, экспісар вайсковы*
*Ксёндз Мартын Пачобут, рэктар віленскай акадэміі*
*Ксёндз Міхаіл Карповіч, архід'якан смаленскі*
*Самуэль Корсак, палкоўнік ВКЛ*
*Ежы Белапятровіч*
*Томаш Умастоўскі, дэлягат Ашмянскага павета*
*Ігнацій Кастравіцкі, генерал-ад'ютант, дэлягат і войскі лідскі*
*Іосіф Нарбут, сакратар Найвышэйшай рады літоўскага народа*

*БПАНК, с. 35196, л. 23. Друк, за пячаткай*

### № 5. 28 красавіка. Зварот скарбовай дэпутацыі Віленскай рады да удзельнікаў Таргавіцкай канфедэрацыі аб вяртанні грошай

Паведамляецца ўсім абывацелям, каму пра тое належыць ведаць, што прысвяціўшы увесь свой клопат публічнаму дабру, не могучы быць абыякавай да ўшчуплення скарбу Рэчы Паспалітай, якое зрабілі ўласныя нашы суродзічы пад імем маршалкаў, канцылярыстаў, пісароў і іншага тытулу таргавіцкіх афіцыялістаў, скарбовая дэпутацыя загадвае ім вярнуць у скарб тыя грошы без погляду на ўсякія асабістыя віды.

Абывацелі, якія складалі Таргавіцу! Мы не ўдаемся ні ў агульныя матывы, якія кожнага з вас пацягнулі на няшчасце, ні ў спосаб жадання ўзнагародзіць сябе па паўзлотаму з кожнага дыма і потым у захоп грошай з касы скарбовай камісіі ўзамен за невыплачанае падымнае. Пакідаем высвятленне важнасці вашых спраў думцы народа і вашаму сумленню. А тым часам скарбовая дэпутацыя

загадвае ўсім маршалкам, канцылярыстам, генеральным і мясцовым пісарам мінулай Таргавіцы як мага хутчэй заплаціць у агульную касу скарбовай дэпутацыі забраныя якім-небудзь чынам з публічнага скарбу грошы з уласным подпісам пад паказаннем і выражэннем у ім сумы, што заручаецца пагрозай секвестру для поспеху таго патрабавання. Абываецелі, якіх тычыцца гэта наша рэквізіцыя, прыміце яе ў тым перакананні, што лепш аддаць узятае, чым абцяжарваць народ новымі налогамі. Каб гэты універсал дабраўся да ведама кожнага, загадана нашай канцылярыі яго разаслаць, апублікаваць з касцельных амвонаў і абвясціць пры бубнах у гарадах. Рабілася на сесіі скарбовай дэпутацыі ў Вільна у палацы Рэчы Паспалітай 28 красавіка 1794 года.

*Антон Важынскі, ашмянскі падкаморы, старшыня*
*Ксёндз Давід Пільхоўскі, віленскі дэпутат*
*Фларыян Даліва Сыруц, ковенскі земскі суддзя і дэпутат*
*Плацыд Трашкоўскі, брэсцкі чашнік і дэпутат*
*Ксаверый Гедройц Юрага, віленскі земскі пісар і дэпутат*
*Пётр Білінг, дэпутат*
*Тадэвуш Кукевіч, сакратар дэпутацыі скарбовай літоўскай*

*БПАНК, с. 35201, л. 30. Друк. за пячаткай*

### *№ 6. 29 красавіка. Сведчанне Віленскай рады аб ахвераваннях М. К. Агінскага, М. Грашоўскага, А. Пацэя і іншых асоб*

Вытрымка з пратакола чыннасцяў Нарадовай рады. Рабілася на сесіі Нарадовай рады 29 красавіка 1794 г.

Нарадовая рада выслухала прысягі пад актам падтрымкі нарадовага паўстання ягамосцяў Міхала Агінскага, вялікалітоўскага падскарбія, Міхала Граноўскага, кароннага сакратара і Аляксандра Пацэя, літоўскага абознага. Пры тым кожны з ягамосцяў – Агінскі, Граноўскі і Пацэй– выказалі гатоўнасць зласкыць у наяўнасці па 1000 чырвоных злотых кожны на гвалтоўныя патрэбы скарба для аплаты войску і іншы ужытак па выратаванню Айчыны, а ягамосць Агінскі, звыш таго, адмовіўся ад свайго ўрада вялікалітоўскага

падскарбія з-за прывязанай да яго платы, уцяжлівай скарбу Рэчы Паспалітай. Усё тое Нарадовая рада запісала у дзённіку сваіх чыннасцяў разам з довадам падзякі і такое адрачэнне загадала цалкам апублікаваць у друку.

Адрачэнне: кожны урад уцяжлівы публічнаму скарбу з-за прывязанай да яго платы, робіцца шкодным Айчыне ў той самы час, калі кожнага абывацеля павінна натхняць роўная прага, роўная стараннасць, роўная патрэба ахвераваць усё, што ён мае на вызваленне і абарону края. Складаю ў вашы рукі, дабрадзейныя абывацелі, свой урад падскарбія ВКЛ, нясу у ахвяру Айчыне маёнтак, працу і сваё жыццё. Пад лозунгам вольнасці і шчасця народа мне міла будзе не шкадаваць сваёй крыві і павялічыць дастатак сабратоў. У ім я знайду узнагароду маім намерам. Не шукаю сабе хлебнай павагі, акрамя як толькі публічнага атрымання тытула дабрадзейнага абывацеля.

*Міхал Агінскі. У Вільна 29 красавіка 1794 года.*

*БПАНК, с. 35202, л. 31. Друк.*

Рапарт скарбовай дэпутацыі ў Найвышэйшую нарадовую раду

Скарбовая дэпутацыя літоўскага народа мае гонар паведаміць ННР, што старанная абывацельская ахвота дае няспынныя доказы прыязні да Айчыны ахвярамі не толькі ўласных асоб на абарону яе, але і грошай для задавальнення цяперашніх гвалтоўных патрэб. Удзячнасць не дазваляе замоўчыць тых шаноўных асоб, а таму дэпутацыя паведамляе аб іх наступнае.

*Абывацель Міхал Граноўскі, каронны сакратар – 1000 чырвоных злотых*

*Абывацель Міхал Агінскі – 1000 чырвоных*

*Абывацель Аляксандр Пацэй, абозны літоўскі, – 1000 чырвоных*

*Абывацель Антон Лахніцкі, віцэ-прэзідэнт Вільна, – 100 чырвоных*

*Ксёндз Мікалай Тышкевіч – 1000 чырвоных*

*Рупейка, суддзя – 60 чырвоных*

*Сярпінскі, войскі – 1000 польскіх злотых*
*Мардас, каморнік – 200 польскіх злотых*
*Гзоўскі – 40 чырвоных злотых*
*Рэнно, шамбелян – 100 чырвоных*
*Сыруц, суддзя – 25 чырвоных*

Скарбовая дэпутацыя спяшыць з данясенам аб добрых імкненнях старанных абывацеляў, каб тым самым засведчыць ім сваю сціплую падзяку і паказаць іншым суродзічам цудоўны прыклад для пераймання.

Рабілася на сесіі скарбовай дэпутацыі ў палацы Рэчы Паспалітай 29 красавіка 1794 г.

*Давід Пільхоўскі, дэпутат скарба, старшыня*
*Фларыян Даліва Сыруц, скарбовы дэпутат*
*Плацыд Трашкоўскі, брэсцкі чашнік, дэпутат*
*Ксаверый Гедройц Юрага, земскі актавы пісар, дэпутат*
*Пётр Білінг, дэпутат*

Нарадовая рада, запісаўшы гэты рапарт у дзённіку, загадала абвясціць яго праз друк для публічнага ведама.

*БПАНК, с. 35203, л. 32. Друк, за пячаткай.*

### № 7. 1 мая. Наказ Віленскай рады арандатарам дзяржаўных маёнткаў аб іх фінансавай адказнасці

№ 4. Ад Нарадовай рады. Найвышэйшая рада літоўскага народа да пасэсараў эканомій і дзяржаўцаў сталовых маёнткаў Вялікага княства Літоўскага

Агульны паратунак усіх і гвалтоўныя патрэбы Айчыны для мужнага паўстання супраць агіднага ярма цэлага народа прымушаюць адкінуць асабістыя погляды на пенсіі або ўсё тое, што патрабуе кошту і грошай на ўтрыманне пышнага прадстаўніцтва.

Таму, звяртаючы часова сталовыя маёнткі ў эканоміях ВКЛ на паратунак Айчыны, загадваем усім дзяржаўцам-арандатарам тых маёнткаў, якія яшчэ не выплацілі ў эканамічную адміністрацыю трохразовую плату, унесці тую плату зараз жа ужо не ў эканамічную адміністрацыю сталовых уладанняў, не ў якую-небудзь

камісію ці любы іншы дазор, створаны напрыканцы паўстання, але прама ў скарбовую дэпутацыю ВКЛ у Вільна пад пагрозай суровай экзекуцыі і стратай грошай тымі, хто б не аплаціў іх па атрыманні цяперашняга наказа. Затым, каб ніхто не меў прыкрасці наконт няпэўнасці арэнды дзяржавы на наступны год, Найвышэйшая рада народа запэўняе за ўсімі сапраўднымі зараз пасэсарамі арэнд дзяржавы на ўвесь наступны год адпаведна выдадзеныя ім два гады таму кантракты з умовай, што яны унясуць 1 чэрвеня бягучага года ўсю плату у скарбовую дэпатуцыю, не зважаючы ні на якія-тлумачэнні, ні на ўведзеныя гвалтаўніцкім гродзенскім спіскам таргі пад пагрозай пазбаўлення кантракта таго, хто бы ухіліўся ад своечасовай аплаты, і пад суровай карай адміністратараў, віцэ-адміністратараў або іншых афіцыялістаў сталовых маёнткаў эканомій ВКЛ, хто бы супрацівіўся цяперашняму наказу ці адважыўся інакш аб тым пастанаўляць. Такі наказ учынены на сесіі для далейшага распараджэння адміністрацыі. Загадваецца яго за пячаткай і подпісамі апублікаваць для ведама па ўсіх эканоміях, у парафіях, на ратушах, рынках і з касцельных амвонаў.

Даны на сесіі Рады у Вільна 1 мая 1794 г.

*Іосіф Несялоўскі, навагрудскі ваявода, прэзідэнт*
*Бенедыкт Марыконі, пісар ВКЛ*
*Станіслаў Мірскі, пісар ВКЛ*
*Міхал Бжастоўскі, стараста мінскі*
*Дамінік Нарбут, войскі лідскі*
*Міхал Грабоўскі, канюшы ВКЛ*
*Станіслаў Валовіч, падкаморы рэчыцкі*
*Мікалай Саба Храпавіцкі, маршалак аршанскі*
*Валенцій Гарэцкі, войскі віленскі*
*Бенедыкт Карп, харунжы упіцкі*
*Іосіф Коцел, палкоўнік ВКЛ*
*Каэтан Нагурскі, харунжы Шавельскага павета*
*Тадэвуш Высагерд, зямянін віленскі*
*Мікалай Мараўскі, экспісар вайсковы*
*Ксёндз Міхаіл Пачобут, рэктар віленскай акадэміі*

*Ксёндз Міхаіл Карповіч, архід'якан смаленскі*
*Самуэль Корсак, палкоўнік ВКЛ*
*Ежы Белапятровіч*
Згодна з пратаколам,
*Іосіф Нарбут, сакратар Найвышэйшай рады літоўскага народа*

*БПАНК, с. 35206, л. 36. Друк. за пячаткай*

## *№ 8. 1 мая. Заклік Віленскай рады абывацеляў ВКЛ да агульнага узбраення*

№ 5 Ад Нарадовай рады. Адозва да абывацеляў

Абывацелі! Заклікаем усіх вас без розніцы да агульнага ратунку Айчыны, хто толькі з'яўляецца жыхаром польскай зямлі, каму мілая вольнасць і бяспека ўласнасці. Клічам вас на гвалт. Пусціце голас сабратоў да сваіх сардэц. Ратуемся ўсе разам, бо ўсе няўмольна загінем, калі з-за якой-небудзь абыякавасці або спазнення гэтая адозва не зграмаздзіць усіх вас да зброі.

Да зброі, браты, да зброі! Ужо Варшава і Вільна выканалі свой абавязак. Непрыяцель у тых абоіх сталіцах разбіты, здраднікі Айчыны пакараны. Каронныя ваяводствы ужо запалены духам дбайнасці пад актам агульнага паўстання народа, мужна змагаюцца супраць свайго непрыяцеля. Жмудскае княства ўжо стварыла шчаслівы саюз і паспяшыла бараніць яго мэты сваімі сіламі. Ужо ўсе войскі Кароны і Літвы узяліся за зброю, злучаныя адным з цывільнымі абывацелямі намерам прагнаць непрыяцеля з краю і граніц Рэчы Паспалітай, разбіваючы адступаючыя расійскія каманды. Усе аханугы шпаркім запалам, які абуджае чыстую ахвоту абывацеляў на вызваленне з ярма няволі. Клічам, нарэшце, вас, абывацелі, да каго яшчэ не дайшла гэтая вестка або каго дагэтуль стрымлівае які-небудзь абыякавы намер, усіх брацца за зброю.

Да зброі, якую здрада нядаўна вырвала з рук мужна ваюючага за абарону края нарадовага войска і якую зараз вярнулі назад роспач і агульны запал. Высокі бог дапаможа нявінна прыцiснутым у гэтак святой справе нашай абароны і благаслаўляе тую зброю,

якую мы не зложым да той пары, пакуль не прагонім непрыяцеля з зямлі вольнасці і без чаго мы не выратуем свой лёс такім шляхам. Аднак, каб зусім забяспечыць вольнасць, самаўладства і незалежнасць Рэчы Паспалітай, нам, зразумела, належыць сабраць дастаткова нарадовай збройнай сілы для адпору непрыяцеля. Акрамя агульнага ўзбраення, акрамя спраўных ваяводскіх і павятовых харугваў, парадак фарміравання якіх будзе прадпісаны спецыяльна асобным універсалам, існуе няўмольная патрэба выбраць у рэгулярнае войска рэкрутаў, людзей здаровых, не калек, не менш 18 і не больш 45 гадоў, якім самі двары павінны даць па 2 кашулі, 2 палатняныя сподні, кіцель або іншую якую палатняную адзежу, таксама сякеру, пару ботаў без абцяжарвання ўладанняў. Затым абвяшчаем гэтай адозвай, каб усе абывацелі, уласнікі і пасэсары земскіх, духоўных, старасцінскіх, эканамічных, сталовых маёнткаў, які б яны тытул не мелі ў краі (за выключэннем з гаго галоўных вольных гарадоў, якія будуць ужыты да асобнага ўзбраення), па атрыманні гэтай аб'явы мелі ў гатоўнасці з кожных 20 земляробскіх дымоў аднаго рэкрута з вышэй згаданым рэквізітам для кожнага, а аб колькасці іх і іх патрэбах неадкладна данесці ў парадкавыя камісіі сваіх ваяводстваў і паветаў.

Абывацелі! Вы самі добра ведаеце, што шчуплыя даходы скарба і ўсе, якія толькі ў ім былі, запасы расхоплены таргавіцкімі пастановамі, так што адшукаць іх скарбовай дэпутацыі наўрад ці ўдасца. А нарадоваму войску тым часам бракуе платы і яго няўмольныя патрэбы дыктуюць нам пры такім гвалтоўным стане напоўніць скарб Рэчы Паспалітай грашыма. Заклінаем вас усіх роўна, як духоўных, так і свецкіх, на міласць свайго жыцця і Айчыны аплаціць са сваіх фальваркаў поўнагадавы падатак 10-га гроша згодна з пастановай Канстытуцыі 3 мая, пачаўшы з 10 мая і да канца месяца пад экзекуцыяй у земскай канцылярыі сваіх ваяводстваў і паветаў, не прыцягваючы сваіх сялян. А каму б выпадала зручней выдаць той падатак проста ў віленскую касу скарбовай дэпутацыі, то такую аплату дазваляем пры прадстаўленні доказу даўнейшым квітам або тарыфам. Пры гэтым

пасэсары староствaў, рознага тытула каралеўшчын, эмфітатыў і экспектатыў *(пажыццёвыя трыманні – **Я. А.**)* без абцяжарвання сялян той платай павінны унесці ў прадугледжаны час палову гадавой платы. Жыдоўскія кагалы абавязаны выплаціць у той жа тэрмін жыдоўскае пагалоўнае за год, як гэта яны плацілі па праву сейма 1791 г. Усе ж абываце́лі абавязаны загадзя ўнесці згаданыя падаткі, устаноўленыя па праву Канстытуцыі 3 мая 1791 года Варшаўскага сейма.

Асобна прадпісваецца наступнае. Пакольки знешні прымус на свой авантаж скарыстаў нарадовую збройную сілу і салдаты, ужо вымуштраваныя справе, скарочаныя з волі таго ж прымуса таргавіцкім спісам, блукаюць паразнь па хатах і не могуць дапамагчы Айчыне, таму, каб усе яны сталі ў свае каманды, уласнікам і пасэсарам рознага тыпу моцна загадваецца паведаміць, дзе знаходзяцца тыя скарачэнцы і ўцекачы і прыставіць іх у бліжэйшыя карпусы.

Каб гэты універсал стаў вядомы абывацелям, загадваецца яго апублікаваць у парафіях з амбонаў і ўсюды па гарадах. Даны на сесіі 1 мая 1794 г. у Вільна.

*Іосіф Несялоўскі, навагрудскі ваявода, прэзідэнт*
*Бенедыкт Марыконі, пісар ВКЛ*
*Станіслаў Мірскі, пісар ВКЛ*
*Міхал Бжастоўскі, стараста мінскі*
*Дамінік Нарбут, войскі лідскі*
*Міхал Грабоўскі, канюшы ВКЛ*
*Станіслаў Валовіч, падкаморы рэчыцкі*
*Мікалай Саба Храпавіцкі, аршанскі маршалак*
*Валенцій Гарэцкі, войскі віленскі*
*Бенедыкт Карп, харунжы упіцкі*
*Іосіф Коцел, палкоўнік ВКЛ*
*Каэтан Нагурскі, харунжы Шавельскага павета*
*Тадэвуш Высагерд, земянін віленскі*
*Мікалай Мараўскі, экспісар вайсковы*
*Ксёндз Міхаіл Пачобут, рэктар віленскай акадэміі*

*Ксёндз Міхаіл Карповіч, архідз'якан смаленскі*
*Станіслаў Корсак,палкоўнікВКЛ*
*Ежы Белапятровіч*
Іосіф Нарбут, *сакратар ННР літоўскай*

*БПАНК, с. 35208, л. 39-39. Друк, за пячаткай.*

**№ 9. 2 мая. Зварот Віленскай рады да ўласнікаў маёнткаў аб выдачы стралкоў**

Вытрымка са штодзённага пратакола чыннасцяў Найвышэйшай рады Літоўскай правінцыі. Рабілася на сесіі 2 мая 1794 г.

Нарадовая рада, не выпускаючы ніводнага сродку, якія толькі можна ўжыць на хутчэйшую абарону ад непрыяцеля Айчыны і выгнання з краёў Рэчы Паспалітай замежных войск, пастанавіла абвясціць пасэсарам, дзяржаўцам і эканомам на некалькі міль вакол Вільна свой загад у тым, каб яны зараз жа па атрыманні гэтага паведамлення сабралі з пушч усіх стральцоў і мелі іх у гатоўнасці са стрэльбамі, волавам, порахам і харчам не меней як на тыдзень здаць па любому закліку каманды краёвага войска, а дакладныя паказанні колькасці стральцоў, іх імён і прозвішчаў, таксама ў якіх маёнтках яны знаходзяцца, як мага хутчэй адрапартаваць у Найвышэйшую раду за подпісам мясцовага начальства пад адказнасцю ў судах парадкавай камісіі і суровай кары за непаслушэнства краёвай радзе.

*Іосіф Несялоўскі, навагрудскі ваявода, прэзідэнт*
*Каэтан Нагурскі, жмудскі харунжы*
*Дамінік Нарбут, войскі лідскі*
*Ксёндз Міхаіл Пачобут, рэктар віленскай акадэміі*
*Тадэвуш Высагерд*
*Ежы Белапятровіч*
*Ксёндз Міхаіл Карповіч*
*Мікалай Мараўскі, экспісар*

*БПАНК, с 35210, л. 41. Друк, за пячаткай*

***№ 10. 2 мая. Зварот С. Корсака да сваіх сялян у Данюшава***

Голас яснавяльможнага Самуэля Корсака, палкоўніка ВКЛ, засядаючага ў Найвышэйшай радзе, меўшы месца 2 мая 1794 г. да сваіх падданых у Данюшава

Тое, што ўведзенае здраднікамі Айчыны маскоўскае войска 2 гады пустошыла край, агаліла ўвесь люд з маёнткаў і ўласнасці, тое вядома кожнаму з вас паасобку. Тыя нежаданыя паразы і няшчасці нашага народа прымусілі абудзіцца да дбайнасці дабрадзейных абывацеляў, якія ўзнялі зброю супраць непрыяцеля. Не было яшчэ дагэтуль такой шчаслівай пары паратунку, як зараз, калі высокае прадбачанне падае нам руку праз злучанае запалам дабрадзейных абывацеляў войска пад дэвізам – смерць або перамога. Мілыя мае дзеці, бярыцеся ўсе за зброю, колькі хто здольны. Першае паўстанне народа ў Кракаве пад начальствам мужнага, роўнага, дабрадзейнага і дасведчанага Тадэвуша Касцюшкі ўжо выканала свой рыцарскі абавязак, калі былі знішчаны і паляглі на плацу 30000 маскоўскага войска, узяты у няволю 3 генералы, забрана шмат харугваў, штандараў, гармат, амуніцыі і грашовай касы. Потым тое ж зрабіла дабрадзейная мужнасць горада Варшавы, дзе пабіта і забрана ў няволю шмат генералаў, салдат з амуніцыяй, 30 гармат вялікага калібру. 10 млн. маскоўскай касы таксама ў нашых руках і горад ачышчаны ад паўночнага бруду. Па таму ж цудоўнаму прыкладу пайшло літоўскае рыцарства. Са смелым і мужным кіраўніцтвам ягамосці палкоўніка інжынераў Якуба Ясінскага сталічны горад Вільна зараз у нашых руках і нашымі заняты салдатамі. Арыштаваны маскоўскі генерал разам з камандай 48 афіцэраў, палонена 1,5 тысяч радавых салдат. Наша войска ловіць і перамагае рэшткі іх. Штодня з розных бакоў прысылаюцца раненыя і забраныя ў палон. Мае ўласныя вочы сведкі таго, што акрамя некалькі дзесяткаў палегшых на плацу і купкі або некалькі дзесяткаў уцякаючых, рэшткі дробнага тут маскоўскага войска разбіты нашымі жаўнерамі.

Бярыцеся разам за рукі, мілыя дзеці, хапайце і забівайце непрыяцеляў Айчыны і ўсяго нашага люда, бо яны забіралі вашу маёмасць, яны вырывалі з вашых губ апошні кавалак хлеба, пазбавілі вас дастатку, шмат якога ўжо апынулася іх маёмасцю з гвалту і насілля, і больш таго, пагражалі вашаму уласнаму жыццю. Звярніцеся да бога, прасіце яго скрушаным сэрцам стаць дабрадзейнымі і вернымі сваёй Айчыне. Ён дасць вам мужнасць і адвагу, а з іх дапамогай вы пэўна атрымаеце перамогу. Калі наша зямля будзе ачышчана ад непрыяцеля, яна верне вам, дзеці мае, барануючым дагэтуль розныя пасевы ралля, стократ больш жніва, а вашы нашчадкі зажывуць у пакоі і будуць з асалодай спамінаць айцоў Айчыны. Той, хто аддасць жыццё за Айчыну, будзе благаслаўлёны богам, а смерць кожнага стане збаўленнем душы яго.

*БПАНК, с. 35211, л. 42-42 адв. Друк.*

### *№ 11. 3 мая. Увядзенне Віленскай радай свайго кантролю ад лінейным войскам*

Вытрымка са штодзённага пратаколу чыннасцяў Найвышэйшай рады ВКЛ. Рабілася ў Вільна на сесіі Рады літоўскага народа 3 мая 1794 г.

Нарадовая рада, уручыўшы галоўную каманду збройнай сілай літоўскага нарадовага войска ягамосць пану Якубу Ясінскаму, палкоўніку літоўскіх інжынераў, пад вышэйшым начальствам сіл абодвух народаў ягамосць пана Тадэвуша Касцюшкі, таму ж ягамосць пану, генеральнаму каменданту Я. Ясінскаму дадала і назначыла выбраных з Найвышэйшай рады ягамосцяў паноў Іосіфа Несялоўскага, навагрудскага ваяводу, Іосіфа Катла, палкоўніка, і Рамуальда Гедройца, генерал-маёра, для ўнікнення ў планы і розныя аперацыі, для лепшых і хутчэйшых зносін з Радай праз рапарты, а таксама для нагляду за ўсякімі распараджэннямі.

*Каэтан Нагурскі, харунжы Шавельскага павета*
*Міхал Грабоўскі, канюшы ВКЛ*
*Станіслаў Валовіч, падкаморы рэчыцкі*

*Тадэвуш Высагерд, земянін віленскі*
*Бенедыкт Карп, харунжы упіцкі*
*Ксёндз Міхаіл Карповіч, прэлат смаленскі*
*Ксёндз Міхаіл Пачобут, рэктар віленскай акадэміі*
*Валенцій Гарэцкі, войскі віленскі*
*Антон Тызенгауз, харунжы, прэзідэнт г. Вільна*
*Ігнацій Кастравіцкі, генерал-ад'ютант літоўскіх войск*
*Томаш Умастоўскі, дэлягат Ашмянскага павета*
Мікалай Мараўскі, *экспісар вайсковы*

*БПАНК, с. 35212, л. 43. Друк, за пячаткай.*

## *№ 12. 3 мая. Універсал Віленскай рады аб агульным узбраенні ў княстве*

№ 6 Ад Нарадовай рады. Універсал Найвышэйшай нарадовай рады да абывацеляў ВКЛ і жыхароў гарадоў Рэчы Паспалітай

Выданыя ўжо для вас, шаноўных абывацеляў, папярэднія ўніверсалы і адозвы павінны дастаткова пераканаць кожнага з якім намаганнем мы жадаем прынесці хуткі і паспяховы паратунак Айчыне агульным узбраеннем народа. З нагоды павелічэння збройнай сілы краёвага рэгулярнага войска разам з насычэннем скарбу Рэчы Паспалітай грашыма, мы ужо данеслі вам, шаноўныя абывацелі, якіх хочам мець на месцах у гатоўнасці рэкрут з першым аснашчэннем іх у рэквізіты і якія трэба ўнесці тым часам падаткі ў земскія канцылярыі. Аднак, паколькі земляробства, як адзіная крыніца ўтрымання народа і збройных сіл, пры агульным узбраенні ўсяго люду можа трапіць у небяспеку, то для прадухілення такога здарэння падаем наступныя і адпаведныя таму прадпісанні.

Спосаб хуткага ўзбраення. Усе ваяводствы і павета, у тым ліку і Жмудскае княства, павінны выбраць у сябе абывацеля, вядомага дабрадзейнасцю і мужнасцю, не занятага сапраўднай замежнай службай, добра ведаючага вайсковую справу або маючага каменданта, не замешанага ніякім чынам або урадам у таргавіцкім спісе. Гэтыя выбраныя каменданты атрымаюць тытул генерал-

маёраў і найвышэйшую каманду у сваіх ваяводствах і паветах. Яны выберуць сабе у парафіях ротмістраў, а тыя, зноў-такі з волі люда, аселых дзесятнікаў і прыступяць да хуткага ўзбраення ўсіх, хто толькі акажацца здольным да бою, забяспечыўшы кожнага агнявой зброяй або такой, якую толькі можна знайсці і падрыхтаваць, накшталт дзідаў, кос, асаджоных з тарца, сякер, торб для запасу некалькідзённага харчу, начыння для вады і гэтак далей, перапісаўшы колькасць такога збройнага люду. Шляхта жа, вотчыннікі, пасэсары або іх радцы абавязаны дапамагчы камендангу узбройваць люд і павінны самі стаць на чале яго на канях з шаблямі і пікамі. Адначасова ім належыць нарыхтаваць усё, што патрабуецца для рыштунку таго ўзброенага люда.

Распараджэнні. Узброены такім шляхам люд застанецца ў дамах пры працы і сваіх земляробскіх павіннасцях. Ён будзе прыцягнуты у харугвы толькі па распараджэнню каменданта ў святыя дні ў парафіяльным касцёле або бліжэй, дзе пасля набажэнства будзе муштравацца рэгулярным строем, а затым дзесятнікі прыстойна вернуць яго дамоў на работу. У гарадах, дзе такія экзерцыцыі будуць часцей рабіцца, першым абавязкам генерал-маёраў і яго падначаленых будзе назіраць за тым, каб людзі без карысці не адрываліся ад ралля. Для гэтага дзесятнікі павінны рапартаваць сваім ротмістрам, а ротмістры – генерал-маёрам. Ні ротмістры, ні генерал-маёры не могуць ужываць люд на ўласныя паслугі па пагрозай кары, вынікаючай з вайсковага парадку. Прыгатаваны так люд будзе мець у гатоўнасці моладзь 18 – 45 гадоў для ўмацавання пры кожнай патрэбе лінейнага войска, а шляхта будзе па першаму патрабаванню прылучана ў кавалерыю на фарміраванне нарадовай збройнай язды.

Ужыванне збройнага люда. Паколькі рэгулярнае краёвае войска маецца пасунуць да граніц для ачысткі края ад непрыяцеля і адпору усякіх нападаў непрыяцельскіх войск на пагранічча, пакінуўшы толькі патрэбныя каманды у месцах Рэчы Паспалітай для фарміравання новых батальёнаў на ахову складоў і правозу іх у галоўную армію, то збройны люд гарадоў будзе замяшчаць гарнізоны сваіх гарадоў. Люд жа сельскі, які нельга аддаліць ад дамоў з харчам на некалькі дзён, заўжды будзе парушаны толькі

пры набліжэнні непрыяцеля або небяспекі для арміі. Шляхта ў той час будзе таксама ўжыта на канях з шаблямі і пікамі на паспяховую абарону сваёй Айчыны.

Усе генерал-маёры ваяводстваў і паветаў са сваімі падначаленымі ротмістрамі будуць захоўваць карнасць і спакой пад строгім вайсковым парадкам. Калі рэгулярнае краёвае войска стане пераходзіць праз якое-небудзь ваяводства ці павет або ў іх размесцяцца на дыслакацыю дывізіі, палкі, брыгады і рэгіменты, тады кожны у сваім ваяводстве і павеце павінен зносіцца з камандай рэгулярнага войска і аддаваць туды рапарты пра сапраўды актуальную колькасць галоў узброенага люда. А паколькі Найвышэйшая нарадовая рада пад генеральнае начальства збройнай сілы абодвух народаў ягамосць Тадэвуша Касцюшкі паставіла генеральным камендантам войска ВКЛ і ўсёй збройнай сілы нашай правінцыі ягамосць Якуба Ясінскага, то тым жа генерал-маёрам ваяводстваў і паветаў найсуровей загадваецца падпарадкоўвацца яму і слухацца пасылаемых згаданым генеральным камендантам інструкцый і загадаў. Парадкавыя камісіі і гарадскія вярхі павінны дапамагаць таму каменданту і безумоўна задавальняць пасылаемыя ім рэквізіцыі. Каб гэты універсал быў хутка разасланы па ўсяму краю, загадваем яго абвясціць з амвонаў у касцёлах. Рабілася на сесіі ННР у Вільна 3 мая 1794 г.

*Дамінік Нарбут, войскі лідскі, прэзідэнт*
*Каэтан Нагурскі, харунжы жмудскі*
*Ігнацій Кастравіцкі, дэлягат Лідскага павета*
*Томаш Умастоўскі, дэлягат Ашмянскага павета*
*Тадэвуш Высагерд, войскі прэнскі*
*Мікалай Саба Храпавіцкі, маршалак аршанскі*
*Міхаіл Карповіч, прэлат смаленскі*
*Міхаіл Пачобут, рэктар віленскай акадэміі*
*Бенедыкт Карп, харунжы Упіцкага павета*
*Валенцій Гарэцкі, войскі віленскі*
*Станіслаў Валовіч, падкаморы рэчыцкі*
*Міхал Грабоўскі, канюшы літоўскі*

Іосіф Нарбут, *сакратар НН літоўскай рады*

*БПАНК, с 35213, л. 44-44 адв. Друк. за пячаткай.*

***№ 13. 3 мая. Акт падтрымкі паўстання абывацелямі Эйшышскага павета***

Акцэс абывацеляў Эйшышскага павета

Мы, абывацелі Эйшышскага павета, з атрыманага ад Найвышэйшай рады універсала пра акт віленскага паўстання 24 красавіка бягучага года ўбачылі ў тым акце самае шчырае імкненне ўсімі спосабамі выратаваць нашу Айчыну, а таму мы ахвотна далучаемся да таго акта, несучы на ахвярную паслугу Айчыне жыццё і маёнткі. Абяцаем верна слухацца указам Найвышэйшай рады, ўсім пастаўленым тым актам і маючым утварыцца дэпутацыям і магістратурам, і выконваем далучэнне (акцэс) да таго створанага ў Вільна 24 красавіка 1794 года акта шляхам асобай на тое прысягі ў наступных словах. "Мы прысягаем усемагутнаму і адзінаму у троіцы пану богу старанна служыць жыццём і маёнткамі верна слухацца пастаўленых актам паўстання ўладам і ўсё, што ад нас залежыць будзе для моцы і абароны цяперашняга акта паўстання народа не замарудзім пачціва выканаць, а усё, што нам будзе даверана ад якой-небудзь улады з гэтага акта, не толькі захаваем у сакрэце, але ва ўсёй нашай дзейнасці не дапусцім ніколі прыватнага інтарэсу ці погляду і будзем кіравацца толькі агульным дабром края, у чым ды паможа нам пан бог і нявінная мука яго сына".

Падпісваем добраахвотна сваімі рукамі. Напісаны у горадзе Эйшышках 3 мая 1794 года.*(Тут ідуць шматлікія подпісы — **Я.А.**)*.

Ахвяры тых жа абывацеляў. Мы, абывацелі Эйшышскага павета, сабраўшыся ў наш судовы горад Эйшышкі для падпіскі акцэса да віленскага акта і выканання адпаведнай прысягі пад тым жа акцэсам, сведчым, што маючы належныя сабе з расійскай касы 4850 чырвоных злотых за пастаўлены у расійскія войскі фураж, якія дастаўлены пад дазор Лідскага земскага суда ягамосцямі дэлягатамі Апалінарыем Адамовічам і Мацвеем Марачэўскім, мы самі ахвяруем з мэтай публічнай паслугі паўстанню народа калі

не больш, то па меншай меры роўную частку з Лідскім паветам, або палову, і прадастаўляем лідскаму земскаму ураду вольнае права дабіцца азначанай сумы з нашых асоб.

Рабілася ў Эйшышках 3 мая 1794 г. *(Тут ідуць шматлікія подпісы — **Я.А.**).*

Мы, абываценлі Эйшышскага павета, сабраныя ў судовае месца Эйшышкі для подпісу акцэса да віленскага акта і выканання выражанай у тым акце прысягі, згодна з універсалам Найвышэйшай рады ад 27 красавіка 1794 года выбралі ў тую ж Раду ягамосця Фульгенда Камінскага, які па гэтаму выбару і ад нашага імя мае моц распараджацца у згаданай магістратуры, выконваць усякія належныя да таго ўрадавыя абавязкі, дзеля чаго падпісваем уласнымі рукамі цяперашні выбарчы інструмент. Рабілася ў Эйшышках 3 мая 1794 г. *(Далей ідзе шмат подпісаў абываценляў—**Я.А.**).*

*БПАНК, с. 35214, л. 45-45 адв. Друк.*

### *№ 14. 4 мая. Зварот Віленскай рады да жыхароў ваколіц аб выдачы коней*

№ 4 ад дэпутацыі забеспячэння

Заклік абываценляў да хутчэйшай пастаўцы коней у войска або ахвярай або гатоўкай грошай

Са страхам і дрыжаннем пачула ўся публічнасць, што вытварае дзікасць азвярэлага масквіціна. Абрабаваны Мерач і Араны, агнём і мечам – увесь тракт (да Вільна). Жыхары у дварах пакалоты, парэзаны, спалены. Святыя касцёлы злупаваны, абдзёрты, сапсаваны. Найсвяцейшыя алтары і таямніцы выламаны і стаптаны казакамі у Мерачы, Аранах, Шчучыне і іншых месцах. Годныя абываценлі страцілі коней, срэбра, сукно, збожжа, скаціну. Срамотна пагвалчаны і потым страшна змардаваны прыгожыя нявесты, забіты нявінныя дзеткі.

Абываценлі! Дзеля бога, прачніцеся з той нячуласці, дзеля бога прылучайцеся да агульнага выратавання! У многіх палках зруйнаванага войска няма коней, вазоў і амуніцыі. Дэпутацыя забеспячэння не мае спосабу хутка дапамагчы ім, а тым больш

патрэбам гвалтоўнага ратунку палаючых навокал вёсак і гарадоў. Нявінныя слёзы клічуць неба аб помсце, енкі і жалосныя просьбы пагубленых жыхароў пранікаюць ва ўсе сэрцы, пралітая кроў, плач над нястачай і уціскам люда выціскаюць слёзы з вачэй. Дзеля бога, дапамажыце абывацелі! Клічам да вас з тымі няшчаснымі загубленымі людзьмі. Гляньце на кроў, на слёзы, на плач і енкі . У гэтым духу дэпутацыя забеспячэння заклінае і просіць усіх, каб кожны, хто толькі мае коней для язды, пад кавалерыю, або здатных пад вазы і гарматы, паставіў як мага хутчэй іх у Вільна. Гасціннаму дому будзе аплачана цана па дамоўленасці з дэлягаванымі для гэтага. Толькі як хутчэй даставіць усіх абавязваем і просім. А хтоб з міласці да Айчыны пажадаў паставіць выглядам ахвяры, тых дэпутацыя просіць зрабіць гэта як мага хутчэй для паратунку гінучых абывацеляў. Гэту аб'яву літасцівая і чулая грамадскасць загадала выканаць і абвясціць у публіцы, пра што наказваем і падпісваем. Даны у Вільна на сесіі 4 мая 1794 г.

*Міхал Грабоўскі, канюшы ВКЛ*
*Міхаіл Карповіч, прэлат смаленскі*
*Станіслаў Валовіч, падкаморы рэчыцкі*
*Мікалай Мараўскі, вайсковы пісар літоўскі*
*Антон Тызенгауз, харунжы віленскі*
*Мікалай Храпавіцкі, маршал старадубскі*
*Бенедыкт Карп, харунжы упіцкі*
*Ігнацій Тавянскі, віленскі земскі суддзя*
*Ян Міллер*
*Готліб Зэйдлер*

Франішак Фрыбас, *пісар дэлягацыі забеспячэння*

*БПАНК. с. 35216, л. 49. Друк, за пячаткай*

### № 15. 7 мая. Універсал Віленскай рады аб унясенні падаткаў, уведзеных Вялікім сеймам

7 мая. Літоўская скарбовая дэпутацыя паведамляе гэтым універсалам усім абывацелям і рознага тытула жыхарам літоўскага народа. Паколькі Найвышэйшая рада двума сваімі ўніверсаламі

адным у першы дзень мая, і другім у 7 дзень, наказала ўнесці ў публічны скарб падаткі, устаноўленыя Варшаўскім сеймам для задавальнення тэрміновых нашых патрэб, таму скарбовая дэпутацыя упэўнена, што ўсе абывацелі з міласці да Айчыны не толькі будуць спяшацца забяспечыць поспех універсалаў Рады, але прышлюць у генеральную віленскую касу усе да апошняга квітанцыі ўсякіх падаткаў дзеля бяспекі нарадовага скарбу. Скарбовая дэпутацыя разам з грамадскасцю будзе лічыць такі сродак забеспячэння падаткаў адзінай паслугай Айчыне. Паколькі некаторыя абывацелі з-за розных перашкод і абставін не могуць прыслаць іх у Вільна, тады скарбовая дэпутацыя ў адпаведнасці з універсалам Рады прызначае пабор падаткаў праз цывільна-вайсковыя і парадкавыя камісіі, прызваўшы на спраўную дапамогу стараннных абывацеляў, ягамосцяў генерал-маёраў і таксама шляхетныя магістраты. А каб яны кіраваліся прагай служэння Айчыне і бяспекай скарбовай касы, скарбовая дэпутацыя знаходзіць патрэбным прадпісаць наступныя абавязкі і пункты.

1. Цывільна-вайсковыя і парадкавыя камісіі абавязаны сабраць усе падаткі, якія былі ўстаноўлены з любой натуры маёнткаў і артыкулаў Варшаўскім сеймам, пачатым у 1788 г. і спраўна прадоўжаным да свайго закрыцця ў час вайны, не зважаючы ні на якія таргавіцкія пастановы і прадпісанні гродзенскай канстытуцыі, якія або ператасавалі натуру маёнткаў, або рабілі ў падатках выключэнні і перамены.

2. Цывільна-вайсковыя камісіі павінны так трымаць наяўную касу, каб пры аглашэнні небяспекі яна была хутка спакавана, добра захавана і пад заслонай краёвага войска прывезена ў Вільна. У выпадку небяспекі для транспарта, яе трэба аддаць за квітам каменданту, камандуючаму калонай.

3. Скарбовая дэпутацыя мае гонар паручыць ягамосцям генерал-маёрам і камендантам кожнага ваяводства і павета абдумаць поўную бяспеку на месцы спагнання падаткаў і іх транспарціроўкі. Калі б не ўдалося хутка сабраць ваяводскую міліцыю, тады яны патрэбуюць дастатковай стражы у мясцовых шляхетных

магістратаў.

4. Нарэшце, скарбовая дэпутацыя міласцю агульнага дабра абавязвае і засцерагае усіх навогул, г. зн. генерал-маёраў, святлейшыя камісіі і шляхетныя магістраты, не выпушчаць са сваёй памяці, што скарб, як першая крыніца ўмацавання збройнай сілы, утрымання вольнасці і незалежнасці Рэчы Паспалітай, належыць сцерагчы як мага пільней пад безумоўнай адказнасцю асоб і маёнткаў, якая непазбежна наступіць пры ігнараванні або нерэгулярнасці. Каб гэты універсал трапіў да ведама кожнага, скарбовая дэпутацыя літоўскага народа даручае сваёй канцылярыі апублікаваць яго з амвонаў, абвясціць трубой і разаслаць як мага хутчэй кемлівымі пасланцамі або праз крэсы.

Рабілася у Вільна ў палацы Рэчы Паспалітай на сесіі скарбовай дэпутацыі літоўскага народа 7 мая 1794 года.

*Ксёндз Давід Пільхоўскі, намеснік суфрагана, віленскі афіцыял, прэзідэнт скарбовай дэпутацыі*

*Томаш Ваўжэцкі, дэпутат*

*Фларыян Даліва Сыруц, ковенскі земскі суддзя, дэпутат*

*Ігнацій Даброўскі, віленскі гродскі суддзя, дэпутат*

*Плацыд Трашкоўскі, брэсцкі чашнік, дэпутат*

*Ксаверый Гедройц Юрага, віленскі земскі пісар, дэпутат*

*Пётр Білінг, дэпутат*

*Тадэвуш Кукевіч, сакратар скарбовай дэпутацыі літоўскага народа*

*БПАНК, с. 35220, л. 52-53. Друк, за пячаткай*

### № 16. 8 мая. Абвяшчэнне гродзенскім магістратам сваіх мер адносна кантрыбуцыі з горада

Магістрат Гродна, вольнага сеймавага горада Рэчы Паспалітай

Абвяшчэнне адносна будучых рапартоў аб кантрыбуцыі, купленых у расійскага войска рэчах і закрыцці шынкоў

Усім абывацелям, жыхарам і рознага стану асобам як у горадзе Гродна, так і на прадмесцях, абвяшчаецца, паведамляецца і прадпісваецца наступнае.

1. Калі бягучага 5-га дня расійскае войска пагражала гораду Гродна поўным знішчэннем дамоў і ўсіх у іх жывучых асоб, гродзенскі магістрат у якасці апошняга спосаба паратунку для злажэння загаданай кантрыбуцыі ў суме 6000 чырвоных злотых быў вымушаваны хутчэй заняць у розных асоб тую квоту у доўг. Ён таксама мусіў і ў 7-мы дзень таго ж месяца і года пазычыць 9420 польскіх злотых шляхам складкі, жадаючы заспакоіць і аддаць іх стаяўшаму тады пад Гродна каменданту расійскіх войск, князю, ягамосць генерал-маёру Цыцыянаву. Гэтым учынкам гродзенскі магістрат захаваў ад згубы усіх аселых абываццеляў рознага стану, умоў, вызнання і полу, а таксама усіх быўшых у Гродна ў той крытычны час, аднак вымушаны быў узяць на гэта да 130 тыс., ды яшчэ брычкі і абывацельскія коні. Зараз жа, па мінаванні небяспекі, ён абавязвае усіх маючых дамовыя пасэсіі абываццеляў, таксама кляштары і розных гаспадароў усіх памяшканняў у Гродна і за Нёманам неадкладна падаць да 8 гадзін вечара 11-га дня бягучага месяца і года рапарты з выражэннем ў сваіх жыхарствах асоб, іх пола, якія займаюцца гандлем, службай, рамяством або жывуць па каморах, з якіх можна б было зрабіць дакладны расклад згаданай кантрыбуцыі. Гродзенскі магістрат разлічвае, што не толькі духавенства з кляштараў, шляхта са сваіх пасэсій, гарадскія абывацелі і яўрэйскія жыхары, але і ўсе нават прыбыўшыя і быўшыя ў Гродна пад час такога цяжкага выпадку пастараюцца на працягу 3-х дзён да раніцы 12-га дня прыслаць да ратушы у канцылярыю магістрата вышэй згаданыя рапарты з паведамленнем вуліц і нумароў двароў і прыкладуцца самі або праз сваіх дэлегатаў да агульнага ўлажэння.

2. Паколькі шмат значных абываццеляў было пакрыўджана і абрабавана расійскім войскам як у самым горадзе, так у прадмесцях і па розных аддаленых месцах, а шмат рэчаў з тых рабункаў даводзіцца бачыць у тутэйшых жыхароў, то гродзенскі магістрат патрабуе ад кожнага, хто у цяперашні рэвалюцыйны час купіў у кватэраваўшага або праходзіўшага расійскага войска якія-небудзь посуд, паперы, вопратку, футра, сукно, бялізну, коней, скаціну,

збожа і іншыя рэчы у ваенных, салдат, фурманоў і розных людзей таго ж расійскага войска, не адкладаючы далей 15-га дня бягучага месяца і года напісаць рэестр свайго падобнага набыцця з выражэннем апошняй цаны і прадставіць пад сваім подпісам. Хто не з'яўляецца пасэсарам у горадзе, той змяшчае тое ж у квітанцыі асобы, вызначанай магістратам. Асцерагаем і запэўняем, што калі купленыя або набытыя любым шляхам з крадзяжу падобныя рэчы будуць утоены, тады пры знаходцы пасля вышэй акрэсленага тэрміна купіўшы будзе пакараны не толькі бясплатным зваротам, але і як за сапраўдны крадзёж іх.

3. Для агульнага спакою горада магістрат узнаўляе даўняе распараджэнне, патрабуючае замыкаць пасля 9 гадзін вечара ўсякія шынкі, кафенгаузы, тракціры і дамы, служачыя любым чынам да распіцця напіткаў. Непаслухмяны таму гаспадар будзе пакараны штрафам у 80 злотых, а заспеты у шынку трапіць у турму ратушы.

Даны у гродзенскай ратушы 8 мая 1794 года.

Казімір Абрамовіч, *сакратар яго каралеўскай мосці г. Гродна*

Мартын Станіслаў Арцымовіч, *войтаўскі судзя, намеснік і пісар магістрата.*

*БПАНК, с. 35222, л. 56. Друк, за пячаткай.*

## *№ 17. 9 мая. Акт падтрымкі паўстання Гродзенскім паветам*

Акцэс, учынены сабранымі ў месцы Саколка абывацеляў і жыхароў Гродзенскага павета да акта нарадовага паўстання пад начальствам начальніка нарадовай збройнай сілы Тадэвуша Касцюшкі

Мы, абывацелі, жыхары і землянробы таго месца Гродзенскага павета, якое яшчэ вольнае ад подлай помсты непрыяцеля, сабраныя для хутчэйшага ратунку сабратоў, знаходзячы у акце паўстання народа усёй нарадовай збройнай сілы адзіную і поўную надзею на абарону сябе і сваёй цэласці, усім нашым абывацельс-

івам і муніцыпальнасцю Гродзенскага павета далучаемся да акта нарадовага паўстання, пачатага ў Кракаве 24 сакавіка 1794 года пад начальствам Тадэвуша Касцюшкі, якога прызнаем вышэйшым начальнікам збройнай сілы, давяраемся яму і прысягаем поўнасцю слухацца абраную ім Найвышэйшую раду, абязуемся як мага пільней выконваць усе распараджэнні, як ахопленыя тым актам, так і будучыя. Вольнасць або смерць – гэтыя страшныя для непрыяцеля нашага народа дэвізы з гэтага часу будуць і нашым лозунгам. А паколькі цэласць, сіла і слава народа могуць прыйсці толькі на адзінстве, згодзе і нераздельнасці, то і мы, знаходзячы і прызнаючы у тым адзіны свой паратунак, заклікаем шаноўныя і старанныя муніцыпалітэты і земляробскія станы разам з намі супольнай радай і сілай падтрымаць лёс агульнай Айчыны. Рыцарскі стан даў і падае вам прыклад для наследвання. На адной жывеце зямлі, адныя яе дзеці. Прысягаем разам або шчасліва, слаўна і незалежна жыць на ёй, або пахавацца у руінах і попелах, каб не перажыць ганьбы народа. Рабілася ў Саколцы 9 мая 1794 г.

*Францішак Боуфал*
*Канстанцін Ельскі*
*Іосіф Міхаэліс, войт Саколкі*
*Іосіф Хілкевіч, прэзідэнт Саколкі*
*Мікалай Падвысоцкі, ротмістр*
*Іосіф Мінчэўскі, намеснік Саколкі*
*Антон Дзяконскі*
*Казімір Макавецкі, слонімскі маршалак*
*Адам Эйсмант, ротмістр*
*Даніэль Лянкевіч, пісар Гродна*
*Тадэвуш Высоцкі, харунжы*
*Казімір Абрамовіч, каралеўскі сакратар, прэзідэнт Гродна*
*Тадэвуш Клава, прэзідэнт Гродна*
*Іосіф Лабуцкі, камісар парадкавы*
*Віктар Танскі, ражанскі падстолій*
*Зянон Махвіц, літоўскі скарбовы рэгент*
*Стэфан Забела, інстыгатар Гродна*

*Францішак Заянчкоўскі, інфлянцкі канонік*
*Міхаіл Эрэнкрэйц, харунжы каронная артылерыі*
*Ян Брэнер, маёр*
*Лявон Канцэвіч, гродзенскі праваслаўны святар*
*Казімір Бараноўскі, пісар гродзенскай камісіі*
*Франц Юндзіл, падкаморы*
*Мацей Эйсмонт, стольнік*
*Андрэй Эйсмонт, земскі суддзя*
*Анзельма Эйсмонт, земскі пісар*
*Міхаіл Садлуцкі, земскі суддзя*
*Казімір Спінк, шамбелян*
*Іпаліт Ваўкавіцкі, земскі суддзя*
*Іосіф Бабінскі, земскі суддзя*
*Іосіф Данкевіч, скарбнік*
*Лукаш Дабрынеўскі, каморнік*
*Піус Сопліца, прэор кажнадзейскі*
*Міхал Барэцкі, земскі суддзя*
*Ян Аржахоўскі, ковенскі чашнік*

*БПАНК, с 35224, л. 58-60 адв. Друк. Усяго да 16 мая пад актам паставілі подпісы 401 чал.*

Фармуляр (рота) прысягі абываценяў Гродзенскага павета пры акцэсе да акта нарадовага паўстання

Я, №№, каго тут бачаць прысутным бог і народ, прысягаю ўсемагутнаму і адзінаму у святой троіцы пану богу у тым, што прыступіўшы да саюза нарадовага паўстання, пачатага адпаведна з актам у Кракаве 24 сакавіка 1794 года, прызнаю за начальніка Тадэвуша Касцюшку, буду паслухмяным яму і пастаўленым ім у краі ўладам, абяцаю жыць або памерці пад лозунгам вольнасці, цэласці і незалежнасці, прызнаю адзінай сілай абароны брацкую роўнасць, ўсё, што толькі было справай спісковага Гродзенскага сейма, буду нішчыць і кляйміць, ад гэтага акта і яго распараджэнняў не адступлюся і да канца свайго жыцця буду яго бараніць, у чым ды паможа мне пан бог і нявінная мука яго сына.

*БПАНК, с. 35231, л. 68.*

## *№ 18. 9 мая. Загад Віленскай рады адносна бурлакоў*

Дэпутацыя публічнай бяспекі. Атрымаўшы ад парадкавай камісіі Вількамірскага павета вытрымку следства ад 6-га дня і дзве рэзалюцыі ад 8-га дня, адказвае. Найвышэйшая рада загадала ягамосць генералу Хлявінскаму, што калі б хто з паселеных у ваколіцах Лукойна і Гегужына бурлакоў схіляўся да бунта супраць акта паўстання народа, або грабіў, тады віноўных караць адразу на месцы з дапамогай каманд. З гэтага вынікае, што прыкладам згаданага наказа трэба паступаць адносна усіх бурлакоў, якія безумоўна акажуцца віноўнымі і якіх камандам трэба наказваць неадкладна па прысылцы іх. Камісія можа паведаміць камандам вытрымку з цяперашняй рэзалюцыі, аднак, маючы заўсёды на ўвазе, каб не праследваліся тыя бурлакі, якія спакойна пільнуюць сваю гаспадарку, купецтва або павінуюцца вярхам пры узбраенні на падтрымку акта паўстання народа. Усіх астатніх трэба заахвочваць свабодамі нароўні з іншымі жыхарамі ў вернасці свайму краю. Таму бурлакоў Лісіцкіх нельга праследваць, калі яны не дапамагалі маскалям на здраду края. Больш таго, дэпутацыя перасцерагае парадкавую камісію ў тым, каб яна не памнажала ўціску арыштантаў і палонных, а зносілася з камандамі і ўзброенай сілай свайго павета, бо зараз па меншай меры недарэчна, каб усюды маглі памясціцца нявольнікі і арыштанты.

Што тычыцца шпікоў. Калі злоўлены акажацца шпіком, не прымушаным ворагам края на правіннасць, або які выконваў шпіёнства без прымушэння, такога трэба неадкладна закаваць і ўчыніць допрос як аб мэце шпіёнства, так і для інфармацыі аб стане непрыяцеля. Пры тых допросах трэба ўжыць разнастайныя сродкі, каб дабіцца праўды. Тыя прызнанні належыць не толькі хаваць у асобнай для гэтага сакрэтнай папцы, але іх аутэнтычныя копіі трэба пасылаць у Найвышэйшую раду або бліжэйшую каманду, праўда толькі па тых матэрыях, якія патрабуюць асцярожнасці і патрэбных для бяспекі ведаў. Затым выкрытых шпікоў вышэйзгаданага тыпу, калі яны акажуцца патрэбнымі для далейшага следства, належыць трымаць акутымі і, калі можна,

кожнага асобна пад пільнай стражай мясцовай збройнай сілы на кошце рознага гатунка абывацеляў. Тых жа шпікоў вышэйзгаданага тыпу, якія акажуцца непатрэбнымі для далейшага следства і ведаў, трэба па праву вайны пакараць шыбеніцай або камандай, або мясцовымі вярхамі.

Што тычыцца рэзалюцыі адносна вайсковай аховы, то яе павінны сачыніць належныя да таго ўлады, не выпускаючы у сваіх дзеяннях ніводнага месца і зважаючы на ўсе адпаведна стану, рэчы і спосабаў. Абывацелі і ўсе жыхары – першая пружына збройнай сілы, не павінны выпушчаць нічога для абароны ад непрыяцеля, для знішчэння яго ў краях Рэчы Паспалітай, для перашкоды яго нападу і таму падобных чыннасцяў. З улікам гэтага ўласнікі і пасэсары павінны разам з жыхарамі рабіць прыгатаванні і прыспяшаць дыспазіцыі, узяўшы за першую якасць адкрытае падпарадкаванне распараджэнням належных для гэтага ўлад. Пры гэтым дэпутацыя публічнай бяспекі паведамляе, што сярод іншых пастаноў Найвышэйшая рада стварае мясцовыя крымінальныя суды, вопіс якіх у свой час стане правілам. Дэпутацыя публічнай бяспекі загадвае пры тым сваёй канцылярыі разаслаць вытрымкі цяперашняй рэзалюцыі ў кожную парадкавую камісію. Даны на 28-й ранішняй сесіі 9 мая 1794 г.

*Ксёндз Іосіф Міцкевіч, старшыня*
*Валенцій Гарэцкі, войскі віленскі*
*Ежы Грабоўскі, генерал*
*Антон Лахніцкі*
*Вінцэнт Паплаўскі, пісар дэпутацыі публічнай бяспекі*
*Людвік Аштарп, сакратар*

*БПАНК, с. 35225, л. 61. Друк. за пячаткай.*

### № 19. 9 мая. Універсал Віленскай рады аб камплектаванні войск рэкрутамі і ахвотнікамі

№ 7. Ад Нарадовай рады. Універсал у ваяводствы, паветы і гарады ВКЛ

Абывацелі! Вам ужо вядома, як спраўна рука прадбачання адвяла нас ад той прорвы, куды нас больш за знешні прымус

нагрузіла здрада ўласных землякоў. Ужо вядома, што той жаўнер, якому накавана быць мужным, парваўся ў роспачы са зброяй помсціць нялюдскім тыранам за нанесеныя крыўды і знявагі вашай Айчыне. Вы ведаеце ўжо, што літасцівы бог паблагаславіў тыя святыя мэты, якія прадпрыняты для ўздыму вашага шчасця ў паўстанні народа. Аднак дарэмнымі былі б усякія пачынанні, калі б вы, шаноўныя абывацелі, самі не шукалі хуткай, спраўнай і яўнай абароны для свайго паратунку. Таму Найвышэйшая рада літоўскага народа сваім універсалам ад 1 мая бягучага года загадала даставіць з 25 земляробскіх дымоў рэкрута на засіленне лінейнага войска. Зараз, шаноўныя абываці, клічам вас паставіць у Вільна таго рэкрута з бліжэйшых месцаў на працягу 2 тыдняў, а з адлеглых, у тым ліку і Жмудзі, -- на працягу 4 тыдняў на кошце ўласнікаў уладанняў. Гэтыя рэкруты будуць раздадзены па карпусах і ў карпусах жа яны будуць браць жалаванне з публічнага скарбу. Найвышэйшая рада абавязвае кожнага ўласніка і пасэсара міласцю дабра вас саміх і вашай Айчыны даць свайму рэкруту харч і пры кожным па 100 злотых наяўнымі грашыма ў касу скарбовай дэпутацыі, або аддаць прадуктамі той жа вартасці ў дэпутацыю забеспячэння.

Акрамя вышэй згаданых рэкрутаў у лінейнае войска, Нарадовая рада асобна назначыла з (5 ) земляробскіх дымоў аднаго ахвотніка з касой або дзідай ці сякерай у каманду мясцовага генерал-маёра. Гэты ахвотнік будзе ўтрымлівацца ў павятовым горадзе або ў парафіяльным мястэчку на харчы з тых 5 дымоў, з якіх ён выбраны, а недахоп яго ў падданых пакрые ўласнік таго падданства сваёй руплівасцю. Усе такія ахвотнікі не з'яўляюцца рэкрутамі, а таму да камплектавання карпусоў краёвага войска не належаць і пасля знікнення патрэбы будуць вернуты у свае дамы.

Напаследак Нарадовая рада звяртаецца да вас, браццця шляхта, якую лёс надзяліў вялікай дабрадзейнасцю, мужнасцю, клопатам больш пра Айчыну, чымсці пра маёнткі. Сядзіба ваша ваколіцамі акрэслена. Так не дайце ж сябе нікому ні перавысіць ні апярэд-

зіць ў ахвярах на Айчыну! Ніякіх іншых багаццяў у ахвяру ваша Айчына не шукае ад вас акрамя таго, што кожны з вас ёй прысвяціць здольны. Шукае, каб памяталі, што з бацькоў і дзядоў вашых з'яўляецеся часткай байцоўскага рыцарства, якія злучалі ўсе свае сілы для вашай абароны. Тым канцом Рада вызначае з 5 шляхецкіх дымоў, якія не маюць падданых, аднаго коннага ахвотніка з шабляй, пісталетамі, дзідай і харчам з тых жа 5 шляхецкіх дымоў. Яны будуць ужыты да той выправы генерал-маёрамі сваіх ваяводстваў або паветаў і павінны слухацца іх арданасаў.

Жадаючы мець не зблытаны парадак і выкананне генерал-маёрамі распараджэнняў па арганізацыі паспалітага рушання для абароны сваіх ваяводстваў і паветаў, абавязваем цывільна-вайсковыя і парадкавыя камісіі, як і ягамосцяў генерал-маёраў, не выдаваць у ваяводствах і паветах нейкіх асобных распараджэнняў, а заўжды працаваць у шчыльнай адпаведнасці з універсаламі Рады і над хуткім і паспяховым выкананнем тых жа ўніверсалаў Рады, разсылаючы іх або шляхам узаемных зносін паміж сабой, або абвесткамі з дапамогай асоб, адметных духам стараннай службы Айчыне. Абавязак іх найперш замыкаецца справай агульнага ўзбраення абывацеляў, выправай з 5 земляробскіх дымоў пешых і конных шляхецкіх ахвотнікаў, у справядлівай раскладцы з 25 земляробскіх дымоў рэкрут у лінейнае войска згодна з прысягамі ў тарыфах апошняй люстрацыі. Каб ніхто не занядбаў сваіх абавязкаў, тая ж Рада заклінае міласцю дабра Айчыны па першаму патрабаванню ваяводскага або павятовага генерала мець у гатоўнасці тых пешых і конных ахвотнікаў на кожную каманду краёвага войска, а Найвышэйшай радзе як мага хутчэй паведаміць асобнымі дакладнаымі рапартамі як пра колькасць рэкрут, так і колькі іх павінна выходзіць у карпусы краёвага войска. Акрамя таго, Найвышэйшая рада засцерагае, каб валанцёры, якія добраахвотна ахвяравалі свае асобы на абарону Айчыны у дывізіі краёвага войска там, дзе каму зручней акажацца або падабацца будзе, хутчэй трымаліся субардынацыі генералаў дывізій. З бліжэйшых жа месцаў яны могуць падавацца да Вільна і там паступаць пад субардынацыю каменданта віленскага гарнізона. Усім тым

жаўнерам у цэлым Рада забараняе чыніць пры сваіх пераходах крыўды і прыкрасці абывацелям, а быць у поўным спакоі і пад дасканалай адказнасцю.

Памятайце абывацелі аб тым, што зямля, на якой вы жывеце, не толькі дастаткова прыняла самаахвяраванняў, а яшчэ больш наліта крывёй вашых продкаў. Майце ж удзячнасць іх попелу і пашану да іх дабрадзеяў. Што ж можа быць лепшага для вашага пераймання, як не мужнасць вашых дзядоў. Каму вы абавязаны святымі вашымі свабодамі і вольнасцю права, як не мужнасці, якога выдатны Літоўскі статут пазбаўляе стратай гонару і маёнтка таго, хто б ганебна пакінуў пляц бою. Права гэта пад артыкулам 14 раздзела 2-га для цяперашняй патрэбы Рада вяртае ва ўсім яго сціслейшым выражэнні. Пакажыце, абывацелі, вашай спраўнасцю і адвагай, як вы можаце служыць Айчыне, што калі краёвае войска зрабіла шчаслівы пачатак яе паўстанню, то і вы з ім лучыцеся, вы яго падтрымліваеце, вы заадно з ім жадаеце дабівацца шчасця Айчыны. Пакажыце, што няма сярод вас такога, хто б сарамліва кінуў плац бітвы або не выбраў лепш смерць, чым ганебную няволю.

Абывацелі! Нарадовая рада звяртаецца да вас і заклікае ўласна вас саміх. Усе абавязаны бараніць сябе і Айчыну. Драпежны непрыяцель забярэ ва ўсіх вас маёнткі, дамы, ваша жыццё. Нават святлітцы і алтары самога бога не будуць у пакоі, калі вы замарудзіце з ахвярамі, якія Рада просіць і якія вы павінны сабе самі. Спяшайцеся чым хутчэй ратаваць Айчыну і сябе разам з ёю. Няхай тыран, які не мае правіл людскасці, які ніколі не насычаўся ні людской крывёю, ні лупам, будзе тым больш уражаны відам, што на той зямлі, на якую ён прышоў, якую бязбожна пустошыць і нішчыць, няма рукі, якая б не трымала зброю для помсты нанесеных сабе крыўд і знявагі. Злучайцеся ўсе разам! Нічога для гэтага не шкадуйце, калі толькі жадаеце ўратаваць сябе і вашых дзяцей ад драпежнага і заядлага непрыяцеля. Паслухайце бога, які благаслаўляе дабрыню вашай справы! Паслухайце свайго мужнага жаўнера, усыплёнаму здрадай, але ачомаўшаму у спраўнай роспачы. Прыслухайцеся да сваёй руплівасці, якая ўсё адолець

можа. Свой жа намер угрунтуйце так адважна, каб ні паражэнні ні перамогі ніколі не змянілі вашай энергіі.

Каб гэты універсал хутчэй стаў вядомы кожнаму, загадваем усім магістратурам і краёвым юрысдыкцыям, і ў першую чаргу цывільна-вайсковым камісіям і магістратам, неадкладна разаслаць яго па ўсіх парафіях сваіх ваяводстваў або паветаў і абвясціць з амвонаў. Рабілася ў Вільна на сесіі Найвышэйшай рады літоўскага народа ў палацы Рэчы Паспалітай 9 мая 1794 г.

*Іосіф Несялоўскі, навагрудскі ваявода*
*Іосіф Пац, стараста вілейскі*
*Міхал Грабоўскі, канюшы літоўскі*
*Бенедыкт Марыконі, пісар ВКЛ*
*Станіслаў Мірскі, пісар ВКЛ*
*Томаш Ваўжэцкі, літоўскі харунжы*
*Бенедыкт Карп, харунжы упіцкі*
*Антон Хлявінскі, генерал-маёр*
*Міхаіл Бжастоўскі, стараста мінскі*
*Мікалай Мараўскі, экспісар вайсковы*
*Ежы Белапятровіч, экспісар вайсковы*
*Каэтан Нагурскі, харунжы Шавельскага павета*
*Ксёндз Міхаіл Пачобут, рэктар віленскай акадэміі*
*Ксёндз Міхаіл Карповіч, архідз'якан смаленскі*
*Самуэль Корсак, палкоўнік ВКЛ*
*Антон Тызенгауз, харунжы, прэзідэнт Вільна*
*Валенцій Гарэцкі, войскі віленскі*
*Дамінік Нарбут, войскі лідскі*
*Тадэвуш Высагерд, харунжы прэнскі*
*Антон Лахніцкі, віцэ-прэзідэнт Вільна*
*Міхал Агінскі, дэпутат віленскі*
*Томаш Умастоўскі, дэпутат ашмянскі*
*Ігнацій Кастравіцкі, дэпутат лідскі*
*Міхаіл Граноўскі, каронны сакратар, дэпутат трокскі*
*Антон Прозар, дэпутат ковенскі*
*Вінцэнт Мінкевіч, дэпутат віленскі*

*БПАНК, с. 35226, л.61-62. Друк. за пячаткай.*

***№ 20. (9 мая). Прамова плябана да вернікаў***

Мова плябана да люду

Брацця земляробы! Як каплан і наместнік Ісуса Хрыста, кажу вам з гэтага месца праўды, – слухайце бога, творцу вашага, выконвайце святыя яго ўказанні, жывіце пачціва і ў згодзе, не крыўдзячы нікога. Зараз жа, кмеці, буду павучаць вас, што трэба зрабіць вашай Айчыне і той зямлі, якая корміць вас і ўсіх, хто кіруе, каб вам было добра, каб вас ніхто не абдзіраў, не прыціскаў, і як трэба спраўляцца, каб вы разам са сваімі дзеткамі і жонкамі спакойна і бяспечна сядзелі дома. Брацця земляробы! Вашы начальнікі ўжо сталі думаць пра вас, каб навучыць вас чытаць і пісаць, каб ураўняць вас з усімі людзьмі. Кожны пераканаўся ўжо, што вы з'яўляецеся шаноўнейшым скарбам і дапамогай у паратунку каханай нашай Айчыны, што ваша шаноўная працавітая рука, аж да крывавага пота штодня аручы, барануючы і вырабляючы сахой зямлю, корміць усіх нас, што тая ж ваша рука, узброеная косамі і пікамі, можа моцна пабіць і разграміць ворага нашай Айчыны, вашай зямлі, вашых жонак і дзетак, вашых убогіх маёнткаў.

Гэта ўсе сталі чуць і знаваць. Зараз азвярэлы маскаль і хітры прусак напалоханы вамі, пазнаўшы гэта. Яны каравуляць вашу згубу, жадаючы у вас усё забраць. Гэтыя тыраны і вылюдкі закупілі непачцівых паноў і здраднікаў (бо пачцівыя і богабаязныя пільнуюць сваю зямлю), навялі на вашу зямлю мноства маскалёў, нявольнікаў маскоўскай царыцы і прусака, і што толькі яны вам не нарабілі. Яны забралі ваша жыта, ячмень, сена, валоў і коней, збілі вас і вашых жонак, пабілі вашых дзетак, пагвалцілі дочак і папалілі вёскі. Хаваліся вы ад іх па лясах, равах, кідалі хаты у пошуках сховы. Зараз жа, брацця земляробы, калі ўжо маскалёў і прусакоў пабілі крыху, калі іх стала меней на вашай зямлі, калі гасподзь бог аказаў нам сваю дапамогу, пілнуйцеся і будзьце асцярожнымі, каб яны зноў да вас не вярнуліся, бо калі яны вернуцца, то ўсіх вас пазабіваюць і папаляць вашы дамы. Скажу вам пра іх так: не верце ім, бо яны усе здрадзяць. Паслухайце мяне, хто вас перасцерагае. Узбройвайцеся чым можаце, а калі скажу вам стаць,

то будзьце гатовы пайсці біць маскалёў. Вырабляйце зараз сваю зямлю, слухайце вашых паноў, а калі будзеце рабіць тое, што я вам кажу, то бог вас узнагародзіць і ашчасlівіць. Памятайце, што ў вас няма свайго ралля, а што ж вы будзеце рабіць, калі паны яго забяруць. Слухайце жа іх, бо толькі паны палегчуць вам паншчыну і даніны, будуць вас кахаць і шанаваць, а народ у падзяку вашых прац і заслуг шчодра ўзнагародзіць магчымасцю набываць зямлю ва ўласнасць. Вольнымі, гавару, станеце па сваёй магчымасці.

Зараз, каханыя браты, калі прыведзены рукой прадбачання на ратунак каханай Айчыны непераможны наш начальнік і любімы людам Тадэвуш Касцюшка зрывае путы нявольніцтва народа, калі абраная дабрадзейнымі абывацелямі краёвая часовая Рада падала разумныя і ясныя сродкі для агульнага шчасця, калі ўжо лязгат зброі наезнікаў заглушаны бразганнем зброі суайчыннікаў, то хто ж зможа схавацца перад вашай моцай з купкай сваіх наймітаў. Хто з нас, дыхаючых паветрам Айчыны, забыўся пра тое, што мы ёсць палякі, хто бы з расчуленага свайго пачуцця не любіў абаронцаў бога, які па сваёй справядлівай істоце благаславіў пачатак нашага справядлівага паўстання. Або, таксама, ці ёсць сярод нас такі, хто б у той час, калі спраўная мужнасць нашых братоў ужо падала нам спосабы злучыцца з імі, хто не захоча прыкласціся да знішчэння вузаў ганьбы і ўціску, захоплены іх дабрадзейным запалам? Вы, шаноўныя, частка народа. Дык пакажыце, што душы вашы высокародныя, а сэрцы пачцівыя, а таму вартыя мужна разам з другімі змагацца за Айчыну, каб кропля за кропляй сваёй дабрадзейнай крыві заслужыць слаўныя пашаны палякаў. Тая самая Айчына бярэ адной рукой вас у сваё лона, як гэта бяруць кахаючыя вас уласныя дзеці, а другой жадае рознымі спосабамі абараніць вас і палегчыць шлях да вашых высокіх назначэнняў. Яна, каханыя суайчыннікі, як тая любая маці запрашае вас пад свае харугвы, каб вы сцерлі пляму ганьбы з вашай зямлі, вярнулі з чужой няволі няшчасных вашых братоў, былі адным народам і сумеснай дружынай аднаго айчыннага дома, супольнай сілай, страшнай чужым сядзібам, а сабе шчаслівай і слаўнай са свайго паўстання і сваёй вольнасці.

Гляньце на вашых дзядоў і немаўлят, у якіх самі адрадзіліся. Гэта ў вашы рукі умешчаны зараз іх далейшы лёс. Няўжо вы чакаеце таго, каб рука непрыяцеля выдрала разбуйнеўшы зараснік нашай сівізны і высек ім вас, каб тая кроў любай Айчыны і ваша ўласная па капрызу чужацкай задумы лілась патокамі паміж татарскімі ордамі для пагубы чужой вольнасці і ўскладання кайданоў на вашу Айчыну? Гляньце, кажу, на тых немаўлят і падумайце пра іх далейшае племя. Гэта ад вас залежыць іх шчасце або нядоля, вольнасць або няволя, слава або агіда. Памятай гэта, каханы суайчыннік, каб нашчадкі тваёй крыві не праклялі тваю памяць і тваю магілу за тое, што не жадаў ім шчасця. Май святлейшым абавязкам асновы святой нашай веры, любоў да Айчыны, яе правоў і вольнасці. Такія вось доказы таго светлага запала запісаны у святых магдэбурскіх кнігах, калі вольны народ слаўна трыумфаваў над сваімі агрэсарамі пад кіраўніцтвам дабрадзейных начальнікаў збройнай сілы. Брацця любыя, з міласці да бога, да Айчыны, свабод і вашай крыві ажывіце зараз сваю чуласць і гарніцеся разам з каханымі вашымі братамі пад харугвы Айчыны. Трэба папрацаваць, ідучы да шчасця. Нават зямля не дасць плёну без працы. І зерне, кінутае тваёй рукой, спачатку паляжыць і пацерпіць у зямлі, а потым захвалюецца аздобным коласам і з'явіцца ў насенні плёна.

Браты любыя. Шаноўныя жыхары і высакародныя палякі. Любая моладзь. Няхай у вас адзавецца кроў суайчынніка і да сардэц вашых прыдзе святы запал любві да Айчыны. Няхай яны зробяць вас такімі ж шаноўнымі, як гэта зрабілі святлейшыя вашы браты, якія саму смерць, нібы цацку пазяхаючую агнём і усеяную жалезам у руках ворага, павярнулі супраць іх жа. Вялікі божа, розныя тытулы на свеце – гэта формы забабону і толькі сама вольнасць ёсць твой дар, уласцівы для натуры чалавека. Гэта светлае тваё права дадзена чалавеку на ўзор цябе самога, толькі яго святлом і разумам акрэслены прадпісанні, каб чалавек не шкодзіў другому чалавеку. Гэта святое права ёсць правам маёй Айчыны. Вораг квапіцца выдраць яго і, падраўшы твае святыя уставы, хоча зрабіць

нас сваімі нявольнікамі. Божа! Дай нам пазнаць цану таго твайго дара і вольнае сэрца, умацаванае ўласцівай вольнасці мужнасцю, пераадоліць усякія перашкоды у барацьбе са смерцю за той дар.

Гэту месу сурова прыказана чытаць плябанамі ў нядзелю і на святы кожнай грамадзе люду.

*БПАНК, с. 35227, л. 63-64. Друк.*

### *№ 21. 10 мая. Інструкцыя для інтэндантаў у парафіях*

1. Сачыць за дакладным выкаененнем прысяг абывацелямі па прадпісанай форме, дасланай дэлегатамі да плябанаў.

2. Пільна назіраць, каб усе прысланыя ў парафіі ўніверсалы і распараджэнні плябаны і ксяндзы чыталі і тлумачылі люду з амвонаў у нядзелю і на святы.

3. Кожнаму ва ўсім абрубе сваёй парафіі моцна назіраць за публічным спакоем, выяўляць замяшанні і хваляванні, абследваць праязджаючых і пераходзячых, асабліва каля межаў, аглядаць пашпарты, затрымліваць ідучых без пашпартоў розных валацугаў, хапаць парушальнікаў спакоя і з дапамогай, якую ў любы час можа ўжыць з мястэчак або бліжэйшых абывацеляў, дастаўляць у парадкавую камісію.

4. Патрабаваць, каб у кожным мястэчку перапісалі коней і такіх па 2 штодня па чарзе трымалі нагатове. У выпадку атрымання экспедыцыі, такую адаслаць да бліжэйшай інтэндатуры. Для аб'езду жа парафіі, перавозу вязняў ці якіх здарыцца могучых рэквізітаў, ужываць абывацельскія, духоўныя і каралеўскія фурманкі, толькі без уціску і з раскладам прапарцыянальна заможнасці і здольнасці без выключэння стана або кандыцыі.

5. Моцна назіраць, каб пасланыя праз курсорыі *(інакш крэсы або паштовыя гоны – **Я. А.**)* універсалы без замінкі былі разасланы у парафіі. Сачыць і заахвочваць пакінуты у дамах люд да апрацоўкі зямлі, да належнага паслушэнства панам і ўсякага пастаўленага над ім начальства, да шанавання правоў края і выканання ўрадавых распараджэнняў улады, – словам, назіраць і сачыць за ўсім тым, што толькі тычыцца парадка і агульнай бяспекі. Зрэшты, яны абавязаны выконваць усё загаданае парад-

кавай камісіяй пад карай адказнасці, прадпісанай за невыкананне і непаслушэнства.

6. Пры неабходнасці і разлегласці месца, інтэндант можа назначаць здольных і нічым не западозраных стражнікаў, паведамляючы іх прозвішчы і імёны у парадкавую камісію. Абавязкам тых стражнікаў будзе чула сачыць за ўсякімі бунтамі, хваляваннямі і ўсім тым, што толькі магло б зрабіцца замахам супраць акта паўстання народа.

*БПАНК, с. 35229, л. 67. Друк.*

### *№ 22. 10 мая. Арганізацыя крымінальнага суда паўстання ў ВКЛ*

Ардынацыя для крымінальнага суда.

Паколькі ў стварэнні крымінальнага суда пры акце паўстання літоўскага народа мэтай было караць з гэтага часу здраднікаў Айчыны, пагражаючых яе паўстанню праціўнай радай або якім-небудзь спіскам *(змовай – **Я. А.**)*, а таксама тых, хто завініўся аднойчы публічным крыміналам перад сваёй Айчынай, то з гэтага вынікае далей кароткае прадпісанне таму суду, якое будзе служыць правілам яго дзейнасці.

1. Генеральны крымінальны суд будзе судзіць ні ў якім іншым месцы, як толькі ў Вільна або там, куды пераедуць з-за патрэбы або абставін Найвышэйшая рада і яе дэпутацыі.

2. Цалкам не належаць і ў той суд прынімацца не будуць ніякія грамадзянскія і нават крымінальныя справы па факту звычайнага забойства, якія не маюць ніякай сувязі са здрадай, спіскам або якой-небудзь інтрыгай падобнага кшталту супраць паўстання народа.

3. Справы з абвінавачваннем у здрадзе Айчыне, за падрыхтоўку і ажыццяўленне змовы, аб усякіх замахах ці то радай, ці то з дапамогай арганізацыі, ці то якім іншым спосабам учыненых супраць паўстання народа, аб зносінах з ворагам, аб шпіёнстве або ўцёках да непрыяцельскіх войск, нарэшце, розныя такога тыпу правіннасці, выкананыя асобамі, якія ўжо правініліся ў публічным

крымінале перад сваёй Айчынай, – усе яны будуць судзіцца ў тым крымінальным судзе са смерцю абвінавачаных і канфіскацыяй іх маёмасці з доказамі лістоў або сведкаў. Вяршыцца жа яны будуць хутка, так, што пры гвалтоўнай неабходнасці абвінавачванне, доказы і дакрэт паследуюць на працягу 24 гадзін.

4. У гвалтоўных выпадках і абставінах патрэбную інквізіцыю павінны здзяйсняць самі суддзі таго суда хутчэйшым спосабам без фармальнасцяў, адпаведна праву па факту звычайнага здарэння.

5. У тых судах не дапушчаецца ніякі данос на затрымку справядлівасці.

6. У тым судзе будуць разглядацца ўсякія справы роўна як з падачы (інстанцыі) публічнага інстыгатара *(абвінаваўцы – **Я. А.**)*, нават пры абвяшчэнні ім арыштаваных вінаватымі, так і з даносу або пададзенай праз вознага і прызнанай у актах замовай. Тэрмін для расправы тым, пададзеным у рукі абвінавачанага замовам, будзе дастаковы на працягу 3-х дзён, а на ўладаннях хопіць 2 тыдняў.

7. Дазваляецца падаваць кароткім пісьмом індукцыі і абароны, якімі бакі і адвакаты падмацоўваюць доказы або крымінала абвінавачанага, або яго невіноўнасці.

8. Таму суду не належаць ніякія камдэмнаты *(канчатковыя або безапеляцыйныя прыгаворы – **Я. А.**)*, аднак пры няяўцы абвінавачанага боку у якасці нерушымага і яўнага дакрэта будзе неадкладна выконвацца дакрэт з пастановай аб яго прадаўжэнні.

9. Асобы, вызначаныя ў той суд і якія яшчэ не выканалі прысягі, выконваюць яе па форме прадпісанай Радай у сваім дзённіку у наступных словах: “Я, №№, прысягаю усемагутнаму і адзінаму у святой троіцы пану богу, што ў тых судах буду судзіць крымінальныя справы згаданага тыпу па правах бога і справядлівасці, непрадузята да каго б то ні было, у чым мне дý паможа пан божа і нявінная мука яго сына”.

Рабілася ў Вільна на сесіі Рады 10 мая 1794 г.

*Іосіф Пац, старшыня*
*Каэтан Нагурскі, харунжы шавельскі*
*Абуховіч, дэлягат навагрудскі*
*Міхал Граноўскі, каронны сакратар, дэлегат трокскі*
*Самуэль Корсак, палкоўнік літоўскіх войск*
*Бенедыкт Карп, харунжы упіцкі*
*Антон Тызенгауз, харунжы, прэзідэнт Вільна*
*Томаш Умастоўскі, дэлегат ашмянскі*
*Іосіф Лапа, дэлегат старадубскі*
*Бенедыкт Гаціскі, дэлегат навагрудскі*
*Ксёндз Міхаіл Пачобут, рэктар віленскай акадэміі*
*Ежы Гарабурда*
*Згодна з арыгіналам, Іосіф Нарбут, сакратар Найвышэйшай літоўскай рады*

*БПАНК, с. 35232, л. 70-70 адв. Друк, зна пячаткай.*

## № 23. 10 мая. Адозва М. Катла да абывацеляў Ашмянскага павета

Міхаіл Казімір Коцел, ротмістр нарадовай кавалерыі, генерал-маёр Ашмянскага павета

Па даверанаму мне абавязку гэтай першай сваёй адозвай да вас, дабрадзейннейшыя абывацелі Ашмянскага павета, прагну чыстай ахвярай зычлівага сэрца аддзячыць як вашаму даверу, так і стараннасці ў сумесным імкненні да абароны края. Далучаны тут універсал Найвышэйшай рады пад датай 9 мая, адкрые мае абавязкі адносна павета. Мне застаецца зараз толькі загадаць, каб разам з абвяшчэннем таго ўніверсала ўрадавыя прадпісанні выконваліся хутка і без усякага адступлення ад іх. Дабрадзейныя абывацелі. Спадзяюся, што мае словы знойдуць у вашых сэрцах жывыя пачуцці і пабудкі. Няхай вамі кіруе стараннасць, няхай вас падтрымаюць адважная дабрадзейнасць і мужнасць, а слава каханай Айчыны акажацца для вас узнагародай. Прыбывайце пад харугву вольнасці, павялічце рады дабрадзейных абаронцаў Айчыны і пад тым дарагім назовам ідзіце збіраць абывацельскія

вянкі. Абавязваю гэты універсал разам з такім жа ад Найвышэйшай рады абвясціць з амвонаў у самых дасціпных для ўсяго люду выразах. Рабілася у Ашмянах 10 мая 1794 г.

*Міхаіл Казімір Коцел, генерал-маёр Ашмянскага павета.*

*БПАНК, с. 35234, с. 72. За пячаткай.*

### № 24. 10 мая. Заклік Гродзенскай камісіі жыхароў павета да агульнага ўзбраення

Парадкавая камісія Гродзенскага павета

Згодна з актам далучэння абывацеляў Гродзенскага павета да саюза нарадовага паўстання пад высокім начальствам нарадовай збройнай сілы Тадэвуша Касцюшкі, сабраўшыся ўчора ў яшчэ вольным ад непрыяцеля горадзе Саколка з адзінай мэтай ратавання жыцця і маёнткаў жыхароў нашай Айчыны, абвяшчаем цяперашнім універсалам усім абывацелям і жыхарам Гродзенскага павета, што няма іншага спосабу выратаваць уласнае жыццё, як толькі ўзброіцца па ўсіх гарадах і вёсках нашага павета такой зброяй, якую хто мае, каб бараніцца ад нападаючых непрыяцеляў. Па прыкладу акта паўстання старанных абывацеляў ваяводстваў Кароны і правінцыі ВКЛ, а таксама на моцы прадастаўленых ім ухвал, абвяшчаем і патрабуем наступнае.

1. Усе духоўныя і свецкія вотчыннікі, пажыццёвыя трымальнікі эмфіутатычных, сталовых маёнткаў пад назвай каралеўшчын, таксама абывацелі вольных гарадоў і розных іншых мястэчак, увогуле ўсе (за выключэннем толькі самых агароднікаў, якія па апошнім тарыфам павінны плаціць шчодрае падымнае) павінны паставіць па квітанцыі сваёй парадкавай камісіі з кожных 5 дымоў аднаго здольнага рэкрута ў якой маецца вопратцы, з драўлянай касой на 4 локці даўжыні, або пікамі, калі такія маюцца, у фарміруемы пад Саколкай абоз пад каманду ягамосці Канстанціна Ельскага, абранага актам паўстання павета генерал-маёрам нашага павета. Абывацелі парафій нашага павета, якія знаходзяцца бліжэй 8 міляў да Саколкі, абавязаны паставіць такіх рэкрут з даты гэтага ўніверсала за 10 дзён, а з больш аддаленых – за 16

дзён пад карай прызнання непаслухмяных ворагамі Айчыны. Тым часам узамен за 4 дымы, з якіх не пойдуць рэкруты, земскія і духоўныя двары павінны даць на адзін толькі першы месяц для аднаго рэкрута харчу шаснацатку сухароў жытняга хлеба, шаснацатку сухой жытняй мукі, 2 гарцы ячменевых круп і 4 фунты чыстай вагі плесневага тлусту або аплаціць на месцы грашыма за ўсю тую жыўнасць для кожнага рэкрута па 10 злотых.

2. А паколькі тое ўзбраенне абывацеляў для паратунку ўласнага жыцця не можа абыйсціся бясплатна, то па прыкладу каронных ваяводстваў пабор на гэта вызначаецца наступны. 1. Усе пажыццёвыя пасэсары нарадовых уладанняў пад назвай каралеўшчын і старостваў плоцяць у касу парадкавай камісіі па апошняй люстрацыі на працягу 2 тыдняў 3 кварты, эксапентанты *(разнавіднасць чынсавага ўладання – **Я. А.**)* палову чвэрці кварты, эмфіутэгчыкі *(50 гадовыя трымальнікі – **Я. А.**)* 4 кварты. Усё гэта без уліку звычайнай роты *(аднаразавы тэрмін выплат – **Я. А.**)*, якая прыпадае на чэрвень месяц. 2. Земскія вотчыннікі і абывацелі гарадоў, якія запісаліся да ахвяры 10-га гроша і чый даход ад 100 да 2000 даходзіць, павінны заплаціць 10 ад 100, хто мае больш 2000 і да 10 тысяч – па 10 з 2000, а з наступных 8000 па 20 з 100. Хто мае ад 10 тыс. да 50 тыс. – па 10 ад 2000, па 20 з 8000 і астатнія па 30 з 100. Хто мае больш 50 тыс. даходу, заплоцяць у роўнай прагрэсіі і папярэднімі. 3. Духоўныя павінны заплаціць гэты пабор наступным чынам: хто мае 1000 – 10 ад 100, у каго больш 1000 – па 20 і 100, а ў каго больш за 2000 даходу – з усяго, што звыш 2000, па 50 ад 100. Усе, хто не трапіў у ахвяру 10-га гроша, павінны у назначаны вышэй тэрмін унесці ў касу сваёй парадкавай камісіі на той пабор падымнае за ўвесь год.

Жыды плоцяць на працягу 2 тыдняў з даты цяперашняга ўніверсала пагалоўнае за ўвесь год. Звыш таго, жыды, купцы гарадоў, павінны здаць за плату у той жа час у парадкавую камісію ўсю салітру і жалеза пад пагрозай выліку з пагалоўнага пабору або канфіскацыі і цялеснага пакарання за утойванне і схову. Не менш таго асцерагаем равінаў і кагалы у тым, што яны самі будуць ад-

і якое вельмі не стае войску. Каб хутка і ў слушнай ад кожнага прапорцыі зрабіць такую ссыпку, далей робіцца такі расклад.

Усе абываці кожнай натуры земскіх, шляхецкіх, духоўных, эканамічных, старасцінскіх маёнткаў пад назвай каралеўшчын, пасэсары, таксама шляхта ў ваколіцах, словам усе агулам, хто плоціць падымны падатак з земляробскіх грунтовых дамоў, акрамя агароднікаў і халупнікаў, павінны даставіць яе за 4 тыдні, замяніўшы недахоп у сялян уласнымі фальваркамі. А менавіта далей з гарадскіх і вясковых дымоў да 20 чэрвеня бягучага года з кожнага земляробскага дыма жытнёвай мукі з сухога жыта 5 гарцаў, ячменевых круп 1 гарц, аўса на фураж 6 гарцаў, сена 10 фунтаў, саломы 1 куль даць сваёй камісіі пад квітам камісараў, прызначаных для прыёма такой ссыпкі і фуража ў магазіны, месцы якіх вызначаюцца наступным чынам.

Да магазіна **ў Гродна** абываці парафій:
Гродзенскай
Гожскай з таго боку Нёмана
Кавасаўскай
Луненскай
Кузніцкай
Сідранскай
Залескай
Новадворсай
Дубраўскай
Вянгерскай

У магазін **у Крынках** абываці парафій:
Крынскай
Вялікабераставіцкай
Малабераставіцкай
Ялаўскай
Заблудаўскай
Адэльскай

У магазін **у Індурах** абываці парафій:
Індурскай
Воўпенскай

Рэплянскай
Эйсмонтаўскай
У магазін **у Саколках** абываценлі парафій:
Сакольскай
Харошскай
Кундзінскай
Васількаўскай
Сакалянскай
Янаўскай
Карыцінскай
У магазін **у Прэвалках** абываценлі парафій:
Бярэзніцкай
Вейсейскай
Лейпунскай
Лішкаўскай
Копцеўскай
Сейненскай
Віжанскай
Краснапольскай
Пунскай
У магазін **у Галынках** абываценлі з парафій:
Гожскай на гэтым баку Нёмана
Тэолінскай
Хадароскай
Краснаборскай
Ліпскай
Рачкоўскай
Янавіцкай
Бакалажаўскай
Філіпаўскай
Перарасльскай
У магазін **у Скідзелі** абываценлі з парафій:
Язерскай
Каменскай
Мастоўскай

Як наймацней загадваем абывацелям вышэйзгаданых парафій клапатліва і хутка прывезці такую ссыпку для няўхільнай патрэбы войска Рэчы Паспалітай. Камісія спадзяецца, што першымі пажадаюць дапамагчы краёвым патрэбам абывацелі бліжэйшых магазінаў у першыя дні, а з аддаленых і памежных месц могуць даставіць пазней па ўласнай стараннасці, бо іх яшчэ не кранула цяжка лупецкая рука. Разам з тым дэпутацыя забеспячэння парадкавай камісіі Гродзенскага павета павінна з чуласцю зрабіць для абывацеляў і такую справядлівасць. Тыя, хто ўжо выдаў да гэтай даты правіянт і фураж па білетах сваёй камісіі або па квітах каманд праходзячых войск Рэчы Паспалітай, тыя не прыцягваюцца да поўнай ссыпкі, зараз назначанай. З гэтага пункту гледжання дэпутацыя забеспячэння абавязвае такога класу абывацеляў прад'явіць камісіі білеты і квітанцыі каманд войск Рэчы Паспалітай для пераканаўчага доказу пра адсутнасць рэштак такой ссыпкі або яе поўнай выдачы і для атрымання ў гэтым агульнага пасведчання. А паколькі дэпутацыя забеспячэння ніколькі не сумняваецца ў стараннасці абывацеляў і нечыненні імі ў тым апору, то яна з чулага клопату асцерагае, каб усе абывацелі прыкладаліся да супольнага і роўнага засілення сваёй Айчыны, бо яна вымушана будзе аддаць непаслухмяных на вайсковую экзекуцыю. Пры усім тым, калі дэпутацыя забеспячэння атрымае пазней з Найвышэйшай нарадовай рады агульны загад парадкавай камісіі Гродзенскага павета хутчэй забяспечыць магазіны правіянтам і фуражом, а таксама скацінай на рэзь для выгады Рэчы Паспалітай, тады дэпутацыя забеспячэння парадкавай камісіі Гродзенскага павета з належным для сябе клопатам створыць падабаючы для гэтага камісарыят і ўведамляе абывацеляў, што той, хто не можа даставіць у натуры транспартам жаданага вышэй правіянта і фуража, можа аплаціць яго грашыма па ніжэйпаказанай цане з мэтай закупкі недастаўленага правіянта і фуража фактарамі адпаведна патрэбам і абаротам войска.

Спецыфікацыя цаны прадуктаў, якія прызначана паставіць у магазіны, і па якой ссыпку можна аплаціць грашыма:

За 5 гарцаў жытняй мукі з сухога жыта – 2 злотых

За 1 гарц ячменевых круп – 16 грошаў

За 6 гарцаў аўса – 1 злоты 6 грошаў

За 10 фунтаў сена – 10 грошаў

За куль саломы – 3 грошы

З дыма за мяса для жаўнераў– 18 грошаў

Пры тым дэпутацыя забеспячэння паведамляе абывацелям, што той, хто пажадае замест уплаты грошай за мяса даць на месцы валоў, ялавіцу, бараноў ці свіную прыправу, то усё тое будзе прынята ў належнай гандлёвай цане згодна з колькасцю дымоў. Калі ж абывацелі здалі прадукты натурай у бліжэйшы магазін па згаданай цане, а пры немагчымасці пастаўкі натурай пажадалі аплаціць яе грашыма, тады дэпутацыя забеспячэння асцерагае і абавязвае іх прадставіць квітанцыі не ў аддаленыя ад Гродна магазіны, а прама ў гродзенскі камісарыят, пастаўлены пад блізкі дазор сваёй камісіі, і аплаціць там частку чаго-небудзь недастаўленага натурай у свой магазін. Каб гэты універсал хутка стаў вядомы кожнаму, загадана яго сваёй канцылярыі раздрукаваць і разаслаць праз курсорыі для публікацыі з амвонаў у парафіях ксяндзамі плябанамі. Даны у Гродна на сесіі дэпутацыі забеспячэння парадкавай камісіі Гродзенскага павета 22 мая 1794 г.

*Ігнацій Скарбек, старшыня*

*Мацей Корн, абат і гродзенскі камісар*

*Ігнацій Лахніцкі, камісар*

*Шыман Завістоўскі, камісар*

*Іосіф Лабенскі, камісар*

*Антон Гуленецi*

*Андрэй Мальчэўскі, камісар*

Фелікс Імбра, *сакратар дэпутацыі забеспячэння*

*БПАНК, с. 35269, л. 114-15 адв.*

***№ 55. 23 мая. Распісанне харчовай ссыпкі ў правіянцкі камісарыят Гродзенскага павета***

Парадкавая камісія Гродзенскага павета на моцы універсала Нарадовай рады ВКЛ ад 17 мая бягучага года, выдадзенага ў словах – "камісарыят вызначае з асоб свайго кола або запрошаных і вядомых стараннасцю і абывацельскай дабрадзейнасцю", пастанаўляе, што ён будзе выдаваць патрэбнае прыходзячаму ў павет войску па білетах каманд і адпраўляць яго да межаў суседняга павета.

Камісарыят складаецца з наступных асоб: аднаго парадкавага камісара Гераніма Барэцкага ў якасці старшыні, прыданых абывацеляў павета ў якасці асэсараў – Яна Выкоўскага, Бенавентуры Эйсмонта, Ануфрыя Аўгустоўскага, Іосіфа Шумкоўскага, Францішка Дэрамера, Антона Капіцы, Яна Макоўскага, ад муніцыпальнасці – Францішка Крэйбіха, Паўла Жылевіча, якія выканаюць наступную прысягу. "Я, №№, прысягаю усемагутнаму пану богу, адзінаму у святой троіцы, што будучы назначаным парадкавай камісіяй Гродзенскага павета дырэктарам (або асэсарам) камісарыята, буду верна і пачціва выконваць ускладзеныя на мяне абавязкі, здаваць верны рахунак аб усякіх даходах і расходах у дэпутацыю забеспячэння, не буду шукаць ніякіх карысцяў і асабістых заробкаў, не буду браць ніякіх дароў і буду паслухмяным усім указам парадкавай камісіі і дэпутацыі забеспячэння, на чым справядліва прысягаю, і ды паможа мне пан бог".

Такі камісарыят цалкам падпарадкоўваецца дэпутацыі забеспячэння, павінен слухацца яе распараджэнняў і дыспазіцый і адказваць перад ёй аб сваіх чыннасцях, пастаянна знаходзіцца ў г. Гродна як месцы сваіх сесій, іх рэгулярна адпраўляць, прыстойна весці пратаколы, з якіх адны будуць рэгістраваць розныя дыспазіцыі ад дэпутацыі забеспячэння, а другія дакладна запісываць у які дзень і час яны былі задаволены. Аб'ектам гэтага камісарыята будзе пастаўка патрэб прыходзячаму у павет войску або праз яго праходзячага. Затым яго абавязкам будзе прынімаць ухвалы парадкавай камісіі, якія ўскладваюць на павет згаданую ссыпку

зярном, крупой, сенам, скацінай, выбіраць прыдатныя для такіх складоў магазіны, вызначаць для здаючых жывёлу натурай, выдаваць квітанцыі ўласнікам, дастаўляючым у магазіны правіянт і фураж, і аб усіх чыннасцях, даверaных яму цяперашняй ардынацыяй, рапартаваць 2 разы у тыдзень прыстойным і дакладным лістом. Паколькі жа рэзалюцыяй парадкавай камісіі Гродзенскага павета абывацелям, якія не могуць паставіць з дымоў правіянт і фураж у натуры, дазваляецца аплаціць яго гатоўкай па ўстаноўленай цане, то камісарыят, захаваўшы належную класіфікацыю і розніцу рознага правіянта і фуража, як здадзеных у натуры, так і аплочаных грашыма, за патрэбнай парукай выберыць фактараў, якія на атрыманыя грошы будуць купляць недастаўлены абывацелямі ў натуры такі правіянт і фураж. Ён будзе старанна клапаціцца аб такой эканоміцы, каб закупіць правіянт і фураж у выгадных месцах і на таргах як магатанней і ніколі не перавышаць устаноўленага максімума для плоцячых абывацеляў. На фундуш такой эканомікі трэба вызначыць розныя выдаткі на ўтрыманне пісароў канцылярыі, фактараў, памочнікаў, склад якіх камісарыят знойдзе неабходным. Камісарыят выберыць пэўных і здатных пісароў магазінаў, вызначыць патрэбную іх колькасць, з аглядкай на цяперашнюю сітуацыю края вызначыць ім сціплую пенсію, акрэсліць абавязкі іх чыннасцяў і будзе пастаянна назіраць за іх справаводствам, выдаваць для прыёма і выдачы правіянта і фуража меры і вагі для таго, каб хутка разлічваць і ніякім чынам не затрымліваць прывозячых абывацеляў, будзе разбіраць усякую ў гэтых адносінах скаргу абывацеля і непрадузята яе задавольваць. Камісарыяту цвёрда загадваецца назіраць за пісарамі магазінаў, каб яны гвалтоўна не ўціскалі абывацеляў мерамі і вагамі, што не пазбаўляе сам камісарыят моцы прынімаць правіянт і фураж сапсаваным і нездатным пры выяўленні яго недахопу пры здачы. Для гэтага будзе выдавацца рэверс на колькасць дастаўленага, а квітанцыя будзе выдавацца толькі за поўную дастаўку.

Для палёгкі абывацелям пры транспарціроўцы азначанай ссыпкі і фуража ў адзін магазін, а таксама для выгод маршаў і пераходаў

войска, парадкавая камісія папярэдне вызначае магазіны на вялікіх трактах або ў наступных месцах. Менавіта, галоўны у Гродна, другі – у Саколках, трэці – у Крынках, чацверты – у Індуры, пяты – у Скідзелі, шосты – у Прэвалцы і сёмы у Галынках. Згодна з такім распараджэннем, камісарыят засноўвае прынцыаіяльны і галоўны магазін у Гродна і будзе сачыць, каб ва ўсіх паказаных месцах былі пастаўлены і аснашчаны невялікія магазіны, здольныя забяспечваць войскі на маршах або ў іх лагерах. Дырэкцыя і апека за імі можа быць даручана мясцовым ксяндзам парахам, пасэсарам фундушаў, муніцыпальным абывацелям або бліжэйжывучым старанным абывацелям, калі такія ёсць. Яны прынімаюць магазіны па колькасці вагі і меры і могуць выдаваць з іх за білетамі камісарыята. Да такой публічнай паслугі міласцю Айчыны запрашаюцца як ксяндзы парахі, так і дабрадзейныя абывацелі, якія б не маглі адмовіцца затым ад сваёй працы па прызыву камісарыята. Паколькі маршыруючаму войску патрэбнана харчаванне, то камісарыят займецца яго прыгатаваннем з разлікам, каб у кожным са створаных магазінаў мелася 1000 фунтаў выпечаных сухароў, падрыхтавана дрэва на выпечку новых узамен тых, якія запатрабуюцца, зробіць пробу і прапорцыю вагі самой мукі для вагі сухароў і будзе ўтрымліваць свае расходы у такой прапорцыі. Гэты камісарыят будзе прынімаць і парадкам выдаваць розныя прадукты, якія дастаўляюцца на пракорм у час камплектавання вясковых кантаністаў і ахвотнікаў. Камісарыят вызначыць бяспечнае месца пад розную амуніцыю, накшталт броні, пораха, волава, сялітры, серы, скур, якія будуць даставацца пад яго нагляд з абывацельскіх ахвераванняў або якіх іншых крыніц. Гэты камісарыят будзе мець моц вызначаць годнасць і цану усякай амуніцыі з правам рабіць замену пры аплаце пабора. Гэты камісарыят, як цалкам залежны і падсправаздачны дэпутацыі забеспячэння, без пісьмовага дазволу гэтай дэпутацыі не можа нічога рабіць прымусова, ні выдаваць фуража і правіянта з гродзенскага магазіна, ні абілечваць адлеглыя магазіны. У выпадку праходу якой-небудзь каманды праз месца магазіна, там патрэбнае ёй будзе выдадзена

за яе квітам і без білета камісарыята. У выпадку выбыцця прэзідэнта, прысланага з камісараў дэпутацыі забеспячэння, яго месца зараз жа па выбару зойме другі камісар, каб камісарыят заўсёды быў пад прэзідэнтствам аднаго з парадкавых камісараў. Рабілася ў Гродна на сесіі 23 мая 1794 г.

*Францішак Боуфал, камісар, старшыня*

*Іосіф Ваўкавіцкі, гродзенскі земскі суддзя*

*Францішак Гансеўскі, камісар*

*Мацей Корн, абат і гродзенскі камісар*

*Ежы Ліпніцкі, камісар парадкавай камісіі*

*Станіслаў Залескі, камісар парадкавай камісіі Гродзенскага павета*

*Матэвуш Былеўскі, камісар Гродзенскага павета*

*Казімір Абрамовіч, камісар*

Згодна з пратаколам, *Пётр Манюшка, рэгент парадкавай камісіі Гродзенскага павета*

*БПАНК, с. 35270, л. 116-117. Друк, за пячаткай.*

### *№ 56. 24 мая. Разнарадка гродзенскай камісіі сваіх камісараў для прыняцця прысягі ад насельнікаў павета*

Парадкавая камісія Гродзенскага павета, сабраная на пленум, прызнаючы важным выслухаць абывацельскія прысягі як ад саміх земскіх і вясковых абывацеляў, ксяндзоў парахаў рознага абраду і ўсіх ксяндзоў у кляштарах, таксама гарадоў рознага класа, не менш таго ад прыкагалкаў, саміх кагалаў і жыдоў у іх жа жывучых, вызначае са свайго кола ва ўсе парафіі Гродзенскага павета ягамосцяў камісараў, а менавіта, у Гродзенскую парафію ягамосць Юрэвіча, гродзенскага прабашча, і Казіміра Абрамовіча, у парафіі Гожскую, Тэолінскую, Ліпскую, Кундзінскую, Вейсейскую, Лейпунскую і Лішкаўскую ягамосцяў Гансеўскага і Яленскага, у парафіі Язерскую, Каменскую, Луненскую, Мастоўскую, Квасаўскую ягамосцяў Ежы Ліпніцкага і Іосіфа Круповіча, у парафію Ротна ягамосць Ваўрынца Сабалеўскага, у парафіі Ваўпянскую, Рэплянскую, Эйсмонтаўскую, Свіслацкую (ксянд-

зоў францысканаў), Малабераставіцкую і Вялікабераставіцкую, Ялаўскую, Заблудаўскую ягамосцяў Ключэўскага, Крывіцкага і Шаняўскага, у парафі Крынскую, Адэльскую, Індурскую, Кузніцкую, Краснадворскую, Сакалянскую, Васількаўскую ягамосцяў Скродскага і Былоўскага, у парафіі Янаўскую, Карыцінскую, Хадароскую, Краснаборскую, Дубраўскую, Сідранскую, Залескую, Паўлавіцкую і Новадворскую ксяндза Свяжынскага, дэкана, і Скарбека, канюшага, у парафіі Луненскую, Віжанскую, Вянгерскую, Краснапольскую, Сейненскую, Бернікскую, Яленеўскую і Сувалкаўскую ягамосцяў Мартына Халявінскага і Станіслава Залескага, у парафіі Перарослькую, Янавіцкую, Філіпаўскую, Бакалажаўскую, Рачкоўскую і Шчаберскую ягамосцяў Стрыжэўскага і Волмера. Кожны з гэтых пасланых камісараў, прыбыўшы на месца вызначанага яму аддзела, у першую чаргу прымуць абывацельскую прысягу ад сабраных у касцёле ксяндза параха і абывацеляў хрысціян, пастырскімі вуснамі данясуць у галовы жыхароў польскай зямлі праўду аб тым, што сапраўдная міласць да бога і Айчыны заснаваны на святасці і старанным шанаванні рэлігіі, на сляпым і бездакорным паслушэнстве праву і ўраду, што міласць працы сярод малодшых, людскія і богабаязныя адносіны да старэйшых і вярхоў павінны злучаць брацкай міласцю і даверам усе сэрцы і намеры, што стан цяперашняга паўстання народа супраць даўніх і суровых ворагаў Айчыны ёсць той адзіны момант, калі кожны жыхар гэтай зямлі павінен адрачыся ад усяго асабістага і ў адзіным, выратоўваючым сэрцы і задумы, запале ўзненавідзець краёвага ворага, узброіцца супраць яго, а памятаючы пра нанесеныя ім крыўды і зверствы, імкнуцца яго знішчыць і выгнаць усякімі сіламі, моцай, адвагай і мужнасцю. Нарэшце, ягамосці пасланцы парэкамендуюць ксяндзам парахам неаднаразова чытаць сабранаму люду прысылаемыя з урадавых вярхоў універсалы і распараджэнні, паясняць іх для агульнага разумення, не ўдаючыся ні ў якія пабочныя і адвольныя тлумачэнні. Яны павінны пастаянна мець перад сабой выдадзены 20 мая універсал у якасці правіла для ўнушэння максім і праўды,

нахіляць да складкі і абывацельскіх ахвераванняў, а будучы па свайму прызванню на першым месцы у Айчыне, абавязаны быць першымі міласнікамі бога і Айчыны. Такі пункт сваёй інструкцыі для ксяндзоў парахаў і плябанаў належыць перапісаць і пакінуць для ведама ў плебаніі.

Затым ягамосці дэлягаты склічуць жыхароў яўрэйскага народа ў іх школы і там давядуць ім, што шаленства маскалёў перш за ўсё вымяшчалася на жыдах, што гэты народ першым трапіць пад луп, знішчэнне і ўціск тых жа непрыяцеляў, калі пры агульным паўстанні народа і агульным памкненні да абароны яны застануцца ў гнюснай бясчыннасці, калі не пастараюцца для той зямлі, якая іх корміць як жыхароў. Ім трэба ўнушыць, што яны абавязаны усім той Айчыне, пад апекай і правамі якой жывуць, што ўсё павінны прысвяціць ёй у ахвяру, заахвочваць да ахвяр і добраахвотных складак як гатовымі грашыма, так і рэчамі, амуніцыяй, здольнымі служыць вайсковым патрэбам, калі б такія пажадалі складаць. Ягамосці дэлегаты умацаваны правам прынімаць такія з паведамленнем, што для кожнага стараннага абывацеля ў Гродна адкрыта кніга добраахвотных ахвяр. Па такім вымаўленні сабраны жыдоўскі народ запросіцца дл выканання абывацельскай прысягі згодна з далучанай тут формай. Тыя ж ягамосці дэлегаты возьмуць з дэпутацыі бясмскі асобную інструкцыю адносна вызначэння шпікоў і вызначуць іх за парукай мясцовага кагала па тым пункце інструкцыі, да якой трэба стасавацца. Кагалу не менш таго загадаць выслухаць прысягі ад жывучых па прыватных мястэчках жыдоў за подпісам кожнага і прасачыць іх дзеянні.

Выканаўшы усё тое, яны пачнуць рэвізію склепаў і крам гандлючых у тых месцах жыхароў наступным чынам. Перадусім, іх запэўніць, што яны не могуць нічога браць без парадку і дарма, што задавальняючы раптоўныя краёвыя патрэбы, ім належыць перш за ўсё крэдытаваць войска амуніцыяй і адзежай, што выдадзеныя дэлегатам рэверсы і квіты будуць аплочаны або гатоўкай, або прыняты у кошт аплаты падаткаў. Па такім заручэнні, загадаць паказаць праўдзіва ўсякі наяўны у іх порах, сялітру, серу,

волава, сукно гранатавага, белага, зялёнага, чырвонага, чорнага, цёмназялёнага і living рознага колеру, палатно на падшыўку салдацкай кашулі, чорны маньчэсцер, бляхі з латуні і жалеза, прыдатныя для аковы шабель, брусавае жалеза, тканіну белую, светлую, кармазінавую, зялёную і чорную, вырабленыя і не выдзеленыя скуры. І ўсё гэта забраць на справу скарба адпаведна меры і вагі пры належнай рэгістрацыі кожнай рэчы, з уручэннем кожнаму уласніку рэверса за подпісам, з вызначэннем справядлівай цаны сукна ад 7 злотых і меней. Пасля таго яны абдумаюць транспарт пад рэчы да г. Гродна і згодна з рэверсальным рэестрам выдадуць квітанцыі ўласнікам на кожную ўзятую ў іх рэч. Калі хто з абывацеляў намерыцца схаваць тавары звыш загатоўленага і перад уручэннем іх урадавай уладзе, то пры паведамленні знойдзенае будзе забрана, а схаваўшы ўласнік не атрымае ад дэлегата рэверса і панясе асабістае пакаранне.

Нарэшце, калі ягамосці дэлегаты пры аб'ездзе сваіх выдзелаў атрымаюць скаргі з паведамленнем, што адзін з жыхароў на другога наводзіў краёвага ворага або паказваў ворагу схаваную амуніцыю, тады трэба разабраць значэнне і праўдзівасць такіх даносаў і хутка паведаміць у дэпутацыю бяспекі пра такія выпадкі, наглядаючы за абвінавачанымі з такой прадбачлівасцю, як гэта патрабуе клопат аб публічным дабры. Ягамосцям панам дэлегатам таксама даручаецца дабіцца ўсюды шпаркай перасылкі ўсякіх універсалаў і распараджэнняў камісіі, транспарта для могучых здарыцца кур'ераў і эстафет. Ягамосць паны дэлегаты знясуцца з пасэсарамі фальваркаў і мястэчак і для забеспячэння трактаў абавяжуць пасэсараў дастаўляць коней, паставяць там, дзе патрэбна, станцыі, учыняць камунікацыю рознай карэспандэнцыі і хуткую перасылку паведамленняў аб здарэннях у парадкавую камісію і, наадварот, загадаюць фальваркам і гарадам, каб яны не прапускалі нікога без пашпартоў, нягледзячы на стан і кандыцыі. Каб такі парадак не падвяргаўся нараканням за нерэгулярнасць і прыкрасць пілнуючых, то ягамосці паны дэлегаты зробяць абавязкам кожнага верху фальваркаў і мястэчак нагляд і ўвагу за

тым, каб на трактах стаяла растаропная стража і бараніла іх ад непрыстойных вымагальнікаў і п'яніц. Словам, згаданыя ягамосці дэлегаты пастараюцца выканаць усё тое, што патрабуецца ад іх для дабра края, дабрабыту суайчыннікаў, спакоя жыхароў і патрэб Айчыны. У канцы ягамосцям дэлегатам даручаецца давесці да поспеху асобна дадзеныя ім загады.

**Форма (рота) прысягі абываценя**. Я, №№, якога тут бог і народ бачаць прысутным, прысягаю ўсемагутнаму і адзінаму у святой троіцы пану богу у тым, што прыстаўшы да саюза нарадовага паўстання, згодна з актам, прынятым у Кракаве 24 сакавіка, прызнаю начальнікам народа Тадэвуша Касцюшку, буду верна і ва ўсім слухацца яго і ўмацаваных у гэтым краі ўладаў, клянуся жыць і памерці пад лозунгам вольнасць, цэласць і незалежнасць, адзінай сілай абароны прызнаю брацкую роўнасць, усё, што толькі было справай змоўніцкага Гродзенскага з'езда, знішчаю і адвяргаю, ад цяперашняга акта і яго пастаноў не адступлюся і буду бараніць яго да канца жыцця, у чым мне ды паможа пан бог і нявінная мука яго сына.

**Форма (рота) для жыдоў**. Мы, старазаконныя абывацелі, №№, кагальныя старшыны і ўсе гмінныя без выключэння, сваімі імёнамі прысягаем пану богу, таму, хто стварыў неба і зямлю, прызваўшы у сведкі чыстых думак і нашых сардэц таго ж бога, прысутнага зараз тут у сваёй святліцы, што ўсе мы, старазаконныя абывацелі, будзем вернымі і прыхільнымі цяперашняму паўстанню народа пад начальствам Тадэвуша Касцюшкі, што ўсімі нашымі сіламі будзем дапамагаць паўстаўшаму польскаму народу, у якога знаходзім сабе Айчыну, што не толькі ніколі не будзем гаварыць супраць, але выдадзім і данясём уладам на кожнага сярод нас здрадніцкі думаючага, што пакліканыя да якой-небудзь паслугі, станем адпраўляць яе верна, пачціва, як належыць дабрадзейным выконваць загад пана бога, што будзем верна і шчыра слухацца атрыманых ад парадкавай камісіі Гродзенскага павета і Нарадовай рады распараджэнняў або арданансаў Касцюшкі і яго каманд, а таксама жадаем наглядаць за вернасцю Рэчы Паспалітай

жывучых па прыватных дамах і вярхоўым уладам належачых, на чым справядліва прысягаем і ў чым няхай нам пан бог дапаможа. А хто гэту прысягу нарушыць, таго няхай пан бог заб'е, а скаргі пакарае па правах, якія апісаны і даведзены у нашым старым запавеце.

Гэтую інструкцыю парадкавая камісія загадвае сваёй канцыляры і раздрукаваць і раздаць ягамосцям дэлегатам. Даны у Гродна 24 мая 1794 г.

*Францішак Боуфал, камісар, старшыня*
*Шыман Завістоўскі, камісар*
*Іосіф Бабінскі, камісар Гродзенскага павета*
*Барталамей Палонскі, камісар дэпутацыі забеспячэння*
*Мацей Эйсмонт, парадкавы камісар Гродзенскага павета*
*Матэвуш Былеўскі, парадкавы камісар Гродзенскага павета*
*Ян Канопка, камісар*
*Мікалай Мілкевіч, камісар*
*Іосіф Зялінскі, камісар*
*Францішак Ваўкавіцкі, камісар*
*Адам Глінецкі, камісар*
*Адам Эйсмонт, камісар Гродзенскага павета*
*Пётр Пастольскі, камісар*
*Іосіф Круповіч, камісар*
*Станіслаў Залескі, камісар*
*Пётр Сабалеўскі, камісар*
*Мартын Халявінскі, камісар*

Згодна з пратаколам, *Пётр Манюшка, рэгент парадкавай камісіі Гродзенскга павета*

*БПАНК, с. 35273, л. 120-121 адв. Друк, за пячаткай.*

***№ 57. 24 мая. Абвяшчэнне Мерацкай камісіі пра забарону вывазу прадуктаў за мяжу***

Цывільна-вайсковая і парадкавая камісія Мерацкага павета

Маючы прысланы дэпутацыяй забеспячэння Найвышэйшай рады універсал пад датай 12 мая, які тычыцца важных абставін народнага дабра, а менавіта, што тая Найвышэйшая рада даведалася з рапартоў пра мноства незычлівых і выродных сыноў Айчыны, якія пры цяперашніх раптоўных патрэбах Айчыны замест адданасці ёй выдумляюць розныя спосабы, каб пазбавіць край коней, броні, пораха і волава. Камісія атрымала гэту навіну з перажываннем аб тым, што абывацелі гэтак не чулыя, паколькі бачыць, што падобныя непрыстойнасці раней рабіліся чужынцамі і быццам бы такая крыўда столькі разоў раўнадушна абыходзіла народ. Таму цывільна-вайсковая і парадкавая камісія Мерацкага павета забараняе ўсім абывацелям match рознага стану і кандыцыі не толькі прадаваць коней за мяжу пад якой-небудзь зачэпкай, але і вывозіць за мяжу бронь, порах, волава. Кожны абывацель павінен асцерагацца гэтага, а ў выпадку парушэння цяперашняга пастанаўлення ягамосці парафіянальныя ротмістры могуць прыслаць затрыманых асоб у цывільна-вайсковую і парадкавую камісію, якая вызначыць кару адпаведна з правіннасцю. Хто з ягамосцяў абывацеляў мае коней звыш уласнай патрэбы на продаж, то тады яны павінны паведаміць пра іх колькасць і цану у парадкавую камісію, якая на моцы універсала дэпутацыі забеспячэння ад 12-га дня бягучага месяца або заплаціць гатовымі грашыма, або залічыць іх у кошт падатку. На моцы таго ж універсала цывільна-вайсковая і парадкавая камісія Мерацкага павета загадвае ўсім абывацелям, хто толькі трымае статкі, а менавіта ў маёнтках небяспечных для лёгкага нападу ворага, тэрмінова паведаміць у цывільна-вайсковую камісію Мерацкага павета аб колькасці коней у статках, здольных для кавалерыйскай службы або для вупражу, а таксама ў поўнай згодзе з пасэсарамі дамовіцца і вызначыць бяспечныя месцы для перагону туды статка. Гэтая ж цывільна-вайсковая камісія Мерацкага павета загадвае абываце-

лям паправіць дарогі і па ўсіх трактах масты, грэблі, перавозы з хуткім аснашчэннем іх розным абсталяваннем. Гэта патрабуць абставіны краёвага інтарэсу. Няхай абывацелі дарэмна не ўхіляюцца ад такіх універсалаў, а лепш скарэй спяшаюцца іх выконваць, інакш будуць адказваць за ляноту і перад цывільна-вайсковай камісіяй і перад Найвышэйшай нарадовай літоўскай радай па даносу абывацеля.

Не без здзіўлення і жалю камісія атрымлівае паведамленні, а асабліва ад розных памежных камісій Мерацкага павета, пра тое, што ў Мерацкі павет цягнуцца і знаходзяць прытулак людзі без пашпартоў. Здаецца, што Мерацкі павет будзе празваны пячорай паскуднікаў і прытулкам уцекачоў, калі гэтаму не дапамагаюць універсалы камісіі. Няхай жа кожны абывацель пранікнецца гэтым апошнім папярэджваннем, няхай памятае аб тым, што кожнаму дазваляецца даносіць і што калі фальваркі і сяляне будуць прынімаць людзей без пашпартоў, не ставіць іх у камісію, то для іх прыгатавана прадпісаная правам кара, а можа і яшчэ суровей будзе. Каб гэты універсал стаў вядомы кожнаму, ксяндзы плябаны абавязаны абвяшчаць яго кожны тыдзень і па святах на працягу 4 тыдняў. Рабілася ў Мерачы 24 мая 1794 г.

*Людвік Жылінскі, земскі суддзя і камісар цывільна-вайсковай і парадкавай камісіі Мерацкага павета*

*Людвік Карловіч, камісар цывільна-вайсковай і парадкавай камісіі Мерацкага павета*

*Ксёндз Ян Вішнеўскі, камісар дэпутацыі забеспячэння парадкавай камісіі*

*Вінцэнт Эльнер*

*Мацей Снарскі*

Антон Эльнер, *рэгент земскі і парадкавай камісіі*

*БПАНК, с. 35274, л. 122-122 адв. Друк, за пячаткай.*

### *№ 58. 24 мая. Зварот Мерацкай камісіі да сялян*

Цывільна-вайсковая і парадкавая камісія Мерацкага павета не без унутранай трывогі атрымлівае ад розных пасэсараў паведамленні пра цяжкасці ў паборы рэкрута з-за непаслушэнства

падданых. Яна не знаходзіць гэтаму іншых прычын, як толькі ўзбуджэнне ў людзях нежадання рабіць гэта пры тлумачэнні ўніверсалаў замест таго, каб выконваць гэта па ўласнай міласці публічнага дабра. Да нас дайшла рэзалюцыя дэпутацыі бяспекі Найвышэйшай рады з патрабаваннем звярнуцца да ксяндзоў плябанаў. Ускладаем на вас усю нашу надзею, парафіянальныя пастыры, – ужывіце толькі лагодныя словы, звярніцеся да люду, няхай ён спяшыць на абарону края, на абарону вольнасці і цэласці Рэчы Паспалітай. Паведаміце яму аб тых універсалах пры наведванні вёсак. Данясіце да іх, што той двор, з якога ідзе рэкрут і які абавязаны паншчынай, Рэч Паспалітая вызваляе ад дня паншчыны, а чыншаваму адлічвае па прапорцыі чынша, што народ рыхтуе ім вольнасць пад правам. Або вы будзеце чакаць пакуль выгнаны з края з ганьбай вораг вернецца да вас і пачне гэты край пустошыць агнём і мечам? Што тады застанецца вашым? Будзьце ўпэўнены, што не здолееце схаваць ад яго ні маёнтка, ні жыцця. Няма ніякага цяжару у тым, каб ісці на абарону края, бо ідзеце бараніць жыццё і свае маёнткі. Такім шляхам вы умацуеце слабыя намеры, адразу знойдзеце іх спагадлівымі, народ стане высока ўзброеным і наступіць яго будучае шчасце.

Брацця земляробы! Спяшайцеся на абарону вашага края, вашай зямлі, якую вы апрацоўвалі з крывавым потам на чале. Усюды з працы вашых рук жывуць міліёны люду, гэта вы забяспечваеце жыхароў польскай зямлі хлебам і розным харчам! Чаму ж тады вы гэтак нечулыя на яе заклік, на яе уціск? Паглядзіце; як запалены слушным гневам увесь народ скінуў ярмо няволі, вызваліў край сваёй Айчыны ад тыранаў. Для завяршэння гэтай вялікай справы бракуе толькі вашай дапамогі. Трэба растлумачыць ім розніцу паміж лінейным рэкрутам і тым, якога загадана даставіць у сталіцы ваяводстваў і паветаў. Скажыце, што той, хто ахвярує сваё жыццё на абарону Айчыны, рыхтуе сабе розную ўзнагароду у бога і люда, што тыя, каго прызначылі на абарону свайго павета і хто адбыў кароткую паслугу у сталіцы, большасць часу заняты дома, рыхтуюцца і будуць ужыты толькі пры раптоўнай патрэбе

для абароны сваіх дамоў, родзічаў і сваіх маёнткаў. Няма ніякага цяжару ісці на абарону края. Трэба толькі ўзброіцца чуласцю, абавязкам, мужнасцю і адвагай. Слухайце вярхоўныя ўлады. Да вас звяртаецца народ і штоб ні прыдумалі фальваркі, яны павінны выконваць волю народа. Не слухайце бурыцеляў, якія вядуць вас да непакоя і непаслухмянасці. Слухайце духоўных, якія будуць адкрыта звяртацца да вас. Спяшайцеся хутчэй, не чакайце слушнага напамінання народам вашых абавязкаў.

Каб гэты універсал дабраўся да ведама кожнага, цывільна-вайсковая камісія Мерацкага павета загадвае ксяндзам пляба-нам абвяшчаць яго з амвонаў кожнае свята, акрамя таго ездзіць па дамах у вёсках і чытаць гэтую адозву сабранаму люду, а аб выкананні абавязку узяць у дзесятнікаў, войтаў і упраўляючых сведчанні і прысласць іх у камісію. Рабілася ў Мерачы на сесіі 24 мая 1794 г.

*Людвік Жылінскі, земскі судзя і камісар цывільна-вайсковай камісіі Мерацкага павета, старшыня*

*Людвік Карловіч, камісар цывільна-вайсковай камісіі Мерацкага павета*

*Вінцэнт Эльнер, камісар цывільна-вайсковай камісіі Мерацкага павета*

*Ксёндз Ян Вішнеўскі, камісар цывільна-вайск. кам. Мерацкага павета*

*Антон Эльснер, рэгент земскі і цывільна-вайсковай камісіі Мер. павета*

*БПАНК, с. 35275, л. 13-123 адв. Друк, за пячаткай.*

### *№ 59. 24 мая. Пастанова Гродзенскай камісіі аб канфіскацыі срэбра ў духавенства павета*

У поўнай адпаведнасці з Кракаўскім актам нарадовага паўстання і мінулымі распараджэннямі начальніка краёвай збройнай сілы Тадэвуша Касцюшкі, моцна імкнучыся забяспечыць іх поспех, парадкавая камісія Гродзенскага павета загадвае ягамосцям (камісарам), дэлегаваным у розныя парафіянальныя і кляштарныя касцёлы наступнае. Па прыбыцці ў назначаныя ім месцы, у пер-

шую чаргу запрасіць міласцю Айчыны да адзінадумства духоўны стан, як першы яе стоўп. Затым дабіцца рэестраў візітацый, падпісаных розным начальствам, падараванняў кожнаму месцу і сакрыстый для належнага пераканання аб колькасці срэбра у касцёлах і кляштарах. Затым пасля рэгістрацыі таго срэбра ў рознай яго наяўнасці прыступіць да атрымання прысягі аб справядлівым прад'яўленні і няўтоенасці яго, аб чым выслухаць ксяндзоў парахаў, плябанаў, законнікаў і законніц па наступнай форме: "Я, або мы, №№, прысягаю ўсявышняму і адзінаму у святой троіцы пану богу у тым, што ўсё срэбра, якое толькі належыць і маецца ў касцёле, кляштары №№, абавязуемся паказаць верна і праўдзіва прыбыўшым на рэгістрацыю дэлегатам і нічога не выключым і не схаваем, на сапраўднасці чаго прысягаем і ды паможа нам пан бог." Па выкананні прысягі ягамосці дэлегаты зарэгістрыруюць, як і прадпісана, касцельнае срэбра ў прысутнасці парафіянальных або кляштарных начальнікаў. Адзін рэестр застанецца за подпісам на месцы, а другі пасылаецца ў камісію за подпісам сваім і духоўных вярхоў кожнага месца. Парадкавая камісія засцерагае, што ў выпадку утайкі таго срэбра або няправільнай падачы рэестра, наступіць не толькі канфіскацыя, але і асабістае суровае пакаранне як ворагаў Айчыны. Рабілася ў Гродна на сесіі 24 мая 1794 г.

*Францішак Боуфал, парадкавы камісар*

*Іпаліт Ваўкавіцкі, земскі суддзя і парадкавы камісар Гродзенскага павета*

*Шыман Завістоўскі, камісар*

*Іосіф Маткевіч, камісар*

*Станіслаў Залескі, камісар*

*Ігнацій Скарбек, камісар*

*Мікалай Мілкевіч, камісар*

*Пётр Пастольскі, камісар*

*Станіслаў Кулікоўскі, камісар*

*Барталамей Палонскі, камісар*

*Андрэй Мальчэўскі*

*Іосіф Зялінскі*

*Іосіф Ліпніцкі*

*Антон Ігнатовіч*
*Іосіф Круповіч*
*Матэвуш Былеўскі, камісар*
*Ян Бульчынскі*
*Ян Сакалоўскі*
*Станіслаў Ключэўскі*

*БПАНК, с. 35362, л. 317. Рукапіс.*

### № 60. 25 мая. Забарона Гродзенскай камісіяй несанкцыянаваных прамоў да народа

Парадкавая камісія Гродзенскага павета, сабраная на пленум, папярэджваючы усякія наступствы, які нечакана могуць узнікаць з вольных прамоў да люда і ўнушэння адсюль праціўных ураду максім, пастанавіла, што з гэтага часу ніхто не будзе гаварыць перад людам акрамя толькі павятовага і муніцыпальнага парадкавага камісара, які будзе абаронены агульным даверам і адрознены знакам пунсовай хусткі, завязанай на левым рамні. Той, хто адважыцца насуперак гэтаму папярэджванню прысвойваць такі знак, гаварыць сабранаму люду і апавядаць яму шкодныя для ўрада максімымы, той зараз жа будзе арыштаваны і асуджаны як крымінальны віноўнік парушанай бяспекі. Даны у Гродна 25 мая 1794 г.

*Францішак Боўфал, камісар, старшыня*
*Іпаліт Ваўкавіцкі, земскі суддзя і парадкавы камісар Гродзенскага павета*
*Францішак Гансеўскі, камісар*
*Казімір Абрамовіч, камісар*
*Тэадор Віслоцкі, супрасльскі абат*
*Ян Сакалоўскі, камісар*
*Пётр Паслоўскі, камісар*
*Іяхім Храптовіч, камісар*
*Іосіф Круповіч, камісар*
*Ян Канопка, камісар*
*Станіслаў Ключэўскі, камісар*

*Станіслаў Кулікоўскі, камісар*
*Іосіф Каменскі, камісар*
Пётр Манюшка, *рэгент парадкавай камсіі Гродзенскага павета*

*БПАНК, с. 35277, л. 131. Друк, за пячаткай.*

### *№ 61. 26 мая. Увядзенне Гродзенскай камісіяй мер адказнасці за недазволеныя прамовы*

Цывільна-вайсковая і парадкавая камісія Гродзенскага павета, чуйная да ўсяго, што толькі можа дзейна падтрымаць, угрунтаваць і прывесці да абдуманага поспеху сучаснае хвалебнае паўстанне нашага народа, што ў гэтым выратавальным намеры трэба на роўных шалях класці ўзбраенне супраць агульнага знешняга непрыяцеля з утрыманнем унутранага спакоя ў краі, выконваючы як мага дакладней выдадзеныя для дабра і шчасця Айчыны Найвышэйшым начальнікам паўстаўшага народа Тадэвушам Касцюшкам розныя наказы, загадвае дэпутацыі бяспекі сваёй камісіі неадкладна знесціся з урадам тутэйшай гродзенскай муніцыпальнасці і паставіць інтэнданта паліцыі са стражнікамі, якія б строга сачылі за тым, каб ніхто не ўзрушаў і не распальваў люд лёгкадумнымі і запальчывымі прамовамі, не падбухторваў яго да якіх-небудзь акцый, парушаючых публічны пакой, не ухіляўся ад належнага шанаваня і падпарадкавання магістратурам, не аслабляў і не псаваў даверу да іх люда, не асыпаў нікога няслушнымі клявузамі, якія б атруцілі гэтак патрэбныя зараз згоду, адзінадумства, брацкую любоў і добрую гармонію паміж абывацелямі. Затым парадкавая камісія асцерагае і патрабуе выяўляць ва ўсіх згаданых выпадках правіннасці і неадкладна даносіць аб іх праз афіцыялістаў паліцыі ў дэпутацыю бяспекі як пра шкоды унутранага ворага, парушаючыя публічны пакой і спрыяючыя яму хітра нас паканаць, там дасканала расследаваць і, пры перакананні ў слушнасці довадаў, якія высвятляюць сапраўдную іх віну, адасланць для пакарання ў крымінальны суд. Гэта патрабаванне загадваецца абвясціць пры бубнах на рынку і ў касцёлах. Даны у Гродна на сесіі 26 мая 1794 г.

*Францішак Боуфал, камісар, старшыня*
*Ігнацій Шаняўскі, камісар Гродзенскага павета*
*Тэадор Віслоцкі, супрасльскі абат*
*Тадэвуш Сухадолец, камісар*
*Іосіф Зялінскі, камісар*
*Станіслаў Кулікоўскі, камісар*
*Казімір Абрамовіч, камісар*

Пётр Манюшка, *рэгент парадкавай камісіі Гродзенскага павета*

*БПАНК, с. 35280, л. 134. Друк, за пячаткай. (Варыянт апублікаваны: Я. Анішчанка. Імем Айчыны. Мн., 2004, с. 55-56).*

## № 62. 27 мая. Удакладненні Гродзенскай камісіі адносна экспарту

№ 4. Парадкавая камісія Гродзенскага павета атрымала з дэпутацыі публічнага забеспячэння ўніверсал да абывацеляў ВКЛ аб забароне вывазу за мяжу зерня, сена, правіянта і г. д., які загадвае абвясціць для агульнага ведама ў наступных словах. "Паўстанне народа з-пад дзікай няволі непрыяцеля настолькі здзівіла ўсю грамадскасць веліччу адвагі і мужнасці літоўскага рыцарства, што ўскладвае на дэпутацыю публічнага забеспячэння пільную адказнасць старанна прыкласці хуткія намаганні для забеспячэння харчам тых ваюючых войск і патрэб абывацельства, якое знаходзіцца ў стане абароны. Сэрцы усіх, пэўна, памкнуцца з міласці да Айчыны і свабод да ахвераванняў з кожнага маёнтка на паратунак мужна паўстаўшага народа, а кожная чулая і замілаваная душа скаланецца ад успаміну пра сквапнасць крывавага ворага пад кіраўніцтвам лютых здраднікаў і прымусіць усіх падзяліцца нават апошнім кавалкам хлеба з зямлі з тымі, хто ахвяраваў сваё жыццё і кроў на пакаранне ворагаў і здраднікаў, на абарону ад лютай разні, пажогаў і вынішчэння нявінных жыхароў края. Абудзіць да таго ўсіх дэпутацыя публічнага забеспячэння не знаходзіць іншых сродкаў, як толькі злучыць сваю дбайнасць з запалам і стараннасцю дабрадзейных абывацеляў, са зголай і дабрадзейнасцю грамадскасці. У гэтай мэце дэпутацыя забеспячэння па

абавязку свайго прызначэння паведамляе, абавязвае і пастанаўляе для ўсіх наступнае.

Па-першае, па атрыманні гэтага распараджэння пад суровай карай і адказнасцю па даносу кожнага стараннага абываценя ў бліжэйшым судзе забараняецца вывозіць за мяжу ўсякае збожжа, сена, правіянт, мяса, тлуст, скуры і жыўнасць рознага гатунку. Гарантуецца, што ўсё будзе ужыта для войска і абывацельскіх патрэб і аплочана па звычайнай цане. Інтэндантам, стражнікам і дазорцам сухапутных і сплаўных камор загадваецца канфіскоўваць такі выказ.

Па-другое, каб дабіцца ад усіх прывозу і продажу у месцы дыслакацыі і абаротаў войска, заахвочваем дамоўленасцю гандлёвых цэн і абяцаем усякі спакой. Для спрыяння такому завозу зараз жа знішчаюцца і забараняюцца да пэўнага часу розныя грабяжы у гарадах, гандлёвых мястэчках, гасцініцах, на трактах і дарогах пад назвай мастовага, гандлёвага, брамнага, грэбельнага, станавага і г. д. пад суровейшай і безумоўнай адказнасцю перад мясцовымі парадкавымі камісіямі або бліжэйшымі судамі.

Па-трэцяе, каб прадухіліць поўнасцю выказ харчовых прадуктаў пад зачэпкай даўно заключаных кантрактаў на збожжа, крупы, тлуст, скаціну, авёс, сена, розны правіянт і таго, што гэта быццам бы іх справа, дэпутацыя забеспячэння моцай Найвышэйшай нарадовай рады, якой яна створана і ўтрымліваецца, скасоўвае і забараняе да пары такія кантракты, пакуль не будуць цалкам забяспечаны пакой і вольнасць. На моцы другога ўніверсала дэпутацыі публічнага забеспячэння Нарадовай літоўскай рады, парадкавая камісія Гродзенскага павета абавязвае абываценяў гэтага ж павета загадаць земляробам і гаспадарам зрабіць, колькі яны могуць, лапцей, прычым не менш як па некалькі соцен, асабліва тымі, хто асеў у пушчы, і даставіць іх у хуткім часе ў магазіны Гродзенскага павета на патрэбы вайсковага люда. Каб гэты універсал стаў хутка вядомы усім, дэпутацыя забеспячэння наказвае разаслаць яго праз курсоры ў парафіі і апублікаваць з амвонаў ксяндзамі плябанамі. Даны у Гродна на сесіі ў Новым замку 27 мая 1794 г.

*Ігнацій Скарбек, старшыня*
*Ігнацій Лахніцкі, камісар*
*Ян Камінскі, камісар*
*Шыман Завістоўскі, камісар*
*Мацей Корн, абат і гродзенскі камісар*
*Андрэй Мальчэўскі, камісар*
Фелікс Імбра, *сакратар дэпутацыі забеспячэння*

*БПАНК, с. 35282, л. 136-137. Друк, за пячаткай.*

**№ 63. 29 мая. Загад Гродзенскай камісіі адносна ўнясення публічных падаткаў**

№ 2. Скарбовая дэпутацыя парадкавай камісіі Гродзенскага павета

Абываце лі! Заклікаем усіх вас без розніцы да агульнага ратунку Айчыны, хто толькі ёсць жыхар Гродзенскага павета, каму мілыя вольнасць і бяспека ўласнасці. Клічам вас з усёй чуласцю – прыміце да сардэц голас сабратоў вашых, выратуемся ўсе разам, бо ўсе мы абавязкова згінем, калі толькі з-за нейкага змярцвення або спазнення па атрыманні гэтай адозвы вы не збярэцеся на агульнае злучэнне і складанне на гэта вашых маёнткаў.

Абывацелі! Вы самі добра ведаеце пра шчуплыя даходы публічнага скарба і што ўсё, што толькі ў ім заставалася, было разрабавана па пастановах Таргавіцкай змовы. Пакуль Найвышэйшая рада пастараецца адшукаць запасы, тым часам нарадавое войска застанецца без платы і няўхільна вымагае патрэбы. Каб у такім гвалтоўным стане забяспечыць скарб Рэчы Паспалітай грашыма, заклінаем вас, абывацеляў, пасэсараў свецкіх і духоўных вотчын, міласцю ўласнага жыцця і Айчыны уплаціць з фальваркаў без прыцягвання сялянскіх двароў поўнагадавы падатак 10-га і 20-га гроша, пачаўшы з 1 чэрвеня і да 20-га дня таго ж месяца, пад экзекуцыяй парадкавай камісіі Гродзенскага павета ў адпаведнасці з Канстытуцыяй 3 мая. Пры гэтым пасэсары староstваў і рознага тытула каралеўшчын, эмфіутэўстваў і экспектатываў, якія трымаюць каралеўшчыны, абавязаны унесці ў азначаны час паўгадавую плату без прыцягвання сялян да той аплаты, жыдоўскія кагалы

пагалоўнае за паўгода, так жа, як яны плацілі па праву сейма 1791 г., і ў той жа тэрмін, каралеўскія ж гарады другога і трэцяга класа абавязаны у той жа час без прамаруджвання і ў тую ж парадкавую камісію аплаціць палову падымнага ў два тэрміны (студзені і чэрвені), а увогуле ўсе вышэй згаданыя абывацелі міласцю Айчыны абавязваюцца заплаціць памянутыя падаткі адпаведна з тарыфам канстытуцыйнага Варшаўскага сейма 3 мая 1791 года, які стварае права.

Маючы з дэпутацыі скарбу загад аб выкананні сакавіцкага наказу, скарбовая дэпутацыя паведамляе ўсім абывацелям свайго павета, што калі хто ў той тэрмін і ў звычайны час не аддасць усякага належнага падатку, тады такі будзе дастаўлены у касу цывільна-вайсковай камісіі Гродзенскага павета для суровай экзекуцыі як супраціўленца. Каб гэты універсал дайшоў да ведама кожнага абывацеля хутка, загадваецца яго абнародваць у парафіях з амвонаў і ўсюды пад асабістай адказнасцю. Даны 29 мая 1794 г.

*Ігнацій Лахніцкі, камісар, старшыня*
*Ксёндз Тэадор Вісланкі, супрасльскі абат і камісар*
*Ян Бульчынскі, камісар*
*Іосіф Зялінскі, камісар*
*Пётр Пуслоўскі, камісар*
*Антон Занеўскі, камісар*
*Станіслаў Ключэўскі, камісар*

Згодна з арыгіналам, *Вінцэнт Садлуцкі, сакратар скарбовай дэпутацыі парадкавай камісіі Гродзенскага павета*

*БПАНК, с. 35283, л. 138. Друк, за пячаткай.*

## № 64. 29 мая. Універсал Віленскай рады аб арганізацыі абароны г. Вільна

Тымчасовая намесніцкая рада ВКЛ пад начальствам Тадэвуша Касцюшкі

Старанннасць ваша, абывацелі горада Вільна, да абароны края і сталічнага месца правінцыі вядома. Маючы перад сваімі вачамі вашыя справы, Рада па справядлівасці абавязана выказаць

вам перад народам пахвалу за тое, што не шкадуеце ўсяго, што здольна мацаваць сілу края і яго абарону. Аднак, каб яшчэ лепш забяспечыць сябе, гэтае месца і склад цэлай правінцыі і спраўна бараніцца пры няшчасным выпадку, Рада пастанавіла падаць спосабы і прадпісаць правілы прыстойнага ўзбраення, якія наказвае прывесці ў выкананне самым хуткім часам.

У Вільна павінен быць дваякі сорт узброеных абывацеляў: адзін навогул з усіх аселых і прыбыўшых, здольных да бою, а другі спецыяльны для сталай паслугі, выбраны з кожнай пятай асобы людзей, якія пастаянна пражываюць і маюць пасэсіі ў горадзе. З гэтай мэтай Рада распарадзілася адразу перапісаць і падлічыць людей, годных да бою (не выключаючы нават жыдоў, заможнасці, пасэсій ва ўсіх трох цыркулях горада Вільна, ніякіх юрысдык і пасэсій ні ў самім горадзе, ні на яго прадмесці). Для такой люстрацыі адразу па абвяшчэнні гэтага ўніверсала ўрады цыркуляў выберуць 4 годныя асобы, якім парадкавая камісія Віленскага ваяводства прыдасць са свайго кола па аднаму камісару, а ўжо ўсе яны, як выбранцы цыркуляў, так і назначаныя камісіяй, выканаюць перад парадкавай камісіяй прысягу па наступнай форме: "Я буду верна і справядліва прытрымлівацца распараджэння Рады аб перапісу людзей, здольных да бою, іх заможнасці і пасэсіі, не прапушчу ніякага абывацеля і жыхара пры гэтай люстрацыі і сумленна запішу, якую хто мае зброю". Пасля выканання прысягі, яны без усякага прамаруджвання пачнуць сваю справу і будуць яе пільна працягваць, за чым будзе старанна назіраць дэпутацыя публічнай бяспекі, каб атрымаць поспех і пазбегнуць валакіты у гэтак патрэбнай справе.

Такая люстрацыя павінна адбывацца наступным парадкам. У кожным цыркуле, пачаўшы з першага № свайго цыркуля, люстратары перапішуць у кожным доме пастаянных жыхароў, здольнасць пасэсіі, і кожнага мужчыну ад 18 да 50 гадоў, здольнага да абароны. Ім даручаеца запісаць з той жа люднасці 5-ю асобу не маладзей 18 і не старэй 45 гадоў па імені і прозвішчу у службу гвардыі горада Вільна, а таксама ў якім доме і ў якога абывацеля

маецца зброя, будзь то цэлая, будзь то сапсаваная. Выбраныя такім чынам абываценi і пасэсары з кожнай 5-й асобы люднасці, павінны быць здольнымі да бою, рашучымі, добрага звычаю і са зброяй, якую маюць. Гаспадары і ўласнікі дамоў павінны прадставіць ім адзежу, а менавіта 2 кашулі, 2 сподні, 2 плеценыя курткі, капялюш, пару ботаў і торбу з раменным і пяньковым пасамі, а на зіму – куртку і шаравары з самаробнага валакна. Усе яны будуць складаць гвардыю горада Вільна. Гаспадар дома, з якога выйшаў такі чалавек, павінен даць яму харч або плату у такім жа памеры, якую атрымлівае са скарбу гэты гвардзеец, г. зн. 8 грошай на дзень. Усе выбраныя да такой службы людзі будуць запісаны імёнамі і прозвішчамі ў роту службы гвардыі г. Вільна і не могуць быць зменены аж да сканчэння кантракта з гаспадаром, даўшым яго. Такі кантракт належыць памясціць у канцылярыі гвардыі.

Агульны камплект гэтай гвардыі горада павінен дасягаць 2000 людзей. У выпадку, калі б з горада не хапала да гэтых 2000 чалавек 5-й асобы, тады Рада загадвае люстратарам узяць і ўкамплектаваць нехапаючую колькасць з заможных пасэсій. 10 чал., запісаных у гвардыю, выберуць сабе дзесятніка, 100 –сотніка, а над 500 людзьмі генерал камандуючы паставіць ваенную асобу рангам не ніжэй маёра. Над 1000 люд выберыць намесніка каменданта, а над 2000 – генеральнага каменданта, які ўжо будзе камандаваць як усім корпусам, так і намеснікам каменданта. Сам жа ён са сваім корпусам павінен падпарадкоўвацца арданансам генеральгага каменданта горада Вільна. Субардынацыя ўсёй гэтай гвардыі горада Вільна ажыццяўляецца па вайсковых артыкулах. Парушэнні гэтай вайсковай субардынацыі на час цяперашняй вайны будуць судзіцца па вайсковых артыкулах. Уся вайсковая служба цалкам выконваецца па вайсковых артыкулах. Калі гвардзеец знаходзіцца на сваёй павіннасці, то яго нельга адрываць на якія-небудзь іншыя паслугі. Паколькі гарадская гвардыя будзе выконваць у горадзе Вільна службу замест лінейнага войска, што падпадае пад плату публічных падаткаў з фундуша войскаў Рэчы

Паспалітай, то гвардзейцы, дзесятнікі, сотнікі і каменданты будуць утрымліванца са скарбу Рэчы Паспалітай, г. зн. Рада назначае дзённую порцыю аднаму гвардзейцу у 8 грошай, дзесятніку – 5 порцый, сотніку – 10 порцый, афіцыялам, маёрам і камендантам – 15, а генеральнаму каменданту – 20 порцый. Па завяршэнні вышэй апісанай люстрацыі і вызначэння людзей у адпаведнасці з паказанымі пасэсіямі, Рада загадае пасэсарам выставіць гэтых узброеных людзей згодна з перапісам нумароў двароў. Да тых пасэсараў, якія яшчэ не паказалі людзей, Рада загадвае прэзідэнту горада зараз жа паслаць люстратараў і патрабаваць неадкладна выставіць у службу гвардыі баяздольнага чалавека з 5-й асобы.

Акрамя гэтага стварэння гвардыі для агульнай ваенай службы горада, Рада асобна пастанаўляе наступны парадак узбраення ўсіх людзей. Вышэй памянутыя люстратары пры люстрацыі людзей у кожным цыркуле запішуць усіх пражываючых абывацелей, кожную асобу ад 15 да 50 год , у тым ліку каморнікаў і ўсіх жыдоў, за выключэннем вышэйзгаданага гвардзейца і стральцоў на сапраўднай ваеннай службе. Хто схавае зброю, якую мае, той будзе сурова пакараны. Пасля падліку 100 асоб перад тым домам, дзе завершыцца гэта колькасць, будзе зараз жа закапаны слуп з табліцай – № 1– з запісам на ёй, колькі дамоў належаць да гэтагага нумара. Гэтыя 100 асоб выберуць 5-ю асобу або сотніка, да каманды якога будуць належаць. Ён будзе называцца сотнік першы у цыркуле №. Сотнік жа выбірае з пастаянна прысутных у Вільна дзесятнікаў. Такі парадак трэба захоўваць ва ўсім цыркуле. Калі 10 слупоў пакажуць 1000 асоб, зарываецца асобны слуп, які азначае адначасова і гауптвахту. Сотнікі і дзесятнікі выбіраюць каменданта, якога прадстаўляюць на апрабацыю прэзідэнта г. Вільна і магістрата. Прэзідэнт жа і магістрат звяртаюцца да галоўнакамандуючага для атрымання ў дапамогу яму намесніка з вайскоўцаў. Калі акажацца, што ў цыркуле будзе выбраны адзін сотнік на 100 галоў ці адзін камендант на 1000, тады, налічыўшы 30 рот або 3000 людзей, над 3 каменданатамі ўстановяць генеральную гауптвахту і выберуць генеральнага каменданта, камандуючага

тымі 3000 людзей. Яму таксама прыдаецца ваенны камендант, якога зацвярджае прэзідэнт з магістратам. Такім шляхам кожны цыркуль атрымае мілітарыстычную арганізацыю. Калі цыркуль нельга ўкамплектаваць да 30 рот ці 3000 галоў, тады ён далучаецца да бліжэйшага цыркуля для сфарміравання гауптвахты і каб набраць нехапаючую колькасць да 30 рот.

У выпадку трывогі ўсе запісаныя ў лік узброеных павінны як мага хутчэй выбегчы з дому і сабрацца з якой толькі ёсць зброяй каля слупоў, дзе яны запісаны сярод 100 галоў. У гэты час каменданты генеральнай гауптвахты паклічуць да сябе камендантаў над 2000 людзьмі, збяруць з кожнай роты палову людзей і адправяць іх у марш разам з ваеннымі камандамі па загаду генеральнага каменданта гарнізона з прэзідэнтам. Пасля гэтага генеральны камендант зноў адбярэ на сваю гауптвахту 25 людзей і загадае ім слухацца прыказаў ужо каменданта гарнізона. Рэшткі ж 25 галоў у кожнай роце застануцца на месцы для аховы бяспекі ў цыркулях і выканання загадаў паліцыі. Генеральны камендант кіруе 30 ротамі з тым, каб ніхто не парушаў публічнага сакою. Ваенныя каменданты з прыданай сілай цыркуляў ідуць туды, куды ім прыкажуць і будуць загадваць камендант гарнізона з прэзідэнтам горада. Рэшткі рот узброеных абывацеляў могуць ужываць дапамогу суседзяў для ўтрымання бяспекі ў сваіх акругах. Такі парадак захоўваецца да наступлення агульнага спакою, пасля чаго яны вяртаюцца на свае месцы. У выпадку патрэбы або трывогі, генеральныя каменданты абавязаны звяртацца за арданансам каменданта гарнізона і яго прэзідэнта. Камендантам і сотнікам загадваецца няўхільна выконваць волю Найвышэйшага начальніка, які патрабуе мець у першай лініі пяхоты агнёвую зброю, у другой – косы, а ў трэцяй — пікі. Порах і волава павінны выдавацца для кожнага цыркуля перад трывогай прэзідэнтам горада прапарцыянальна агністай зброі.

Для таго, каб прывучыць узброены люд да рэгулярнай абароны, камандзіры 10 і 30 рот разам з сотнікамі і дзесятнікамі будуць выводзіць свае карпусы кожнае свята за горад на пляцы і там

абавязаны фарміраваць іх у лініі і вучыць абароне па прадпісанню Найвышэйшага начальніка. Для таго, каб другія лініі мелі асаджоныя косы, Рада загадвае абывацелям падрыхтаваць і гэтую зброю. Пад час трывогі 10 і 30-ротныя камандзіры пасылаюць свае рапарты каменданту гарнізона і прэзідэнту горада, якія павінны быць у адным месце, і слухацца затым іх ад'ютантаў, якія будуць развозіць указы. Кожны дзесятнік абавязаны штодзень правяраць, ці мае стаўшы на абарону зброю з кулямі, вострыя пікі і цэлыя косы. Калі б чаго бракавала, аб тым дзесятнікі рапартуюць у вышэйшую каманду. Кожныя 24 гадзіны кожны сотнік пасылае дзесятніка з 4 асобамі на 10-ротную гаўптвахту, адтуль з прысланых 50 чалавек адбіраецца 10 чалавек на генеральную 30-ротную гаўптвахту для варты ля кожнага слупа. 30 чалавек пакідаецца на змену вартаўнікоў пры слупах і для патрулявання пры сваёй гаўптвахце. Варта пры слупах і патрулі мяняюцца днём кожныя 2 гадзіны, а ў начы праз кожную гадзіну. Начальнік генеральнай 30 -ротнай гаўптвахты, пры якім будзе 30 чалавек, абавязаны уважліва кантраляваць свае пошты, рапартуючы раніцой і вечарам каменданту гарнізона і прэзідэнту горада пра бяспеку у цыркулі. Цэхі абавязаны выстаўляць па чарзе харугвы на 30 і 10-ротныя гаўптвахты.

Знакі сапраўднай трывогі такія: у кожным цыркулі ставіцца гармата і па адной гармаце на вуглах рынка горада. На трайны стрэл гарматы каля ратушы па ўказу каменданта гарнізона адклікаюцца ўсе астатнія гарматы у цыркулях. Гэта і азначае сапраўдную трывогу. Затым з генеральнага штаба адпраўляюцца барабаншчыкі абвяшчаць трывогу у кожным цыркулі з тым, каб кожны пад суровай ваеннай адказнасцю стаў у сваю роту па прадпісанаму вышэй парадку. Кожны, учыніўшы фальшывую трывогу, будзе пакараны як парушальнік публічнага спакоя, а таму трэба сачыць за тым, каб ніхто ні ў горадзе, ні за горадам не адважваўся ні страляць ні званіць. Усе выбраныя ў гвардыю абывацелі пастараюцца з поспехам справіцца з даручаным без розніцы стану і кандыцыі. Рада патрабуе і асцерагае вас, што

пакуль вораг унутры края, нельга прапушчаць ніводнай хвіліны для таго, каб кожны абывацель ужыў усе сілы для адпору і пакарання воргага, які гатовы напасці ў любы час. Няхай клопат Рады аб вашым дабры і бяспецы будзе задаволены як мага хутчэйшым выканананнем гэтага распараджэння. Даны у Вільна на сесіі 29 мая 1794 г.

*Ігнацій Кастравіцкі, прэзідэнт*
*Казімір Хлявінскі*
*Стэфан Незабытоўскі*
*Ежы Забела*
*Ежы Гарабурда*
*Бенедыкт Карп, харунжы Упіцкага павета*
*Ксёндз Міхаіл Пачобут, рэктар віленскай акадэміі*
*Ксёндз Міхаіл Карповіч*
*Самуэль Корсак*
*Іосіф Пац*
*Томаш Умастоўскі*
*Іосіф Лапа*

Іосіф Нарбут, *сакратар літоўскай Рады*

*БПАНК, с. 35284, л. 139-140 адв. Друк, за пячаткай.*

### *№ 65. 27 мая. Прадпісанне Віленскай рады аб абыходжанні з рускімі салдатамі і палоннымі*

№ 15. Тымчасовая намесніцкая рада ВКЛ пад найвышэйшым начальствам Тадэвуша Касцюшкі

Абывацелі! Хапаць ворага, помсціць яму за нанесеныя Айчыне крыўды, утаймоўваць дзёрзкага наезніка – вось мэтавыя намеры паўстаўшага народа. Аднак народ, які змагаецца за вольнасць, за святло праўды, за стаптаныя правы неба і зямлі, нават у наезніку павінен шанаваць людскасць, павінен паказаць яму лагоднасць характара народа, павінен за кожным сваім чынам не забываць пра намер ворага. Абывацелі! Рада не без смутку даведалася, што дызерціруючы расійскі салдат не ўпэўнены у вашым спачуванні. Сапраўды, няма нічога справядлівей вашай нянавісці да подлых

прылад тырана. Аднак ведайце, што ваш вораг не той, каго люты дэспат прывёў на вашу зямлю, а толькі той, хто падтрымлівае ганебную справу тыраніі, трымае ў руках абрыдлую зброю (не жадаючы яго злажыць), каб нанесці ёю вам і вашай Айчыне больш жудасных udараў. Намесніцкая рада абавязвае вас усім, прыбываючым у вашы дамы расійскім дызерцірам, прадастаўляць усякую магчымасць схавацца ад іх каманд, адсылаць іх да бліжэйшых польскіх каманд, каб яны мелі там больш пэўную схову і знаходзілі апеку.

Пры патрабаванні ад вас не толькі літасці, а нават і дапамогі, якую расійскі дызерцір мае права шукаць у вас, Рада аднаўляе свой наказ усюды спраўна хапаць усякія каманды непрыяцельскага войска, іх кур'ераў і асабліва іх абрыдлае казацтва. Сярод вашых наезнікаў няма больш дзічэйшых, суровейшых і нялюдскіх, чымсці тыя купы казакоў.Для іх то няхай зусім знікне ваша літасць, яны то адзіныя пазбаўлены пачуцця людскасці, менавіта іх хапайце, а пры затрыманні не шкадуйце іх жыцця. Бо хто ж можа быць горшым тыпам нялюдскасці, як не той чалавек, які сам не мае пачуццяў, які ні ў сабе, ні ў бліжнім не шануе дарагой існасці. Але няхай кожны дызерцір спазнае на сябе вашу людскасць. Пакінем нялюдскасць народам, дзе пасяліліся тыранія і зверствы. Няхай наш вораг зведае найсуровейшую нашу помсту, але дазнаецца разам, што ў нас поўна людскасці, шляхетнасці і літасці для тых, хто не прышоў на нашу зямлю толькі пад прымусам тырана. А Рада такімі называе ўсіх расійскіх дызерціраў. Каб гэты універсал дайшоў да ведама ўсіх, яна загадвае апублікаваць яго ўсюды з амвонаў у парафіях і ў гарадах. Рабілася ў Вільна на сесіі Рады 27 верасня 1794 г.

*Самуэль Корсак*
*Томаш Умастоўскі*
*Стэфан Незабытоўскі, слонімскі дэпутат*
*Ігнацій Кастравіцкі*
*Ежы Альбрэхт Гарабурда*
*Іосіф Лапа, дэпутат старадубаўскі*
*Ксёндз Мартын Пачобут, рэктар віленскай акадэміі*

*Казімір Хлявінскі*
*Ежы Забела*
*Бенедыкт Гаціскі*
*Вінцэнт Мінкевіч, дэпутат горада Вільна*
*Францішак Мучынскі, дэпутат горада Гродна*
Іосіф Нарбут, *сакратар Тымчасовай намесніцкай рады*

*БПАНК, с.35377, л. 339. Друк, за пячаткай.*

### *№ 66. 30 мая. Арганізацыя парадкавых камісій у ВКЛ*

Найвышэйшая нарадовая рада, выконваючы волю абывацеляў, выражаную ў 6 артыкуле акта паўстання, абвяшчае і прадпісвае ўсім парадкавым камісіям Польшчы і Вялікага княства Літоўскага наступнае распараджэнне.

1. Аб складзе камісій. 2. Аб агульных абавязках камісій. 3. Аб падзеле працы паміж членамі камісій і іх асаблівых абавязках. 4. Аб спосабе дзейнасці камісій.

**Артыкул 1. Склад камісіі**. 1. Парадкавая камісія складаецца з 21 чалавек.

2. Гэтых асоб выбіраюць самі абывацелі з вядомых сярод сябе сваёй стараннасцю, абывацельскай дабрадзейнасцю, не заганных нічым у прыватным і публічным жыцці, так, каб у іх складзе было 8 чал. зямельных уласнікаў, 8 гарадскіх і 5 духоўных. Абывацелям трэба прасачыць за тым, каб у склад камісіі трапілі свецкія і духоўныя абывацелі ўніяцкага вызнання і грэкаусходняй арыентацыі, аб чым паведаміць рапартам у Раду.

3. Калі Нарадовая рада даведаецца, што ў склад камісіі трапіла якая -небудзь лянівая асоба неабывацельскага духа, то яна моцна пастараецца выдаліць яе і назначыць на яе месца іншую.

4. Калі адзін з камісараў акажацца западозраным у няявернасці начальніку збройнай сілы, Найвышэйшай нарадовай радзе, самой камісіі або выражанаму у самім акце паўстання намеру абывацеляў, а таксама ў непрыняцці прадпісанняў гэтага акта ці невыкананні загадаў начальніка збройнай сілы і Нарадовай рады, тады Рада абавязана выдаліць такога са складу камісіі, а ў выпадку больш значнай правіннасці па рашэнню большасці

галасоў адаслаць яго ў Найвышэйшы крымінальны суд, а на яго месца назначыць іншую асобу.

5. Падобным чынам замяняецца месца такога камісара, які будзе прызваны для абавязкаў Айчыны Начальнікам або Найвышэйшай нарадовай радай.

**Артыкул 2. Агульныя абавязкі камісіі**. 1. Агульныя абавязкі камісіі заключаны у акце паўстання абываццеляў у словах: "Камісія будзе адзінай выканаўчай прыладай Начальніка нарадовай збройнай сілы і Найвышэйшай рады. Яна павінна выконваць усе іх указы і распараджэнні згодна з прадпісаннямі ўладаў, якія даручаны ім у вышэй згаданых пунктах".

2. Таму абавязкам камісіі з'яўляецца дакладна выконваць загады Начальніка збройнай сілы і Нарадовай рады, ад якіх яна сама не можа ні адхіляцца, ні тлумачыць нічога пад адказнасцю. Усё, што ніжэй гаворыцца у інструкцыі пра аддзелы парадку, бяспекі, справядлівасці, скарбу, жыўнасці і вайсковых патрэб, па ўсіх гэтых прадметах парадкавая камісія будзе выконваць толькі тое, што ёй выразна загадаюць Начальнік збройнай сілы і Найвышэйшая рада.

3. Для належнага выканання і ўпэўненасці ў гэтым, камісія падзеліць сваё ваяводства або павет на дазоры, маючых па 1000 обо 1200 асоб, дасць ім назву па галоўнай вёсцы ці мястэчку, у кожным дазоры паставіць чалавека годнага і пачцівага і загадае таму кожны тыдзень рапартаваць аб стане свайго дазора і аб выкананні абвешчаных у ім указаў.

4. Парадкавая камісія павінна падтрымліваць пастаянную і дастатковую карэспандэнцыю з Нарадовай радай (у ВКЛ з Цэнтральнай дэпутацыяй), рапартуючы ім кожны тыдзень, а калі трэба, то і часцей. У тым месцы, дзе будзе знаходзіцца Начальнік, камісія акрамя звычайнага рапарта ў Раду, абавязана пасылаць рапарт Начальніку. Гэта ж абавязаны рабіць і астатнія камісіі, калі таго пажадае Начальнік.

5. Камісія забяспечвае цэласць і бяспеку публічных архіваў у сваім ваяводстве ці павеце і будзе мець іх пад сваім дазорам.

Артыкул 3. Падзел прац паміж членамі парадкавай камісіі і абавязкі яе членаў

1. Парадкавая камісія падзяляе сваю працу паміж 7 аддзеламі, а менавіта: адззелам парадку, бяспекі, справядлівасці, скарбу, жыўнасці, вайсковых патрэб і нарадовай інтрукцыі.

2. У кожны з гэтых 7 аддзелаў назаначаецца па 3 камісары, якія будуць спецыяльна заведваць даручаным ім аддзелам. Для ўзаемавыручкі пры кожнай камісіі павінен пастаянна знаходзіцца адзін з камісараў.

3. Да аддзела парадку адносіцца: 1. Дарогі. 2. Лістовая і вазовая пошта. 3 . Ганцы. 4. Перавозы, сухапутны і вадзяны транспарт. 5. Абвяшчэнне і перасылка каму належыць розных распараджэнняў і рэзалюцый Начальніка збройнай сілы, Найвышэйшай нарадовай рады, Цэнтральнай дэпутацыі ў Літве і мясцовай парадкавай камісіі.

4. Да аддзела бяспекі адносіцца: 1. Рэвізія падазроных папер. 2. Рэвізія дамоў падазроных. 3. Пашпарты. 4. Следства і экзаменаванне падазроных і свавольных людзей. 5. Арышты або па выразнаму даносу з подпісам самога даносчыка, або па атрыманні доказаў самой дэпутацыяй. 6. Дазор за вязнямі і забеспячэнне іх патрэб. 7. Дастаўка арыштантаў у крымінальны суд, каб той паступіў на сваім абавязку.

5. Да аддзела справядлівасці адносіцца: 1. Апека над вязнямі. 2. Дазор за рэгулярным пасяджэннем і пільным выкананнем справядлівасці ў крымінальных судах. 3. Дазор за выкананнем судовых пастаноў. Такі дазор ў ваяводстве мае тая камісія, дзе знаходзіцца крымінальны суд.

6. Да аддзела скарбу адносіцца: 1. Дазор за дабраахвотнымі ахвераваннямі. 2. Дазор за ўсякімі публічнымі даходамі згодна з інструкцыяй Найвышэйшай рады, якія ёй будуць прадпісаны.

7. Да аддзела жыўнасці належыць: 1. Заахвочванне і дагляд за тым, каб зямля не заставалася ў аблогах. 2. Добра ведаць пра гатунак і колькасць жыўнасці. 3. Дазор за магазінамі жыўнасці і фуража і іх захаванасцю. 4 . Нарыхтоўка рознага фуража і жыўнасці на пражыццё. 5. Дазор за млынамі, ветракамі, пякарнямі і бровармі. 6. Публічным забеспячэннем патрэбным для абывацеляў харчам. 7. Унутраным і знешнім гандлем краёвымі прадуктамі.

8. Да аддзелу вайсковых патрэб будзе адносіцца: 1. Паспяховае аснашчэнне войска людзьмі па жаданню Начальніка збройнай сілы. 2. Дазор за муштрой мясцовага войска акрамя фартэцый і абаронных гарадоў, дзе тым жа Начальнікам будзе назначаны камендант. У такім выпадку камендант будзе паведамляць камісіі пра свае ўклады, а тая павінна аказваць яму усякую дапамогу і верна даносіць у Раду пра тое, што зроблена камендантам адносна мясцовай абароны. 3. Дазор за ўзбраеннем і муштрой усіх жыхароў ваяводства ці павета па вёсках, мястэчках і мястэчках згодна з прадпісаннямі таго ж Начальніка. 4. Дазор за фабрыкамі і рукадзеллем, патрэбным для забеспячэннем жаўнера рознай адзежай, зброяй і ўсякай вайсковай амуніцыяй. 5. Закупкай броні, адзежы, амуніцыі і г. д. 6. Вайсковыя склады і арсеналы. 7. Пастаўка коней у войска. 8. Дастаўка ў нарадовае войска розных патрэб па загаду Начальніка збройнай сілы або яго падначаленых, надзеленых для таго моцай. 9 . Забеспячэнне ўсім абаронных гарадоў па загаду таго ж Начальніка або падначаленых яму асоб.

9. Да аддзела люстрацыі адносіцца: 1. Дазор за агульнай асветай, гэта значыць, за ўсімі школамі і ўсімі адукацыйнымі ўстановамі. 2. Пашырэнне нарадовага духа праз газеты і іншыя лісты, праз павучанні люда ў касцёлах і іншых публічных асяродках, праз забавы і практыкаванні, якія завядзе ў гэтых мэтах Рада. 3. Дазор за адукацыйным фундушам.

10. Вызначаныя ва ўсе гэтыя 7 аддзелаў камісары будуць асабліва назіраць за асобамі сваіх аддзелаў і адказваць за іх правіннасці і дзейнасць. Калі ведаючы пра гэта не данясе чаго камісіі, то ён робіцца вінаватым.

11. Камісары будуць даносіць камісіі пра стан рэчаў у сваім аддзеле, паведамляць ёй аб тым, што выканана і што не выканана для поспеху, будуць прапаноўваць сродкі для спрыяння выкананню загадаў Начальніка збройнай сілы і Нарадовай рады.

12. Камісары у давераных ім аддзелах будуць складаць справаздачы у Нарадовую раду, якія камісія будзе адсылаць у тую ж Раду з далучэннем свайго рапарта згодна з арт.2 і п. 4 арганізацыі камісіі.

13. Засцерагаецца аб тым, што ўсе вышэй згаданыя аддзелы парадкавай камісіі будуць рабіць роўна столькі, колькі іх для гэтага ўпаўнаважаць Начальнік збройнай сілы або Нарадовая рада.

Артыкул 4. Спосаб дзейнасці парадкавых камісій

1. Камплект камісіі складаецца не менш чым з 7 асоб.

2. Старшынстваваць у ёй будуць камісары па чарзе ў парадку старшынства ўзросту. Прэзідэнтства кожнага працягваецца 1 тыдзень.

3. Калі камісія засядае на пленуме, то нікому не дазваляецца доступ у яе без патрэбы.

4. Загады Начальніка або Рады, а ў Літве Цэнтральнай дэпутацыі, чытаюцца ў цэлым складзе камісіі і аддаюцца зараз жа ў кожны аддзел на выкананне згодна з гатоўнасцю кожнай рэчы.

5. Пажаданні камісіі да Начальніка збройнай сілы або Рады пастанаўляюцца большасцю думак камісіі. Пры роўнасці думак усё вырашае голас старшыні.

6. Хаця камісія выступае ў акце нарадовага паўстання чыста выканаўчай прыладай, аднак калі б у раптоўным і непрадугледжаным выпадку ёй давялося вынесці нейкую рэзалюцыю, тады яна прымае яе большасцю галасоў і неадкладна рапартуе аб тым Радзе.

7. Камісія будзе трымаць столькі асобных пратаколаў для запісу пастаноў Начальніка і Рады, колькі маецца аддзелаў, куды будуць запісвацца і рапарты кожнага камісара, занятага ў сваім аддзеле. Звыш таго яна абавязана трымаць адзін агульны пратакол, куды будзе каротка запісваць сутнасць усіх дыспазіцый і рэзалюцый з выражэннем думак прысутных на кожнай сесіі камісараў, а таксама з выражэннем думак адсутных, пакінуўшых заўчасна сесіі па якіх-небудзь прычынах.

8. Паколькі парадкавыя камісіі не могуць адбывацца без выдатку, а дабраахвотныя ахвераванні па свайму назначэнню павінны ісці на патрэбы края, то яны могуць карыстацца правам канстытуцыйнага сейма, які абдумаў ужо выдаткі на парадкавыя камісіі, названых цывільна-вайсковымі камісіямі.

9. Прызначаныя ў камісію асобы выканаюць прысягу перад старэйшым камісарам, а той, па атрыманні ад іх прысяг, выконвае яе перад адным з камісараў, які ідзе за ім па старшынству узроста. Гэта прысяга выконваецца ў прысутнасці люда па наступнай форме "Я, №№, прысягаю перад богам у тым, што буду верна выконваць загады Начальніка збройнай сілы і Найвышэйшай нарадовай рады (у Літве Цэнтральнай дэпутацыі), даверанай мне ўлады не ўжыву на асабісты уціск каго-небудзь, буду скарыстоўваць яе выключна на абарону цэласці края, адшукання самаўладства народа і ўгрунтавання яго вольнасці, у чым мне ды паможа божа і нявінная мука яго сына".

10. Іншыя асаблівыя распараджэнні камісія распісвае сама як для сябе самой, так і для сваёй канцылярыі.

11. Найвышэйшая рада пакідае за сабой права вырашаць і ўдакладняць гэтую арганізацыю, таксама прыдаваць асоб у камісію, калі гэта запатрабуе патрэба ваяводства, павета або агульны інтарэс народа.

Рабілася ў Варшаве на сесіі Рады 30 мая 1794 г.

Ігнацій Закржэўскі, *прэзідэнт горада Варшавы*

*БПАНК, с. 35285, л. 141-143 адв. Друк. за пячаткай.*

### *№ 67. 30 мая. Ардананс Т. Касцюшкі А. Казаноўскаму на фарміраванне палка коннай міліцыі Гродзенскага павета*

Тадэвуш Касцюшка, Найвышэйшы начальнік нарадовай збройнай сілы

З прыхільнасці да абывацельскай ахвоты Андрэя Казаноўскага, генерал -маёра Гродзенскага павета, які ўзяўся навербаваць полк коннай міліцыі ў складзе таварышоў, шаранговых і стральцоў, даю яму моц і загадваю па зносінах з парадкавай камісіяй Гродзенскага павета як мага хутчэй сфарміраваць такі полк і падрыхтаваць да боя з умовай, што ён будзе складацца ў большасці з конных стральцоў, умеючых страляць. Ён можа назначаць у гэты полк афіцэраў і прадстаўляць іх на патэнтаванне мной, як толькі полк апынецца ў такім камплекце, які дазволіць ужыць яго для бою. Формы мундзіраў я не патрабую, аднак хачу толькі таго, каб ён

складаўся з людзей ахвочых, дабравольцаў, маючых на мэце перш за ўсё дабро Айчыны, на лепшых конях, добра экіпіраваных і ўзброеных. Каб генерал-маёру дабіцца гэтага лепей, абавязваю і міласцю Айчыны заклікаю ўсіх абывацеляў Гродзенскага павета дапамагчы яму у гэтак карысным для края пачынанні ўсякімі спосабамі, якія толькі рухаюць імі патрыятызм і інтарэс Айчыны па вядомай мне іх стараннасці. Броні, якой будзе не хапаць яму, даставіць парадкавая камісія і яна ж будзе выплачваць жалаванне палку з павятовых пабораў. Калі полк будзе ўкамплектаваны так, што яго можна ўжыць для бою, генерал-маёр паведаміць аб тым бліжэйшаму генералу, камандуючаму лінейнай дывізіяй, а той вызначыць яму яго павіннасць. Даны у абозе пад Хржацяцінцамі 30 мая 1794 г.

*Тадэвуш Касцюшка*

*БПАНК, с. 35286, л. 144. Друк, за пячаткай.*

### *№ 68. 31 мая. Загад К. Ельскага ротмістрам адносна вярбоўскі шляхты*

Канстанцін Ельскі, абраны генерал-маёрам міліцыі Гродзенскага павета

Гэтым маім арданансам аб'яўляю ўсім абывацелям Гродзенскага павета, а асабліва ротмістрам гэтага павета ва ўсіх парафіях сурова загадваю. Па атрыманні яго кожны ротмістр у сваёй парафіі загадае шляхце ваколіц сесці на коней з палашамі, карабінамі, пісталетамі і фузеямі пад суровай карай як ворага Айчыны за непаслухмянасць гэтаму указу і аб тым мне данесці. Усякі абывацель павінен забяспечыць і ўзброіць косамі, сякерамі і пікамі належных сабе людзей і сам імі кіраваць, не выключаючы з гэтай паслугі Айчыне літаральна нікога. Распарадзіўшыся ў сваёй парафіі, ротмістры павінны быць у поўнай гатоўнасці да маршу і чакаць майго знаку, па атрыманні якога кожны без прамаруджвання праз 6 гадзін павінен стаць у вызначанае яму месца, пра якое будзе паведзена пры неабходнасці. Даны у Гродна 31 мая 1794 г.

Канстанцін Ельскі, *генерал-маёр міліцыі Гродзенскага павета*

*БПАНК, с. 35288, л. 146. За пячаткай.*

### *№ 69. 30 мая. Распісанне паштовых гонаў (крэсаў) у Гродзенскім павеце*

Рабілася ў Гродна ў замку на сесіі разам з магістратам 30 мая 1794 г.

Згодна з універсалам Тымчасовай нарадовай літоўскай рады, які патрабуе хутка паставіць крэсы па розных трактах Гродзенскага павета, дэпутацыя бяспекі парадкавай камісіі сумесна з магістратам вольнага горада Гродна ўстанаўляе наступны іх расклад.

Вольны горад Гродна, маючы на выправу крэсаў 9 ніжэй вызначаных трактаў, будзе пільна сачыць за тым, каб экспедыцыі з ратушы высылаліся без валакіты, для чаго ён скарыстуе коней мясцовых фураманаў, з прадмесцяў і фальваркаў пры захаванні іх чаргі.

1. На Віленскі тракт: да Гожы з Крынічнай, альтэрнатыва Прэвалкі, Ротніца, Уцехі, Мерач, далей Мерацкая камісія аж да Вільна будзе ўкладаць крэсы.

2. На Навагрудскі тракт: да Жыдамлі, Скідзеля, Мількаўшчыны і Каменкі, далей крэсамі свайго павета распараджаецца Навагрудская камісія.

3. Лідскі тракт: да Верхалішак, Язер, да перавозу Зашклянскага, Астрыны, далей крэсы распараджае Лідская камісія

4. На Вейсейскі тракт: да Заржыцы, Пільніцы, карчмы святога Яна, Лейпун, Копцева, Вяйсей, Бернікаў, Сейнаў, Пунска, Краснаполля, на павароце жа з Краснаполля да Гібаў, Калет, Пляшчан, альтэрнатыва ў Кадышы, да Белага Балота з альтэрнатывай у Войтаве, да Гродна.Заўвага. Калі экспедыцыя была паслана з Гродна крэсамі ў Коўна, тады Лейпуны даставяць яе да Крыкстана, а далей да Коўна будзе ўпраўляцца Ковенская камісія.

5. На Слонімскі тракт: да Горніцы, Квасаўкі, Лунна, Росі, Ваўкавыска, далей крэсы устанаўляе Ваўкавыская камісія.

6. На Брэсцкі тракт: да Каменкі, Дубава, Адэльска, Крынак, Баброўніка, да Свіслачы Тышкевіча. Далей крэсы устанаўляе Ваўкавыская камісія.

7. На Варшаўскі тракт: да Каробчыц, Кузніцы, Саколкі, Букшцеля (куды на крэсы коней і людзей дастаўляе Яленегародскі ключ), да Васількава і Беластока, адкуль урадаванне крэсамі перадаецца Бельскай зямлі.

8. На тракт да Ганёндза: да Караліна, Дубніцы, Новай Волі, Янава, Карыціна, далей крэсамі заведвае камісія Бельскай зямлі.

9. На Запушчанскі тракт да прускай мяжы: да Лабна, Галынкі з альтэрнатывай у Перстунах, да Рудаўкі, Мікашоўкі, Стральцоўшчыны, Чырвонага Крыжа, Вянгер, Сувалак, Яленева, Віжан, Перарослі, Філіпава, Бакалажава, Рачок, на павароце жа на Янаўку да Шчэрбаў. Краснага Бору, Ліпска, Дубровы, Ражанстока з альтэрнатывай у Герасімовічах, да Новага Двара, Бялян і Гродна.

Дэпутацыя бяспекі загадвае так устанавіць крэсы увогуле і ў прыватнасці ўсім тым пасэсарам, вотчыннікам, дзяржаўцам, гарадам, мястэчкам, законам, плебаніям, да якіх і іх вёсак прывязаны крэсы з тым, каб яны неадкладна звязваліся ад месца да месца хуткім конным транспартам з пэўнымі людзьмі. А каб утрымаць рэгулярны парадак, дэпутацыя высылае цэдулу з Гродна ў якой будзе запісаны дзень і час адпраўкі, і адкуль пачаўся крэс. 2 мілі яна ідзе прыкладна 1,5 гадзіны да першай 2-мільнай станцыі, дзе запісваецца час прыбыцця і далей адпраўка павінна ўтрымлівацца чаргі па прапорцыі міль з улікам вызначанага часу. Калі б з-за нерэгулярнасці ідучых крэс або экспедыцыя спозніцца, або (крый божа) будзе згублена, то дэпутацыя, праслядзіўшы па часавой цыдуле з Гродна ўвесь шлях яе звароту, на месца прызначэння засведчанай, вызначыць суровую кару у памеры страты края або абываццеля. Паколькі дэпутацыю бяспекі асабліва цікавіць Запушчанскі тракт, адкуль яна найбольш часта чакае данясенняў (якія кожны абывацель на тым тракце можа і павінен прысылаць пры неабходнасці), то на паварот да Гродна могуць быць скарыстаны іншыя крэсы на вышэйвыражаных трактах, па абыходзе якіх цыдула павінна вярнуцца ў Гродна. Даны як вышэй.

*Ян Гіммель, камісар, старшыня*

*Ігнацій Шаняўскі, камісар*

*Ксёндз Антон Эйсмонт, камісар Гродзенскага павета*
*Франішак Ваўкавіцкі, камісар*
*Ваўрынец Сабалеўскі, камісар*
*Тадэвуш Клава, прэзідэнт вольнага горада Гродна*
*Якуб Рафановіч, прэзідэнт вольнага горада Гродна*
*Станіслаў Сакалоўскі, радца вольнага горада Гродна*
*Згодна з арыгіналам, Дыянісій Ракуза, сакратар парадкавай камісіі Гродзенскага павета*

Даніэль Лянкевіч, *пісар магістратскага аддзела вольнага горада Гродна*

*БПАНК, с. 35287, л. 145-145 адв.*

### № 70. 31 мая. Універсал Гродзенскай камісіі аб агульным узбраеннні павета

Парадкавая камісія Гродзенскага павета

Займаючы сэрцы усіх пачцівых абываценяў клопат аб ашчасліўліванні Айчыны і жывучых у ёй жыхароў, ускладае на парадкавую камісію, як кіруючую юрысдыкцыю павета, асаблівую пільнасць у намаганні ўжыць усе сродкі, якія б маглі аддаліць небяспеку і наблізіць спакой і шчасце. Час, у якім мы жывем і які ўзнік з абрыдлай залежнасці дэспатам, патрабуе, у рэшце рэшт, ад вас, абываценяў, у любы момант быць гатовымі да адпору ворага, калі б ён адважыўся наехаць на нашу вольнасць.

Абывацелі! Шляхта, земляробы і рознага сорта пасэсары! Пастарайцеся па атрыманні гэтага ўніверсала адразу быць гатовымі на паспалітае рушанне так, каб па першаму знаку кожны мог стаць у месца, вызначанае ў парафіі павятовымі ротмістрамі. Няма такога стана, няма і быць не павінна такога абывацеля, якія б маглі адмовіцца ад такой паслугі на паратунак Айчыны. Парадкавая камісія паўтарае ў гэтай адозве сваё нязменнае жаданне бачыць выкананым тое, аб чым яна паведаміла вам, абывацелям, раней некалькімі сваімі ўніверсаламі.

Абывацелі ротмістры! Не думайце, што ваш урад абмяжоўваецца адным тытулам. Статутавае права, якое ўстанавіла гэты

урад, хоча бачыць вас у паспалітым рушанні і карыснымі краю. Выканайце жа свае абавязкі, даглядайце як пільней за тым, каб у парафіях, дзе вы жывеце, па ўсіх вёсках і фальварках люд быў узброены пікамі або косамі і каб фальваркі спрыялі ў гэтым люду. Дамоўцеся з пасэсарамі, іх упраўляючымі і намеснікамі, каб яны па атрыманаму знаку прыводзілі ўсіх парафіян да мясцовых касцёлаў. Перадайце таксама ім загад камісіі, якая хоча, каб на адметных месцах на полі пры кожнай вёсцы, горадзе і фальварках былі пастаўлены абернутыя саломай і аблітыя смалой слупы на такой адлегласці, каб яны былі відаць адзін другому. Пры падпальванні аднаго, усе слупы у парафіі павінны быць падпалены. Для гэтага да іх трэба і ў дзень і ў ноч прыставіць чалавека. Як толькі загарацца ўсе, так усе жыхары са зброяй адразу ж павінны сабрацца на вызначанае ротмістрамі месца. Ад таго паспалітага рушання вызваляюцца мужчыны 50 год, хто не дасягнуў 18 год, а таксама каго няздольнымі зрабіла цяжкая хвароба і калецтва. Аднак той, хто, не абцяжараны ні векам, ні хваробай, па дадзенаму знаку праз запаленне слупа не стане ў паспалітае рушанне, які па перакананні будзе пакараны як вораг Айчыны. Шляхта, якая не мае коней, павінна стаць у яго пеша з дзідамі, сякерамі або агнявой зброяй, а сяляне таксама павінны мець косы, пікі і сякеры за пасам.

Каб гэты універсал хутка дабраўся да ведама абывацеляў і быў імі выкананы, ён рассылаецца ў парафіі, дзе павінен штодзень чытацца і абвяшчацца з амвонаў пад пагрозай канфіскацыі маёнткаў плябанаў. Рабілася ў Гродна на сесіі 31 мая 1794 г.

*Ігнацій Лахніцкі, камісар, старшыня*
*Тэадор Віслоцкі, супрасльскі абат, камісар*
*Мартын Халявінскі, камісар*
*Філіп Міхалкевіч, камісар*
*Флор Крычэўскі, камісар*
*Антон Гуланецці, камісар*
*Ігнацій Шаняўскі, камісар*
*Ян Сакалоўскі, камісар*

*Іосіф Зялінскі, камісар*
*Андрэй Мальчэўскі, камісар*
*Станіслаў Завістоўскі, камісар*
*Віктар Шумкоўскі, камісар*
*Тадэвуш Андрэйковіч, камісар*
*Франішак Ваўкавіцкі, камісар*
*Барталамей Палонскі, камісар*
*Ксёндз Антон Эйсмонт, камісар*
*Геранім Барэцкі, камісар*

Пётр Манюшка, *сакратар парадкавай камісі Гродзенскага павета*

*БПАНК, с. 35289, л. 147-147 адв. Друк. за пячаткай.*

### *№ 71. 1 чэрвеня. Пастанова Віленскай рады адносна маёнткаў асуджаных кіраўнікоў Таргавіцкай канфедэрацыі*

Універсал да паручыцеляў і прэтэндэнтаў на маёнткі пакараных Іосіфа і Шымана Касакоўскіх, Іосіфа Забелы, Ігнація Швыкоўскага і іншых арыштаваных асоб

Заняўшы па загаду Варшаўскай і Літоўскай тымчасовых радаў, а таксама па дакрэтах крымінальных судоў канфіскаваныя маёнткі, тымчасовая літоўская скарбовая дэпутацыя штодня атрымлівае адозвы і мемарыялы ад тых, хто прад'яўляе свае прэтэнзіі да асоб і секвестраваных уладанняў або просяць у скарба атрымання заслужанай сатысфакцыі. Каб публіцы не здавалася, што праўдзівым вярыцелям адказана ў справядлівасці і што з добрага імкнення скарба заплаціць кожнаму ён можа заплаціць больш за самую масу фартуны, пастанаўляецца шляхам дакладнейшых довадаў вызначыць масу даўгоў кожнай пакаранай і арыштаванай асобы. Для гэтага цяперашнім універсалам абвяшчаецца кожнаму вярыцелю і любога тытула прэтэндэнту на фартуны зышоўшых інфлянцкага біскупа Іосіфа і літоўскага гетмана Шымана Касакоўскіх, польнага гетмана Іосіфа Забелы, мінулага таргавіцкага маршалка Ігнація Швыкоўскага, не менш таго іншым асобам, чые маёнткі апынуліся ў скарбовай адміністрацыі, таксама слугам і рамеснікам злажыць

кантракты, рахункі і доказы сваіх прэтэнзій у копіях на працягу 2 месяцаў у віленскую земскую канцылярыю. Сама скарбовая дэпутацыя прыкладзе шмат намаганняў, каб паказаць, колькі з кожнага ўзята ў скарб грашыма і рухомасцю, якія ў ім знаходзяцца ўладанні і ўсю гэту справу з агульнай інфармацыяй адашле туды, куды належыць. Даны на сесіі тымчасовай дэпутацыі літоўскага скарбу 1 чэрвеня 1794 г.

*Ксёндз Давід Пільхоўскі, суфраган, намінат, віленскі прэлат, дэпутат і старшыня*

*Фларыян Даліва Сыруц, ковенскі земскі суддзя, дэпутат*

*Ігнацій Дуброўскі, віленскі дэпутат*

*Плацыд Трашкоўскі, брэсцкі чашнік і дэпутат*

*Матэвуш Нелюбовіч, дэпутат*

*Пётр Білінг, дэпутат*

Зянон Махвіц, *рэгент Тымчасовай скарбовай дэпутацыі*

*БПАНК, с. 35291, л. 149. Друк, за пячаткай.*

### *№ 72. 3 чэрвеня. Арганізацыя крымінальнага суда ў Кароне і ВКЛ*

Найвышэйшая нарадовая рада, выконваючы абавязкі, ускладзеныя на яе артыкулам 7 акта паўстання, прадпісвае наступныя правілы для крымінальных судоў у кожным ваяводстве Кароны, гэтак жа як і ў ваяводствах і паветах Літвы.

1. Што да складу Крымінальных судоў. 2. Што да спраў ваяводскіх і павятовых крымінальных судоў. 3. Што да пакарання злачынстваў. 4. Што да дзейнасці суда або працэса па крымінальных справах.

**Артыкул 1. Склад крымінальных судоў**. 1. Крымінальны суд будзе складацца з 12 суддзяў, якіх назначае Нарадовая рада згодна з пунктам 8 акта паўстання.

2. Крымінальны суд будзе адзін на ўсе ваяводства ў Кароне. У Літве ж такі суд будзе засядаць у сталічным горадзе свайго ваяводства або павета ў кожным ваяводстве і павеце.

3. Камплект яго вызначаецца не менш як з 7 асоб, а старшынстваваць у ім будзе старэйшы векам.

4. Суд са свайго кола выбірае адзінагалосна або па большасці галасоў аднаго члена для ўтрымання пратакола пастаноў, таксама такім жа парадкам пісара свайго суда і рэгента, ад якіх затым прыміць прысягу.

Артыкул 2. Адносна спраў ваяводскіх і павятовых крымінальных судоў

Да крымінальных судоў у ваяводствах і паветах адносіцца:

1. Да іх належаць справы аб дазнанні і пакаранні злачынстваў супраць нарадовага паўстання. Нармальны тэрмін нарадоваму паўстанню кладзецца з моманту паўстання кожнага асобна ваяводства і павета. Злачынствамі супраць нарадовага паўстання з'яўляюцца: упартая непаслухмянасць указу Найвышэйшага начальніка або магістратурам, пастаноўленых актам паўстання. Гэтыя злачынствы у сваёй большасці тым цяжэй і павінны разглядацца як цяжкія, бо яны могуць нанесці яўную і прамую згубу усяму народу, пры чым настолькі трывалую, што мера велічыні правіннасцяў вызначаецца важнасцю ахопленых загадамі спраў. 2. Узрушэнне публічнага спакою шляхам падбухторвання люда вёсак і мястэчак на бунт і ўнутранага хвалявання ліставаннем, публічнай прамовай або скрытным узбуджэнем. 3. Бунтаванне войска і падгавор яго якім-небудзь спосабам да непаслухмянасці вайсковай камандзе або арданансам і прыказам Нарадовай рады. 4. Захоп публічных даходаў. 5. Ухіленне ад абароны края або недапушчэнне іншых, што з'яўляецца ўбаўленнем збройнай сілы і скарачэннем моцы для адпору ворага, у чым кожны святалюбівы абывацель абавязаны народу.

2. Да ваяводскіх і павятовых крымінальных судоў адносяцца правіннасці або злачынствы публічнай здрады, якія ёсць наступныя. 1. Увядзенне ворага ва ўласную Айчыну. 2. Атрыманне ад яго пенсій, падцверджанае атрыманым абвінавачаным рэверсам, яго прызнаннем або яўным сведчаннем, дабытым інквізіцыяй. 3. Раздача узятых у ворага грошай асобам на ўрадах і краёвых функцыях. 4. Шпіянаж праз карэспандэнцыю і змовы супраць Айчыны з ворагам, паведамленне яму пра моц або слабасць нарадовых сіл, вярбоўка і дастаўка яму зброі. Ва ўсіх гэтых злачынствах

усім належыць пільна выяўляць тых, хто завадатай і кіраўнік, а хто скарыстаны як прылада павадыра. Першых караць хутка і больш цяжка.

3. Да ваяводскіх і павятовых крымінальных судоў адносіцца: 1. Справы учыненага гвалта шляхам дабраахвотнага або наўмыснага пазбаўлення каго -небудзь жыцця. 2. Замах на чужую вольнасць. 3. Гвалтоўны захоп маёмасці. 4 . Крадзеж. 5. Крымінальныя справы, якія апошнім правам канстытуцыйнага сейма былі аддадзены земскім судам і апеляцыйным аддзелам гарадоў.

**Артыкул 3. Аб пакаранні злачынстваў**. 1. Злачынствы супраць нарадовага паўстання ў выглядзе ўласнага бунтавання або бунтавання іншых, злачынства супраць народа, публічная здрада шляхам навядзення ворага ў край, шпіёнства, карэспандэнцыя і змовы з ворагам супраць Айчыны, вярбоўка да яго і дастаўка яму зброі, гвалтоўныя злачынствы, учыненыя праз дабравольнае і наўмыснае пазбаўленне жыцця асобы, будуць падпадаць пад смяротнае пакаранне, якая ў першую чаргу павінна пасеяць страх, а затым павінна заўжды выконвацца публічна простым пазбаўленнем жыцця вінаватага без яго мучэння.

2. Злачынства ў выглядзе ўпартай непаслухмянасці ўказам Начальніка і нарадовы магістратурам, якое так ці інакш прычыняе шкоду Айчыне, таксама павінна карацца ў адпаведнай яму ступені, а менавіта па велічыні гэтага злачынства шляхам затачэння, пазбаўлення абывацельства і урада. Кожнае з такіх пакаранняў можа павялічвацца або звужацца праз павелічэнне або скарачэнне часу, праз пазбаўленне ўсіх прарэгатыў абывацельства або іх часткі, праз абвяшчэнне інфамііі *(пазбаўлення гонару – **Я. А.**)*, часткі маёмасці і г. д.

3. Злучэнне гвалта з упартым непаслушэнствам будзе карацца поўным пазбаўленнем вольнасці і нават смяротным пакараннем.

4. Атрыманне пенсій ад іншаземцаў, подкуп асоб на ўрадах павінна карацца выгнаннем з края, канфіскацыяй маёнткаў, пазбаўленнем назаўсёды і магчымасці займаць які-небудзь урад.

5. У час нарадовага паўстання і вайны з непрыяцелямі ўзяцце ад іх пад якім-небудзь выглядам грошай павінна карацца смерцю.

6. Захоп публічных даходаў будзе падпадаць пад кару вечнага затачэння, інфамію і двайное спагнанне шкоды у скарб з маёнтка.

7. Ухіленне ад абароны края або адхіленне ад гэтага іншых павінна карацца секвестрам маёнтка, а паўторная непаслухмянасць прызыву урада – забаронай назаўжды вярнуцца ў Айчыну і правам карыстацца сваім уладаннем.

8. Гвалтоўнае злачынства супраць асабістай вольнасці можа карацца публічным затачэннем, гвалтоўнае злачынства ў выглядзе захопа маёнтка – публічным затачэннем і ўзнагароджаннем шкоды, крадзеж – публічным затачэннем і працай пры вызначэнні часу і віда працы.

**Артыкул 4. Аб дзейнасці суда або працэс крымінальных спраў**. 1. У гэтым судзе не могуць весціся іншыя справы, акрамя як пералічаных у гэтай арганізацыі спраў аб злачынствах, якія або паведамлены у суд лістом за подпісам абываценя, або атрыманы з дэпутацыі бяспекі ў выглядзе пісьмовых довадаў. У такім разе суд загадвае публічнаму абвінаваўцу зараз жа перадаць падпісаны вызаў абвінавачанаму, калі ён прысутнічае ў горадзе або арыштаваны, і перадаць справу у суд за 3 дні. Калі ж вызаў адбываецца шляхам прыбівання яго на канцах горада і абвяшчэння ў газетах, то на гэта адводзіцца не болей 3 месяцаў. Ва ўсіх гэтых справах пры адсутнасці даносчыка выступае публічны абвінаваўца, пры наяўнасці таго яны выступаюць разам, але даносчык не можа адмаўляцца ад скаргі пад пагрозай уласнага пакарання. Не могуць прымацца даносы жонкі на мужа і дзяцей супраць бацькоў.

2. У справах супраць паўстання народа, публічнай здрадзе, у справах аб забойствах і крадзяжу будзе адказваць сама абвінавачаная асоба, арыштаваная аддзелам бяспекі або крымінальным судом. Гэты арышт з'яўляецца не пакараннем, а толькі сродкам справядлівасці і будзе адрозніваца ад публічнага затачэння тым, што арыштанты не зведаюць ніякай непатрэбнай прыкрасці і нявыгады.

3. За фальшывы данос даносчыка належыць пакараць адпаведна з памерам фальшывага злачынства або кароткім публічным затачэннем не менш як на 2 тыдні, або пры павелічэнні тэрміна на паўгода.

4. Вызаў павінен выражаць рэч дакладна яснымі словамі – хто каго выклікае, за якую правіннасць, на прысуджэнне якога пакарання і на які тэрмін.

5. Абвінавачанаму суд вызначае для абароны і дапамогі абаронцу, пачцівага, бегла знаёмага са справай, выбранага абвінавачаным і ім не адвергнутага. Абвінавачанаму ніколі не забараняецца выступаць у сваю абарону па ўласнай справе.

6. У выпадку хваробы абвінавачанага тэрмін яго стаўкі можа быць адтэрмінаваны пры сведчанні хваробы прысягнуўшым урачом. У праціўным выпадку справа разглядаецца судом у акрэслены у позыве тэрмін. У завочных справах дакрэт набывае нерушымую моц і павінен выконвацца, аднак заўжды пры папярэдняй наяўнасці сведкаў і пісьмовых довадаў.

7. Ад пачатку справы і да яе завяршэння ўсе дзеянні крымінальнага суда павінны адбывацца ў прысутнасці арбітраў, акрамя допытаў, інквізіцыі і намоў, пра што ніжэй.

8. Абодва бакі павінны папярэдне падаць у суд усе дадатковыя заявы, якія толькі сустракаюцца ў справе. Суд прынімае іх усе і прынімае рашэнне па кожнаму з адным агульным уступам.

9. Чым большая правіннасць, тым прыкладнейшую яна пацягне кару.

10. Дабраахвотныя прызнанні абвінавачанага, роўна як і інквізіцыя ці следства ў выпадку вінаватасці і невіноўнасці абвінавачанага ў правіннасці слухаюцца ўсім судом, які і выносіць абвінавачанаму свой прыгавор.

11. Пункты добраахвотнага прызнання павінны адпавядаць даведзенаму у тэрмін падазрэнню і супадаць з пісьмовымі довадамі, пункты ж інквізіцыі стасавацца з пунктамі допыта і самога добраахвотнага прызнання.

12. Сведкі павінны прысягнуць пад сведчаннямі ў тым, што яны не ўтойваюць праўды і трымаюцца самой праўды, скаржнік у тым, што сведкаў не падкупляў. Абвінавачанага ні ў якім разе нельга прымушаць да прысягі. Прызнанні сведкаў слухаюцца перад разглядам сведчанняў. Сведкам можа быць любы чалавек у поўным розуме, не падазроны ні ў якім злачынстве і не маючы ніякага удзелу у разглядаемым злачынстве.

13. Пункты інквізіцыі належыць паведаміць абвінавачанаму і выслухаць ад яго заўвагі адносна іх. Па выслухоўванні інквізіцыі, кожны пункт прызнання трэба голасна прачытаць другі раз, каб не было памылкі пры запісу. Пры выяўленні якой-небудзь супярэчнасці , праводзіцца саперніцтва сведкаў перад судом. Тыя пункты прызнанняў сведкаў, якія пераконваюць абвінавачанага, належыць паведаміць яму, а калі б ён пажадаў спаборнічаць са сведкамі, то ў гэтым яму нельга адмовіць.

14. Па заслухоўванні інквізіцыі суд прыступае да канчатковага прыгавору, у якім належыць прызнаць, або што абвінавачаны цалкам не вінаваты, або што яму правіннасць не вядома, або што яна даказана. У першым выпадку суд павінен абвясціць поўную свабоду, невіноўнасць і некрануты гонар, а на даносчыка ўскласці вышэй прадпісаную кару. У другім выпадку суд павінен прызнаць абвінавачанага вольным ад пакарання разам з даносчыкам. У трэцім выпадку суд прызнае абвінавачанага віноўным і прызначае яму прадпісаную кару.

15. Апошняй пачагай прамовы суд ніколі не можа абарваць, а ўсе крымінальныя суддзі павінны прысутнічаць да канца апошняга рашэння, запісу яго ў пратакол і абвяшчэння заключэння. Па такім абвяшчэнні ніякаму боку не дазваляецца ні ўносіць чаго б то ні было ў суд, ні гаварыць у ім. Дакрэт павінен адпавядаць рашэнню, быць кароткім, ясным, ахопліваць дакладна запісаныя довады правіннасці і адводы яе. Яго належыць надрукаваць не далей як на працягу 3-х дзён па абвяшчэнні рашэння.

16. Суд не можа нікога прызнаваць віноўным на пакаранне на аснове прэзумпцыі, аднак: 1. Прызнаецца віноўным той, чыя правіннасць даказана пэўнымі і яўнымі довадамі. 2. Віноўны прызначаецца на такую кару, якая вызначана для правіннасці. Пэўныя і яўныя довады ж такія. 1. Згодныя сведчанні не менш двух прысягнуўшых яўных сведкаў адносна адной падзеі. 2. Аўтэнтычныя лісты, у якіх ясна і не падманліва гаворыцца пра абвінавачванне. 3. Дабраахвотнае, цвярозае і сталае прызнанне самога абвінавачанага.

17. У кожным выпадку падазронасці адносна права і довадаў у выкананай правіннасці, крымінальны суд будзе развязваць падазрэнні ў сваім рашэнні не супраць абвінавачанага, а на яго баку.

18. Суды выносяць пастановы большасцю галасоў. У выпадку раўнавагі галасоў справу належыць адаслаць у Найвышэйшы крымінальны суд з выражэннем думак суддзяў, іх прапаноў і подпісаў.

19. Экзекуцыя дакрэтаў адносіцца да аддзела бяспекі і справядлівасці.

20. Завочныя дакрэты трэба апублікаваць і вызначыць у сваіх пастановах урады для правядзення канфіскацыі маёнткаў асоб.

21. Пакаранне павінна тычыцца толькі абвінавачанага, а таму не шкодзіць ніякім чынам гонару і годнасці дзяцей. Той, хто парушыць гэта, павінен быць пакараны за крымінал.

22. Пры канфіскацыі маёнткаў належыць захаваць у бяспецы права жонак, дзяцей, выплаты служачым і даўгі крэдыторам, а гэтыя абодва пункты трэба змясціць у дакрэтах.

23. Прысяга для крымінальных суддзяў: "Я, №№, прысягаю адзінаму у троіцы пану богу у тым, што, будучы назначаным у крымінальны суд, буду судзіць праходзячыя перада мной справы згодна з правам, справядлівасцю і довадамі, не буду ухіляцца ад гэтага ніякімі поглядамі, сімпатыямі або нянавісцю, не буду зважаць ні на сябра, ні на багатага, ні на беднага, не вазьму ніякіх дароў і абяцанняў, буду верна і справядліва запісваць усе допыты і інквізіцыі, у чым мне ды паможа пан бог і нявінная мука яго сына".

Суддзі! Вось правілы, якія зачэрпнуты з правоў нараджэння і грамадскасці, і якія Нарадовая рада прадпісвае вашаму урадаванню. У вашы рукі аддадзены меч справядлівасці, якім вы павінны караць злачынства. Ужывайце яго на зберажэнне Рэчы Паспалітай. Няхай злачыннік бачыць у вас страх, аднак няхай нявіннасць разам знойдзе сваю апеку. Майце заўжды перад вачыма бога і Айчыну і тады ніколі не саграшыце ні паблажкай, ні залішняй суровасцю. Даны у Варшаве на сесіі Нарадовай рады 3 чэрвеня 1794 г.

*Ксёндз Гуга Калантай, прэзідэнт*

*Томаш Чэх, сакратар Найвышэйшай нарадовай рады*

Маючы з Найвышэйшай нарадовай рады гэту арганізацыю, Цэнтральная дэпутацыя ВКЛ загадвае сваёй канцылярыі раздрукаваць яе па ўсіх ваяводствах і паветах для публічнага ведама і выканання яе абавязкаў крымінальнымі судамі.

Іосіф Нарбут, *сакратар дэпутацыі*

*БПАНК, с. 35296, л. 155-157. Друк, за пячаткай.*

### *№ 73. 5 чэрвеня. Загад Варшаўскай рады цэхам аб пашыўцы ботаў*

На сесіі аддзела (вайсковых) патрэб 3 чэрвеня 1794 года. Копія 2:

Аддзел вайсковых патрэб Найвышэйшай нарадовай рады, жадаючы як мага хутчэй выканаць свае абавязкі ў забеспячэнні войска рознымі патрэбамі, якія з'яўляюццааднымі з важнейшых яго ўрада, выказвае Цэнтральнай дэпутацыі ВКЛ сваё жаданне, каб яна абавязала ўсе парадкавыя камісіі ВКЛ абвясціць па ўсіх гарадах і мястэчках сваёй юрысдыкцыі старэйшынам шавецкага рамяства склікаць мясцовыя сходы, на якіх майстры маглі б дамовіцца паміж сабой, колькі яны здольны даставіць за тыдзень пар ботаў на публічныя патрэбы і па якой цане. Каб суразмерыць поспех і памяркоўнасць цаны у гэтым з абывацельскай стараннасцю, Цэнтральная дэпутацыя пастараецца праз парадкавыя камісіі натхніць цэхі, а пра пастановы цэхаў у гэтым накірунку неадкладна прышле дакладны рапарт у гэты вайсковы аддзел з усімі падрабязнасцямі. Даны у Варшаве на сесіі аддзела вайсковых патрэб 5 чэрвеня 1794 г.

Тадэвуш Матушэвіч, *старшыня*

*БПАНК, с. 35319, л. 159. За пячаткай.*

### *№ 74. 5 чэрвеня. Загад Варшаўскай рады купцам і раместнікам аб недазволенасці самавольнага вырабу і вывазу медзі і волава*

Копія 1. Аддзел вайсковых патрэб Найвышэйшай нарадовай рады з волі Рады у мэтах збору і накаплення на публічную справу як мага больш англійскага сукна, старай і новай вянгерскай медзі і

волава, перадае Цэнтральнай дэпутацыі ВКЛ сваё жаданне ў тым, каб яна даручыла ўсім парадкавым камісіям літоўскіх ваяводстваў, зямель і паветаў неадкладна загадаць па ўсіх гарадах і мястэчках сваёй юрысдыкцыі ўсім рознай кандыцыі і рэлігіі купцам, гандлюючым сумесна або асобна памянутымі матэрыяламі, а таксама рамеснікам, накшталт катляроў, бляхароў і г. д., вырабляючых падобныя матэрыялы, каб яны з даты публікацыі гэтай аб'явы ніякім спосабам не адважваліся вывозіць ці выраблять на якую-небудзь прыватную карысць вышэй згаданыя матэрыялы без выразнага дазволу на гэта сваёй парадкавай камісіі. Нарэшце, кожны фабрыкант, гандлюючы перакупам згаданых матэрыялаў або маючы якія-небудзь з іх, павінен як мага хутчэй пісьмова падаць у сваю парадкавую камісію дакладны і ясны пералік колькасці столькі разоў спамянутых матэрыялаў. Цэнтральная дэпутацыя пастараецца як мага хутчэй скласці і прыслаць у аддзел вайсковых патрэб агульны рапарт па данясеннях сваіх камісій для атрымання з гэтага аддзела далейшых прадпісанняў і указаў як для задавальнення публічных патрэб у гэтай справе, так і для належнай сатысфакцыі ўласнікам. Калі хто акажа супраціўленне гэтаму указу, то такі па аднаму падазрэнню абывацельства будзе прыцягнуты да судовай адказнасці. Даны у Варшаве на сесіі 5 чэрвеня 1794 г.

Тадэвуш Матушэвіч, *старшыня*

*БПАНК, с. 35319, л. 159. Копія, за пячаткай.*

### № 75. 5 чэрвеня. Прадпісанне Гродзенскай камісіі аб утрыманні правіянцкіх складоў

Парадкавая камісія Гродзенскага павета, заспеўшы паведамленне павятовага генерал-маёра абывацеля Ельскага аб уваходзе войск у межы тутэйшага павета, лічыць сваім няўмольным абавязкам выдаць наступнае распараджэнне адносна прыгатавання магазінаў.

З выдадзенага 22 мая гэтага года ўніверсала абывацелі ўжо ведаюць, колькі яны абавязаны паставіць з кожнага дыма жытняй мукі, ячменевых круп, аўса і сена. Ім ужо дастаткова вядома з таго ўніверсала, у якіх месцах заснаваны магазіны, куды кожны абывацель павінен даставіць прадукты. Паколькі ж да гэтага

дня сатысфакцыя ўніверсалу не здзейснена, то парадкавая камісія Гродзенскага павета загадвае свайму камісарыяту як мага хутчэй назначыць у кожны магазін пісараў і зараз жа выслаць іх у назначаныя месцы, каб кожны абывацель не затрымліваўся праверкай пры гэтак хуткай дастаўцы правіянта і не быў празмерна пакрыўджаы несправядлівай мерай і вагой. Гэтыя пісары у магазінах сваіх парафій адразу выдадуць абывацелям білеты на хуткую дастаўку вызначанага ўніверсаламі правіянта. Пры дастаўцы яго, яны складуць квітанцыі падымнага, унесенага на дату апошняга тэрміна, якімі будуць кіравацца пры вызначэнні велічыні належнага правіянта.

Для дазору за такімі магазінамі і рассылкі білетаў, парадкавая камісія даручае павятоваму генерал-маёру, абывацелю Канстанціну Ельскаму зараз жа выслаць патрэбныя кожнаму магазіну конныя і пешыя каманды. Паколькі ўніверсал камісіі пад датай 20 мая спецыяльна абавязаў даставіць жыўнасць для 5-дымовых рэкрут з тых ж самых дымоў, а пры іх немагчымасці – з фальваркаў, то для поспеху гэтага ўніверсала пісары магазінаў разашлюць абывацелям білеты на вышэй згаданы правіянт і будуць наглядаць за тым, каб кожны абывацель па мінаванні месячнага тэрміна з часу дастаўкі жыўнасці на сваіх рэкрут стараўся паставіць яе на другі месяц без усякай валакіты. У гэтай мэце пры адкрыцці магазінаў яны прадставяць пісару квітанцыі на дастаўку такіх рэкрут у лінейнае войска, выдадзеныя дэпутацыі забеспячэння парадкавай камісіі, па якіх пісары магазінаў будуць ясна павяраць як памер фуража для 5 -дымовых рэкрут, так і час яго дастаўкі. Нарэшце, для ўпэўненасці ў непадманлівым і хуткім выкананні пры заснаванні магазінаў, на ўсіх тых абывацеляў, хто па атрыманні білета не паставіць вызначаных прадуктаў на працягу 9 дней, прызначаецца кара двайным іх унясеннем з кожнай асобы па паведамленню і за подпісамі камісарыята. Даны на сесіі ў Гродна 5 чэрвеня 1794 г.

*Францішак Боўфал, камісар, старшыня*
*Мацей Корн, гродзенскі абат і камісар*
*Тэадор Вісloцкі, супрасльскі абат і камісар*

*Іосіф Боуфал, камісар Гродзенскага павета*
*Ян Бульчынскі, камісар*
*Ян Канопка, камісар*
*Феліцыян Адланіцкі Пачобут, камісар*
*Ксёндз Тадэвуш Юрэвіч, камісар*
*Францішак Міхалкевіч, камісар*
*Казімір Абрамовіч, камісар*
*Антон Занеўскі, камісар*
*Антон Эйсмонт, земскі суддзя і камісар*
*Андрэй Мальчэўскі, камісар*
*Станіслаў Залескі, камісар Гродзенскага павета*
*Іяхім Булгарын, камісар*
*Ян Сакалоўскі, камісар*
*Іосіф Маткевіч, камісар*
*Міхаіл Адахоўскі, камісар*
*Антон Гуланецкі, камісар*
Пётр Манюшка, *рэгент парадкавай камісіі Гродзенскага павета*

*БПАНК, с. 35298, л. 159 адв. Друк, за пячаткай.*

### № 76. 5 чэрвеня. Загад К. Ельскага святарам парафій на рассылку універсалаў

Канстанцін Ельскі, генерал-маёр міліцыі Гродзенскага павета

Загадваю ўсім ксяндзам і прэсвітарам тыя ўніверсалы чытаць адразу па атрыманні, не чакаючы святага дня, на сходах парафіян. Асабліва ж ротмістрам і шляхце загадваю чытаць і заахвочваць да іх пры раз'ездах. Друк, які пасылаецца ў другой копіі, павінен дайсці да ротмістра парафіі на працягу дня. Ксяндзы або прэсвітары павінны узяць пасведчанне ад шляхты у той ваколіцы, дзе яны зачытвалі гэтыя ўніверсалы, а калі ў фальварках, то ад фальваркаў. Хто не захоча гэтага рабіць з-за лянοты або па іншай прычыне, той панясе пакаранне смерцю або яго маёнтак трапіць у секвестр. Даны у Гродна 5 чэрвеня.

*Канстанцін Ельскі, генерал-маёр Гродзенскага павета*
Згодна з пратаколам, *Дыянісій Ракуза, рэгент міліцыі*

*БПАНК, с. 35299, л. 161. Рукапіс.*

***№ 77. 6 чэрвеня. Універсал Варшаўскай рады да жыхароў ВКЛ адносна склікання паспалітага рушання і агульнага ўзбраення***

Найвышэйшая нарадовая рада да абывацеляў Польшчы і Літвы

Усё, што толькі можа абудзіць думку вольнага чалавека, заахвоціць яго да міласці, на абарону Айчыны, на велічныя справы, усё гэта, абывацелі, вы бачыце ў адозвах Найвышэйшага начальніка і на яго ўласным прыкладзе. Ён цалкам прысвяціў сябе ўсім нам, бо прысягнуў свайму народу, бо ўпэўнены, што для суайчыннікаў ахвераванні найбольш салодкія там, дзе гаворка ідзе пра цэласць і вольнасць, пра збаўленне Айчыны. Вы ведаеце, абывацелі, што ў цяперашнім стане Рэчы Паспалітай дарэмна ўзятыя сродкі апынуліся б падманам. Трэба ўжыць усю сілу, усю энергію і магчымасці, каб адшукаць наша права, апынуцца ў шаноўным стане і адпомсціць шматлікім крыўдам, гвалтам і зманам, прычыненым з такой пагардай і здзекам польскаму імені. Прасякнутыя гэтым пачуццём, мы ўзяліся за зброю і павінны з ім трымаць узняты меч да той пары, пакуль яго лязом не дабудзем сабе справядлівасць. Роспач наша зараз змяняецца ў надзею, бо заможнасць народа адпавядае нашаму пачынанню, бо мы маем дастаткова людзей, дастаткова хлеба і жалеза. Таму пастараемся вытрымаць вайну і завершыць яе са славай. Пастаўка пешага рэкрута з 5 і коннага з 25 дымоў уздыме колькасць войска Рэчы Паспалітай да вялізнай сілы. Узбраенне ўсіх абывацеляў, жыхароў польскай зямлі, зробіць увесь народ салдатам і зробіць яго хуткім і моцным памочнікам войска, калі б у гэтым з'явілася гвалтоўная патрэба.

Зважыўшы вялікія намеры Найвышэйшага начальніка і жадаючы выканаць яго распараджэнні ў тых ваяводствах, якія раней ўжо адмеціліся паўстаннем, Найвышэйшая нарадовая рада распаўсюджвае іх на ўвесь край, абвяшчае і загадвае парадкавым камісіям як мага хутчэй прывесці іх да выніку у сваіх ваяводствах і паветах у наступных пунктах.

1. У гарадах, мястэчках і вёсках трэба даць з 5 дымоў у рэкруты аднаго маладога, здаровага чалавека са зброяй, гэта значыць

з карабінам, набіўкай, доўгай пікай, проста асаджонай касой, сякерай, апранутым па-вясковаму так, як і ўсе сяльчане ходзяць у вёсках, каб ён меў 2 кашулі, добрыя боты, шапку, абрус або грубую хустку з двух шматаў, сухары на 6 дзён, а на месяц 13 злотых утрымання.

2. З 50 дымоў трэба даставіць аднаго коннага рэкрута, гэта значыць, каб ён меў каня коштам у 250 злотых з усім уборам для язды, быў узброены шабляй, парай пісталетаў і пікай. Такімі рэкрутамі трэба выдаць людзей, якія добра сядзяць на конях, а менавіта канюшых, паляўнічых і г. д.

3. Парадкавыя камісіі будуць браць у камендантаў квітанцыі на выдадзеных пешых і конных рэкрутаў і выдаваць іх пастаўляючым абывацелям. Рада загадвае ўсім парадкавым камісіям як хутчэй паведаміць ёй, колькі яны выдалі рэкрут і колькі яшчэ належыць выдаць, колькі ў іх ваяводствах і паветах маецца вайскоўцаў для абароны і навучання рэкрут для таго, каб прадпрыняць патрэбныя сродкі пры іх недахопе.

4. Для забеспячэння войска жыўнасцю і фуражом, парадкавым камісіям належыць узяць з кожнага дыма 24 фунты сухароў, 8 гарцаў аўса і 24 фунты сена.

5. Дадаткова парадкавым камісіям трэба узброіць усіх абывацеляў сваіх ваяводстваў і паветаў, жыхароў гарадоў, мястэчак і вёсак ад 18 да 40 гадоў усякай якой толькі можна зброяй, а менавіта карабінамі, фузеямі, косамі проста асаджонымі і палашамі, і прасачыць за тым, каб кожны горад, мястэчка і вёска штотыдзень праводзілі салдацкую муштру. Гэты загад належыць давесці да выніку на працягу 3 тыдняў з моманту атрымання цяперашняга ўніверсала. Дзеля гэтага парадкавыя камісіі абавязаны выслаць са свайго кола або з годных сваім даверам абывацеляў люстратараў, якія б прасачылі і здзейснілі гэтае распараджэнне на месцы, у вёсках, гарадах і мястэчках, каб такім шляхам змаглі прыслаць камісіі (а тая ў Найвышэйшую раду) дакладны рапарт аб узбраенні ўсіх абывацеляў і жыхароў сваіх ваяводстваў і паветаў.

6. Калі здарыцца ў якім ваяводстве, павеце ці ўсёй правінцыі патрэба ў паспалітым рушанні, тады яно праводзіцца па загаду генерала камандуючага наступным чынам. 1. Рушыцца толькі баяздольная палова грамады людзей, а другая застаецца для пільнавання не толькі сваёй гаспадаркі, але і для дапамогі тым, хто пайшоў са зброяй супраць ворага. 2. У грамадзе ідуць людзі адной вёскі. 3. Хто заняты публічнай паслугай або не зможа ісці з-за веку і здароў'я, той павінен выслаць свайго сына. 4. У каго не акажацца сына здольнага узростам, або ён будзе сам адсутнічаць у краі, такі павінен даць за сябе двух конных людзей з месячным забеспячэннем. Усё гэта з кожнай вёскі асобна. Такі абавязак спадае і на духавенства, як абывацеляў і уласнікаў, наступным чынам. Тыя духоўныя, якія маюць больш 1000 злотых даходу, павінны прыслаць у паспалітае рушанне аднаго пехацінца, якія маюць да 2000 злотых – 2 конных людзей. Гэта таксама з кожнай асобнай вёскі. 5 шляхцічаў, якія не бедныя і маюць толькі адзін дым, ідуць з аднаго дыма або самі асабіста, або ставяць сыноў ці братоў пад карай, якая прадпісана даўнім правам для шляхты, што не становіцца ў паспалітае рушанне.

7. Паколькі па волі Найвышэйшага начальніка збройная сіла ВКЛ павінна быць падтрымана паспалітым рушаннем гэтай правінцыі, то Цэнтральная дэпутацыя і парадкавыя камісіі ВКЛ павінны прасачыць за тым, каб гэта паспалітае рушанне было сабрана цалкам або часткова па жаданню камандуючага генерала адпаведна з выдадзеным апісаннем. Даны у Варшаве на сесіі Рады 6 чэрвеня 1794 г.

*Ксёндз Гуга Калантай, старшыня*

Томаш Чэх, *сакратар Найвышэйшай нарадовай рады*

*БПАНК, с. 35300, л. 162-163. Друк, за пячаткай.*

## № 78. 6 чэрвеня. Увядзенне Гродзенскай камісіяй адказнасці загадчыкаў правіянцкіх складоў

Парадкавая камісія Гродзенскага павета, маючы данясенні абывацеляў таго ж павета аб тым , што пры пастаўцы прадуктаў і розных рэчаў шляхам ахвераванняў у павятовыя магазіны

яны церпяць ад прынімаючых значную шкоду пры вызначэнні меры прадуктаў, колькасці і вагі рэчаў, то з увагі на гэту адразу засведчаную шкоду абывацелям ад няспраўнасці афіцыялістаў магазінаў, маючы у цэнтры увагі будучыя пастаўкі абывацеляў у вялікія магазіны і жадаючы прадухіліць шкоды абывацелям, стрымаць ласы і асабісты авантаж загадчыкаў магазінаў, цяперашняй сваёй пастановай вызначае, заяўляе і асцерагае кожнага, што калі хто з загадчыкаў дазволіць сабе браць ад абывацеляў або якаго іншага пастаўшчыка прадуктаў рэчы несправядлівай мерай, вагой і колькасцю, і такім учынкам будзе крыўдзіць абывацеля і скарыстоўваць рэчы на свой авантаж (у чым не прыходзіцца сумнявацца па стараннасці занятых тымі абавязкамі абывацеляў), тады такі ў выпадку здарэння і па даносу аб тым у парадкавую камісію з пісьмовым абвінавачваннем і за подпісам даносчыка будзе пазваны у крымінальны суд, а па высвятленні правіннасці будзе пакараны, як крыміналіст. Такую дэкларацыю парадкавая камісія Гродзенскага павета загадвае раздрукаваць і абвясціць па ўсім павеце з парафіяльных амвонаў. Даны на сесіі ў Гродна 6 чэрвеня 1794 г.

*Францішак Боўфал, камісар, старшыня*
*Іяхім Булгарын, пісар ВКЛ, камісар Гродзенскага павета*
*Мацей Корн, абат і гродзенскі камісар*
*Ксёндз Тэадор Юрэвіч, камісар*
*Станіслаў Залескі, камісар гродзенскі*
*Тэадор Віслоцкі, супрасльскі абат і камісар*
*Іосіф Зялінскі, камісар*
*Адам Эйсмонт, камісар*
*Казімір Абрамовіч, камісар*
*Антон Занеўскі, камісар Гродзенскага павета*
Пётр Манюшка, *рэгент парадкавай камісіі Гродзенскага павета*

*БПАНК, с. 35301, л. 164. Друк, за пячаткай.*

### *№ 79. 9 чэрвеня. Напамін Віленскай рады таргавічанам адносна іх адказнасці*

Тымчасовая скарбовая дэпутацыя ВКЛ паведамляе кожнаму, каму ведаць аб тым належыць, што па зносінах з Тымчасовай літоўскай радай яна выдала ўніверсал з напамінам аб звароце канцылярскіх пенсій. Аднак Варшаўская намесніцкая рада, а следам за ёй і Літоўская рада, загадалі вярнуць у скарб усе пабраныя адтуль пенсіі і дапамогі, выдадзеныя Таргавіцай і Гродзенскім з'ездам міністрам, вайсковым, скарбовым, адукацыйным камісарам і асэсарам задворных судоў, словам, усім тым, хто пасля Варшаўскага сейма ўзвышэннем на свае месцы абавязаны Таргавіцы і гродскаму суду. Таму скарбовая дэпутацыя, не могучы дачакацца ад многіх абывацеляў належнай і прадпісанай універсаламі сатысфакцыі, загадвае святлейшым цывільна-вайсковым ваяводстваў і паветаў узяць у сваю адміністрацыю маёнткі такіх абывацеляў у сваіх ваяводствах і паветах з наступнай перасцярогай. 1. Хто заплаціў ужо, той вольны ад секвестру. 2. Кожны, хто заплаціў усё або частку, можа бараніцца такім квітам ад той сумы, на якую запісаны, а рэштку належнага пакрывае з маёнтка. 3. Арышт не будзе бараніць ад заняцця ўладання таго абывацеля, хто ўжо арыштаваны.

Нарэшце, паколькі Варшаўская намесніцкая рада, а потым і Літоўская, 17 мая загадалі вярнуць нават ад Расіі і ад родзічаў на карысць Расіі ўзятыя прэзенты і грошы, то скарбовая дэпутацыя рэкамендуе парадкавым камісіям забраць і такія грошы у тых абывацеляў, якія іх маюць. Даны у Вільна на сесіі скарбовай дэпутацыі 9 чэрвеня 1794 г.

Выдана з дэпутацкага пратаколу, *Іосіф Станскі, рэгент скарбовай дэпутацыі*

*БІАНК, с. 35304, л. 167. Друк, за пячаткай.*

### *№ 80. 10 чэрвеня. Ардананс Т. Касцюшкі аб пачатку дыверсійных рэйдаў углыб акупіраваных тэрыторый*

Тадэвуш Касцюшка, Найвышэйшы начальнік нарадовай збройнай сілы

Калі ўжо зусім відавочна і галосна прускія войскі злучыліся з маскоўскімі супраць польскага народа, калі яны ужо вырашылі

ўзурпатарскім гвалтам парушыць нашыя межы і тым самым абыйсціся безумоўна па-непрыяцельску з уласнасцю Рэчы Паспалітай, калі вайна вядзецца за нашу вольнасць, цэласць і незалежнасць, а польская зямля дагэтуль сама выносіць усе наследствы нялюдскіх гвалтаў і злачыннай напасці, нам застаецца смела і рашуча пачаць і даць новы абарот нарадовай збройнай сіле. Затым даю арданaнс усім камендантам карпусоў лінейнага войска выступіць (колькі дазволіць іх пазіцыя) у межы Прусіі і Масквы і там абвясціць вольнасць і паўстанне палякаў, заклікаць прыціснуты і прыгнечаны ярмом няволі люд да злучэння намі і агульнага ўзбраення супраць узурпатараў і іх насілля. Абвясціўшы ужо паспалітае рушанне ў цэлай Польшчы і Літве, даручаю гэтым арданансам усім тым камандзірам, якія ўжо маюць якім-небудзь чынам сабраны корпус або збіраюцца яго сабраць, адразу весці ў адарваныя ад польскай Рэчы Паспалітай краі ахвотнікаў або намежны вясковы люд, які будзе ў гэты час вызвалены ад панскіх работ, а потым і далей у даўнія прускія і маскоўскія ўладанні, па ўступленні ў каторыя падаць руку дапамогі жыхарам, жадаючым вярнуцца да салодкіх свабод уласнай Айчыны або жадаючых мець вольную Айчыну.

Усім такім камандзірам загадваю па-брацку абыходзіцца асабліва з тымі, хто апынецца памочнікам нашаму намеру у імя ўласнага шчасця. Пад права здабычы будзе падпадаць толькі належачая прускаму і маскоўскаму ураду уласнасць. Імем узнятага народа, які карае сваіх здраднікаў, а абаронцаў і верных сабе вырашыў узнагароджваць, заяўляю, што кожны з тых водцаў, камендантаў нарадовай збройнай сілы і паспалітага рушання або іх намеснікі ў меру учыненай паслугі Айчыне будзе ўзнагароджаны нарадовымі маёнткамі будзь то з староствау, якія называюцца дагэтуль староствамі, альбо тымі, якія будуць публічна канфіскаваны у здраднікаў Айчыны. А паколькі гэты намер у большасці залежыць ад поспеху і хуткасці выканання, то патрабую ад усіх старацца хутчэй перанесці вайну у памянутыя краі, што можа быць паспяховей выкачана там, дзе большая частка уведзеных да нас сіл нашых

непрыяцеляў размешчана так, што іх у некаторых месцах вельмі мала, а ў іншых зусім няма і яны не маюць там свайго войска. Дня 10-га чэрвеня 1794 года ў абозе пад Кельцамі.

*Тадэвуш Касцюшка*

*БПАНК, с. 35369, л. 327-327 адв. Друк, за пячаткай.*

### № 81. 12 чэрвеня. Зварот Гродзенскай камісіі да яўрэяў павета адносна іх удзелу у паўстанні

Дэпутацыя бяспекі Гродзенскага павета у клопаце аб тым, што можа памножыць шчасце народа, якое залежыць ад узрастання ўсіх народных сіл, пастанавіла зараз выдаць загад гродзенскаму кагалу і ўсім жывучым у сваім павеце жыдам. Трэба ўжо пакончыць з забабонам, які разнастайным шляхам імкнуўся знішчыць увесь народ. Кожны сорт людзей, кожны паасобку абывацель абавязаны прыкласціся да шчасця Айчыны. Гэта ёсць абавязак нашай зямлі, а хто толькі хоча ад яго вызваліцца, той ёсць яе вораг. Паколькі ж сорт жыдоў мае шмат уладанняў, абаронены пратэкцыяй края і мае здольнасць бараніць Айчыну, і, здаецца, вылучаецца ад таго самага толькі розніцай строю (убора), якое сваёй няхайнасцю перашкаджае асабістаму імкненню да абароны, то таму загадваецца жыдам у горадзе Гродна і жывучым ва ўсім павеце цалкам адмовіцца ад свайго строю, асабліва ад накідак, пантосаў і г. д., як рэчы перашкаджаючай абароне, і абмысліць сабе убор адпаведна строю абывацеляў і жыхароў гэтай зямлі, накшталт куртак, рэйтузаў, капотаў і г. д. Па такім пераўбранні ім належыць узброіцца чым хто можа, прынамсі, шаблямі, дзідамі, агністай зброяй і станавіцца па кожнаму загаду гарадскога каменданта і парафіяльных ротмістраў на экзерцыцыі (муштру). Каб гэта хутчэй паспяхова выканаць, дэпутацыя бяспекі сурова патрабуе ад камендантаў гарадоў і парафій прасачыць за тым, каб такая рэформа была завершана на працягу тыдня ў горадзе Гродна і на працягу 2 тыдняў у цэлым павеце і дазваляе пры супраціўленні караць кожную асобу пазбаўленнем яе даўняга строю. Каб гэта патрабаванне дайшло да ведама кожнага, дэпутацыя бяспекі загадвае інтэндантам апублікаваць яго па ўсіх кагалах і прыкагалках. Даны у Гродна 12 чэрвеня 1794 г.

*Іосіф Бабінскі, камісар Гродзенскага павета*
*Іяхім Булгарын, камісар*
*Францішак Ваўкавіцкі, камісар*
*Адам Гоппэ, камісар*
*Ваўрынец Сабалеўскі, камісар*
*Ксёндз Антон Эйсмонт, камісар*
*Іосіф Шаняўскі, камісар*

Згодна з пратаколам, *Дыянісій Ракуза, сакратар дэпутацыі бяспекі Гродзенскага павета*

*БПАНК, с. 35309, л. 172. Друк. за пячаткай.*

### № 82. 12 чэрвеня. Дазвол Гродзенскай камісіі А. Казаноўскаму на вярбоўку коннага палка

Рабілася ў Гродна на сесіі ў Новым замку 12 чэрвеня 1794 года

Парадкавая камісія Гродзенскага павета, маючы ад генерал-маёра міліцыі Гродзенскага павета, палкоўніка збройнай нарадовай сілы абывацеля Андрэя Казаноўскага загад Найвышэйшага начальніка Тадэвуша Касцюшкі на вярбоўку коннага палка ў складзе таварышоў, шаранговых і стральцоў, а таксама тым жа генерал-маёрам і абывацелем Казаноўскім учыненую адозву да абывацеляў Гродзенскага павета з заклікам іх да вярбоўкі, дазваляе разаслаць гэтае прадпісанне Найвышэйшага начальніка для публічнага абвяшчэння ў парафіях і паведаміць адозву абывацеля генерал-маёра шляхце, сабранай у абозе.

*Францішак Боуфал, камісар, старшыня*
*Францішак Юндзіл, камісар*
*Тэадор Віслоцкі, супрасльскі абат і камісар*
*Пётр Пастольскі, камісар*
*Міхаіл Адахоўскі, камісар*
*Вінцэнт Сапоцка, камісар*
*Іосіф Маткевіч, камісар*
*Іосіф Зялінскі, камісар*
*Андрэй Станіслаў Эйсмонт, земскі суддзя, камісар Гродзенскага павета*

*Антон Занеўскі, камісар*
*Ксёндз Антон Эйсмонт, камісар*
*Феліцыян Адланіцкі Пачобут, камісар*

Згодна з пратаколам, *Леапольд Ліпніцкі, сакратар парадкавай камісіі Гродзенскага павета*

*БПАНК, с. 35314, л. 179. Друк, за пячаткай.*

### № 83. 12 чэрвеня. Адозва А. Казаноўскага да шляхты Гродзенскага павета аб яе вярбоўцы у конны полк

Андрэй Казаноўскі, генерал-маёр міліцыі Гродзенскага павета, палкоўнік літоўскай нарадовай збройнай сілы

Найвышэйшы начальнік нарадовай збройнай сілы, жадаючы з усіх крыніц умацаваць край ахвочым салдатам, пры выдачы мне патэнтаў, спачатку на палкоўніка нарадовай збройнай сілы, а потым на генерал-маёра міліцыі Гродзенскага павета, учыніў адозву да кахаючых дабро народа абывацеляў і кліча усіх вас міласцю Айчыны усімі сіламі дапамагчы мне, ніжэй падпісанаму, як мага хутчэй выставіць полк коннай міліцыі Гродзенскага павета. Упэўнены, што пасля чытання гэтай адозвы вы не расчаруеце сваёй стараннасцю сімпатый Найвышэйшага начальніка, які спадзяецца, што сярод вас няма такога, хто б не пажадаў засіліць спамянуты полк, фарміруемы тут, у Гродна, асабіста сам з канём і уборам, або не паставіў у яго абмундзіраваных людзей на канях, або шляхам складкі сукна, палатна, грошай і ўсяго таго, што можна мець. Такія не толькі будуць упісаны у кнігу ахверванняў святлейшай парадкавай камісіі Гродзенскага павета, але, больш таго, па адасланні Найвышэйшаму начальніку спіса ахвяравальнікаў, трапяць у яго памяць для падзякі. Акрамя таго, кожны стаўшы у гэты полк з канём або паставіўшы у яго конных людзей з абмундзіраваннем, атрымае ад святлейшай парадкавай камісіі Гродзенскага павета квітанцыю з вызваленнем ад паспалітага рушання, а тым самым пакіне па сабе абавязак вечнай падзякі высокародных суайчыннікаў. Рабілася ў Гродна 12 чэрвеня 1794 г.

Андрэй Казаноўскі, генерал-маёр міліцыі Гродзенскага павета, палкоўнік нарадовай збройнай сілы

*БПАНК, с. 35315, л. 180. Друк, за пячаткай.*

***№ 84. 13 чэрвеня. Інструкцыя Гродзенскай камісіі аб паборы на мастах і пераездах***

Парадкавая камісія Гродзенскага павета, у адпаведнасці з тымі абавязкамі, якімі яна павінна займацца у сваіх чыннасцях, прыступае да складання інструкцыі аб мастах Гродзенскага павета з вызначэннем цаны ад праязджаючых. Кіруючыся тым, што такія масты пастаўлены на віцінах абывацеляў, а таксама з улікам таго, што ў цяперашні час шмат абывацеляў заняты публічнай службай і вымушаны зносіцца з камісіяй і камендантамі Гродна, яна вызначае ад усіх наступную цану.

Ад пешага – нічога, ад чалавека на кані – 1 грош

Ад каня з возам прадуктаў – 2 грошы

Ад каня ў паяздах – 3 грошы

Ад каня у брычцы з купецкім грузам – 8 грошай

Ад каня з пустой купецкай брычкай – 2 грошы

Ад запрэжанага паштовага каня – 4 грошы

Пры вяртанні коней назад без паклажы – бясплатна. Заўвага: нічога не трэба плаціць за жывёлу, якая прыводзіцца для спажывання ў Гродна, акрамя праводзячых яе на гандаль праз горад Гродна, а менавіта:

Ад вала і каровы – 2 грошы

Ад барана, аўцы і казы – 1 грош

Ад вепра – 1 грош

За пропуск віціны праз мост – 3 злотых

Ад плыта з гандлёвым дрэвам – 10 грошай

Заўвага: не плоцяць з плытоў, ідучых на ацяпленне ў Гродна

Такая інструкцыя падаецца эканамічнай адміністрацыі за правіла пры паборы з двух мастоў на р. Нёман і вельмі моцна загадваецца нічога не браць бясплатна. Выкананне такой інструкцыі пачынаецца з 1 ліпеня бягучага года па згодзе пленума камісіі. Рабілася ў Гродна на сесіі ў Новым замку 13 чэрвеня 1794 г.

*Францішак Боуфал, камісар, старшыня*

*Тэадор Віслоцкі, супрасльскі абат, камісар*

*Адам Эйсмонт, камісар*

*Іосіф Зялінскі, камісар*
*Барталамей Палонскі, камісар*
*Ваўрынец Сабалеўскі, камісар*
*Пётр Пастольскі, камісар*
*Філіп Міхалкевіч, камісар*
*Ян Камінскі, камісар*
*Ян Сакалоўскі, камісар*
*Адам Гоппэ, камісар*
*Сухадолец, камісар*
*Ян Ясінскі, камісар*
*Тадэвуш Андрэйковіч, камісар*
*Іпаліт Ваўкавіцкі, камісар*
*Андрэй Мальчэўскі, камісар*

Пётр Манюшка, *рэгент парадкавай камісіі Гродзенскага павета*

*БПАНК, с. 35316, л. 181. Друк. за пячаткай.*

### № 85. 14 чэрвеня. Універсал Варшаўскай рады аб паступленні з жабракамі

Найвышэйшая нарадовая рада, пільна назіраючы за тым, каб скарыстаць на працу і карысныя паслугі краю той люд, які жыве адным лайдацтвам і валацужніцтвам, і з гэтага часта займаецца шпіёнствам на карысць ворага тады, калі ўвесь край заняты агульнай абаронай і пакананнем непрыяцеля ў сваіх граніцах, вельмі цвёрда загадвае ўсім парадкавым камісіям Кароны і ВКЛ і магістратам вольных гарадоў пастарацца як мага хутчэй выканаць тыя даўнія ўніверсалы і распараджэнні камісіі паліцыі абодвух народаў, якія ўстаноўлены яшчэ канстытуцыйным сеймам адносна лёзных, валацугаў і жабракоў і сапраўды пакалечаных. Ім загадваецца забіраць валацугаў і лайдакоў у рэкруты рэгіментаў або ў карысную для края працу, жабракоў жа і калек здаваць у шпіталі і там заняць па магчымасці кожнага калекі працай, прыдатнай для раненых салдат або вайсковых патрэб. З гэтага вынікае патрэба і ў тым, каб ніхто з жыхароў ва ўсім краі, як у гарадах, так і ў вёс-

ках, корчмах, на трактах і малых дарогах, не прапушчаў нікога з ідучых або едучых рознага тыпу , стану і пола людзей лёзных і валацугаў без пашпартоў урада, ваенных камендантаў, парадкавых камісій, магістратаў гарадоў з выражэннем у іх імя, прозвішча, адкуль і куды, за якім інтарэсам і якім трактам ідзе асоба. А калі здарыцца, што нехта ідзе або без пашпарта, або з падазроным ад урада пашпартам, тады кожны абывацель і жыхар абавязаны адаслаць такога ў парадкавую камісію і магістрат горада, а тыя, пасля следства, здаць у вайсковую каманду або крымінальны суд, калі ў гэтым узнікне патрэба. Паколькі ў цяперашні час шмат залежыць ад дакладнай інфармацыі ўрада аб насельніцтве ўсяго края ў гарадах і вёсках, то парадкавым камісіям разам з магістратамі ўсіх гарадоў Кароны і ВКЛ загадваецца перапісаць гэтае насельніцтва з дапамогай вотчыннікаў і пасэсараў гарадоў і вёсак па далучанай схеме, а затым адаслаць атрыманыя ведамасці з кожнай парадкавай камісіі і кожнага магістрата ў Найвышэйшую нарадовую раду. Хуткае і дакладнае выкананне ўсяго гэтага разам з наглядам за яго рэгулярнай экзекуцыяй, Найвышэйшая нарадовая рада даручае ўсім парадкавым камісіям, магістратам гарадоў у Кароне і ВКЛ, а таксама асобна Цэнтральнай дэпутацыі ВКЛ. Даны на сесіі Нарадовай рады у Варшаве 14 чэрвеня 1794 г.

*Ігнацій Патоцкі, прэзідэнт*

Томаш Чэх, *сакратар Найвышэйшай нарадовай рады*

*БПАНК, с. 35317, л. 182-182 адв. Друк, за пячаткай.*

### № 86. 14 чэрвеня. Універсал Варшаўскай рады аб увядзенні скарбовых заручэнняў за пастаўку прадуктаў

Найвышэйшая нарадовая рада, жадаючы задаволіць гвалтоўныя і значныя патрэбы пры абароне зямлі і вольнасці Айчыны, а таксама аддзячыць і забяспечыць дбайнасць абывацеляў у іх жаданні аддаць у распараджэнне ўрада мясцовыя прадукты, пастанаўляе, што да той пары, пакуль не набярэцца дастаткова краёвай манеты, скарбовы аддзел будзе выдаваць скарбовыя заручэнні па запытах іншых аддзелаў адносна сум за пастаўкі

абывацелямі прадуктаў і розных патрэб за подпісамі іх старшыняў або не меней як аднаго намесніка. Старшыня скарбовага аддзела абавязаны кожны тыдзень паведамляць у Раду аб колькасці такіх выдач, падпісаных разам старшынёй і яго намеснікам. Такія заручэнні скарб прынімае з умовай, што яны будуць на суму у 3000 злотых, мець годнасць і курс краёвай манеты, заручацца подпісамі кожнага ўласніка, выплатамі з падатковых набораў або будучым выкупам нарадовых уладанняў. Гэтыя заручэнні будуць адразу ж выменьвацца пры памнажэнні ў касах краёвай манеты і скарбовых даходаў за 4 працэнты ад 100 у год, які захоўваецца і разлічваецца ўласнікам прапарцыянальна часу ад моманту выдачы заручэнняў аж да звароту іх у скарб. Даны у Варшаве на сесіі Рады 14 чэрвеня 1794 г.

*Ігнацій Патоцкі, прэзідэнт*

Томаш Чэх, *сакратар Найвышэйшай нарадовай рады*

*БПАНК, с. 35318, л. 183. Друк, за пячаткай.*

***№ 87. 14 чэрвеня. Вызваленне Гродзенскай камісіяй шляхты ад паспалітага рушання за вярбоўку у полк Казаноўскага***

Рабілася ў Гродна на сесіі ў Новым замку 14 чэрвеня 1794 г.

Парадкавая камісія Гродзенскага павета, выконваючы загад Найвышэйшага начальніка аб аказанні ўсякай дапамогі абывацелю Казаноўскаму пры камплектаванні рэкрутамі палка конных валанцёраў, цяперашняй сваёй рэзалюцыяй пастанаўляе, што той абывацель, які зараз абавязаны па арданансу галоўнакамандуючага абывацеля Ясінскага стаць у паспалітае рушанне, пажадае запісацца ў той полк, тады запіс у такую службу замяніць абавязак яўкі ў паспалітае рушанне, а павятовы генерал-маёр, абывацель Ельскі будзе даваць распіскі кожнаму, хто прад'явіць пасведчанне ад павятовага генерал-маёра, абывацеля Казаноўскага ў тым, што ён сапраўды запісаўся да яго палка або выставіў пасля 14 чэрвеня заступцу у паспалітае рушанне замест сябе на моцы выканання загаду аб яўцы у паспалітае рушанне. Абывацель Ельскі тым лепш управіцца з даручэннем Найвышэйшага начальніка,

чым старанней яму дапаможа кожны абывацель у рэкрутаванні памянутага палка. А для гэтага парадкавая камісія Гродзенскага павета загадвае абывацелю Казаноўскаму паведаміць аб колькасці сапраўды наяўных у яго палку асоб. Даны як вышэй.

*Францішак Боуфал, камісар, старшыня*

*Андрэй Эйсмонт, земскі суддзя і камісар Гродзенскага павета*

*Мацей Корн, гродскі суддзя, камісар*

*Станіслаў Кулікоўскі, камісар*

*Тэадор Віслоцкі, камісар*

*Тадэвуш Александровіч, камісар*

*Іосіф Круповіч, камісар*

*Ян Камінскі, камісар*

*Станіслаў Завістоўскі, камісар*

*Ян Сакалоўскі, камісар*

*Францішак Ваўкавіцкі, камісар*

*Ян Ясінскі, камісар*

*Іосіф Лабенскі, камісар*

*Адам Гоппэ, камісар*

*Станіслаў Ключэўскі, камісар*

*Іосіф Зялінскі, камісар*

*Іосіф Шаняўскі, камісар*

Пётр Манюшка, *рэгент парадкавай камісіі Гродзенскага павета*

*БПАНК, с. 35320, л. 186. Друк, за пячаткай.*

## № 88. 15 чэрвеня. Увядзенне Гродзенскай камісіяй прымусовага вырабу палатна яўрэйкамі

Рабілася на сесіі 15 чэрвеня 1794 г. у замку Гродна

Дэпутацыя забеспячэння парадкавай камісіі Гродзенскага павета, у клопаце аб усім тым, што толькі патрабавацца можа для войска і жадаючы забяспечыць свае магазіны усімі магчымымі рэквізітамі, міласцю Айчыны абавязвае гэтым наказам магістрат вольнага горада Гродна зараз жа склікаць старэйшын гродзенскага кагала з тым, каб яны абавязалі нічым не занятых жанчын зрабіць

набойкі і бандажы са старога палатна. Да такой працы на Айчыну належыць прыцягнуць і жанчын каталіцкай рэлігіі. Дэпутацыя забеспячэння не сумняваецца ў стараннасці асоб магістрата, як і ў тым, што для задавальнення гэтай просьбы яна скарыстае столькі сродкаў, што ніводная абывацелька рознай рэлігіі не захоча адмовіцца ад гэтак слаўнай паслугі. Даны як вышэй.

*Станіслаў Завістоўкі, камісар, старшыня*

*Ян Камінскі, камісар*

*Іосіф Лабенскі, камісар*

Згодна з пратаколам, *Фелікс Імбра, сакратар парадкавай камісіі Гродзенскага павета*

*БПАНК, с. 35321, л. 187. Друк, за пячаткай.*

### № 89. 15 чэрвеня. Універсал Гродзенскай камісіі аб адмене пастаўкі кантаністаў з 25 дымоў

Парадкавая камісія Гродзенскага павета абвяшчае ўсім сваім абывацелям, маючых пад якім-небудзь тытулам пасэсіі ў павеце, што яна абавязвала даставіць у лінейнае войска пешых рэкрут з кожнага 5 дыма і кантаніста з кожнага 25-га ў адпаведнасці з універсаламі Тымчасовай літоўскай рады. Зараз жа яна атрымала загад Найвышэйшага начальніка нарадовай збройнай сілы пад датай 30 мая бягучага года аб скасаванні ўклада Літоўскай рады і згодна з гэтым загадам пастанаўляе пад суровай экзекуцыяй даставіць пешага рэкрута з пікай, касой і сякерай з 5 дымоў з тых месц, адкуль ён яшчэ не дастаўлены. Кантаністаў жа з 25 дымоў даваць не трэба. За ўласнікамі захоўваецца права звароту выдадзеных ім грошай і ўсіх выкананых на іх выдаткаў. Замест 50 -дымовага належыць выставіць аднаго чалавека на добрым кані з аброццю, узброенага палашом з чорнай скуранай ручкай , пісталетам, пікай і харугаўкай, афарбаванай папалам зялёным і пунсовым колерам, з шапкай з шэрага самаробнага сукна і ў мундзіры з зялёнага сукна. Яго абмундзіраванне будзе састаяць з суконных штаноў, плеценых чаркесак, самаробнай шэрай суконнай курткі з зялёнымі абшлагамі, палатнянага кафтана, зялёнай шапкі, абкладзенай замест цыгейкі чорным сукном, добрых ботаў

са шпорамі, 2 кашуль, плеценай торбы з вісячымі зялёнымі краямі, і чорнага скуранага патранташа.

Тэрмін пастаўкі гэтага ўзброенага чалавека на кані вызначаецца не далей 2 тыдняў. Каб распараджэнне Найвышэйшага начальніка тычылася аднолькава ўсіх абывацеляў, камісія загадала сваёй дэпутацыі забеспячэння зрабіць і разаслаць у парафіі класіфікацыю дымоў разам з іх злучэннем. Аднак камісія папярэджвае ўсіх пасэсараў аб тым, што пастаўка з 50 дымоў коннага ўзброенага чалавека не вызваляе ад дастаўкі пешага рэкрута з 5 дымоў. Даны у Гродна на сесіі 15 чэрвеня 1794 г.

*Францішак Боўфал, камісар, старшыня*
*Андрэй Эйсмонт, камісар*
*Іосіф Зялінскі, камісар*
*Барталамей Палонскі, камісар*
*Ваўрынец Сабалеўскі, камісар*
*Пётр Пастольскі, камісар*
*Францішак Міхалкевіч???, камісар*
*Тадэвуш Андрэйковіч, камісар*
*Ян Сакалоўскі, камісар*
*Іосіф Круповіч, камісар*
*Ян Ясінскі, камісар*
*Ігнацій Шаняўскі, камісар*
*Ежы Ліпніцкі, камісар*
*Міхаіл Барэцкі, камісар*
*Ян Канопка, камісар*

Леапольд Ліпніцкі, *сакратар парадкавай камісіі Гродзенскага павета*

*БПАНК, с. 35322, л. 188. Друк, за пячаткай.*

### № 90. 15 чэрвеня. Загад Гродзенскай камісіі аб пастаўцы касінераў з павета

Дэпутацыя забеспячэння парадкавай камісіі Гродзенскага павета атрымала ад генерал-маёра міліцыі Гродзенскага павета абывацеля Ельскага паведамленне, што дастаўленыя да гэтага часу рэкруты у большасці ўзброены пікамі, тады як універсалы

камісіі патрабуюць у роўнай колькасці рэкрут з косамі. Ардананс генерал-лейтэнанта Хлявінскага дамагаецца ад павятовага генерал-маёра вялікай колькасці касінераў. Таму, на моцы спамянутага ардананса і сваіх першых універсалаў, дэпутацыя забеспячэннея загадвае ўсім абывацелям, якія не даставілі да сягонняшняй даты належных рэкрут, паставіць іх ужо не з пікамі, а ўзброенымі косамі. Каб дабіцца хуткага выніку у выкананні гэтага загаду, пастанаўляецца разаслаць яго праз крэсы у парафіі і пад суровай карай загадваецца апублікаваць з амвонаў. Даны у Гродна 15 чэрвеня 1794 г.

*Шыман Завістоўскі, камісар, старшыня*

*Мацей Корн, гродзенскі абат і камісар*

*Іосіф Лабенскі, камісар*

*Барталамей Палонскі, камісар Гродзенскага павета*

Фелікс Імбра, *сакратар парадкавай камісіі*

*БПАНК, с. 35323, л. 189. Друк, за пячаткай.*

**№ 91. 16 чэрвеня. Рэзалюцыя Варшаўскай рады аб адкрыцці актаў зямянскіх судоў**

Найвышэйшая нарадовая рада са спагады да абывацельскіх патрэб у час кантрактавых з'ездаў, судаводства якіх дагэтуль застаецца прыпыненым актам паўстання народа, пажадала для выгод абывацеляў адчыніць усе мясцовыя зямянскія і гродскія акты і прынімаць у іх не ўсе здзелкі, а толькі тыя, якія тычацца спадчын, рухомай і нерухомай маёмасці. Яна дэкляруе аб гэтым з умовай, што продаж уладанняў або накапленне даўгоў асобамі, якія акажуцца вінаватымі, не прадастаўляе бяспекі ні пакупнікам маёнткаў, ні пазычаючым сумы. Дазор за гэтым даручаецца зямянскім і павятовым парадкавым камісіям згодна з прадпісанай ім арганізацыяй. Тым жа камісіям дазваляецца вярнуць актавых зямянскіх пісараў, выбраных на моцы канстытуцыйнага сейма, там, дзе яны яшчэ не вернуты. Даны у Варшаве на сесіі Рады 16 чэрвеня 1794 г.

*Ігнацій Патоцкі, прэзідэнт*

Томаш Чэх, *сакратар Найвышэйшай нарадовай рады*

*БПАНК, с. 35324, л. 190. Друк, за пячаткай.*

***№ 92. 17 чэрвеня. Зварот Варшаўскай рады да жыхароў Кароны і ВКЛ адносна дэкларацый Пецярбурга ў адрас сялян***

Найвышэйшая нарадовая рада да абывацеляў Польшчы і Літвы з нагоды маскоўскіх дэкларацый

У апошнія дні мая месяца бягучага года выйшлі бессаромныя дэкларацыі генералаў маскоўскай царыцы князя Рэпніна і Сяргея Галіцына пры уступленні яе войск у літоўскія і польскія межы Некалькі год пры уваходжанні ў польскі край Масква пастаянна апярэджвае свой наезд паўтарэннем закаранелай хлусні. Уласна тады, калі ўвесь народ пад начальствам Тадэвуша Касцюшкі скідае з сябе ярмо гарантыі, альянса і няволі, маскоўскія генералы называюць у сваіх дэкларацыях законнае паўстанне народа бунтам, аб'яўляюць патрыётаў Айчыны яе здраднікамі, выдаюць за бунтаўніцкія крокі слаўныя ўчынкі горада Вільна і асабліва Варшавы, дзе міністрам імператрыцы былі знішчаны нарадовыя правы. Сапраўды, ці можа Масква называць бунтаўнікамі незалежных палякаў, якія не падданыя яе? Няўжо Маскве прыстала абвінавачваць польскі народ за ўскладзеную на яго здраду, папіраючы гвалтам самой жа ёй навязаныя Польшы, абрыдлыя народу і абураючыя ўсю Еўропу трактаты?

Прысланыя царыцай у Польшу паслы нібы ураднікі ў сваіх уласных вотчынных краях былі дагэтуль не пасрэднікамі міра паміж двума народамі, а хутчэй прыладамі яе дэспатызма. Хіба можа яна апеляваць да права народаў, якое ні ў якім разе не служыць знешнім узурпатарам, якое нідзе не дазваляе пад якой-будзь назвай пазбаўляць і знішчаць галоўнага права кожнага народа унутраным або знешнім тыранам? Аднак не дастаткова паказаць у памянутых дэкларацыях фальшывасць выразаў, якімі карыстаецца Масква для ачарнення народа і прыхарошвання сваёй помсты. Сапраўднай мэтай гэтых дэкларацый з'яўляецца крывадушнае імкненне паканаць у Польшы абывацельскія пачуцці, патрыятычны запал і нарадовую сілу. Масквіцянін добра ведае, што народ, які хоча быць цалкам вольным, павінен быць вольным. Ведае гэта і шматлікае войска дэспатызма. Яму не ўдалося пераканаць народ, які ўзяўся за зброю, а таму ён хітра кліча адну частку народа да

пакою, каб лепш уціснуць увесь яго цалкам.

Затым ён абяцае ў сваіх гнюсных дэкларацыях бяспеку усім жывучым у сваіх дамах абывацелям, ахову і абарону войска царыцы. Менавіта такое абяцанне ўжо раздавалася ў духу здрады убогім сялянам. Гэтак жа і два гады таму пры скасаванні Канстытуцыі 3 мая, даўшы народу абяцанкі, Масква не толькі зламала іх, але нават саміх таргавіцкіх павадыроў, сваіх паслугачоў, выставіла на згубу Польшчы, на страты, сорам і роспач. О вы, сяляне, якім агульны вораг абяцае бяспеку у земляробстве і пакой у гаспадарцы. Як жа можаце вы давяраць падобным абяцанням спагады у час вайны, людскасці свавольнага ворага, які рабуе вашы пажыткі і нішчыць ваш здабытак, пераўтварае ў попел вашы халупы? Хіба можаце вы разлічваць на абяцанні вашай спакойнай працы, калі яе прадукт, жніво апрацаванай вамі зямлі паглынае масквіцянін? Як жа можаце вы паверыць у абецаны вам пакой ад таго насільніка, як сам спрадвек не ведае спакою і безупынна нападае? Спытайце хаця б яго ўласных салдат і казакоў, якія шмат гадоў не мелі спакойнай хвіліны. Маскалі абяцаюць вам паляпшэнне стану тады, калі ў свеце няма суровейшай няволі больш той, у якой ён трымае земляробчы люд, якога прадаюць на рынку нібы быдла.

Няхай ні шляхта, ні вясковы люд не памыляюцца ў фальшывыя спадзяванні маскоўскіх дэкларацый. Масква кліча да гнюснасці, а Айчына – да чыннай справы. Спакойную гаспадарку абяцае хлусьлівая Масква, а наш урад заручыўся раз і назаўсёды забяспечыць усім станам плён іх працы і гаспадаркі. Маскоўскія дэкларацыі хочуць насадзіць найцяжэйшую ў Еўропе няволю ўрада, а народовае паўстанне пад начальствам Тадэвуша Касцюшкі ўсім жыхарам Рэчы Паспалітай рыхтуе вольнасць права. Нарэшце, маскоўскія дэкларацыі імкнуца раскалоць і аслабіць абывацеляў, а польскі ўрад заклікае палякаў да адзінства і агульнай абароны. Абывацелі! Ці не варта тады лепш паверыць вашым адзіназемцам і абаронцам, вашым братам, чымсці знешнім гвалтаўнікам, ворагам польскага імя і польскага роду? Даны 17 чэрвеня 1794 г.

*Тадэвуш Дэмбоўскі, старшыня*

Томаш Чэх, *сакратар Найвышэйшай нарадовай рады*

*БПАНК, с. 35346, л. 293-294.*

***№ 93. 17 чэрвеня. Заклік Гродзенскай камісіі жыхароў павета да дабраахвотнай пастаўкі рэчаў і прадуктаў на мэты паўстання***

№ 6. Скарбовая дэпутацыя Гродзенскага павета

Абывацелі! Пры цяперашнім стане нашай Айчыны кожны абывацель павінен прычыніцца да лёсу ашчасліўлення народа. Гэтак жа сама, як не ёсць абывацельскай справай ухіляцца ад дапамогі, роўна так жа слаўным сынам не належыць набываць тую няславу на лона сваёй Айчыны. Скарбовая дэпутацыя нават сумнявацца не можа ў абывацелях павета, якія ўжо даказалі стараннасць у аказанні дапамогі, далі поўны доказ прыязнейшых клопатаў абывацеляў да сваёй Айчыны. А таму яна смела звяртаецца да вас і на міласць бога, Айчыны і вас саміх просіць, каб вы, ведаючы аб паражэннях свайго народа, не ўхіляліся даваць патрэбныя ахвераванні (колькі хто здольны) і дапамогу на ратунак заклікаючай Айчыны. Асабліва гэта адносіцца да патрэбы у фарміраванні коннага палка пад камандай генерал-маёра міліцыі Гродзенскага павета, абывацеля Андрэя Казаноўскага, упаўнаважанага на гэта патэнтам Найвышэйшага начальніка Тадэвуша Касцюшкі.

Паколькі даходы Гродзенскага павета з-за сваёй шчупласці не могуць задаволіць гэту гвалтоўную патрэбу, то самым уласцівым спосабам для гэтага дэпутацыя абрала рашэнне завесці спецыяльны пратакол ахвераванняў, заклікаць і пазваць абывацеляў да запісу на гэту патрэбу ахвяр,або сукна, скур, ружжаў, палатна, гузікаў, прадзіннага гаруса, малых і вялікіх засцежак, шабель, карабінаў, пісталетаў, шпор, жалезных мушкетаў і стрэмян, свідраваных дрэўцаў для патранташаў, цвікоў рознага гатунку, жалеза, войлака, намётаў, кацялкоў, сякер, лапат, вазоў пад амуніцыю і багажы, труб, коней, вупражу, шырокіх лент і вяровак, жалезных і жоўтых блях, абозных канатаў і г. д. Усе тыя пазначаныя рэквізіты неадольна патрабуюцца на фарміраванне спамянутага коннага палка. Усё гэта скарбовая дэпутацыя давярае вашай абывацельскай старанасці, вашай дбайнасці і спадзяецца на абывацельскі клопат аб дабры Айчыны. Не шкадуйце, абывацелі,

такіх ахвераванняў, без якіх немагчыма ўтрымаць ні вольнасці, ні жыцця, калі ад агульнага ратунку залежыць існаванне і вольнасць народа, бо інакш не толькі маёнткі, але і жыццё наша дастануцца абрыдламу дэспатызму. Дайце на засіленне моцы Айчыны тое, што ў вас звыш патрэбы маецца. Дайце добраахвотна, інакш вораг забярэ у вас сілай і дарма. Такі ўніверсал загадана раздрукаваць, разаслаць праз курсоры па касцёлах і пад страхам экзекуцыі абвясціць плябанам рознага абрадку. Рабілася ў Гродна на сесіі 17 чэрвеня 1794 г.

*Францішак Боуфал, камісар, старшыня*

*Ксёндз Тэадор Вісloцкі, супрасльскі абат і камісар*

*Ян Сакалоўскі, камісар*

*Ян Канопка, камісар*

*Іосіф Зялінскі, камісар*

*Пётр Пастольскі, камісар*

*Вінцэнт Садлуцкі, сакратар скарбовай дэпутацыі Гродзенскага павета*

*БПАНК, с. 35327, л. 195. Друк, за пячаткай.*

### № 94. 18 чэрвеня. Заява Гродзенскай кантрыбуцыйнай камісіі жыхарам

Універсал кантрыбуцыйнай дэлегацыі да ўсіх абывацеляў і жыхароў Гродзенскага павета

Успомніце, абывацелі, жудасны дзень 5 мая. Вораг Айчыны загадаў гораду Гродна выплаціць на працягу адной гадзіны 130000 польскіх злотых, прыгразіўшы за невыплату кантрыбуцыі пазбавіць жыцця ўсіх абывацеляў, забраць рухомую маёмасць і спаліць агнём акружаны горад. У такім няшчасным становішчы, калі сэрца тырана не мела літасці, яму у той час гатовы былі аддаць усю маёмасць для захавання свайго жыцця. Вораг задаволіўся узятымі з горада 130 тыс. злотымі, 30 брычкамі і 60 каньмі. Жыццё і маёнткі абывацеляў, увесь горад былі ўратаваны ад руіны. Горад вельмі павінен аддзячыць суабывацелям братам, якія скаліся на кантрыбуцыйную суму. Ён гэтак жа абавязаны вярнуць ім.

Абывацелі браццяǃ Гэты няшчасны лёс адвешаны гораду таргавіцкім і гродзенскім спісам. Паколькі гэты сумны від няшчасця

крануўся жыцця і маёмасці кожнага абывацеля горада Гродна, то кожны павінен без усякага выключэння прыкласціся часткай свайго маёнтка ў прапорцыю знішчэння цяжара. З гэтай мэтай дэпутацыя праз магістрат горада Гродна вызначыла 12 асоб з кожнага стана для раскладу, якім чынам і з якіх крыніц можна пакончыць з гэтым цяжарам. Прыступаючы да даручанай сабе справы, яна загадвае і абавязвае ўсіх духоўных, грамадзянскіх, муніцыпальных і старасцінскіх абывацеляў горада Гродна найпершым жа днём рапартаваць у дэпутацыю па наступнай схеме.

1. Кожны вотчыннік палацаў, камяніц, дамоў, арандатар, застаўнік або ўпраўляючы жыхар любога стану, таксама маркграфы замка Рэчы Паспалітай абавязаны пісьмова паказаць колькасць галоў людзей абодвуга пола, малодшага і старэйшага ўзросту з іх імёнамі і прозвішчамі, якія знаходзіліся на момант непрыяцельскага аблажэння, гэта значыць 5 мая, а гэтыя лісты абавязаны падпісаць кожны гаспадар дома. Трэба зважыць на людзей за горадам на гарадніцтве і на другіх асадах за Нёманам. Усе ксяндзы і манашкі кляштараў таксама паведамляюць пра насельніцтва духоўных і свецкіх галоў.

2. Кожны абывацель, валадар палацаў, камяніц, дамоў, бровараў, магазінаў, адсутны ці жывучы у іх арандатар, застаўнік і маючы нагляд паведамляе за сваім подпісам пра памеры забудоў з агародамі, на якой яны вуліцы і пад якім нумарам.

3. Кожны уласнік палацаў, камяніц, дамоў з мэбляй, бровараў з катламі, магазінаў, карчэм паведамляе за сваім подпісам пра сапраўдную вартасць іх на гэты час. Калі б хто з уласнікаў сваіх дамоў у Гродна адсутнічаў да дня такога рапарта, тады іх апісваюць і даносяць жывучыя. Хто не пажадае падаць гэтай дакладнай ведамасці, будзе пакараны штрафам у 500 злотых, а дэпутацыя сама вызначыць кошт вартасці. Пры гэтым яна асцерагае, што яна сама палічыць вартасць, калі тая не будзе адпавядаць цяперашняму часу.

4. Хрысціяне купцы, якія трымаюць кампаніямі склепы рознага гандлю, а старазаконныя, адны з якіх маюць крамы і лаўкі ў ратушы, другія пры тых склепах, а астатнія па-за ратушай і

па дамах, падаюць сапраўдную і агульную ацэнку складу сваіх тавараў пісьмом і за сваім подпісам.

5. Замежные абывацелі, якія павінны сваім пастароннім крэдыторам заручаныя сумы, павінны паказаць памеры гэтых сум і які працэнт плоцяць.

6. Тыя абывацелі, якія не маюць у горадзе Гродна ўласных дамоў, а жывуць па каморах, пазыкай сум пад працэнты або на векселі, павінны паказаць увесь свой рэальны фундуш.

7. Усе афіцыялісты, жывучыя ў Гродна на плату са скарба Рэчы Паспалітай, таксама маркграфы дамоў і іншыя пасэсары падаюць лісты сваіх пенсій са сваім подпісам адпаведна сваіх абавязкаў.

8. Кожны духоўны, свецкі і старазаконны абывацель павінен паказаць у рэестры розную рухомасць пад час непрыяцельскай аблогі, грошы ад пастаронніх абывацеляў у касцёлах, кляштарах, палацах, камяніцах, дамах, у жыдоўскай школе з тлумачэннем, чыіх асоб яны былі.

9. Усе духоўныя, свецкія і старазаконныя абывацелі, якія пад час таргавіцкага і гродзенскага сеймаў бралі грошы за наём станцый, склепаў, стайняў і варыўняў, паведамляюць на лісце за асабістым подпісам аб атрыманым прыбытку без уліку аддадзеных кватэрных.

10. Касцёлы вызваляюцца ад усякай платы, а дэпутацыя сама разбярэцца з вартасцю кляштараў пры спецыфікацыі.

11. Гродзенскі магістрат, меўшы асобна ад ратушы свае даходы у дзень агульнага няшчасця, міласцю публічнага дабра абавязаны падаць пісьмовую спецыфікацыю аб вартасці прыходаў ад склепаў.

12. Дэпутацыя не можа выключыць з-пал цяжару выплаты мэблі і рознай будоўлі замкаў Рэчы Паспалітай, як уцалелых ад руіны і знішчэння непрыяцелем, а таму вызначыць іх асобнай прапорцыяй пры агульным раскладзе і класіфікацыі.

13. Кожны духоўны, цывільны і старазаконны пан павінен падаць імёны і прозвішчы сваіх слуг, а кожны купец, рамеснік, аптэкар і любы абывацель, трымаючы майстэрню, паказаць на

лісце за сваім подпісам сваіх таварышаў і чэлядзь разам з тым, колькі ім плоціцца гадавой або месячнай пенсіі.

14. Урачы, хірургі і цырульнікі падаюць рапартам свае імёны.

15. Кожны уласнік дома паказвае ў спецыфікацыі за сваім подпісам, колькі ён мае прыходу ад наймальнікаў, прыезжых і гадавых каморнікаў за кватэру.

16. Мануфактурная кампанія гродзенскай фабрыкі паказвае агульны склад сваіх тавараў, матэрыялаў, варштатаў на дзень 5 мая з агульнай справядлівай таксай, таксама вартасць забудоў, грашовы даход ад пакаморнага, колькасць афіцыялістаў, якая ім выдаецца пенсія. Гэтак жа аптэкары паказваюць кошт усякіх медыцынскіх матэрыялаў, а друкарні і кнігарні – сваіх складоў.

17. Залатары, калі яны мелі ў рабоце срэбра абывацеляў у няшчасны час, таксама ювеліры і гадзіншчыкі паказваюць колькасць і вартасць гадзіннікаў і брыліянтаў і якіх абывацеляў.

18. Кожны рамеснік пакажа, колькі ён са свайго рамяства можа мець пэўнага фундуша.

19. Гродзенскія паборцы солі, гарэлкі, сялёдкі і іншых рэчаў паказваюць памеры усяго гэтага на сваім складзе разам з цаной і паведамляюць дэпутацыі.

20. Усе жа тыя, хто трымае ў прыватных дамах лікёры, каву, пуншы, сіропы, шакалад, сахар, гарэлку, віны, таксама купцы без урадаў, шынкары, пекары, цырульнікі, цукернікі, агароднікі, канязоды і рамізнікі, хрысціяне і жыды, якія займаюцца фурманствам, рэзнікі, рыбаловы, перакупшчыкі, маючыя прыбытак, усе яны павінны паказаць на пісьме і за подпісам свой фундуш.

21. Гувернёры, прафесары французскай і нямецкай мовы, мэтры, якія вучаць на інструментах сваіх вучняў, таксама маляры павінны з подпісам імя і прозвішча паказаць на лісце свае гадавыя або месячныя фундушы.

22. Жыды, якія бяруць пенсіі з кагалаў, таксама тыя, хто мае пасагі сваіх дзяцей, павінны паведаміць аб памеры такіх сум.

23. Дазорцы кагальных даходаў падаюць спецыфікацыю аб працэнтах і колькі іх кагал заплаціў сваім крэдыторам за подпісам кагальных жыдоў.

Дэпутацыя ўпэўнена, што кожны абывацель не абразіцца падаць верны рапарт па прадпісанай класіфікацыі з погляду на тое няшчасце, з якога ён вырваны для задавальнення гэтак важнай справы, якое захавала яго жыццё і маёмасць. Не дакарайце, абывацелі, на цяжар тады, калі ў няшчасны час вы рашылі аддаць ворагу увесь свой маёнтак для выкупу уласнага жыцця. У цяперашнім часе не належыць скупіцца на аддачу часткі для ліквідацыі цяжару. Абавязкам дэпутацыі будзе даглядаць як за істотай, так і караць штрафам у 500 злотых у кантрыбуцыйную скрынку горада Гродна за нерэгулярнасць паведамленняў абывацеляў. Яна загадвае і абавязвае кожнага абывацеля прынесці і злажыць такія рапарты на працягу тыдня з даты гэтага ўніверсала ў дэпутацкі дом абывацеля Гаусмана, адкрыты з 8 гадзін раніцы да 12 дня, а з 2 гадзін папалудні – да 7 гадзін вечара. Каб такі ўніверсал стаў вядомы кожнаму, яго належыць пачытаць і аб'явіць пры бубнах на кожнай вуліцы, прыбіць яго экзэмпляры пры касцёлах і на рагах вуліц, а магістрат горада Гродна – выканаць. Рабілася на сесіі кантрыбуцыйнай дэпутацыі 18 чэрвеня 1794 г.

*Андрэй Мальчэўскі, абывацель, прэзідэнт*

*Ксёндз Тадэвуш Юрэвіч, гродзенскі рэктар, дэпутат*

*КсёндзВаўрынец Барткевіч, дэпутат кожнадзейскага закону*

*Ксёндз Плацыд, абывацель, дэпутат кармелітаў святага Аўгусціна*

*Якуб Гаусман*

*Міхаіл Эрэнкрэйц, абывацель, дэпутат*

*Францішак Ксаверый Бароўскі, дэпутат*

*Ян Ясінскі*

*Ігнацій Урублеўскі, дэпутат*

*Станіслаў Сакалоўскі, дэпутат*

*Іавель Лейзеровіч, дэпутат*

*Хаім Якуб Слуцкі, дэпутат*

*Ілля Іцкавіч, дэпутат*

*БПАНК, с. 35328, л. 196-197. Друк, за пячаткай.*

***№ 95. 20 чэрвеня. Зварот Цэнтральнай дэпутацыі да насельніцтва ВКЛ за добраахвотнымі ахвераваннямі***

Аддзел жыўнасці Цэнтральнай дэпутацыі ВКЛ

Край бачыў дагэтуль розныя сродкі дабрага ўладкавання пад панаваннем замежнай сілы. Яму забаронена мець сілы на абарону, забаронена засноўваць магазіны для запасаў жыўнасці, якія б маглі ратаваць ад напасці голаду і карміць яго абаронцаў. Абывацель! Мы хочам узняцца, але народ не скранецца без цябе. Ураду спатрэбілася купіць жыўнасць і заснаваць магазіны. Аддзел, які зараз гаворыць табе, народ, прызначаны выканаць тое, што ўрад разважна прызнае неабходным. Наша выкананне залежыць ад вас, дабрадзейныя абывацелі! Навошта нам замыкаць ад свайго народа склады нашай жыўнасці, калі яе ўжо нельга прадаваць за мяжу, якую ў вас задумаў вырваць ваш наезнік, за якую вам заплаціць ваш народ, які пакладзе яе ў публічных магазінах і падзеліцца ёю з вамі пры неабходнасці. Для таго і пасылаюцца ў паветы нашы пасланцы. Не лічыце іх камісіянерамі, якія шукаюць уласную выгаду паміж вамі, абывацелямі, і скарбам. Яны будуць толькі прынімаць ад вас кантракты і адвозіць вашы рэчы для запісу у кнігу памяці Айчыны згодна з вашай схільнасцю. Працу іх узнагародзіць аддзел, аднак ён не дазволіць пасланцам ніякіх заробкаў. Вызначайце самі цэны, аднак не падымайце іх залішне. Нясіце ў скарб свой абавязак, заплаціце зараз, ў пэўны тэрмін або прызначце ў кошт падатку. Ён нічым вас не абразіць, а ўсё, чым вы яго зможаце аблегчыць, тое ён запіша вашай ахвярай. Аддзел жыўнасці жадае ад вас, абывацелі, каб вы прывезлі ў Вільна тое, што збіраецеся прадаць. Аднак, калі гэтага не можаце, тады пасланыя за кантрактамі будуць мець сродкі пад транспарт. Грамадскасць патрабуе ад вас у якасці жыўнасці жыта, авёс, ячмень, гарох, тлуст, валоў, а пра іншыя рэчы дамовяцца пасланцы. Чыё чулае сэрца замкнецца на адозву народа! Хто можа думаць, што пры няшчасці грамадскасці ён даб'ецца ўласнага шчасця, што не удзяліўшы народу, не пакрыецца ганьбай і згрызотай? Так сапраўды ніхто не думае. Гаворачы гэта народу, які пасля столь-

кіх уціскаў і праследаванняў паказаў вялікія доказы мужнасці і шчодрасці для паратунку сваёй Айчыны, аддзел упэўнены, што яго заклікі не будуць дарэмнымі. Рабілася на сесіі аддзела жыўнасці 20 чэрвеня 1794 г.

*Бенедыкт Марыконі, старшыня*

*Міхаіл Залескі, сакратар аддзела*

*БПАНК, с. 35330, л. 259. Друк, за пячаткай.*

## № 96. 20 чэрвеня. Заручэнні Гродзенскага магістрата адносна добраахвотнага запісу у міліцыю павета

Дэпутацыя муніцыпальнасці з мэтай пошуку рэкрута ў паспалітае рушанне кліча і абяцае ўсім жывучым у горадзе Гродна і іншых месцах абывацелям рознага стану, кандыцыі і спосабу жыцця, што той, хто захоча ахвотна завербавацца ў муніцыпальныя войскі і запішацца ў ратушы, кожны такі атрымае на рукі 30 злотых і па заручэнню дэпутацыі яшчэ ўсю бялізну, абмундзіраванне, жалаванне і правіянт. Такую адозву яна жадае раздрукаваць і абвясціць грамадскасці. Рабілася ў гродзенскай ратушы 20 чэрвеня 1794 г.

*Тадэвуш Клава, прэзідэнт вольнага горада Гродна*

*Якуб Рафановіч. Віцэ-прэзідэнт вольнага горада Гродна*

*Ксёндз Ваўрынец Барткевіч, дэпутат кожнадзейскага закону*

*Ксёндз Леанід Канцэвіч, прабашч грэчаскага абраду*

*Іосіф Гоувальт*

*Станіслаў Сакалоўскі*

*Міхаіл Эрэнкрэйц, абывацель і дэпутат*

*Ігнацій Урублеўскі, дэпутат*

*Якуб Гаусман, дэпутат*

*Пётр Губчынскі, абывацель і дэпутат*

*Хаім Якуб Слуцкі, дэпутат*

*Міхаіл Дуброўскі, дэпутат*

*Францішак Ксаверы Бароўскі, дэпутат*

*Андрэй Сырасек, дэпутат*

*Хрыстафор Рэйнікэ, дэпутат*

*Лейб Майсевіч Заблудаўскі, дэпутат*

*БПАНК, с. 35331, л. 260. Друк.*

***№ 97. 21 чэрвеня. Загад Гродзенскай камісіі ўсім святарам аб іх адказнасці за агульны перапіс насельніцтва і ўладанняў***

Парадкавая камісія Гродзенскага павета, сабраная на пленуме, у жаданні наблізіць належны вынік універсала Найвышэйшага начальніка адносна вольнасці сялян і паставіць дазорцаў над вызначанымі грамадамі люда, лічыць сваёй няўмольнай патрэбай загадаць усім плябанам лацінскага, рускага і ўніяцкага абрадкаў неадкладна перапісаць па далучанай схеме усе існуючыя ў іх парафіях рознага роду гарады, мястэчкі, земскія, старасцінскія, духоўныя, эканамічныя вёскі і паведаміць у камісію не далей 17-га дня бягучага года. А каб гэта было хутка выканана, яна загадвае распаўсюдзіць такое патрабаванне праз крэсы пад мерай суровай адказнасці. Рабілася ў Гродна на сесіі ў Новым замку 21 чэрвеня 1794 г.

*Згодна з пратаколам, Пётр Манюшка, рэгент парадкавай камісіі Гродзенскага павета*

*БПАНК, с. 35332, л.263. Друк. за пячаткай.*

***№ 98. 23 чэрвеня. Устанаўленне Вярхоўнага крымінальнага суда ў Кароне і ВКЛ***

Найвышэйшая нарадовая рада

Жаданне даць народу унутраныя сродкі для паспяховага паскарэння шчасця і ўберагчы у шчаслівую пару яго паўстання ад уціску усіх тыхураднікаў, якія прызначаны на справе прывесці ўвесь народ да шчасця, вольнасці і незалежнасці, і якія могуць стаць першымі прыладамі згубы сваёй Айчыны з-за занядбання сваіх абавязкаў, злаўжывання ўрадам і здрады публічнаму даверу, прымусілі ўстанавіць у акце нарадовага паўстання Найвышэйшы крымінальны суд. Рада жа абавязана памясціць тут прадпісаную для яго арганізацыю. Яна тым ахвотней спяшаецца выканаць гэты абавязак, бо сама ўзначальвае тыя ўрады і што кожны яе член будзе адказваць у тым судзе за, крый божа, здзейсненыя ім правіннасці. Яна прадпісвае правілы для Найвышэйшых судоў

у Кароне і ВКЛ у наступных 5 артыкулах: 1. Што да колькасці і месца Найвышэйшых крымінальных судоў. 2. Што да складу тых судоў. 3. Што да спраў ім належачых. 4. Што да пакаранняў. 5. Што да дзейнасці Найвышэйшых крымінальных судоў.

Артыкул 1. Колькасць і месца Найвышэйшых крымінальных судоў

1. Будуць два Найвышэйшыя крымінальныя суды: адзін для Каронных правінцый у месцы, дзе знаходзіцца Нарадовая рада, і другі для Літоўскай правінцыі, дзе будзе знаходзіцца Цэнтральная дэпутацыя. Для абодвух тых судоў Рада ўстанаўлівае аднолькавыя правілы.

Артыкул 2. Склад асоб у Найвышэйшым крымінальным судзе

Найвышэйшы суд будуць складаць 16 асоб, а камплект яго замыкаецца 7 асобамі. Старшынстваваць будзе старэйшы векам. Суддзяў у суд Каронных правінцый будзе назначаць Найвышэйшая рада, а ў суд Літоўскай правінцыі назначэнне суддзяў Нарадовая рада перадае Цэнтральнай дэпутацыі. Найвышэйшы крымінальны суд для Каронных правінцый выконвае прысягу перад Нарадовай радай, а суд Літоўскай правінцыі – перад Цэнтральнай дэпутацыяй. Свае сесіі яны пачынаюць зараз жа. Яны ствараюць канцылярыі і адзінагалосна назначаюць пісара, рэгента сваіх судоў і публічных аўдытараў.

Артыкул 3. Справы належачыя судам

1. Найвышэйшым крымінальным судам будуць належыць справыураднікаў, якія знаходзяцца на ўрадах у час паўстання, і таксама ўсіх, хто выконвае публічную паслугу. Ураднікі Каронных правінцый будуць адказваць у Найвышэйшым судзе пры боку Нарадовай рады, а літоўскія ўраднікі ў Найвышэйшым судзе пры боку Цэнтральнай дэпутацыі. Адказваць жа яны будуць за злачынствы, якія вылучаны у вопісу ваяводскіх і павятовых крымінальных судоў (1) і за ўрадавыя злачынствы (2).

2. Урадавыя злачынствы наступныя: 1. Скарыстанне ўрада на асабісты уціск абываценя. Яе належыць разумець так, калі ў час

выканання яна стала вынікам асабістай помсты або злоўжывання ўрадам звыш дазволеных яму межаў. Гэта злачынства можа падзяляцца ў меру абразы і нанесеных страт або асобе абываценя, або часткі грамадства, або ўсёй грамадскасці. 2. Упартая непаслумянасць указам Найвышэйшага начальніка і створаным Найвышэйшай радай магістратурам. Гэтыя злачынствы могуць падзяляцца па цяжкасці па меры шкоды Айчыне і па меры прычын, якія служылі для іх выканання. 3 . Зварот публічных даходаў на ўласны ужытак. 4. Узяцце грошай або карупцыя. 5. Выдача сакрэта, які ў арганізацыі Найвышэйшай радыураднікам аплочаны, а для іншых на публічных паслугах агавораны прысягай.

3. Да таго Найвышэйшага суда яшчэ будуць адносіцца справы, якія з прычыны роўнасці галасоў у ваяводскіх і павятовых судах адасланы у Найвышэйшы крымінальны суд разам з інквізіцыямі і подпісам кожнага суддзі.

4. Яму будуць, нарэшце, належыць справы супраць тых асоб, якія абвінавачваюцца за правіннасці супраць народа і пасэсіі якіх заняты непрыяцельскім войскам, Таму яны не могуць разглядацца ў ваяводскіх ці павятовых крымінальных судах.

Артыкул 4. Адносна пакарання злачынстваў

1. Злачынствы апісаны у арганізацыі ваяводскіх або павятовых судоў і маюць такія прызначаныя кары.

2. Урадавыя злачынствы. 1. Злачынствы, нанесеныя асабіста абываценю, могуць тычыцца яго маёмасці, вольнасці, жыцця і павінны карацца (1) двайной узнагародай пакрыўджанага з маёнтка і пазбаўленнем урада, (2) інфаміяй і стратай абывацельскага права, (3) публічным затачэннем на нейкі час або назусім у меру велічыні ўціска, нарэшце, смерцю, калі злачынства прасцёрлася аж да наўмыснага пазбаўлення жыцця абываценя. Гэта злачынства, якое прыносіць шкоду грамадскасці, будзе карацца ў залежнасці ад памеру вышэйпісанымі карамі.

3. Злачынства ў выглядзе ўпартага непаслушэнства ўказам Найвышэйшага начальства і найвышэйшых магістратур шляхам невыканання прадпісаных абавязкаў урада караецца адпаведна

з матывамі іх невыканання. Калі тыя прычыны не праследвалі мэты нашкодзіць або здрадзіць Айчыне, а былі проста і толькі добраахвотным парушэннем урадавых абавязкаў, тады яно можа карацца поўнай стратай урада. Калі ж Айчыне нанесена шкода, то будзе пакарана стратай урада і двайной узнагародай за публічную шкоду. Нарэшце, калі яно было злучана з гвалтоўным парушэннем публічнага пакою і здрадай Айчыне, тады будзе вымярацца смяротнай карай і канфіскацыяй маёнтка.

4. Злачынны захоп публічных даходаў будзе карацца ўзнагародай публічнай шкодзе з маёнтка, інфаміяй і поўным пазбаўленнем абывацельскіх правоў.

5. Злачынства подкупам ці карупцыя тычыцца аднолькава і спакушанага і падкупленага і будзе карацца стратай жыцця і канфіскацыяй уладанняў. Калі падкуплены выдасць даючага, або другі першага, тады робіцца вольным ад пакарання. Калі спакушаны выдасць купляючага, то атрымае ад скарбу палову канфіскаванага маёнтка.

6. Выдача сакрэта па неасцярожнасці будзе пакарана пазбаўленнем урада, а пры здрадзе – смяротнай карай і канфіскацыяй маёнтка.

Артыкул 4. Аб дзейнасці суда

1. У той суд могуць уступаць толькі такія справы. 1. Выражаныя ў пункце 4 артыкула 3: калі ў суд пададзены падпісаны самім абывацелем данос або калі ў крымінальны суд дастаўлены з аддзела бяспекі пісьмовыя довады. 2. Злачынствы, якія выкананыураднікамі ў час нарадовага паўстання і якія выражаны у цяперашняй арганізацыі. Калі ж ураднік будзе абвінавачаны у злачынстве перад паўстаннем народа, тады яго справа адсылаецца (як не ўрадніка) з Найвышэйшага суда ў ваяводскі ці павятовы суд.

2. Ураднік, абвінавачаны рэзалюцыяй Найвышэйшай нарадовай рады або Цэнтральнай літоўскай дэпутацыяй, будзе адасланы з даносам і пісьмовымі довадамі ў Найвышэйшы крымінальны суд.

3. У найвышэйшым судзе адказваць за ўсе злачынствы павінны не толькі асабіста ўраднікі, але і ўвесь камплект урада за перавышэнне сваіх граніц або за наўмыснае і на згубу іх выкананне.

4. Найвышэйшая рада не можа выклікацца ўсім складам у той суд, паколькі за свае дзеянні павінна адказваць перад сеймам. Таму толькі кожны асобны радца адасланы Найвышэйшай радай у Найвышэйшы суд трапіць пад прыгавор таго суда, як гэта і прадпісана ў арганізацыі Рады.

5. Працэсы у Найвышэйшым судзе вакол прысутных і ўцекачоў адбываюцца так жа і па тых жа самых правілах, якія прадпісаны у вопісах ваяводскіх і павятовых крымінальных судоў.

6. У справах, адасланых з ваяводскіх і павятовых крымінальных судоў у Вярхоўны суд: па ўвядзенні справы публічным аудытарам і пасля заслухоўвання адказу абвінавачаных, суд прыступае да прыгавору, гэта значыць зачытвае прысланую інквізіцыю з сентэнцыямі суддзяў і пастанаўляе парыгэтам галасоў. Суддзі, якія далі заключэнні супярэчлівыя апісанню ваяводскіх і павятовых крымінальных судоў, будуць карацца поўным пазбаўленнем урада суддзі і гадавым арыштам са стратай актыўнага права.

7. У выпадку роўнасці думак у Найвышэйшым крымінальным судзе, суддзі галасуюць другі раз. А калі б і пры другім галасаванні аказалася роўнасць крэсак, тады яе вырашае старшынствуючы.

8. Прысяга для найвышшых крымінальных суддзяў тая ж самая, што і для ваяводскіх суддзяў. Даны на сесіі Найвышэйшай нарадовай рады 17 чэрвеня 1794 г.

Ігнацій Патоцкі, старшыня

Томаш Чэх, сакратар Найвышэйшай нарадовай рады

Найвышэйшая нарадовая рада заяўляе, што калі хто з суддзяў ваяводскага або Найвышэйшага крымінальнага суда сарве камплект, тады такога трэба пакараць крымінальным судом у Найвышэйшым крымінальным судзе. Даны на сесіі Найвышэйшай нарадовай рады 23 чэрвеня 1794 г.

*Іосіф Шпаноўскі, намеснік старшыні*

*Томаш Чэх, сакратар*

*БПАНК, с. 35325, л. 191-192 адв. Друк, за пячаткай.*

***№ 99. 23 чэрвеня. Прадпісанне Гродзенскай камісіі аб пастаўцы сухароў***

№ 6. Дэпутацыя забеспячэння парадкавай камісіі Гродзенскага павета даводзіць да ведама аб тым, што Найвышэйшая нарадовая рада сваім універсалам ад 6 чэрвеня абавязала ўсіх абываценяў даставіць з кожнага дыма на фураж для войска 24 фунты сухароў, 8 гарцаў аўса і 24 фунты сена, што загадала як мага хутчэй выканаць і парадкавым камісіям. Дэпутацыя забеспячэння ўжо выдала 22 мая ўніверсал да абываценяў пра такое засіленне вайсковых патрэб з раскладкай яго на кожны дым. Таму, калі абывацелі даставілі ў магазіны такі фураж, то яны абавязаны дадаць да папярэдняга з дыма па 9 фунтаў сухароў, 2 гарцы аўса і 4 фунты сена, або грашыма 1 злоты 1 шэляг за 9 фунтаў сухароў, 12 грошай за 2 гарцы аўса, 14 грошай за 14 фунтаў сена, а ўвогуле 2 злотых і 1 шэляг. Тыя абывацелі, якія яшчэ не здалі назначаны фураж, павінны даставіць у магазіны натурай не муку, а па 24 фунтаў добра высушаных сухароў, 8 гарцаў аўса, 1 гарц ячменных круп, 24 фунты сена, 1 куль саломы і на мяса для салдат 18 грошай адпаведна з распараджэннем мінулага ўніверсала адносна парафій. Не здольныя даць натурай, павінны аплаціць грашыма: за 24 фунтаў сухароў 3 злотых 3 грошы, за 8 гарцаў аўса 1 злоты 18 грошай, за 1 гарц ячменных круп 16 грошай, за 24 фунтаў сена 24 грошай, за куль саломы 3 грошы, на мяса для салдат 18 грошай, усяго 6 злотых 22 грошай. Гэты правіянт грашыма абывацелі павінны здаць не ў магазіны парафій, а ў гродзенскі камісарыят. Дэпутацыя забеспячэння прыказвае дазорцам магазінаў раздаць гаспадарам мястэчак на добрую выпечку сухароў па 18 гарцаў магазіннай мукі, з якіх выходзіць 60 фунтаў добра высушаных сухароў. Яна таксама патрабуе ад абываценяў, пастаўляючых правіянт натурай, даваць сухары добра выпечанымі, за чым будуць сляздзіць правіянцкія пісары. Дэпутацыя разлічвае, што гэты назначаны правіянт будзе пастаўлены натурай або грашыма на працягу 2 тыдняў згодна з выдадзеным распараджэннем. Даны на сесіі 23 чэрвеня 1794 г.

*Шыман Завістоўскі, камісар, старшыня камісіі*
*Мацей Корн, супрасльскі абат, камісар*
*Андрэй Мальчэўскі, камісар Гродзенскага павета*
*Мікалай Мілкевіч, камісар*

Фелікс Імбра, *сакратар дэпутацыі забеспячэння парадкавай камісіі Гродзенскага павета*

*БПАНК, с. 35334, л. 272. Друк, за пячаткай.*

### № 100. 23 чэрвеня. Наказ Цэнтральнай дэпутацыі пазборшчыкам вінакурных падаткаў

Рабілася ў Вільна ў палацы Рэчы Паспалітай на сесіі скарбовага аддзела Цэнтральнай дэпутацыі ВКЛ пад начальствам Тадэвуша Касцюшкі 24 чэрвеня 1794 г.

Скарбовы аддзел Цэнтральнай дэпутацыі ВКЛ пад начальствам Тадэвуша Касцюшкі, выконваючы загад скарбовага аддзела Найвышэйшай рады, адрасаваны Цэнтральнай дэпутацыі 16 дня бягучага, загадвае экзактарам чопавага ў гарадах Вільна, Коўна, Гродна, Брэст і Навагрудак па атрыманні цяперашняй дыспазіцыі пры паборы чопавага падатку з усіх напояў па распараджэнню скарбовага ўрада узяць гэты падатак з усіх напояў без выключэння, якія вытвараюцца і прывозяцца на сваю патрэбу, у чым тым жа ягамосцям экзактарам рэкамендуецца пастарацца як мага чуллівей і пільней.

*Іосіф Несялоўскі, навагрудскі ваявода*

Зянон Махвіц, *рэгент скарбовага аддзелу дэпутацыі*

*БПАНК, с. 35334, л. 273. Рукапіс, копія, за пячаткай.*

### № 101. 27 чэрвеня. Тлумачэнне ЦД парадку збора рэкрут з 5 і 25 дымоў

Рабілася ў Вільна на сесіі 27 чэрвення 1794 г.

Цэнтральная дэпутацыя ВКЛ, атрымаўшы загад камандуючага, генерал-лейтэнанта, ягамосці Вяльгорскага, лічыць сваім абавязкам абвясціць усёй грамадскасці, кожнаму асобна абывацелю і парадкавым камісіям, што пешыя 5 –дымовыя і конныя 5-дымовыя рэкруты не належаць да паспалітага рушання, аднак

іх належыць даставіць у лінейнае войска па квітах камандзіраў карпусоў у адпаведнасці з распараджэннямі Найвышэйшага начальніка нарадовай збройнай сілы і ўніверсалам Нарадовай рады ад даты 6-га дня бягучага месяца і года. Ягамосць, камандуючы генерал-лейтэнант паведамляе цяперашняй дэпутацыі, што ён адусюль атрымлівае рапарты аб тым, што ягамосці генерал-маёры, насуперак яго, ягамосці генерала камандуючага, выразных распараджэнняў і тлумачэнняў ўніверсалаў Найвышэйшага начальніка, самавольна забіраюць у паспалітае рушанне ўсіх без выключэння абываценяў. Таму дэпутацыя загадвае ўсім парадкавым камісіям знесціся з ягамосцямі мясцовымі генерал-маёрамі і як мага мацней забяспечыць, каб ніводны абывацель у іх ваяводствах і паветах не быў прыцягнуты да павіннасці больш той, да якой яны абавязаны найвышэйшай камандай збройнай сілы. Дэпутацыя не менш таго асцерагае, што абывацель можа шляхам добраахвотнай ахвяры пастаўляць людзей на выправу у паспалітае рушанне звыш прадпісанных ім спамянутымі ўладамі абавязкаў, калі яны самі добраахвотна і па сваёй стараннасці таго пажадаюць. Звыш таго, дэпутацыя паведамляе ўсім парадкавым камісіям, што калі па распараджэнню мінулай Тымчасовай намесніцкай літоўскай рады абывацель быў абавязаны даць у паспалітае рушанне аднаго рэкрута з 25 дымоў і асобна аднаго ахвотніка з кожнага 5-га дыма, то цяперашняя дэпутацыя заяў'ляе, што назначанага з 5-га дыма ахвотніка можна зараз замяніць рэкрутам або кантаністам, якіх Найвышэйшы начальнік назначыў з 5 дымоў, а рэкрутаў з 25 двароў па ўніверсалу мінулай Рады парадкавыя камісіі павінны па загаду Найвышэйшага начальніка залічыць у камплект рэкрут з 5 дымоў. Падобным чынам, калі пры пастаўцы рэкрутаў у лінейнае войска з 25 дымоў абывацель ужо заплаціў за кожнага рэкрута па 100 злотых, тады як Найвышэйшы начальнік патрабуе аплаціць па 15 злотых за аднаго рэкрута з 5 дымоў, то дэпутацыя абвяшчае аб заліку у склад публічнага падатку не толькі ўжо уплачаных 100 зл., але і ўсіх перададзеных пры кожным рэкруце аплат. Зараз жа, згодна з наказам Найвышэйшага начальніка, яна абавязвае

абываценяў даваць пры кожным рэкруце па 15 злотых. Выпісана і выдадзена з пратакола.

Іосіф Нарбут, *сакратар Літоўскай цэнтральнай дэпутацыі*

*БПАНК, с. 35347, л. 295. Друк, за пячаткай.*

### *№ 102. 27 чэрвеня. Загад Гродзенскай камісіі сваім камісарам аб люстрацыі збожжавай сыпкі ў павеце*

Парадкавая камісія Гродзенскага павета, па атрыманні ад павятовага генерал-маёра загада, на моцы дасланых яму распараджэнняў найвышэйшай каманды пастанаўляе наступны спосаб іх выканання.

1. Парадкавая камісія пасылае са свайго кола ягамосць Зялінскага ў горад Гродна, ягамосць Шумкоўскага у ніз Нёмана аж да мяжы павета, ягамосць Културскага ў вярхоў'е Нёмана да мяжы павета з тым, каб яны старанна даведаліся і паведамілі ў дэпутацыю забеспячэння аб колькасці зерня ў збожжавых магазінах па р. Нёман. Усё гэта робіцца для выканання загаду генерал-маёра аб перамяшчэнні іх на бяспечнае месца за Нёманам.

2. Для заняцця у абываценяў рознага зерня, сена, прыправы, круп, гароху і рознага тыпу прадуктаў, якімі яны гандлююць, парадкавая камісія Гродзенскага павета даручае разасланым ягамосцям камісарам неадкладна прыступіць да раней даручаных абавязкаў па люстрацыі ва ўсіх дварах парафій вышэй згаданага зерня і прадуктаў і паведаміць дэпутацыі забеспячэння аб продажы такога збожжа і прадуктаў звыш абывацельскай патрэбы. Са свайго боку тая дэпутацыя забеспячэння не занядбае хутка абдумаць сродкі для размяшчэння іх у прадугледжаныя месцы пераносу. Яна пры гэтым асцерагае ягамосцяў камісараў пры люстрацыі абывацельскіх патрэб скрупулёзна разабраць, колькі патрэбна пакінуць збожжа з прадуктамі на іх уласныя патрэбы і колькі на іх сялян. Яны аддзеляць збожжа для задавальнення ўніверсала ад 22 мая бягучага года, перапішуць рэшткі прадуктаў пасля іх прадажы і абавяжуць абываценяў іх не кранацца. Яны выдадуць рэверсы (пасведчанні) на ўсё узятае у іх у магазіны і запэўняць аб хуткай баніфікацыі (разліку).

*Ігнацій Лахніцкі, камісар, старшыня*
*Тэадор Віслоцкі, супрасльскі абат і камісар*
*Мацей Эйсмонт, камісар Гродзенскага павета*
*Феліцыян Адланіцкі Пачобут,камісар*
*Андрэй Мальчэўскі, камісар*
*Тадэвуш Александровіч, камісар*
*Іосіф Зялінскі, камісар*
*Андрэй Эйсмонт, камісар*

Антон Занеўскі, *камісар, парадкавы камісар Гродзенскага павета, пяро трымаючы*

*БПАНК, с. 35348, л. 296. Друк, за пячаткай.*

## № 103. 30 чэрвеня. Прадпісанне Цэнтральнай дэпутацыі адносна транспарту пад харчовыя паборы у паветах

Аддзел парадку Цэнтральнай дэпутацыі ВКЛ скіроўвае усе свае працы і намаганні да той адзінай мэты, якія могуць чым-небудзь паспрыяць сваім суабывацелям у аблягчэнні цяжару вайны. З гэтага погляду трэба прызнаць страшным цяжар і нават немагчымасць штодзённай пастаўкі фурманак пад транспарціроўку жыўнасці і іншых вайсковых рэквізітаў як самім Віленскім ваяводствам, так і з яго бліжэйшых ваколіц, найбольш вынішчаных з часу уваходу непрыяцельскіх войск у наш край. Каб выратаваць ад апошняй згубы вашых братоў, трэба ужыць вашу, абывацелі цэлай Літоўскай правінцыі, спраўную дапамогу, якой вы абавязаны разам несці цяжары для Айчыны. Таму раз і назаўсёды на ўсю кампанію ўстанаўліваюцца пастаянныя фурманкі, якія найменш цяжкім спосабам зберагуць вас, асабліва жывучых у самых далёкіх ваяводствах і паветах, ад прыкрай чаргі пастаўкі фурманак з кожнага дыма на некалькі або некалькі дзесяткаў міль да Вільна, якія на некалькі тыдняў адрываюць земляробаў і жывёлу ад іх гвалтоўнейшай патрэбы у гаспадарчы час. Для ўстанаўлення сталых фурманак падаецца наступны спосаб выканання.

1. Згодна з апошнім тарыфам канстытуцыйнага сейма, ў кожным ваяводстве і павеце з 200 земляробскіх, шляхецкіх і духоўных

двароў, з улікам нават гарадоў і мястэчак, выстаўляюцца 2 моцных кані з вупражжу і дробны воз або акутая брычка.

2. З выдзеленых гарадоў належыць даць з 150 дымоў 2 запрэжаных кані і годную брычку.

3. Для збержэння земляробаў, у фурманшчыкі такіх брычак можна браць жыдоў, а гэта такім чынам. Парадкавыя камісіі і магістраты выдзеленых гарадоў найперш вызначаюць колькасць фурманшчыкаў пад фурманкі свайго павета і затым раскладваюць на кагалы дастаўку іх па прапорцыі жыдоўскіх галоў. Пры кожным фурманшчыку кагалы абавязваюцца выплаціць на 3 -месячнае харчаванне па 60 злотых і прыглядзіць за тым, каб фурманшчыкі былі прыстойна прыбранымі.

4. У гэтым пункце парадкавыя камісіі робяць расклад, які тычыцца роўна ўсіх абывацеляў. Для лепшага ж задавальнення такому раскладу, аддзел парадка Цэнтральнай дэпутацыі вызначыць цану коней, вазоў і вупражу так, што пара запрэжаных коней з вазом павінна каштаваць 540 злотых. Для фуражавання коней, з кожных 200 вясковых і местачковых дымоў, а ў выдзеленых гарадах з кожных 150, вызначаецца злажыць у парадкавай камісіі па 80 злотых.

5. Аднак, каб пастаўкі гэтых сталых фурманак краналіся не адных толькі земляробаў, то фальваркі павінны прыняць на сябе частку з увагі на тое, што адрыў земляробаў ад працы і гаспадаркі найбольшую шкоду наносіць самім жа фальваркам. Таму пры фарміраванні раскладу парадкавыя камісіі захоўваюць такую прапорцыю, каб кожны земляроб уплаціў 2 злотых з рольніцкага двара, а фальварак – па 1 злотаму, што учыніць з 200 вясковых дымоў 600 злотых. Пры адлічэнні з тых 540 злотых таму, каму па раскладу вызначана даць коней і вазы, у парадкавай камісіі застанецца 80 злотых пад фуражаванне тых коней, як гаворана вышэй. У выдзеленых гарадах расклад робяць магістраты, якія раскладваюць вышэй згаданым спосабам 600 злотых на ўсіх жыхароў. Калі гэта распараджэнне аб сталых фурманках будзе выканана, то з гэтага моманту у абывацеляў ужо не будзе ўзята

ніякая фурманка. А калі здарыцца распарадзіцца аб іх у раптоўным выпадку (у чым нават спадзявацца нельга), тады на кожную мілю за каня будзе заплочана па 20 грошай.

Не трэба тлумачыць вам, суабывацелі, што зрабіўшы аднойчы ахвяру для Айчыны, вы не пацерпіце ўжо потым адрыву і марнавання земляробаў, унікніце той чаргі, якую мусілі зведаць Віленскае ваяводства і бліжэйшыя да горада Вільна ваколіцы. Аддзел парадку аддае сваё цяперашняе распараджэнне на ваша ўласнае разважанне, абывацелі! Кожны з вас, пэўна, прызнае яўна, што тут не шукаецца нічога, акрамя як толькі палёгкі ў цяжарах і таго, што ўсе людзі і сродкі трэба прысвяціць на Айчыну і вольнасць. Парадкавыя камісіі ўсіх ваяводстваў і паветаў зараз жа па атрыманні гэтага распараджэння займуцца яго хуткім выкананнем так, каб самыя далёкія на працягу 4 тыдняў сабралі ўсе фурманкі ў месцах сваіх камісій і аб тым неадкладна рапартавалі ў аддзел парадку Цэнтральнай дэпутацыі для ўчынення распараджэння адносна патрэбы у фурманках. Камісіі ж бліжэйшых ваяводстваў і паветаў – Трок, Вільна, Мерачы, Коўна, Прэн, Ашмян, Эйшышак, Ліды і Вількаміра – абавязаны выканаць тое на працягу 2 тыдняў, а сабраныя фурманкі зараз жа прыслаць у Вільна. Каб гэта распараджэнне стала вядомым усім, аддзел парадку загадвае сваёй канцылярыі яго раздрукаваць і зараз жа разаслаць. Рабілася ў Вільна 30 чэрвеня 1794 г.

*Антон Тызенгаўз, прэзідэнт аддзела парадку*

*Бенедыкт Карп*

*Антон Прозар*

*Ежы Тышкевіч*

*Ежы Забела*

Тадэвуш Кукевіч, *сакратар аддзела парадку Літоўскай цэнтральнай дэпутацыі*

*БПАНК, с. 35351, л. 291-292. Друк, за пячаткай.*

### *№ 104. 30 чэрвеня. Распараджэнне Гродзенскай камісіі аб змене свайго складу*

Парадкавая камісія Гродзенскага павета атрымала з Цэнтральнай дэпутацыі ВКЛ ліст аб выбарах парадкавых камісараў і крымінальных суддзяў. Паколькі скарачэнне камплекта камісараў ад зямян, муніцыпалітэтаў і духоўнага стана да 21 чалавек вымагае хуткага ўрадавання выбраных асоб, а аказаны гэтым асобам давер Цэнтральнай дэпутацыі дастатковы для неадкладнага выканання імі публічнай паслугі, то парадкавая камісія Гродзенскага павета заяўляе, што яна не мае у сваёй прысутнасці ўсіх разам і сведчыць па выбару Цэнтральнай дэпутацыі з земскіх уласнікаў ягамосць Лахніцкага, палкоўніка, Францішка Мучынскага, суддзю, Дамініка Маткевіча, Францішка Гансеўскага, Віктара Шумкоўскага, Тадэвуша Александровіча, Феліцыяна Пачобута, Станіслава Гоувальта, з гарадскіх уласнікаў – ягамосць Іосіфа Зялінскага, Яна Сакалоўскага, Яна Ясінскага, Міхаіла Эрэнкрэйца, Філіпа Міхалкевіча, Яна Канопку, Іосіфа Лабудзькага, Якуба Гаусмана, з духоўных – ксяндзоў Тадэвуша Юрэвіча, рэктара гродзенскіх школ, Мацея Корна, абата ксяндзоў базыліян гродзенскіх, Свяжынскага, гродзенскага дэкана, Антона Эйсмонта, Тэадора Віслоцкага, абата супрасльскіх базыліян, затым у крымінальныя суды з земскіх уласнікаў – ягамосць Іпаліта Ваўкавіцкага, земскага суддзю, Іосіфа Маткевіча, Паўла Булгарына, Іосіфа Бабінскага, Андрэя Станіслава Эйсмонта, Ежы Ліпніцкага, Шымана Завістоўскага, Ігнація Скарбека, з гарадскіх уласнікаў – ягамосць Пятра Пастольскага, Казіміра Абрамовіча, Адама Гоппэ, Крэйбіха і, нарэшце, прысланага з Найвышэйшай нарадовай рады дазорцу за выкананнем інструкцый Францішка Боуфала. Усім ім трэба на працягу тыдня з'ехацца ў Гродна і зараз жа заняцца абавязкамі свайго ўрдавання. Даны як вышэй.

Ігнацій Лахніцкі, *камісар і прэзідэнт парадкавай камісіі*

*БПАНК, с. 35352, л. 293. Друк, за пячаткай.*

***№ 105. 5 ліпеня. Распараджэнне Гродзенскай камісіі наконт складак дымоў на пастаўку конных рэкрут***

Парадкавая камісія Гродзенскага павета злучыла ў 50 дымоў духоўныя, старасцінскія, эканамічныя і гарадскія пасэсіі абывацеляў Гродзенскага павета. Каб пры такім злучэнні паміж абывацелямі не было спрэчак вакол таго, хто не здольны паставіць коннага рэкрута, яна пастанаўляе і назначае наступнае. Сярод злучаных дымоў пастаўкай коннага рэкрута з розным абмундзіраваннем, згодна з універсалам, займецца той абывацель, які мае дымы, а іншыя, далучаныя з меншымі дымамі, павінны аддаць на рукі маючага больш дымоў па 9 злотых з кожнага дыма. Даны у Гродна на сесіі 5 ліпеня 1794 г.

*Павел Булгарын, літоўскі падканюшы, прэзідэнт*

Пётр Манюшка, *рэгент парадкавай камісіі Гродзенскага павета*

*БПАНК, с. 35354, л. 296. Друк. за пячаткай.*

***№ 106. 7 ліпеня. Рэзалюцыя Гродзенскай камісіі аб увядзенні цялесных пакаранняў сялян за сховы дызерціраў і нявыдачу рэкрут***

Рабілася на сесіі ў Гродна 7 ліпеня 1794 г.

Парадкавая камісія Гродзенскага павета са смуткам даведалася, што насуперак палёгак універсала Найвышэйшага начальніка для сялян, дастаўленыя з некаторых пасэсій рэкруты вярнуліся ў свае дамы, а сяляне тых вёсак не толькі не жадаюць адвазіць і вяртаць іх у тыя каманды, адкуль яны збеглі, а больш таго, там жа хаваюць іх на шкоду іншых рэкрут. Таму гэтым універсалам абвяшчаецца, што не толькі тая вёска, адкуль узяты рэкрут, але і кожная іншая, дзе акажацца ўцёкшы рэкрут, абавязаны адразу па з'яўленні дызерціра даставіць яго ў бліжэйшую каманду. Акрамя гэтага, за прыём выдадзенага і запісанага ў роты рэкрута, яго схову як вёска, так і кожны ведаючы аб тым, будзе падлягаць цялеснаму пакаранню і ўплаце 10 злотых штрафу, а гаспадар, які схавае рэкрута, – цялеснаму пакаранню і нават узяццю за самага салдата. Даны як вышэй.

*Павел Булгарын, камісар, старшыня парадкавай камісіі*

Пётр Манюшка, *сакратар парадкавай камісіі Гродзенскага павета*

*БПАНК, с. 35355, л. 297. Друк, за пячаткай.*

### № 107. 11 ліпеня. Загад Гродзенскай камісіі яўрэям павета аб змене строя

№ 188. Рабілася ў Гродна 11 ліпеня 1794 года ў замку Рэчы Паспалітай

Аддзел бяспекі парадкавай камісіі Гродзенскага павета ў адказ на мемарыял кагала земскага мястэчка Сейны (ксяндзоў дамініканаў) Літоўскай правінцыі сваёй рэзалюцыяй ад 18 чэрвеня бягучага года адносна дазволу гродзенскай сінагогі карыстацца плашчамі ў дні шабаша і жыдоўскіх свят, распаўсюджвае гэта на сейненскі кагал і бліжэйшыя да Гродна мястэчкі з усімі заключанымі ў ім выразамі, а менавіта, каб багатыя жыды без усякага прамаруджвання, а бедныя не пазней Зельвінскай ярмаркі пераапрануліся ў корабы або курткі, каляровыя або чорныя рэйтузы. Час пераапранання ўбогіх аддзел бяспекі прадпіша сваімі загадамі. Даны як вышэй.

*Якуб Скродскі, камісар дэпутацыі бяспекі Гродзенскага павета, старшыня*

*Ігнацій Шаняўскі, камісар*

*Адам Гоппэ*

Згодна з пратаколам, *Аляксандр Віламовіч, сакратар аддзела бяспекі парадкавай камісіі Гродзенскага павета*

*БПАНК, с. 35356, л. 298. Друк, за пячаткай.*

### № 108. 17 ліпеня. Рэзалюцыя Гродзенскай камісіі адносна аплаты 5-дымовых рэкрут па квітанцыях

Рабілася ў Гродна ў Новым замку на сесіі 17 ліпеня 1794 г.

Парадкавая камісія Гродзенскага павета, маючы прынесеныя абывацелем Янам Макавецкім у аддзел жыўнасці разлік за правіянт на дастаўленых 5-дымовых рэкрут, знайшла вялікую неадпаведнасць у паборавых квітанцыях. Гэтым універсалам яна

асцерагае абываценяў не забыць як мага хутчэй замяніць свае квітанцыі (а не толькі абывацеля Макавецкага) як для задавальнення цяперашняга разліка, так і для таго, каб унікнуць даносаў. Парадкавая камісія таксама міласцю публічнага дабра абавязвае абывацеляў, якія дагэтуль не далі пешых 5-дымовых і 50-дымовых конных рэкрут, як мага хутчэй даставіць іх пад суровай экзекуцыяй разам з правіянтам і фуражом згодна з наказамі папярэдніх універсалаў. Даны як вышэй.

*Тэадор Віслоцкі, абат супрасльскі, прэзідэнт*
*Мацей Корн, абат гродзенскі і камісар*
*Дамінік Маткевіч, камісар*
*Ян Сакалоўскі, камісар*
*Ян Ясінскі, камісар*
*Філіп Міхалкевіч, камісар*
*Францішак Гансеўскі, камісар*
*Ян Канопка*
Ксёндз Тадэвуш Юрэвіч, *камісар*

*БПАНК, с. 35357, л. 299. Друк. за пячаткай.*

### № 109. 21 ліпеня. Апісанне штурма і абароны Вільна

З Вільна ў панядзелак 21 ліпеня

Выратаванне Вільна стала справай усемагутнага бога, які сярод важнейшых дароў памясціў у душу чалавека пачуццё вольнасці і дазволіў толькі на абарону ужываць зброю. Не ўдаемся тут у вайсковыя рапарты, аддадзім іх уклад волі тых, хто павінен заслугоўваць падзякі і развагі. Як прысутныя сведкі, падаем згоднае з праўдай кароткае абывацельскае апісанне, не баючыся ні суда, ні якой-небудзь антыпатыі.

У дзень 19-ты люд, устрывожаны трубамі ад набліжэнні ворага пад самы горад, адразу стаў пад бронь. Узначаліў яго і размясціў як трэба камендант горада Ежы Грабоўскі. Адразу папалудні вораг адной часткай пачаў штурм на акопы на Чорным тракце, якія бараніў з невялікай колькасцю войска генерал Меен. Другая частка пайшла полацкім трактам на Зарэчча. Давялося ворагу сустрэць напор з лесу шмат нашых стральцоў і ахвотнікаў. Аднак ішоў ён з

нечуванай адвагай, нягледзячы на адпор і агонь з горада некалькіх нашых гармат. Адбіўшы усю ўжытую супраць яго сілу і выбіўшы генерала Меена з акопаў, ён быў ужо пад самай Зарэчнай брамай. Тут ў Зарэчнай былі добра ўжыты гарматы. Убачыўшы ахопленае полымем Зарэчча і роспач гінучых, пачуўшы енкі забіваемых на прадмесці людзей, абывацелі кінуліся на схаваных забойцаў і змаглі прагнаць іх моц з Зарэчча, шмат палажыць трупам і захапіць некаторых у палон.

Тым часам вораг на другім баку заняў усе горы і запаліў з іх іншыя прадмесці – Востры Канец і Святага Стэфана. Расстаўленыя ва ўсіх брамах нашы гарматы і пільнасць люда ў абароне прымусілі ворага трымаць кананаду да 9 гадзін вечара. Гэтым днём завершылася яго пераможнае знішчэнне згаданых прадмесцяў і забойства непавінных людзей. Калі ўсё гэта адбывалася, адзін тракт за Зялёным мастом, яшчэ не заняты ворагам, дазволіў усім урадавым магістратурам і багатым асобам тутэйшага магістрата з напалоханым сэрцам выйсці з горада, пакінуўшы яго без рады, дапамогі і запасаў аднаму толькі лёсу. Аднак люд з рамеснікаў, чэлядзі, каморнікаў, служачых і жмені ўбогіх абывацеляў у надзеі на хуткую дапамогу не спыняў свайй мужнасці і чакаў або перамогі або смерці.

У такой пазіцыі раніцай наступнага дня вораг, наслаўшы пяхоту з гарматамі на некалькі брам, пачаў моцную атаку, часта паўтараў яе, але ўсюды быў адбіты і збіты. Кіданне ім бомб і гранат на горад былі дарэмны. Кананада цягнулася ад 5 гадзін раніцы да 3 гадзін папалудні. Пад час яе мы ўжо не бачылі сярод сябе каменданта, а пачцівыя афіцэры не слухалі арданансаў аб рэцірадзе, якія абвяшчаў незнаёмы чужаземец. Кушалеўскі, Пасуловіч, Бялоўскі, Зель, Арэнс, Чарняўскі, Наркевіч, Невенглоўскі, Стаконскі, Чарнабацкі і яшчэ некалькі афіцэраў артылерыі 4-га палка, нарэшце, дабрадзейны і адважны мечнік Заліўскі, – вось тыя, каму Вільна абавязана сваім выратаваннем, якія пры дапамозе абывацельства і падтрымцы часткі гарнізона не ўдаліся ў праекты капітуляцыі з ворагам, затаплення гармат і амуніцыі, працягвалі змаганне на

сваіх месцах аж да атрымання весткі аб падыходзе на дапамогу калоны генерала абываценя Вяльгорскага.

Вораг страціў больш 200 сваіх, а ўбачыўшы падыходзячае супраць яго з Панар наша войска, хутка рэціраваўся да Нявежы. Войскі Рэчы Паспалітай акружылі яго становішча. Адтуль нам яшчэ пагражала небяспека, але жыццё было выратавана. Вось толькі сэрцы нашы раздзіраў смутак з відовішча ад жудаснага і на на некалькі мільёнаў вартасці папаленага ва ўсіх прадмесцях, сгарэўшых у пажары або забітых законнікаў, братоў, кроўных, жонак, дзяцей і бацькоў, нарэшце, у запале боя пакрытых ранамі мужных нашых родзічаў, якія з-за выезда з таго горада дактароў, аплочаных крывавай працай абываценяў, не мелі належнага ратунку.

Вялікі божа, які шчытом усемагутнай сваёй рукі захаваў нас ад апошняй згубы у тым месцы! Пралі благаслаўленне на тых, хто сумеў абараніць твае алтары і свае свабоды, дай мужнасці краёваму войску. Няхай яно нясе ў руцэ твой памслівы меч. Няхай помста абернецца на лютага ворага і спраўдзіць на ім вынікі твайго гневу.

Зараз, у панядзелак, за ўдарам званоў ва ўсіх касцёлах спявалі "Вялікі Божа" і потым стралялі з гармат. Захоўваецца ўсякая перасцярога ад блізка стаячага яшчэ ворага. Згодна з прысланым арыгіналам.

*Мікалай Зялінскі, камісар Мерацкай парадкавай камісіі, старшыня*

*БПАНК, с. 35335, л. 291-291 адв. Друк, за пячаткай.*

### № 110. 25 ліпеня. Рэарганізацыя новага ўтрымання правіянцкіх складоў у Гродзенскім павеце

Рабілася ў Гродна на сесіі раніцы 25 ліпеня 1794 года у Новым замку

Аддзел жыўнасці парадкавай камісіі Гродзенскага павета атрымаў універсал Цэнтральнай дэпутацыі ВКЛ аб заснаванні новых магазінаў, які выпісвае слова ў слова.

“Цэнтральная дэпутацыя ВКЛ, па атрыманні загаду найвышэйшай каманды з яе клопатам пра хуткае заснаванне магазінаў у Гродна, Мерачы, Аліце, Прэнах і Коўна, загадвае Гродзенскай, Мерацкай, Ковенскай і Прэнскай парадкавым камісіям заснаваць такія магазіны у паказаных месцах за р. Нёман у бок Вільна. Для поспеху гэтага Цэнтральная дэпутацыя абавязвае Гродзенскую, Мерацкую і Ковенскую парадкавыя камісіі на падставе тарыфа зрабіць адпаведны расклад у сваіх паветах і як мага хутчэй патрабаваць з кожнага дыма шляхецкіх, духоўных, земскіх, каралеўскіх, эканамічных і іншых уладанняў без выключэння па 30 фунтаў добра выпечаных сухароў, 2 гарцы круп, 8 гарцаў аўса і па 1 каменю сена. Калі хто не зможа даставіць аўса, тады такі абывацель дае замест аўса 4 гарцы жыта. Літоўская Цэнтральная дэпутацыя завярае, што такія прадукты здаюцца па квітанцыях парадкавай камісіі і будуць прымацца ад абывацеляў у публічны скарб у кошт падатку. Нарэшце, Цэнтральная дэпутацыя патрабуе, каб сена пры магазінах было добра ўложана ў стагі, а сухары, збожжа і крупы знаходзіліся ў сухіх, бяспечных ад псавання месцах і пад пільным дазорам згаданых камісій. А каб кожны абывацель дасканала ведаў, дзе і куды яму дастаўляць цяперашні фураж, яна чыніць наступны расклад.

Магазін у Гродна для абывацеляў парафій: Гродзенскай, Гожскай на гэтым баку Нёмана, Квасаўскай, Луненскай, Кузніцкай, Сідранскай, Залескай, Новадворскай, Дубраўскай і Вянгерскай.

Магазін у Крынках для абывацеляў парафій: Крынскай, Вяліка – і Малабераставіцкай, Ялаўскай, Заблудаўскай і Адэльскай.

Магазін у Індуры для абывацеляў парафій: Індурскай, Воўпенскай, Рэплянскай, Эйсмонтаўскай, Язерскай, Каменскай і Мастоўскай.

Магазін у Саколцы для абывацеляў парафій: Сакольскай, Харошскай, Кундзінскай, Васількаўскай, Сакалянскай, Янаўскай і Карыцінскай.

Магазін у Галынцы для абывацеляў парафій: Гожскай на тым баку Нёмана, Тэолінскай. Хадароскай, Краснаборскай, Ліпскай,

Рачкаўскай. Янавіцкай, Бакалажаўскай, Філіпаўскай, Перарослькай, Берніцкай, Вясейскай, Лейпунскай, Лішкаўскай, Копцеўскай, Сейненскай, Віжанскай, Краснапольскай і Пунскай.

Пра дастаўку і трывалае заснаванне магазінаў будзе паведамлена абывацелям, з чаго можна без памылкі спадзявацца ў тое, што кожны з іх захоча задаволіць такому патрабаванню Цэнтральнай дэпутацыі. Аднак яна засцерагае, каб кожны абывацель пад карай ваеннай экзекуцыі даставіў патрэбнае ў прызначаныя магазіны за 15 дзён з часу цяперашняга ўніверсала. Каб гэты універсал хутчэй стаў вядомы кожнаму, яна загадвае сваёй канцылярыі яго раздрукаваць і разаслаць крэсамі да плябанаў для публікацыі з касцёльных амвонаў у парафіях. Даны як вышэй.

*Ксёндз Іосіф Свяжынскі, камісар аддзела жыўнасці, старшыня*

*Дамінік Маткевіч, камісар*

*Франціиак Міхалкевіч, камісар*

Згодна з пратаколам, *Мартын Бронц, сакратар аддзела жыўнасці*

*БІІАНК, с. 35370, л. 328-329. Друк, за пячаткай.*

### № 111. 26 ліпеня. Прадпісанне Цэнтральнай дэпутацыі аб канфіскацыі царкоўнага срэбра ў Гродзенскім павеце

Рабілася ў Вільна ў палацы Рэчы Паспалітай у скарбовым аддзеле Цэнтральнай дэпутацыі ВКЛ 26 ліпеня 1794 года

Скарбовы аддзел Літоўскай цэнтральнай дэпутацыі пад начальствам Тадэвуша Касцюшкі для выканання рэзалюцыі Найвышэйшай нарадовай рады ад 16 ліпеня бягучага года загадвае ўсім святлейшым парадкавым камісіям, асабліва спецыяльна святлейшай Гродзенскай камісіі, праз вызначаных са свайго кола асоб забраць з усіх касцёлаў у сваім павеце рознае срэбра, акрамя безумоўна патрэбнага на выкананне божай ахвяры, і зрабіцьгэта як мага хутчэй. Калі сярод жывучых пры касцёлах ксяндзоў знойдуцца такія, якія праваладзяць або захочуць супрацівіцца цяперашняму абвяшчэнню, тады парадкавая камісія абавязана паведаміць аб такіх у дэпутацыю. Даны на сесіі як вышэй. Падпісана:

*Іосіф Несялоўскі, навагрудскі ваявода, старшыня*

Згодна з пратаколам, *Пётр Манюшка, рэгент парадкавай камісіі Гродзенскага павета*

*БПАНК, с. 35357, л. 301. Рукапіс, копія.*

### № 112. 26 ліпеня. Пастанова Варшаўскай рады аб дазорах

Пастанова аб дазорах, правілах для дазорцаў і чыннасцях у дазорах

Найвышэйшая нарадовая рада, выконваючы прадпісанне ўніверсала аб устанаўленні ў землях і паветах дазораў, дазорцаў і настаўнікаў у іх, робіць наступнае прадпісанне адносна іх выбару і жадае мець выкананымі наступныя правілы.

Артыкул 1. Устанаўленне дазораў і дазорцаў

1. Парадкавыя камісіі ўчыняюць геаграфічны падзел сваёй зямлі і павета і акрэсліваюць дазоры па колькасці людзей. Адзін дазор можа мець у абшары ад 1000 да 1200 двароў як для частага аб'езду дазорцам, так і для даступнасці да іх жыхарам.

2. Каб хутка прывесці гэты пачатковы падзел да выніку, камісія вызначае са свайго кола або з годных даверу абывацеляў асоб, якія выбіраюцца сакрэтным галасаваннем. Яны аб'язджаюць зямлю або павет і разглядаюць усе тыя меркаванні, якія найбольш дапамогуць азначыць і выгадна падзяліць спамянутыя дазоры без пагляду на розныя прыватныя інтарэсы. Гэтыя ж абывацелі, высланыя парадкавай камісіяй для падзелу ваяводстваў, паветаў і земель на дазоры, пры аб'ездзе ваколіц будуць выведваць здольных у дазорцы асоб ці запрашаць іх, запішуць на лісце дакладную аб іх інфамацыю з думкай, дзе і каму можа быць аддадзены дазор. Такія лісты яны перасылаюць у парадкавую камісію для падцвярджэння або адмены кандытатаў, а тая або па свайму знаёмству або праз рэкамендаваных кандыдатаў абывацеляў выберыць дазорцу большасцю сакрэтных галасоў.

3. Дазорцамі могуць быць людзі рознага стану і кандыцыі, толькі б яны былі дабрадзейнымі, разумнымі, не западозранымі

ў хцівасці або шкодных саюзах, нічым нікому не абавязанымі, здольныя чытаць, пісаць і лічыць, маючыя добрую славу у ваколіцы, аселыя ў ёй або суседняй частцы паветаў па меньшай меры некалькі гадоў.

4. У наступныя гады парадкавая камісія будзе выбіраць дазорцаў шляхам апавяшчэння з амвонаў у кожным дазоры аб тым, што кожны абывацель, жыхар мястэчка,ураднік або сялянская грамада падаюць парадкавай камісіі сваіх кандыдатаў, з якіх тая сакрэтным галасаваннем выберыць аднаго і абвесціць яго дазорцам.

Артыкул 2. Абавязкі дазорцаў

1. Абавязкі дазорцаў наступныя: трымаць люд даверанага ім дазору у паслухмянасці праву, ўраду і мясцовай уладзе, сачыць за захаваннем людскасці і справядлівасці, не дапушчаць уціскаў, рабаўніцтва або гвалтаў на асобах і маёнтках.

2. Сачыць за стараннным выкананнем усякіх урадавых распараджэнняў.

3. Даглядаць за тым, каб вотчыннікі, уласнікі зямлі, і пастаўленыя імі мясцовыя кіраўнікі выконвалі тыя палёгкі, якія абвешчаны урадам для апекі сялян, і наўзаем, каб сяляне выконвалі павіннасці пры аплатах або зямельных паслугах згодна з даўнімі ўмовамі, а таксама новазаключанымі кантрактамі з уласнікамі зямлі.

4. Пры разборы спраў паміж сялянамі і іх мясцовым начальствам, захаваць бесстароннюю справядлівасць, якая вынікае з умоў інвентара або іншых пазямельных кантрактаў, недакладнасці або невыканання узаемных абавязкаў і публічнай павіннасці.

5. Дазорца павінен сачыць за ўсім тым, што тычыцца ўнутранай і знешняй бяспекі. Пры выяўленні якога-небудзь пагрозлівага выпадка, дазорца зараз жа паведамляе камісіі і запытаецца пра своечасовыя сродкі. Асаблівую ўвагу дазорцы звяртаюць на тое, каб у абрубе яго дазора не знаходзілася ніякіх шпікоў, валацугаў, скупшчыкаў, людзей шкодных і здольных ашукаць простых сялян, падазроных, без спосабу жыцця і пэўнага жыхарства, ваенных дызерціраў, розных асоб, якія нешта задумляюць супраць вярхоў або людзей варожых да ўрадавых правіл. Першых хапаць і пасля экзамену адсылаць гаспадарам на зямельную працу, рамеснікам у

майстэрні або да камендантаў бліжэйшага войска. Пра другіх трэба даносіць вышэйшай урадавай уладзе або парадкавай камісіі.

6. Дазорца павінен мець вопіс людзей свайго дазора і штоквартальна браць ў мясцовых плябанаў выпіскі з метрык аб колькасці навароджаных, жанатых і памерлых абодвуга пола згодна з узорам парадкавай камісіі. Па ўдакладненні гэтых метрык і пры сведчанні двух суседзяў, аселых абываццеляў, кіраўнік дазора падпісвае іх і адсылае, нарэшце, гэта значыць 5 студзеня, гадавы рапарт аб колькасці людзей у парадкавую камісію.

7. У цяжкі для земляробства час або у выпадку скарачэння людзей у дазоры, дазорца звязваецца з вярхамі і ўласнікамі для абмыслення сродкаў прадухілення зла. Ён пастановіць спосаб памнажэння або замаўлення наёмніка, адпраўленне паншчыны па дамове з суседнімі дазорцамі і грамадамі сялян. У выпадку немагчымасці разбору, ён паведамляе камісіі і чакае ад яе дапамогі ў гэтым. Калі ж ён заўважыць занядбанне дзе пасеваў і апрацоўкі зямлі, то зараз жа аб гэтым данясе і пастараецца сам распарадзіцца. У непасрэдным заведванні і апецы дазорцаў будуць лясы, асабліва гандлёвыя лясніцтвы Рэчы Паспалітай, з такой перасцярогай, каб не дазвалялася іх пустошыць бязладным выцягваннем дрэў, а гэта рабілася толькі сколькі і каму дазволіць сваім агульным або спецыяльным распараджэннем скарбовая ўлада.

8. Ён бярэ ў вотчыннікаў, іх намеснікаў і дзяржаўцаў звесткі пра геаметрычныя памеры маёнткаў і дапрашаецца з волі і павагі ўрада копію карты гэтага памеру, а затым паведамляе парадкавай камісіі як аб выкананні, так і садзеянні свайму загаду.

9. Пад клопат мясцовага дазорцы аддаюцца паштовыя гасцінцы і публічныя дарогі ад парафіяльных і гандлёвых мястэчак, масты на іх, пераправы і грэблі, якія патрабуецца ўпарадчыць у акрузе дазора агульным коштам абываццеляў. Ён будзе затым назіраць, каб кожны уласнік разам з сялянамі рамантаваў на сваёй зямлі такія дарогі, масты, грэблі, пераправы, утрымліваў іх належна, сачыў пільна за выкананнем меры, спосабу і ўмоў у той працы, якія прадпісаны ўжо або будуць для таго намечаны парадкавай камісіяй.

10. Для дапамогі ў выкананні такіх павіннасцяў, дазорцу прыдаецца ў дазор настаўнік, якога выбірае і назначае парадкавая камісія. Дазорца абавязаны зносіцца з ім, так жа як і з плябанамі якога-небудзь абрадка і вызнання ў абрубе свайго дазора. Ён паказвае ім прадпісанні свайго ўрада для абавязковай дапамогі яму ў абвяшчэнні і тлумачэнні распараджэнняў найвышэйшай улады, для асветы люда ў акрэсленых тымі распараджэннямі матэрыях. Ён будзе разам з прысланым камісіяй настаўнікам аб'язджаць ваколіцы свайго дазора і ў кожным месцы, перад кожным сабраным да касцёла, царквы або фальварка людам апавяшчаць урадавыя ўставы, чыніць перасцярогі, у выпадку зваротаў навучаць павіннасцям паміж людзьмі, паведамляць мясцовым уладам аб выкананні іх пад суровай адказнасцю і карай, абавяжа слухаць павучанні і розныя саветы настаўніка, як публічнага ўрадніка.

11. Памежныя дазорцы абавязаны зносіцца паміж сабой і з настаўнікамі і сумесна спрыяць урадавым патрэбам. Дазорцы павінны пасылаць рапарты у камісію кожныя 15 дзён, акрамя надзвычайных выпадкаў, праз устаноўленую камісіяй камунікацыю, якую яны абавязаны самі захоўваць і рэгулярна правяраць.

12. Выбраны дазорца выконвае прысягу на свой урад. Яго ўрадаванне працягнецца 4 гады, па мінаванні якіх ён або падцвярджаецца або замяняецца іншым выбраннікам на дазор. Паколькі яго ўрад не прывязаны да платы, то тут завяраецца, што кожны абывацель, які ўправіцца на ім пачціва, з карысцю для люда і дабром для Айчыны, атрымае першае права на вышэйшыя ўрады або публічныя паслугі з прывязанай да іх пенсіяй

Артыкул 3. Спосаб дзейнасці дазорцаў

1. Дазорца будзе трымаць пратакол для запісу спрэчак і пытанняў, якія будзе выслухоўваць і вырашаць сваімі рэзалюцыямі. Выходныя рэзалюцыі з пратаколу ён будзе падпісваць з урадавай пячаткай, у сярэдзіне якой стаяць словы "Вольнасць, цэласць, незалежнасць", а вакол – "Дазор № у павеце №".

2. Ён не выдае рэзалюцый на аднабаковыя данясенні.

3. Ён заслухоўвае прынесеную да яго скаргу аднаго і апраўданні другога боку, запісвае іх у пратакол разам з сваёй думкай,

а пасля атрымання пажаданняў абодвух бакоў выносіць справядлівае рашэнне на адрас пакрыўджанага. У выпадку яго невыканання, укажа віноўнаму на валакіту, а пасля напаміну накажа яго за непаслухмянасць у меру страты за непаслушэнства грашовай квотай або працай. Для прадухілення шкоднай валакіты, пастановы дазорцы належыць заўжды даводзіць да канца, нават пры апеляцыі якога-небудзь боку.

4. У выпадку апеляцыі якога-небудзь бока на суд дазорцы у камісію, камісія дасканала разбірае справу. Па заслухоўванні і зацвярджэнні рэзалюцыі дазорцы, апелюючы бок наказваецца зваротам страты па апеляцыі на карысць другога бока. У роўнай ступені наказваецца дазорца, калі яго пастанова будзе адхілена аддзелам справядлівасці. Калі дазорца у сваёй думцы або з-за нядбалага разумення скаргі адхіліцца ад справядлівасці, то яго рашэнне скасоўваецца ў залежнасці ад прызнання яго важкасці, пры выяўленні злой волі або карыслівага жадання. Віна яго і ўрадавая зычлівасць да пакарання правіннасці абвяшчаецца грамадскасці па ўсіх дазорах павета.

5. Два памежныя дазорцы разам з фальваркам павінны разбіраць спрэчкі паміж сялянамі таго дазора, дзе адбылася падзея. У важнейшых жа здарэннях тыя дазорцы адсылаюць бакі у камісію са сваёй думкай.

6. Кожны дазорца назначае ў абшары свайго дазора месца свайго знаходжання і дні, у якія ён будзе там знаходзіцца, каб гэтым паспрыяць жыхарам звяртацца да яго рэзалюцый пры іх жаданні.

Артыкул 4. Устанаўленне абавязкаў настаўнікаў у дазорах

1. У настаўнікі дазора камісія выбірае чалавека асветнага, бездакорнага звычаю, заўважанага ў клопаце аб дабры края, вядомага ў суседстве ці павеце і маючага ўсюду славу. Першымі такога тыпу ураднікамі па свайму прызванню і абавязках у парафіях з'яўляюцца ксяндзы плябаны, айцы шаноўныя і настаўнікі люду. Калі ж здарыцца абараніць люд урадам настаўніка па вызначэнню і рашэнню камісіі, тады такую асобу можна выбраць

або з жывучых пры касцёлах ксяндзоў вікарыяў, алтарыстаў, або з жывучых ці могучых жыць у дазоры капеланаў. Ім можа быць чалавек свецкі, калі ён будзе адзначаны асветай, розумам, вольнасцю ад прадузятасці, традыцыйнасцю, лагоднасцю, знаёмствам з краёвымі ўставамі, духа патрыятычнага і вельмі прывязанага да Айчыны. Ён можа быць любога стану, вызнання і кандыцыі, абы толькі меў вышэй памянутыя адзнакі.

2. Затым дазоравы настаўнік памяшчаецца дазорцам да выканання сваіх абавязкаў і ўрадавых распараджэнняў праз тлумачэнне іх люду, адукацыю і павучанне яго аб карысцях з таго вынікаючых. Ён давядзе пра карысці ўрадавай апекі, якая на ўсіх жыхароў распаўсюджваецца, навучыць святым абавязкам перад Айчынай, ўзаемапрынятым абавязкам і тым, якія выплываюць са стана, у які каго паставіла прадбачанне. Ён растлумачыць святасць умоў і кантрактаў і што па рэлігійнаму вучэнню праўда вынікае з таварысцкай сувязі, будзе ўказваць на неабходнасць абавязковага паслушэнства праву і сваім бліжэйшым уладам, шанавання чужой уласнасці для забеспячэння ўласнай. Словам, настаўнікі будуць старацца, каб квітнела справядлівасць, павага права, паслухмянасць вярхам, любоў да цвярозасці, працавітасць, добрая вера, узаемныя умовы і іншыя цноты, якія моцна звязваюць супольнасць.

3. Усе вызнанцы у краях Рэчы Паспалітай абаронены апекай урада і складаюць нарадовую супольнасць. Айчына ёсць маці ўсякага цяжару і цярпення. Яна роўна дзеліць і будзе паспяхова дзяліцца сваёй старannай прыхільнасцю да ўсіх. Таму настаўнікі павінны аб'ядноўваць усе намеры і заахвочваць імкненне да выканання сваіх абавязкаў і павіннасці як адносна ўрада, так і асабліва адносна абавязкаў абывацельскага братэрства.

4. Яны будуць клапатліва дапамагаць дазорцам пры рэгуляванні спрэчак, у тлумачэнні павіннасцяў, абвяргаць лжывыя думкі, здымаць прадузятасць люда, перашкаджаць яго падману і нішчыць ашуканскія намовы, якімі подлыя людзі могуць зводзіць прастату сялян у злосць, укараняць неспакой, страх або недавер да ўрадавай апекі ў думкі даверлівага люда.

5. Яны будуць зносіцца з ўсімі ў сваім абшарыураднікамі, прызначанымі адукаваць люд, паразумавацца з мясцовымі ўладамі у тым, каб мець ад іх усякую дапамогу і зручнасць у атрыманні даведак аб думках, звычаях, поглядах, распараджэннях і абставінах, якія перашкаджаюць таму намеру. У асобных выпадках яны паступаюць па правілах розума, а пры неабходнасці звяртаюцца за распараджэннемі да дазорцы або камісіі.

6. Месца для настаўнікаў у дазоры, як і галоўнаму дазорцу, камісія выбірае па магчымасці з буйнейшых вёсак парафіяльнага касцёла або фальварка воласці ў тым дазоры. Яна вызначыць і абвесціць для з'езду туды дні, у якія прывык збірацца шматлікі люд, накшталт нядзелі, свята, гандлёвыя дні ў мястэчках.

7. Камісія будзе дабівацца прысылкі рапартоў ад самога настаўніка або загадае дазорцы прысылаць іх адразу разам са сваімі ў парадкавую камісію.

8. Аб'ектам рапартоў настаўніка будзе: 1. Выпраўленне і вынішчэнне памылковых і шкодных думак. 2. Маруднасць люда ў выкананні або праціўленне ў прыняцці пададзеных яму уставаў і правіл. 3. Перашкоды з боку асоб, час і месца прадвесцяў, якія ўскладняюць асвету люда. 4. Дапамога, якая аказваецца і якая неабходна з боку іншых настаўнікаў. 5. Складанасці, якія можна адхіліць прыватна або ўрадам. 6. Забабоны або шкодныя звычаі, на прадухіленне якіх патрабуецца шмат часу або цвёрдых сродкаў і ўвагі ўрада.

9. Урад абяцае, што за прыкладнае выкананне ўласнага абавязку на працягу 4 гадоў, духоўныя асобы займуць урад дазаровага настаўніка, а калі ўправяцца на ім з карысцю і дабром для люду, то атрымаюць права на лепшыя касцельныя фундушы, свецкія ж асобы – на вышэйшыя пасады або паслугі з платай. Даны на сесіі 26 ліпеня 1794 г.

*Дамінік Тадэвуш Мастоўскі, прэзідэнт*

*Томаш Чэх, сакратар Найвышэйшай нарадовай рады*

*БПАНК, с. 35359, л. 305-306 адв. Друк.*

***№ 113. 30 ліпеня. Рэзалюцыя Гродзенскай камісіі аб крымінальнай адказнасці за дызерцірства і недазволеныя пераходы***

Рабілася ў Гродна на сесіі ў замку 30 ліпеня 1794 г.

Парадкавая камісія Гродзенскага павета атрымала паведамленне аб тым, што некаторыя абывацелі і ўзятыя ў паспалітае рушанне іх заступцы, а таксама выбраныя з 5 і 50 дымоў кантаністы, кінулі каманды сваіх карпусоў, вярнуліся дамоў і там праследуюцца за крымінал. Іншыя блукаюць у розных кутках павета і скарачаюць ужытую на абарону края сілу. Яна загадвае ўсім інтэндантам парафій, дазорцам у дазорах, усім плябанам рымскага і грэчаскага абрадкаў у сваіх парафіях, таксама ўсім абывацелям дасканала абрэвізаваць ваколіцы і вёскі і дазнацца кожнаму у сваёй парафіі і дазоры, у якіх дамах або ў якім баку зараз знаходзяцца ўсе тыя, выдадзеныя з землягробскіх дамоў у паспалітае рушанне, нікога не прапушчаць без пашпартоў і здаваць пад стражу парадкавай камісіі Гродзенскага павета ўсіх, хто пакажацца ўцёкшым з сваёй каманды, праходзячым і праязджаючым без пашпарта. Трэба хутка даносіць імёны і прозвішчы тых, хто чыніць дзёрскасць і супраціўленне з паказаннем месца, дзе яны знаходзяцца для адсылкі іх у крымінальныя суды на пакаранне. Камісія асцерагае, што калі нейкі інтэндант, дазорца, плябан або абывацель, ведаючы пра такіх асоб, па якой-небудзь прычыне не прышле, не данясе камісіі або стане хаваць такіх людзей у сваім доме, тады такі сам па даносу будзе адказваць у крымінальным судзе. Даны як вышэй.

*Якуб Гаусман, камісар, старшыня*
*Францішак Мучынскі, камісар*
*Феліцыян Адланіцкі Пачобут, камісар*
*Віктар Шумкоўскі, камісар*
*Ян Канопка, камісар*
*Іосіф Лабенскі, камісар*
*Іосіф Зялінскі, камісар*
*Францішак Гансеўскі, камісар*

Згодна з пратколам, *Пётр Манюшка, рэгент парадкавай камісіі Гродзенскага павета*

*БПАНК, с. 35360, л. 307. Друк, за пячаткай.*

***№ 114. 13 жніўня. Рэзалюцыя кантрыбуцыйнай камісіі Гродзенскага павета***

З нагоды двух рэквізіцый, адной ад віцэ-адміністратара Гродзенскай эканоміі яго каралеўскай мосці абываценя Эйсмонта, і другой ад дырэктара Гродзенскай суконнай фабрыкі абываценя Бульчынскага, жадаючых ад горада Гродна баніфікацыі (скідак) як за пабор грошай з гродзенскай эканамічнай касы, так і за захоп Масквой фабрычных тавараў, дэпутацыя дае такі адказ. Калі вораг патрабаваў з горада Гродна кантрыбуцыю і прыгразіў за нявыплату зруйнаваць тое месца і вынішчыць жыхароў, тады такая кантрыбуцыя была выплачана пазычанымі ў горада грашыма для захавання асоб, маёнткаў і будоў. З погляду на тое, што гэта зберагло маёмасць і жыццё усіх жыхароў і існаванне самога горада, што вораг нашкодзіў асабліва абывацелям, а з улікам таго, што ў той час усе быўшыя ў горадзе Гродна абывацелі і жыхары прапарцыянальна зложыліся для агульнага выкупу жыцця, маёнткаў і будоў, то гэта, здаецца, натуральна абавязвае дэпутацыю назваць разумным і справядлівым рашэнне аб тым, што гродзенская віцэ-адміністрацыя і мануфактурная фабрыка не могуць быць вызвалены ад ускладзенай на ўсіх жыхароў прапарцыянальнай складкі для выратавання жыцця асоб, маёнткаў і будоў, а таму яна не жадае адмаўляцца ад слушнасці ўсіх гэтых розных прычын.

*БНАНК, с. 35329, л. 233. Друк, без атрыбутацыі.*

***№ 115. 20 жніўня. Пастанова Гродзенскай камісіі аб выкананні розных універсалаў Варшаўскай рады***

Рабілася ў Гродна на сесіі ў Новым замку 20 жніўня1794 г.

Камісія Гродзенскага павета мае мэту давесці да поспеху універсалы Найвышэйшай нарадовай рады, а менавіта, першы ад 19 ліпеня аб упраўленні земляробскай гаспадаркай і паведамленні аб жыўнасці ў абывацеляў, другі ад 12 жніўня з адозвай самога Найвышэйшага начальніка пра добраахвотную складку ахвераванняў для салдат кашуль, ботаў, плашчоў, кос і палатна, і , нарэшце, трэці ад дня 13-га таго ж месяца з аддзела інструкцыі аб тым, каб

ён паведаміў Найвышэйшай радзе аб абывацелях, якія старанна прыкладаліся да выратавальнага паўстання народа. Сабраўшы у адно сутнасць тых універсалаў, парадкавая камісія Гродзенскага павета даводзіць іх да публічнага ведама абывацеляў, а для наближэння поспеху у іх выкананні дадае ўласнае распараджэнне.

1. Што да першага ўніверсала ад 19 ліпеня, які найперш клапоціцца аб старанным упраўленні земляробствам, каб абывацелі паведамілі колькі і якую яны маюць жыўнасць, а таксама каб яны аднолькава дбалі пра завоз на таргі ў краёвых гарадах. З гэтай мэтай камісія міласцю публічнага дабра абавязвае ўсіх вотчыннікаў і пасэсараў як мага пільней і лепш займацца апрацоўкай як сваіх, так і сялянскіх зямель, іх добрым абсяваннем, роўна як і тым, каб гэтыя пасэсары і вотчыннікі падалі дазорцам сваіх цыркуляў верныя звесткі аб зборы рознага сорту збожжа, укосах сена, колькасці наяўных людзей, быдла, піўных і гарэлачных бровараў. Такая ведамасць пры здачы дазорцу павінна быць падпісана кожным уласнікам. Акрамя таго, дазорца павінен пацікавіцца ў сялян і іх распарадчыкаў наконт сумленнасці паказанага. Пры пераканanні ў гэтым, дазорца пры рапарце перадасць камісіі складзеную па схеме і супадаючую з прызнаннямі апытаных ведамасць, якую тая, як урадавая ўлада, сама паведаміць у Раду з усім даверам да абывацеляў. Аўтарызаваную ж подпісам абывацеляў ведамасць (дазорца) затрымае пры сабе. Дазорца абавязаны пільна сачыць за належным завозам сялян на таргі ў гарадах і мястэчках, напаўненнем таргоў такой жыўнасцю, якая маецца ў іх звыш патрэбы. Ён будзе заахвочваць і назіраць за захаваннем умеранасці ў вытворчасці і спажыванні напіткаў. Абывацелям забараняецца рабіць дубельтавае (падвоенае) піва пры цяперашняй неурадлівасці ярыны. Пра астатнія артыкулы, не ахопленыя гэтым універсалам, дазорцы даведаюцца з асобна прадпісанай інструкцыі.

2. Што да другога ўніверсала ад 12 жніўня і адозвы Найвышэйшага начальніка з яго жаданнем забяспечыць салдат кашулямі, ботамі, плашчамі, косамі і палатном праз добраахвотныя ахвераванні. Дабрадзейным абывацелям не трэба прадстаўляць стан, у

якім нашы салдаты ужо 6 месяцаў стаяць на паветры без намётаў, плашчоў, змены адзежы і ўкрыцця. Чуласць кожнага чалавека дазваляе лёгка ўявіць, што яны вымушаны цярпець, несучы у ахвяру за нас сваё жыццё. Чаму ж мы не павінны зрабіць для іх такую ж ахвяру, калі яны, будучы разам з намі ў роўным абавязку бараніць Айчыну і вольнасці, сваім жыццём засланяюць нашу пакорнасць? Для поспеху у чым рэкамендуецца ксяндзам плябанам абодвух абрадкаў адразу па атрыманні гэтага ўніверсала аб'ехаць усе хаты сваіх парафій і шляхам звычайнай для іх каляды сабраць на ахвяру салдатам кашулі, боты, скуры, плашчы, косы, палатно, сярмягі з запісам імя і прозвішча кожнага, даючага ахвераванне, а затым выслаць гэтыя сабраныя ахвераванні як мага хутчэй у аддзел забеспячэння парадкавай камісіі разам з рэестрам. Для узнагароды гэтага дазорцы і інтэнданты могуць дадаць абывацелям, што той, хто за подпісам духоўнага дасць больш ахвераванняў у камісію, той будзе з удзячнасцю прыняты за ўзор дбайнасці, а яго клопат камісія занясе ў кнігу памяці.

3. Што да трэцяга ўніверсала з аддзела інструкцый Найвышэйшай рады у гэты аддзел камісіі ад 13 жніўня пра пашырэнне абывацельскага духа, то ён слова ў слова падаецца для публічнага ведама.

"Аддзел інструкцый Найвышэйшай нарадовай рады у аддзел інструкцый Цэнтральнай дэпутацыі ВКЛ. Яшчэ добра і з трывогай помняцца абставіны і час, у якіх абывацельскі дух і цнота сталі правіннасцю у вачах гвалтаўнікоў, калі патрабавалася хаваць дабрадзейнейшыя пачуцці ўглыбі свайго сэрца, каб шляхетныя іх праявы не прызнаваліся злачынствам слугамі лютых дэспатаў і здраднікаў Айчыны. Але вось наступіла прыязнейшая для дабрадзейнасці хвіліна. Адкрылася шырокае поле для аказання абывацелямі сапраўднай паслугі, мужнасці і міласці да Айчыны. Дабытая ў роспачы ад праследавання нявіннага люда зброя ўзнялася на вайну дабрадзейнасці супраць злачынства, справядлівасці з насіллем, вольнасці з тыраніяй, словам, барацьбу за права людзей, за свабоду народа, за захаванне польскага імя, за незалежнасць

Айчыны, з дэспатызмам двух драпежных суседзяў, якія прагнуць расцягнуць панаванне на лютым абняслаўліванні і зганьбаванні людской натуры. Тым справядлівей наша вайна, тым значней мусяць быць рознага роду прыклады паўстання вольнага люда. Шляхетны дух, абудзіўшы прывалены народ, мусіць праяўляцца ў цудоўных наступствах. Калі прычынай натхнення ад злачынцы становяцца яго лупы, рабаўніцтва, наезды, разбоі, спусташэнне, словам, такія жудасныя наступствы і рэчы, ад якіх павінна засаромецца людская прырода, то цноты з міласці да Айчыны выяўляюцца ў мужнасці, у гераізме, у вялікіх ахвярах, якія ўтвараюць шляхетныя чыны і цудоўныя справы, якія робяцца аздобай века і прыкладам для нашчадкаў. Збяром клапатліва гэтыя шаноўныя наступствы, бо нарадовы дух, які іх стварае і якімі ўтрымліваецца, за ўзорам адной добрай справы пацягне тысячы паслядоўнікаў, падбадзёрыць слабых, падмацуе добрых, запаліць раўнадушных, а саму злосць калі не паправіць, дык прымусіць пакрыцца сорамам і ганьбай.

Аддзел інструкцый Найвышэйшай нарадовай рады перакананы у тым, што выратавальныя наступствы паходзяць з пашырэння нарадовага духа і што гэта пашырэнне магчыма спраўдзіць толькі праз слаўныя прыклады мужнасці , цноты і стараннасці. Таму ён пастанавіў збіраць і абвяшчаць аб усім тым, што можа прынесці польскаму імені гонар мужнасці і шляхетнасці ў час нашага паўстання. Калі для менш вольнага чалавека справа – гэта рэч для пустога самахвальства, то хвала і публічная павага ёсць адзіная і найлепшая ўзнагарода вольнаму чалавеку за чыннасці, выкананыя ім разам для Айчыны і ў імя вольнасці. Мы не хочам, каб маўчанне і забыццё згубілі годную справу цяперашняга века і патомства. Няхай тыя, хто ўслаўлены за сумленныя цноты, з удзячнасцю прыме пакланенні грамадскасці. З такіх вось матэрыялаў з часам створыцца кніга спраў, робячы сапраўдны гонар чалавечаму роду, старонкі якой будуць заняты не злачынствамі і гвалтамі тыранаў, а хатнімі цнотамі абывацеляў, добрых сыноў Айчыны, і якая не правіламі, а ўчынкамі цнатлівых людзей жывей навукі звернецца да сэрца, людской і абывацельскай маралі.

Па гэтых прычынах аддзел інструкцый Найвышэйшай нарадовай рады загадвае парадкавым камісіям, а менавіта аддзелу інструкцый Цэнтральнай дэпутацыі і іншых ваяводстваў і паветаў, старанна сачыць за патрыятычнымі справамі і асабіста ў той аддзел паведамляць, хто і як многа з часу паўстання народа ўчыніў для Айчыны, якія склаў ахвераванні, хто па-абывацельску выносіў працы і прыкрасці, якія прыстойны толькі кахаючым Айчыну, з якой ахвотай абывацелі ставіліся пад харугвы Айчыны, хто умеў натхняць сялян на абарону края, ахвотна даваў ім палёгкі ў цяжарах і сам станавіўся на чале іх, хто з вяскоўцаў змог ужыць атрыманую апеку урада з удзячнасцю, карысцю і сціпласцю, і, нарэшце, ці аказалася дабрачыннасць побач з дробязнай працай, накладам і зброяй той дробнай іголкай, якая далікатнай рукой накрыла і дагэтуль пакрывае раны і целы салдат? Не гаворка тут пра розныя добрыя справы, выкананыя з доўга, хаця яны варты і годныя для слушных папрокаў, а пра чыны, якія маюць характар вышэйшай цноты, у якіх міласць да Айчыны перавысіла іншыя, нават сумленныя сімпатыі, у якіх прыватны інтарэс мусіў уступіць публічнаму імкненню, у якіх ахвяра аказалася праявай душы, а не абставін. Аддзел інструкцый жадае сабраць і атрымаць кароткія паведамленні пра ўсе такія чыны пры рапартах у аддзел інструкцый Найвышэйшай нарадовай рады разам з шляхетнымі словамі пра добрыя справы абывацеляў ваяводстваў і паветаў. Яны стануць дапамогай таму аддзелу у справах дазорцаў, дазоравых настаўнікаў, ксяндзоў плябанаў абодвух абрадкаў і рознага вызнання. Няхай паведамляюць ім пра такія ўчынкі і прыклады, засведчаныя подпісам. Аддзел інструкцый асцерагае, каб пры апісанні такіх чыннасцяў не спакушаліся пустой павярхоўнасцю, а зважалі на абставіны і пабудкі, якія надаюць вышэйшую або ніжэйшую цану добрым справам, каб умелі сярод прастаты распазнаць кошт цноты, а ў апісанні як чыноў, так і прыкладаў захавалі натуральную адкрытасць і шчырасць, бо гэта тое, што пры чытанні пра цудоўныя ўчынкі мацней за ўсё кранае сэрцы і цягне да паўтарэння.

Абывацелі, засядаючыя ў аддзелах інструкцый, вы, пэўна, разумееце важнасць такога меркавання, якое пасылаецца да вас аддзелам інструкцый Найвышэйшай нарадовай рады. Ён падзяляе з вамі свае абавязкі, чакае з даверам вынікаў гэтай адозвы, бо вы ведаеце моц і патрэбу прыкладаў. Здыміце повад для папрокаў палякаў у тым, што яны, не апошнія ў добрых справах, не дбаюць пра апісанне сваіх спраў. Захавайце непрадузятасць і праўду, якія за сведчаннем патрэбна аддаць дабрадзейнасці, апраўдайце глыбокія словы Тацыта аб тым, што самая каштоўная пашана паходзіць з часу праявы найбольш здольнай цноты." Крыніца свабоды – доблесць, а бяздзейнасці – маўчанне. Даны на сесіі аддзела інструкцый Найвышэйшай нарадовай рады 13 жніўня 1794 г.

*Ксёндз Францішак Дмахоўскі, старшыня*

*Францішак Заблоцкі, сакратар аддзела інструкцый Найвышэйшай нарадовай рады*

Парадкавая камісія загадвае гэтыя ўніверсалы абвясціць усюды па парафіях і публічных месцах, а менавіта, першы універсал праз дазорцаў, другі – плябанаў і духоўных апекуноў натхнення, трэцці – дазоравых настаўнікаў, плябанаў і ўсіх старанна падтрымаўшых нарадовае паўстанне з тым, каб дазорцы паведамілі пра свае чыннасці ў аддзел жыўнасці, а плябаны данеслі ў аддзел вайсковых патрэб на працягу 2 тыдняў.

*Ксёндз Іосіф Свяжынскі, камісар, старшыня*
*Мацей Корн, абат гродзенскі і камісар*
*Іосіф Зялінскі, камісар*
*Тэадор Віслоцкі, абат супрасльскі і камісар*
*Францішак Гансеўскі, камісар*
*Ян Канопка, камісар*
*Ян Сакалоўскі, камісар*
*Міхаіл Эрэнкрэйц, камісар*
*Станіслаў Гоувальт, парадкавы камісар Гродзенскага павета*
*Якуб Гаусман, камісар*
*Дамінік Маткевіч, камісар*

Пётр Манюшка, *рэгент парадкавай камісіі Гродзенскага павета*

*БПАНК, с. 35364, л. 320-321 адв. Друк, за пячаткай.*

***№ 116. 20 жніўня. Пастанова Варшаўскай рады аб забеспячэнні войска***

Найвышэйшая нарадовая рада ўжо не раз чыніла адозвы да абываценляў адносна пастаўкі пешых і конных кантаністаў. Яна не без горычы даведалася, што ў некаторых месцах іх даставілі не па належнай колькасці, а ў некаторых і цалкам затрымалі. Рада не спадзявалася на неабходнасць калі-небудзь напамінаць і часта паўтараць сваім адзіназемцам, што лёс Айчыны ручаны у іх уласныя рукі і ад іх абароны залежыць, што колькі сродкаў па сваёй ляноце або з-за незычлівасці пашкадуеце на агульны паратунак, столькі сцягнеце на сябе прыкладных кар, што калі польская зямля вызваліцца з-пад насілля, іх напаткаюць вялікія нараканні і праклёны далёкіх нашчадкаў за тое, што пакінутая сваімі сынамі няшчасная Айчына магла пасці лупам наезнікаў, змоўленых сцерці яе існаванне. Гэта ваша будучыня, абыякавыя, баязлівыя і незычлівыя сыны Айчыны! Бо ў той момант не варта класці ніякай розніцы паміж вамі. З якіх бы пабуджэнняў не паходзіла ваша абыякавасць, яна заслугоўвае адной і роўнай ацэнкі не абывацельства і ганьбы, паколькі можа прынесці адны і тыя ж вынікі.

Аднак, было б несправядлівасцю ўрада, калі б увесь цяжар спадаў толькі на старанных абываценляў, прысвяціўшых маёнткі разам са сваім жыццём на агульную абарону. Сынам адной Айчыны, выхаваных на адной зямлі, падабае роўна ставіцца да яе захавання. Калі міласць свабод Айчыны адных вядзе да іх набыцця, тады другіх, падманутых, няхай страх пакарання, а непаслухмяных і упартых няхай сама кара вядзе да выканання сваіх абавязкаў. Для гэтага Рада напаследак загадвае неадкладна дадаць кантаністаў там, дзе яны не дастаўлены цалкам, і поўнасцю выдаць там, дзе яны затрыманы. Разам з тым яна наказвае парадкавым камісіям абмысліць у сваіх ваяводствах і паветах зручныя і хуткія сродкі, з дапамогай якіх можна зараз жа даставіць згаданых кантаністаў да бліжэйшых вайсковых каманд. Хто бы з земцаў і гараджан аказаў процідзеянне цяперашняму загаду і яго ажыццяўленню, на такіх кожная камісія будзе пасылаць вайсковую экзекуцыю і з яе дапамогай можа выбіраць належных кантаністаў або па 100

польскіх злотых за кожнага рэкрута за непаслушэнства і ў якасці пакарання.

У канцы Рада з сумам для сябе прызнае, што там, дзе павінна пабуджаць сама міласць да Айчыны, там яна вымушана ўжываць суровасць кары. Але яшчэ ёсць час, каб тыя, хто беспакарана прысвяціў агульнае дабро ўласным намерам, калі не вярнуліся са шляхетнай ахвотай да дабрадзейнасці, то хаця б адзін раз з клопатам і церпяліва выканалі тое, чаго ад іх мае права дамагацца ўціснутая Айчына. Даны на сесіі Рады у Варшаве 20 жніўня 1794 г.

*Ігнацій Патоцкі, старшыня*

Томаш Чэх, *сакратар Найвышэйшай нарадовай рады*

*БПАНК, с.35378, л. 341-341 адв. Друк, за пячаткай.*

### *№ 117. 23 жніўня. Рэзалюцыя аб парадку уплаты кантрыбуцыі з г. Гродна*

Рабілася ў ратушы выдзеленага вольнага горада Рэчы Паспалітай Гродна 23 жніўня 1794 г.

Магістрат вольнага горада Гродна абвяшчае ўсім абывацелям і жыхарам горада Гродна, што для ліквідацыі кантрыбуцыйнай сумы, пазычанай і выплачанай ворагу грашыма, кантрыбуцыйная дэпутацыя зрабіла расклад, колькі кожны абывацель павінен уплаціць па прапорцыі свайго маёнтка. Гродзенскі магістрат абывацельскай міласцю абавязвае ўсіх уласнікаў, пасэсараў і жыхароў заплаціць на працягу тыдня належачую кожнаму квоту. Магістрат разлічвае, што кожны абывацель (памятаючы пра няшчасце, ад якога давялося захаваць жыццё і маёмасць шляхам выплаты кантрыбуцыі) без усякага прамаруджвання і супраціўлення ўчыніць сатысфакцыю і не дазволіць расцягнуць рэжым экзекуцыі. Месцам для аплаты грошай выбраны дамы абывацеляў Ясінскга і Урублеўскага пад № 686 па вуліцы Маставой. Кожны павінен паведаміць там або ў ратушы, колькі ён збіраецца плаціць. Пісана як вышэй.

*Тадэвуш Клава, прэзідэнт вольнага горада Гродна*

*Якуб Растаноўскі, віцэ-прэзідэнт вольнага горада Гродна*

*Даніэль Лянкевіч, пісар выдзеленега горада Рэчы Паспалітай, вольнага Гродна*

*БПАНК, с. 35366, л. 324. Друк, за пячаткай.*

***№ 118. 24 жніўня. Пастанова Гродзенскай камісіі аб пастаўцы кажухоў у войска з рэзалюцыяй Варшаўскай рады ад 1 і 15 жніўня***

Рабілася на сесіі ў Гродна ў Новым замку Рэчы Паспалітай 24 жніўня 1794 г.

Заўчасна рыхтуючы нарадовае войска да зімы, Найвышэйшая нарадовая рада пастанаўляе. 1. Кожны кантаніст, дастаўлены з 5 або 50 дымоў, можа атрымаць добры кажух, які трэба даставіць яму не пазней 15 верасня за квітам мясцовай парадкавай камісіі з тых жа дымоў. 2. Парадкавыя камісіі адразу паведамляюць аб атрыманні такіх кажухоў у аддзел вайсковых патрэб Найвышэйшай нарадовай рады, якая, па волі Найвышэйшага начальніка, зараз жа адашле тым камісіям плату здаўшым кажухі па 20 злотых за штуку і разам вызначыць месцы і карпусы, дзе і якім іх трэба аддаць.3. Дымы, якія злажыліся для забеспячэння кантаніскіх рэкрутаў, абавязаны здаць кажухі так, як іх разложыць мясцовая парадкавая камісія. 4. Той, хто не здасць кажухі натурай, будзе наказаны мясцовай парадкавай камісіяй па двайной цане мясцовага кошта таго кажуха, а ўпарты можа быць прымушаны вайсковай экзекуцыяй, якую кожная каманда павінна аказаць па загаду. 5. Для выканання цяперашняй уставы, аддзел вайсковых патрэб збіраецца выдаць і пераслаць адпаведныя прадпісанні для Цэнтральнай дэпутацыі ВКЛ і ўсіх парадкавых камісій. Даны у Варшаве на сесіі Рады 1 жніўня 1794 г.

*Іосіф Заёнчак, старшыня*

*Томаш Чэх, сакратар Найвышэйшай нарадовай рады*

Найвышэйшая нарадовая рада пры устанаўленні сваёй рэзалюцыяй ад 1 -га дня бягучага месяца цаны кажуха па 20 злотых для нарадовага войска, мела мэтай тое, што яны патрэбны таму войску звычайнай даўжыні. Аднак, яна даведалася з аддзела вайсковых патрэб аб тым, што Найвышэйшы начальнік патрабаваў даставіць не доўгія, а кароткія кажухі звычайнага курткавага крою па выдадзенай форме і меры, захаваўшы належную для скарба эканомію. Паколькі пры скарачэнні кажухоў змяншаецца іх кошт,

то цана ім устанаўліваецца замест 20 ўжо па 14 злотых. А таму яна ўводзіць гэты пункт у сваю рэзалюцыю (у астатніх распараджэннях яна захоўваецца) побач са згаданай мерай адносна кароткіх кажухоў і паведамляе ўсім парадкавым камісіям. Што да доўгіх кажухоў, патрэбных толькі для варты, то кошт іх перадаецца на вызначэнне вайсковаму камісарыяту. Даны у Варшаве на сесіі Рады 15 жніўня 1794 г.

*Тадэвуш Дамброўскі, старшыня*

*Томаш Чэх, сакратар Найвышэйшай нарадовай рады*

*Міхаіл Арлоўскі, камісар дэпутацыі забеспячэння*

*БПАНК, с. 36637, л. 325-325 адв. Друк, за пячаткай.*

## № 119. 25 жніўня. Пастанова Гродзенскай камісіі аб паборы ботаў, кашуль і сярмяг з рэзалюцыяй Варшаўскай рады ад 17 жніўня

Рабілася на сесіі ў Гродна ў Ніжнім замку Рэчы Паспалітай

Аддзел вайсковых патрэб парадкавай камісіі Гродзенскага павета для хуткага выканання ўніверсалаў Найвышэйшай нарадовай рады аб здачы ботаў, кашуль і сярмяг, абвяшчае іх наступнымі словамі.

Найвышэйшая нарадовая рада звяртаецца да войска і абывацеляў з тым, што першым клопатам урада і ўсіх вас, абывацеляў, павінна быць войска. На ім заснавана ўся наша сіла, у ім заключана наша надзея і спадзяванні на хуткае паляпшэнне становішча. А таму усё, што робіцца для войска, робіцца разам і для нас саміх.

Найвышэйшая нарадовая рада заахвочвала вас, абывацеляў, да складкі ботаў, кажухоў, плашчоў, кос, або ўсяго таго, што тычыцца адзежы і заслоны салдата ад зімы. Яна з задавальненнем бачыць суцяшальны водгук у брацкіх сэрцах, што вы чулыя да салдацкага лёсу, што яго непрыгоды прымаеце за свае і спрабуеце сваімі ахвераваннямі адхіліць іх. Аднак ахвяр з адной чуласці не дастаткова для забесячэння некалькі тысяч салдат, паколькі набліжэнне зімняй пары патрабуе хуткага распараджэння. Таму

абавязваючы вас неадкладна даваць патрэбныя войску рэчы, разам з тым завяраем, што за іх атрымаеце належную плату, а дарам возьмем толькі такія рэчы, якія вам нічога не каштуюць.

Па-першае, дайце дарма з 5 вясковых дымоў 2 кашулі з простага палатна, бо за палатно вам нічога не выпадае.

Па-другое, дайце з 5 дымоў пару ботаў, за якія вам урад заплоціць ніжэй апісаным спосабам 6 злотых. Трэба толькі, каб боты былі добрыя, бо самі ведаеце, што салдат мусіць шмат хадзіць.

Па-трэццяе, дайце таксама з 5 дымоў дастаткова новую сярмягу, за якую атрымаеце 10 злотых.

У чацвертых, з месц, адкуль па класіфікацыі і велічыні дымоў выбраны рэкрут, патрабуецца таксама даць 2 кашулі бяслатна, а боты і сярмягі – па вышэйшай цане. Паколькі ж некаторыя абывацелі і жыхары на моцы папярэдняга ўніверсала ад дня 12 гэтага месяца ўжо паставілі боты і кашулі, то гэта ім залічваецца як за выкананне.

Па-пятае, парадкавыя камісіі і магістраты будуць назіраць у землях і гарадах за дастаўкай згаданых кашуль, ботаў і сярмяг, выдаваць абывацелям квітанцыі згодна з памерам пастаўленых ботаў, кашуль, сярмяг і азначанай цаны, якія будуць аплачаны у экзекуцыйных касах Кароны. У Літве ж аплатай ведаюць парадкавыя камісіі.

У шостых, Рада напамінае вам пра ўжо выдадзеную меру для кажухоў.

Рада не сумняваецца ў вашым, абывацелі, ахвотным садзеянні гэтаму распараджэнню, маючым за мэту істотнае забеспячэнне вайсковых патрэб. Таму яна загадвае парадкавым камісіям сцісла выконваць экзекуцыю і прысылаць боты, кажухі і сярмягі ў аддзел вайсковых патрэб Нарадовай рады на працягу 12 дзён з моманту публікацыі цяперашняга распараджэння. Цэнтральная дэпутацыя і парадкавыя камісіі ВКЛ павінны выканаць адпаведнае распараджэнне падобным чынам, а аддзел парадку павінен яго раздрукаваць і разаслаць ва ўсе парадкавыя камісіі. Даны у Варшаве на сесіі Рады 17 жніўня 1794 г.

*Тадэвуш Дэмбоўскі, прэзідэнт*

*Томаш Чэх, сакратар Найвышэйшай нарадовай рады*

Вайсковы аддзел пад суровейшай адказнасцю ў выпадку непаслухмянасці загадвае ксяндзам плябанам такі ўніверсал адразу па атрыманні абвяшчаць усім абывацелям штотыднёва і па святах з амвонаў па касцёлах і парафіяльных цэрквах. Даны як вышэй.

*Ігнацій Лахніцкі, камісар, прэзідэнт*

*Ян Сакалоўскі, камісар*

*Міхаіл Эрэнкрэйц, камісар*

Згодна з пратаколам, *Аляксандр Віламовіч, сакратар аддзела вайсковых патрэб*

*БПАНК, с. 35368, л. 326-326 адв. Друк, за пячаткай.*

### № 120. 30 жніўня. Узнаўленне Гродзенскай камісіяй крымінальнай адказнасці за нявыдачу рэкрут, фуража і брычак

Рабілася ў Гродна на сесіі ў Ніжнім замку 30 жніўня 1794 г.

Парадкавая камісія Гродзенскага павета дазналася, што пададзеныя на выкананне абывацелям гэтай камісіяй распараджэнні Найвышэйшага начальніка і Нарадовай рады, дагэтуль не выкананы так, як гэтага патрабуюць чуласць і абывацельскі клопат аб краі. Мяркуйце самі, абывацелі, пра сваю нячуласць! Ці можа быць шчаслівы народ, паўстаўшы з кайданоў, ці можа ён набыць святую вольнасць, калі не дасць усяго патрэбнага на абарону, ад якой усё залежыць? Сабраты салдаты мужна змагаюцца з непрыяцелямі за Айчыну і за абывацеляў, якія засталіся ў хатах. Хіба будуць яны мужнымі, калі мы іх належным не засілім? Калі вам, абывацелі, мілыя дабро Айчыны і асабліва ўласнае, слава народа, вольнасць і ўнутраны спакой, тое, што непрыяцель узяўся знішчыць і пагубіць, тады вы павінны быць чулымі з абывацельскай цноты і слухацца распараджэнняў Найвышэйшага начальніка і Нарадовай рады. Затым парадкавая камісія Гродзенскага павета з клопатам аб дакладным выкананні распараджэнняў вышэйшых улад, чыніць да вас, абывацеляў, паўторны напамін пра пастаўку брычак і коней згодна са сваім распараджэннем, грошай узамен

іх з невялікіх дымоў, даўно залеглага фуража, а таксама 5 і 5 – дымовых рэкрут. Гэтага ўсяго парадкавая камісія Гродзенскага павета дамагаецца зараз жа. Калі абываецелі яе не пачуюць да 6 верасня, тады не толькі будуць пакараны у дупло, як патрабуе Рада ў Кароне, але, згодна з распараджэннямі вышэйшых улад, такія абываецелі будуць пакараны у крымінальным судзе як супраціўленцы нарадоваму паўстанню. Даны як вышэй.

*Віктар Шумкоўскі, камісар, старшыня*
*Тадэвуш Андрэйковіч, камісар*
*Тэадор Вісloцкі, абат супрасльскі і камісар*
*Міхаіл Эрэнкрэйц, камісар*
*Францішак Гансеўскі, камісар*
*Дамінік Маткевіч, камісар*
*Ян Канопка, камісар*

Згодна з пратаколам, *Пётр Манюшка, рэгент парадкавай камісіі Гродзенскага павета*

*БПАНК, с. 35379, л. 342. Друк, за пячаткай.*

### № 121. 30 жніўня. Рэзалюцыя Варшаўскай рады наконт аплаты за пастаўку фуража

Найвышэйшая нарадовая рада, маючы ад парадкавых камісій данясенні пра скаргі абываецеляў на тое, што у іх не прымаюць у кошт публічнага падатку квітанцыі за выдадзеныя войску Рэчы Паспалітай фураж і іншыя вайсковыя артыкулы, і жадаючы аддаць кожнаму справядлівасць, загадвае парадкавым камісіям ваяводстваў, паветаў і зямель вызначыць са свайго кола 5 чалавек для разгляду квітаў і ацэнкі належнага абываецелям за фураж, выдадзены войску Рэчы Паспалітай. Гэтыя назначэнцы павінны пачаць даручаную ім справу адразу і выконваць яе згодна з прапісанымі ніжэй правіламі.

1. Вызначаныя камісары абвесцяць абываецелям сваіх ваяводстваў, паветаў і зямель, каб тыя на працягу 1 месяца з даты аб’явы сталі перад імі з квітамі на выдадзены войску фураж і паказалі іх пад пагрозай страты сваёй прэтэнзіі да скарбу за пастаўлены у войска фураж пры няяўцы у тэрмін.

2. Прынімаюцца квітанцыі на выдадзеныя войску Рэчы Паспалітай фураж і іншыя вайсковыя рэчы за выразнымі арданансамі генералаў камандуючых і камандзіраў асобных дывізій, упаўнаважаных арданансамі генералаў камандуючых, таксама білеты камісараў аддзелаў жыўнасці пры карпусах войска Рэчы Паспалітай і білеты парадкавых камісій.

3. Не прымімаюцца іншыя квітанцыі, выдадзеныя ваеннымі, пакуль генералы камандуючыя не падцвердзяць, што па іх камандзы сапраўды атрымалі фураж.

4. Вызначаныя парадкавай камісіяй ліквідатары атаксуюць прыняты ад абывацеляў фураж па квітанцыях згодна з расцэнкамі сваіх ваяводстваў, паветаў і зямель на момант здачы, а пратакол ліквідацыі прынятых квітаў аддадуць у архіў сваёй камісіі, а другі пратакол не прынятых квітаў адашлюць у скарбовы аддзел Нарадовай рады. Скарбовы аддзел Нарадовай рады па атрыманні такой ліквідацыі для аплаты належнасці абывацелям разашле скарбовыя білеты у парадкавыя камісіі, якія заспакояць абывацеляў у належачым ім, а затым прышлюць заспакоеныя квітанцыі тых абывацеляў у скарбовы аддзел Нарадовай рады.

5. Што да Літвы, то парадкавыя камісіі таксама, згодна з вышэй апісаным, складаюць пратаколы належнасці адпаведна таксы для ліквідацыі прынятых і не прынятых квітаў за фураж. Адзін пратакол здаюць у архіў парадкавай камісіі, а другі адсылаюць у скарбовы аддзел Цэнтральнай дэпутацыі. Цэнтральная дэпутацыя складае па пратаколах агульную суму на кожнае ваяводства ці павет, а потым паведамляе у скарбовы аддзел Нарадовай рады пра выпадаючую для літоўскіх абывацеляў належнасць і аплату за пастаўлены фураж. Тады той аддзел зараз жа адсылае ў Цэнтральную дэпутацыю скарбовыя білеты, якімі парадкавыя камісіі Літвы заспакойваюць абывацеляў за належачае ім, а потым заспакоеныя квіты тых жа абывацеляў перасылаюць у скарбовы аддзел Цэнтральнай дэпутацыі. Рабілася у Варшаве на сесіі Рады 30 жніўня 1794 г.

*Іосіф Шыманоўскі, прэзідэнт Нарадовай рады*

Томаш Чэх, *сакратар Нарадовай рады*

*БПАНК, с. 35371, л. 330. Друк, за пячаткай.*

***№ 122. 6 верасня. Рэзалюцыя Гродзенскай камісіі на загад Варшаўскай рады (ад 23 жніўня) адносна перапісу духавенства ў княстве***

Рабілася ў Гродна на сесіі ў Новым замку 6 верасня 1794 г.

Парадкавая камісія Гродзенскага павета атрымала загад аддзела парадку Найвышэйшай нарадовай рады ад 23 жніўня ў словах:

"Паколькі аддзелу інструкцый Найвышэйшай нарадовай рады для ўрадавых пастаноў па справах духавенства патрэбна ведаць, колькі ў якім павеце, зямлі або ваяводстве маецца касцёлаў пад урадам свецкіх ксяндзоў або законнікаў, то аддзел парадку Найвышэйшай нарадовай рады па рэквізіцыі аддзела інструкцый загадвае парадкавым камісіям ва ўсім краі неадкладна перапісаць ў кожным ваяводстве, павеце, зямлі і дазоры касцёлы, плебаніі, законныя кляштары, цэрквы рознага вызнання і данесці пра іх колькасць і назвы у Найвышэйшую нарадовую раду. Даны у Варшаве на сесіі аддзела парадку Найвышэйшай нарадовай рады 23 жніўня 1794 г.

*Алаіз Сільвестровіч, прэзідэнт аддзела парадку*

*Іосіф Свентажэцкі, сакратар аддзела парадку*

Для паскарэння выніку такога распараджэння, кожнаму паасобку ягамосці дазорцу моцна загадваецца перапісаць у сваім цыркулі згодна з вышэй памянутай рэквізіцыяй аддзела парадку Найвышэйшай нарадовай рады колькасць парафіянальных і не парафіянальных касцёлаў любога вызнання, пад урадам свецкіх або законных ксяндзоў, таксама законных кляштараў у сваім цыркулі з іх назвамі і прыслаць рапарт аб іх на працягу 2 тыдняў у аддзел інструкцый парадкавай камісіі Гродзенскага павета. Каб давесці да поспеху гэты загад, парадкавая камсісія Гродзенскага павета загадвае яго раздрукаваць і разаслаць да ўсіх цыркульных дазорцаў свайго павета. Даны як вышэй.

*Мацей Корн, абат, камісар і старшыня*

*Іосіф Зялінскі, камісар*

*Францішак Гансеўскі, камісар*

*Ксёндз Тадэвуш Юрэвіч, камісар*
*Тэадор Віслоцкі, абат супрасльскі, камісар*
*Ян Бульчынскі, камісар*
*Ян Ясінскі, камісар*

Згодна з пратаколам, *Пётр Манюшка, сакратар парадкавай камісіі Гродзенскага павета*

*БПАНК, с. 35371, л. 330 адв. Друк, за пячаткай.*

**№ 123. 11 верасня. Заклік Варшаўскай рады абывацеляў ВКЛ не супрацоўнічаць з расійскімі акупантамі**

Найвышэйшая нарадовая рада да абывацеляў ВКЛ

Не трэба вас, суабывацеляў, пераконваць, як зменлівы лёс, калі ён прыносіць найбольш карысцяў аднаму боку, калі ўхіліўшы розныя перашкоды для перамогі, ён у адзін момант прымае іншы абарот і пачынае спрыяць другому боку. Гэта вы ведаеце добра самі, а таму гэта агульная перамена вынікаў павінна пераканаць думкі ўсіх у тым, што ў час вайны трэба аднолькава пастаянна ўспрымаць шчаслівыя здарэнні і панесеныя паражэнні.

Што можа быць слынней таго моманту, калі вы, абывацелі, скінулі ярмо цяжкай няволі, схапіўшы зброю, пабеглі змагацца з тымі, хто ўсклаў на вас кайданы і спіхнуў народ у бездань жудаснага няладу? Што можа быць шчаслівей дня 23 красавіка, калі мужнасць і вольнасць паляка з прагі вольнасці і свайго права пакарала перавышаючую колькасць тыранаў, вызваліла сталіцу вашай правінцыі ад непрыяцельскай напасці і адчыніла памятную эпоху слаўнага паўстання народа? Прыйшоў, нарэшце, момант, калі тая ж сталіца пасля неаднаразовага адпору, пасля байцоўскай абароны яе жыхароў, была апанавана суровай перавагай наезнікаў. Хіба гэты звычайны для ваюючых народаў шлях павінен спыніць вас, літоўскіх суабывацеляў? Хіба гэты выпадак можа аслабіць дух і зменшыць адвагу вольнага паляка? Страчана места, не ўмацаванае мурамі, адкрытае на небяспеку сваім палажэннем. Вайна яшчэ працягваецца, а поўнае пакананне можа прынесці толькі страх.

Уявім сабе, што не горад бароніць нас ад націску ворага. Не муры цвярдыня і абарона, а ў нас саміх месціцца нездабытае апірышча вольнасці і незалежнасці. Нашы грудзі ёсць прадмурак, а рукі – заслона і шчыт. Пакуль нам хопіць уласных сіл, да тых пор мы непераможныя і ніякія малыя замінкі не аслабяць, а толькі ўмацуюць нас, не спыняць пачатага паўстання, а толькі больш яго ўздымуць і распаўсюдзяць. Няхай тыран, які пераўвышаючай збройнай сілай заняў сталічны горад Літоўскай правінцыі і блізкія да яго землі, выдае свае ўказы, няхай у ім распараджаецца, няхай грозіць адпаведным дзействам і спосабамі, аднак вас, абывацелі, гэта не можа спыніць. Указы не змогуць зняволіць вас да сляпой пакорнасці. Яго ўрадаў вы не прызнаеце справядлівымі. Пагрозы палохаюць толькі подлыя і нізкія душы, а шляхетным галовам, прысвячаючым усё сваёй Айчыне, яны пакажуцца смешнымі і вартымі знявагі. Ён можа ад імя сваёй гаспадыні абяцаць лагодны урад апанаванаму ваяводству, завяраць ласку манархіні за зварот, а тым часам кідаць перуны і падбухторваць паспаліты люд. Хіба могуць гэтыя подлыя сродкі падманлівай спакусы трапіць у сэрцы мужных палякаў? Або столькі разоў падманутыя ўрачыстымі трактатамі, вы наставіце вушы пустым абяцанням яе пасланнікаў?

Не, брацція абывацелі! Не дайце застрашыць сябе пераменлівасцю удачы, не паддавайцеся пустым казкам пра ласкавае абыходжанне. Няма ўжо ў вас урада, а толькі нявольная зямля, якую яшчэ трэба вызваліць. А таму люд паспаліты, люд добры, які нядаўна так добра сябе зведаў і убачыў, старайцеся адвесці ад намовы, якую ім імкнецца падсунуць непрыяцельскае войска, гаворачы ім, што яны быццам бы дагэтуль цярпелі ў нетрывалым урадзе. Яны церпяць у сваіх жа краях наезнікаў, а стануць шчаслівымі пад апекай сталых правоў вольнага ўрада.

Наша справа добрая: узначаліў яе пачатак сам бог і ён падпірае сваёй спраўнай рукой далейшыя нашы учынкі. Пакананы і яшчэ гойсае рассыпаны па многіх месцах вораг. Гэтымі днямі вызвалена Варшава, якую выдраць у нас імкнулася ненасытная хцівасць Фрыдрыха Вільгельма разам з паўночным войскам. Паўстала

Вялікая Польша, скінуўшы тыя ланцугі, якімі яна была дагэтуль залежніцкі акута сілай брандэрбургчыка. Выкінуўшы стражнікаў суровага дэспатызма, яна пабегла да вольнасці, у лоне якой выхавана, пабегла да сваіх субратоў і таму яшчэ жывей і шырэй злучылася ўжо з намі правінцыя шматлікіх цнатлівых і мужных вялікапалян. Хіба гэта не моцныя асновы і падпоры будучага шчасця, поспеху народа? Хіба можна сумнявацца, што хутка нам давядзецца адшукаць усе захопы? Гойсаючых жа наезнікаў, дзёрскіх тыранаў і ўладарных гвалтаўнікоў мы хутка прагонім перад сабой, а памслівая рука паляка не спыніцца даганяць яго ў далёкіх межах. Трэба толькі сталасць, трэба мужнасці і вытрымкі і тады ніякія ўдары не здолеюць нас аслабіць. Страта маёмасці не можа спыніць нікога, калі кожны ахвотна прысвеціць сваё жыццё Айчыне. Прыязнь да яе пераможа ўсякія віды, карысці і самазахаванне. Сама смерць зараз, за вольнасць і свабоды субратоў, ужо ёсць салодкі падарунак грамадскасці.

Таму Рада цяперашняй сваёй адозвай мае намер умацаваць патрыятычны дух у вас, літоўскія абывацелі, не напалоханых ніякімі прыпадкамі. Зразумейце, што гэтак жа, як ахвотна прыкладаліся да паўстання народа, з якой ахвотай узнялі зброю пад кіраўніцтвам Найвышэйшага збройнай сілы начальніка на знішчэнне ганебнай арды, якая вашы дамы нішчыць, так у гэтым жа пачынанні здолееце дабіцца поспеху. Тыя, хто далёка ад маёнткаў застаюцца на яшчэ вольнай зямлі, павінны злучацца і дапамагаць сваім субратам супраць непрыяцельскіх сіл. Тыя ж, каго лёс загарнуў пад дыктат наезніка, веруць у поспех паўстання, будуць у нецярпенні чакаць той хвіліны, якая верне іх у лона Айчыны і злучыць з намі цесным агнівам братэрства. Калі ж, аднак, знойдзецца такі абывацель, у якога акажацца кроў запраданага замежнай інтрызе земляка, які, пагардзіўшы Айчынай, падасца ў занятыя непрыяцелем ваяводствы і з ім злучыцца, або на месцы асабіста сядзе ў навязаны урад ці увайдзе ў склад якой-небудзь юрысдыкцыі, такі здрадніцкі і нягодны вольнага народа жыхар няхай баіцца кары, якую заслугоўваюць здраднікі і вераломцы.

Рада асцерагае абываццеляў, каб яны памяталі абавязкі, якімі яны абавязаны занятаму ворагам краю, не ўваходзілі ні ў якія саюзы і не адважваліся чыніць супраць (свайго) урада пад адказнасцю панясення кар, якія прапісаны для таго ў арганізацыі крымінальнага суда. Тыя ж, хто застаецца ў вольных краях Рэчы Паспалітай, хаця б іх маёнткі і былі заняты ворагам, не павінны ісці да ворага і слухацца яго ўказаў, чаго ўсе каманды народовых войск павінны цвёрда назіраць, забараняць пераезды, а парадкавыя камісіі не могуць выдаваць такім асобам ніякіх пашпартоў. Каб гэта адозва стала вядома ўсім, Найвышэйшая народовая рада пасылае яе Цэнтральнай дэпутацыі ВКЛ і загадвае ўсім парадкавым камісіям яе зараз жа абвясціць. Даны на сесіі Народовай рады 11 верасня 1794 г.

*Ксёндз Францішак Дмахоўскі, прэзідэнт*

Томаш Чэх, *сакратар Найвышэйшай народовай рады*

*БПАНК, с. 35373, л. 332-332 адв. Друк, за пячаткай.*

### № 124. 11 верасня. Устава Варшаўскай рады аб займе і дэпазітах у ВКЛ

Найвышэйшая народовая рада атрымала ад Найвышэйшага начальніка загад адносна дачы гатоўкі на няўмольныя патрэбы войска ў наступным выглядзе.

"У Найвышэйшую народовую раду. Паўстанне вялікапалян і прылеглых ваяводстваў, хуткія ўцёкі непрыяцеля з-пад Варшавы даюць новы абарот народовым войскам, ад паскарэння якіх будзе залежыць і хуткае вызваленне Айчыны. Паходзячыя з гэтага вайсковыя патрэбы настолькі тэрміновыя і безумоўныя, што калі прамарудзіць іх задавальненне або ім у цэлым не падсобіць, што ўласна адно і тое ж, тады і першае і другое можа калі не згубіць Айчыну цалкам, то па меншай меры наклікаць на яе непажаданыя беды. З гэтай мэтай звяртаюся ў Найвышэйшую народовую раду са сведчаннем ёй няўмольнай патрэбы гатовых грошай, з якімі можна паспяховей і хутчэй распарадзіцца ваеннымі аперацыямі. Ведаючы пра стараннасць абываццеляў, з якой яны дагэтуль так спраўна і мужна прыкладаліся да народовага паўстання, я ніяк не

сумняваюся, што яны самі пастараюцца падсобіць у тых патрэбах, як толькі даведаюцца аб іх тэрміновасці і немінучасці. Няхай Рада гэтыя патрэбы, мной тут пададзеныя, паведаміць абывацелям адозвай, якія па сваёй прыязні да Айчыны, пэўна, зробяць усё, што змогуць, з пераканання, што ад захавання Айчыны залежыць і захаванне іх асабістых свабод, за якія яны ужо так мужна змагаліся. Ніякія ахвяры не могуць быць цяжкімі для шчыра прывязаных да Айчыны. Няхай Рада, кіруемая гэтай праўдай у пошуках сродкаў для хуткага збору гатоўкі, у першую чаргу звернецца да дэпазітных сум, якія дагэтуль ляжаць па розных складах, не прыносячы ніякай карысці ні Айчыне, ні іх уласнікам.

Другім прыстойным спосабам я лічу адкрыць пазычку для Айчыны. Не думаю, што па сваёй цноце абывацелі будуць ухіляцца ад складання грошай, што яны не дакажуць сваю прыязнь да Айчыны, якая чакае ад іх тых сродкаў, якія ўрад вымушаны прадпрыняць у задавальненні гэтай столькі нясцерпнай пазыкі. Калі ж ратаваць Айчыну, калі не ў час яе найістотнейшага і найгвалтоўнейшага патрабавання? Не разумею, што абывацелі, якія не шкадуюць для яе сваіх жыццяў, могуць пашкадаваць сваіх збораў, тым больш тады, калі ўскладаю на Раду крэпкі абавязак вызначыць поўную бяспеку як дэпазітаў, так і пазычаных сум, і назначыць са скарбу звычайны працэнт для ўласнікаў. Для дакладнасці аперацыі і ўпэўненасці пазычаючых, трэба, каб іх сумы мелі пэўны тэрмін для звароту са скарбу. Абывацель тым ахвотней зробіць гэта для Айчыны з усяго таго, што ён дагэтуль рабіў ці то падараваннем сваіх прыбыткаў, ці то асабістай паслугай сваім сябрам, калі атрымае такую ж упэўненасць, роўныя карысці і гарантыю. Акрамя ўсяго гэтага, яму застанецца пажаць яшчэ і гонар у абывацеляў у тым, што ён паспяхова прыклаўся да яе захавання. Можа і так быць, што абывацелі пажадаюць замест займа замяніць скарбовыя білеты гатоўкай, што павінна заслужыць моцную ўвагу Найвышэйшай нарадовай рады. Такі іх крок прынясе двайную карысць: адзін раз ад дастаўкі гатоўкі, а другі раз паспрыяе моцнай цыркуляцыі скарбовых білетаў. У такім разе Рада маецца падумаць над большай зручнасцю і за-

ручэннем сваёй падзякі. Можна б было, к прыкладу, запэўніць іх, што ўзятыя зараз у іх білеты за гатоўку, будуць праз 8 месяцаў зноў аплочаны скарбам, для чаго пакідаю радзе уклад дакладнага распараджэння.

Аднак не перастаю паўтараць радзе і абывацелям сваё перакананне ў тым, што калі не паспяшацца з выдачай гатоўкі на цяперашнія надзвычайныя вайсковыя патрэбы, і не скарыстаць з роздумам пра Айчыну хвіліну, то толькі на сябе наракаць прыдзецца, калі згубім Айчыну з-за запозненыя крокі ў той час, калі яе захаванне трымалі ў сваіх руках. Няхай рада паступіць хутка і спраўна, няхай старанныя стануць прыкладам для гнюсных і абыякавых. А калі б і гэтага было мала для іх нячулай душы, тады урад павінен потым вярнуць іх належнымі сродкамі да іх абавязкаў, бо ніхто не можа адмаўляцца ад агульнага ўдзелу там, дзе гаворка ідзе пра выратаванне Айчыны. Даны у галоўным абозе пад Мокатавам 10 верасня 1794 г. Подпіс рукою – *Тадэвуш Касцюшка*".

Выконваючы затым выражаную такім чынам волю Найвышэйшага начальніка, дагадаючы важным і разам з тым гвалтоўным вайсковым патрэбам, Найвышэйшая нарадовая рада пастанаўляе. На-першае, яна бярэ пад рэквізіцыю ўсё выробленае і не выробленае ў золаце і срэбры як на дэпазітах, так і ўсе сумы ва ўсім краі, гэта значыць у Кароне і Літве. Гэтыя дэпазіты наступныя. 1. Усякія сумы складзеныя на дэпазітах у магістратах або якіх-небудзь юрысдыках па гарадах Рэчы Паспалітай. 2. Усякія сумы складзеныя ў ваяводскіх і павятовых земскіх канцылярыях пад рознай назвай для задавальнення крэдытораў. 3. Усякія сумы аддадзеныя ўласна духавенствам і рознымі абывацелямі пад дэпазіт у капітулы, калегіі, касцёлы, кляштары і іх сіндыкам. 4. Сумы звыш 1000 чырвоных злотых, якія ўтойваюцца якім-небудзь абывацелем. 5. Сумы са здзелак купецтва і іншых банкаў, зробленыя на задавальненне давераных асоб, зацягнутыя па залогу з даўжнікоў, імі прызнаныя і наяўныя, якія належыць плаціць давераным з-за закрыцця зараз камунікацыі з заграніцай або затрымкі тэрмінаў платы.

У гэтых мэтах Рада аб'яўляе, што дэпазітары, гэта значыць тыя, у каго складзены дэпазіты, таксама і тыя, хто мае вышэй апісаныя сумы, павінны на працягу 7 дзён са дня публікацыі цяперашняга распараджэння пад адказнасцю на ўласных маёнтках паведаміць аб сваіх дэпазітах парадкавым камісіям у ваяводствах, землях і паветах, магістратам – у гарадах, а калі б іх не мелі, то пад адказнасцю ў крымінальных судах. Дэпазіты, узятыя ўрадам пад рэквізіцыю, выдаваць іх уласнікам не належыць. Ад гэтага наказу вызваляюцца тыя, хто па сканчэнні 7 дзён ад аб'явы засведчыць перад камісіяй або магістратам замену сваіх дэпазітарных сум на скарбовыя білеты. Па атрыманні паведамленняў дэпазітараў, парадкавыя камісіі і магістраты гарадоў зараз жа павінны зарэгістраваць выдачу ім такіх дэпазітаў, выдаць рэверс на іх дэпазітарам і ўручыць кожнаму на рукі ўрадавыя аблігацыйныя дакументы на штэмпельнай паперы і звычайнай цаны разам з запэўніваннем 5 % на год пад забеспячэннем скарба Найвышэйшай нарадовай рады і свабодным атрыманнем іх дэпазітарамі кожныя паўгода за кошт скарба на атрыманыя ад іх сумы, а таксама за выробленае і нявыраблонае золата са срэбрам. Парадкавыя камісіі і магістраты павінны прасачыць, каб не было схаваных ад скарбу дэпазітаў, заахвочваць абывацеляў да роўнага стаўлення да абавязкаў. У выпадку адкрыцця ўтоеных дэпазітаў, трэба сцягваць пятую частку з маёнтка дэпазітара, а калі той не будзе ў стане, тады скарб аддасць дзесятую частку дэпазіта на ўзнагароду, а самога дэпазітара адашле для асабістага пакарання ў крымінальны суд.

Па-другое, згодна з воляй Найвышэйшага начальніка, Найвышэйшая нарадовая рада пастанаўляе і абвяшчае публічны абывацельскі крэдыт (пазыку) з адной адзінай мэтай – абароны Айчыны і засілення войска, якое б'ецца за яе цэласць. А для гэтага прадпісваюцца наступныя правілы.

1. Гэта пазыка разлічана на нязменную нідзе абывацельскую ахвоту. Аднак няхай абывацелі не забудуць, што давяраюць тыя сумы на збаўленне Айчыны пад забеспячэннем, давяраюць не без карысці, бо пад азначаныя вышэй працэнты абавязкова будуць

прададзены нарадовыя ўладанні, што гэты продаж пачнецца 1 снежня, што першынство сярод іншых пакупнікоў нарадовых маёнткаў атрымаюць тыя, хто даказаў стараннасць у даверы сваіх збораў на раптоўную патрэбу Айчыны, што, нарэшце, тыя, хто купіць нарадовыя ўладанні за скарбовыя білеты, атрымаюць за іх працэнты згодна з ухвалай Рады ад 8 чэрвеня.

2. Крэдытор (пазычаючы суму) атрымае на яе аблігацыйны дакумент з скарбовага аддзелу з тэрмінам уплаты на працягу года.

3. На пазычаныя сумы захоўваюцца 6 %, якія будуць выплачаны скарбам разам з капітальнай сумай.

4. У тым аблігацыйным дакуменце бяспека пазычанай сумы будзе вызначана на нарадовых уладаннях і ўсіх фундушах Рэчы Паспалітай, уласнасць на якія захоўваецца не толькі самому крэдытору, але і таму, каму ён уступіць, а ў выпадку неадступнасці – яго спадчыннікам.

5. Маючы згаданы аблігацыйны дакумент, можа заўжды замяніць яго на скарбовыя білеты. Пры замене на яго карысць будуць залічаны тыя працэнты, якія выпадуць па вышэй азначанай прапорцыі за мінулы час.

6. Маючы аблігацыйны дакумент на значныя сумы, можа вярнуць яго ў скарбовы аддзел і замяніць на два або больш дакументаў, якія складаюць разам агульную суму.

Што да абывацеляў, якія ў ахвоце паспяховага служэння Айчыне пажадаюць памяняць сваю гатоўку на скарбовыя білеты, то акрамя такіх білетаў яны атрымаюць запэўніваючы рэверс скарбовага аддзела аб тым, што яны атрымаюць з нарадовага скарбу пасля 8 месяцаў паказаную гатоўку з 6 працэнтам. Для дасягнення гэтага распараджэння і ў адпаведнасці з ім, скарбовы аддзел павінен спецыяльна звярнуцца да парадкавых камісій ваяводстваў, паветаў і зямель з просьбай прасачыць за яго поспехам. Аднак, каб захаваць усюды адзін парадак для лепшай пазычкі і замены гатоўкі на білеты, Рада прадпісвае наступны спосаб дзейнасці парадкавых камісій і гарадскіх магістратаў.

## №132. Агульны стан правіянцкіх складоў Гродзенск павета ў жніўні -верасні

| Магазін | Дата рапарта | Дымоў | Жыта бочак | Сухаро ў Камянё | Ячмен ю | Аўса бочак | Сена Камянё | Солі Бочак/ гарнцаў | Гарэлкі Гарнцаў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Гродна | 9 жніўня<br>23 жніўня<br>21 верасня | –<br>–<br>1664 | 9<br>19<br>– | –<br>283/33<br>1547 | 12<br>20<br>22 | –<br>60<br>95 | 108<br>–<br>1664 | –<br>—<br>— | –<br>—<br>— |
| Саколка | 9 жніўня<br>23 жніўня<br>21 верасня | –<br>–<br>4021 | –<br>–<br>— | 94<br>334/6<br>2858 | 4<br>12<br>51 | –<br>26<br>197 | 107<br>1324<br>3491 | —<br>—<br>— | —<br>—<br>— |
| Гальшка | 9 жніўня<br>23 жніўня<br>21верасня | –<br>–<br>2814 | –<br>50<br>– | –<br>223/24<br>1810 | –<br>10<br>41 | –<br>36<br>107 | –<br>456<br>2146 | —<br>—<br>— | —<br>—<br>— |
| Індура | 9 жніўня<br>23 жніўня<br>21 верасня | –<br>–<br>3823 | –<br>–<br>– | 33<br>835/39<br>2788 | 3<br>25<br>51 | –<br>84<br>205 | 58<br>2458<br>3718 | —<br>—<br>— | —<br>—<br>— |
| Крынкі | 9 жніўня<br>23 жніўня<br>21 верасня | <br>–<br>2010 | -<br>–<br>– | 68<br>893/18<br>1512 | 4<br>16<br>30 | -<br>81<br>130 | 98<br>1304<br>2010 | 7<br>7/24<br>- | -<br>-<br>- |
| Усяго | 9 жніўня<br>23 жніўня<br>21верасня | —<br>–<br>1533 2 | 9<br>69<br>– | 196<br>2571/11<br>10516 | 12<br>83<br>196 | –<br>289<br>736 | 364<br>5544<br>1302 9 | 7<br>37/13 9<br>— | -<br>529<br>- |
| По справаздачах за розныя даты ва ўсіх магазінах | | | | | | | | | |
| | 31 жніўня | – | 58 | 4556 | 5 | 576 | 8387 | 24 | 531 |
| | 14 верасня | – | 58 | 3082 | 91 | 396 | 7222 | 218 | 506 |
| | 20 верасня | – | 60 | 2592 | 72 | 78 | 2070 | 274 | 506 |
| | 27 верасня | – | 63 | 3816 | 97 | 127 | 649 | 338 | - |

*БПАНК, с. 1090, л. 458(за 23 жніўня), л. 547 адв.(за 31 жніўня),л. 575-576 (за верасня), л. 594 (за 20 верасня),л. 594 адв. (за 21 верасня), л. 608 (за 27верас*

***№133. 7 кастрычніка. Рапарт аддзела жыўнасці Гродзенскай камісіі ў Цэнтральную дэпутацыю аб забеспячэнні маршыруючых войск***

Пасля выдачы інструкцый аддзелам жыўнасці Цэнтральнай дэпутацыі для Гродзенскай парадкавай камісіі змяніліся абставіны. Залажыць сталых магазінаў нам не ўдалося і не ўдасца, бо ў Прэнскі, Мерацкі і Эйшышскі паветы ні разаслаць загадаў, ні зрабіць іх хуткага выканання немагчыма з-за хуткага маршу калон войска Рэчы Паспалітай у зусім іншы бок. Таму мы былі па свайму абавязку з дня 23-га пры калонах генералаў Франкоўскага і Гедройца, прынамсі, пры пераходзе калоны Франкоўскага з мястэчка Вяйсей пад Ліпкі, а з-пад Ліпак да Галынкі, адкуль ён зараз маршыруе ў Новы Двор. Калону Гедройца мы сустрэлі ў Лейпунах, адкуль тым жа трактам ідзе калона Несялоўскага, якая пад часовым дазорам майго калегі абывацеля Мальчэўскага. Магазіны у Індурскай частцы, гэтак жа як і ў Галынках, маюць толькі сена. Дакупілі 20 дубельтовых бутэлек і 7 штук дробнай рагатай жывёлы. Тое, што хоць і мала дабываем у абывацеляў, стараемся эканомна раздаваць і ў першую і ў другую калону, аб чым хутка зробім рэестр. Пасылаю для інфармацыі спіс раздадзеных білетаў, прычым толькі тых, якія маю, а іншыя пакідаю пры сабе да той пары, пакуль не адшукаю харчу. Гэтыя білеты затрымаю на маршу вайсковых калон да Янава, а пасля Янава зраблю інакш, бо амаль палова тых білетаў не даходзіць да абывацеляў з-за харчавання мноства няўлічаных коней, хаця на голад і не скарджуся. Папер браць не хачу, бо разлічваю, што абывацелі аплоцяць чвэрць гатоўкай.

Выдаць непатрэбных пры калонах коней нельга з-за адсутнасці загадаў з абозу, а тых, што маюць таварышы афіцэраў, трэба думаць, належыць ужыць пад гарматы. Коннага жаўнера можна б было купіць па зносінах са штабам, але як гэта зрабіць, калі палова той чвэрці грошай не ў гатоўцы. Парадкавая камісія жадае, каб я заставаўся разам з вызначанымі пры калонах да будучага збору або выезду яе з Гродна. Гарэлка ўжываецца толькі на над-

звычайныя патрэбы. Пры калоне Франкоўскага знаходзіцца толькі 4 скруткі скур, а для 100 авечых скур у дзень трэба развесці 16 галоў. Брычку узяў па сваймy рэверсу без фурмана. Гэты рэверс перадаю парадкавай камісіі і прашу запісаць яго разам з маім агульным рапартам.

*Т. Міхайлоўскі*

Прыпіска. Бягучы рапарт у Цэнтральную дэпутацыю аддзел жыўнасці перасылае ў аддзел жыўнасці Гродзенскай парадкавай камісіі разам з пералікам білетаў пры рапарце абываценя Вяльгорскага і з просьбай вярнуць іх пасля азнаямлення. Даны 7 кастрычніка 1794 г.

Станіслаў Валовіч, *намеснік, старшыня*

*БПАНК, с. 1090, л. 611-612.*

Абрамовіч Казімір, сакратар рады г. Гродна
Абрамовіч Іяхім, віленскі вайсковы камісар
Абуховіч Міхаіл, мінскі кашталян, навагрудскі дэлегат у Віленскай радзе
Абухоўскі Іосіф, пісар гродзенскіх пошт 1793-1794
Агінскі Ксаверый, кухмістр, стараста прэвальскі
Агінскі Міхал Клеафас, літоўскі падскарбій
Адамовіч Мартын, член дэпутацыі забеспячэння Гродзенскай камісіі
Адамовіч Апалінарый, лідскі дэлегат у Віленскай радзе
Адахоўскі Міхаіл, гродзенскі стражнік 1793, член дэпутацыі забеспячэння Гродзенскай камісіі
Александровіч Тадэвуш, гродзенскі гродскі і земскі суддзя
Алендскі Станіслаў, ротмістр
Алізаровіч Іосіф, палкоўнік 1793
Альшэўскі Францішак, пракурор літоўскага скарбу
Аржахоўскі Марцэлій, прэор клімавіцкіх дамініканаў
Арлоўскі Шыман, скарбовы дваранін, камісар скарбовага дэпартамента Варшавы
Арсеньеў Мікалай Дзмітрыевіч, генерал
Арцымовіч Мартын Станіслаў, войт і пісар гродзенскага магістрата
Арэнс, віленчук
Аўгустоўскі Ануфрый, асэсар гродзенскай камісіі
Ахатніцкі Тэадор Мартын, палкоўнік 1793, член дэпутацыі забеспячэння гродзенскай камісіі
Ашторп Людвік, сакратар дэпутацыі бяспекі Варшаўскай рады
Бабінскі Іосіф, смаленскі лоўчы 1788, гродзенскі і мерацкі земскі суддзя
Бабрукевіч
Барановіч Міхаіл, гродзенскі стольнік 1792-1793
Бараноўскі Казімір, пісар гродзенскай камісіі
Баратынскі Вінцэнт, аршанскі судовы падстарасціц
Бароўскі Ігнацій
Бароўскі Францішак Ксаверый, маркграф замка, член кантрыбуцыйнай дэпутацыі Гродна

Барткевіч Ваўрынец, гродзенскі кожнадзей
Барэвіч Нікадзім, шамбелян караля, ковенскі камісар
Барэцкі Міхаіл, гродзенскі гродскі і земскі судзя
Бедрыцкі Мацей, ляснік
Бек Людвік, кантралёр літоўскага скарбу 1793
Белапятровіч Ежы, вайсковы экспісар літоўскі
Белаўскі, віленчук
Берасневіч Іосіф, паручнік
Берх Іосіф, член дэпутацыі бяспекі Варшаўскай рады
Білевіч Антон, жмудскі чашнік 1793
Білевіч Вінцэнт, канцылярыст Цэнтральнай дэпутацыі
Білінг Пётр, віленскі купец
Біспінк Теадора, старасціца прэнская
Богуш Ксаверы Міхаіл, віленскі прэлат
Боуфал Францішак, надворны літоўскі экслоўчы, скарбовы дазорца 1793, стараста вербаўскі
Браніцкая
Бронц Мартын, сакратар аддзела жыўнасці гродзенскай камісіі
Брэнер Ян, маёр
Бржастоўскі Міхаіл, мінскі судовы стараста
Булгарын Іяхім, член дэпутацыі бяспекі гродзенскай камісіі
Булгарын Павел, літоўскі падканюшы, ваўкавыскі абозны
Бульчынскі Ян, дырэктар гродзенскай суконнай фабрыкі, камісар
Бучацкі Гасця, палкоўнік лёгкай кавалерыі
Бухавецкі Віктар, віцебскі харунжы, член гродзенскай Таргавіцы
Былеўскі Матэвуш, палкоўнік, член гродзенскай Таргавіцы, член крымінальнага суда гродзенскай камісіі
Важынскі Антон, ашмянскі падкаморы
Валовіч Станіслаў, рэчыцкі падкаморы
Варанец(кі) Іосіф, князь, ротмістр Кароны 1793
Васілеўскі Стэфан, віленскі фуражовы камісар
Ваўжэцкі Томаш, эксхарунжы, камісар скарбу Варшаўскай рады
Ваўкавіцкі Іпаліт, гродзенскі земскі суддзя, член крымінальнага суда
Ваўкавіцкі Францішак, старадубскі ротмістр, гродзенскі камісар бяспекі
Вілямовіч Аляксандр, дваранін літоўскага скарбу 1788, сакратар аддзела бяспекі гродзенскай камісіі
Вінскі Іосіф, сакратар і касір гродзенскага камісарыята
Віслоцкі Тэадор, ксёндз, гродзенскі скабовы камісар
Вішнеўскі Шыман, прэнскі падкаморы

Вішнеўскі Ян, пробашч Мерачы, мерацкі камісар
Вольскі Іосіф, харунжы кароннай кавалерыі 1793
Волмер Францішак, член дэпутацыі бяспекі гродзенскай камісіі
Врублеўскі Ігнацій, радца і касір гродзенскага магістрата, член кантрбуцыйнай камісіі Гродна
Высагерд Тадэвуш, віленскі зямянін
Выкоўскі Ян, дырэктар гродзенскай тытунёвай фабрыкі, асэсар гродзенскай камісіі
Высоцкі Клемянцей, эканом Квасаўскага ключа 1792-1793
Вяльгорскі Міхаіл, генерал-лейтэнант, галоўнакамандуючы паўстання
Вянгерскі Антон, палкоўнік 1797
Гадлеўскі Томаш, смаленскі гранічны суддзя, гродзенскі камісар
Галіцын Сяргей Фёдаравіч, князь, генерал-паручнік
Гансеўскі Францішак, гродзенскі земскі суддзя, крымінальны суддзя гродзенскай камісіі
Гарабурда Ежы Альбрэхт, наваградскі дэпутат Віленскай рады
Гарэцкі Валенцій, віленскі войскі
Гаусман Якуб, гродзенскі купец, член кантрыбуцыйнай камісіі Гродна
Гедройц Рамуальд, генерал-маёр
Гелашэўскі Адам, аўруцкі падчашы
Гельманава Кацярына
Герынг
Гзоўскі
Гіммель Ян, падпалкоўнік, гродзенскі камісар
Гінет Антон, смаленскі ротмістр
Гліндзіч Андрэй, дваранін літоўскага скарба
Глінецкі Адам, член дэпутацыі забеспячэння гродзенскай камісіі
Гоберман Міхаіл, літоўскі падчашы
Гоппэ Адам, касір гродзенскай тытунёвай фабрыкі, член дэпутацыі бяспекі гродзенскай камісіі
Гоувальт Станіслаў, рэгент гродскага суда 1793, гродзенскі камісар
Гоувальт Іосіф, ротмістр, рэгент старадубскага гродскага суда
Грабіцкі Казімір, гродзенскі харунжы 1790-1792, член гродзенскай Таргавіцы
Грабоўскі Ежы, адвакат, генерал-лейтэнант
Грабоўскі Міхаіл, літоўскі канюшы
Градзецкі Антон, дзяржаўца Бачкоў
Грамыка Міхаіл, гродзенскі земскі судзя, камісар
Граноўскі Міхаіл, сакратар каронны, ковенскі дэпутат Віленскай рады

Грасмані Пётр, камісар віленскага шпіталя
Губчынскі Пётр, пісар і радца гродзенскага магістрата
Гуланеці Антон, член дэпутацыі забеспячэння гродзенскай камісіі
Гуторскі Базыль, гродзенскі плябан, падляшскі дэкан
Дабрылеўскі Лукаш, гродзенскі камісар
Данкевіч Мартын, гродзенскі скарбнік і гродскі суддзя 1793
Даўнаровіч Тадэвуш, рэчыцкі харунжы, адміністратар Гродзенскайі Алітскай эканомій
Дамброўскі Ігнацій, ротмістр, вількамірскі гродскі суддзя, член мерацкай камісіі
Данчэўская
Дзерымор Францішак, асэсар гродзенскай камісіі
Дзяконскі Іосіф, дзяржаўца Катранскага ключа
Дмахоўскі Францішак, камісар Варшаўскай рады
Дуброўскі Міхаіл, маркграф палаца Сангушкаў у Гродна
Дэмбоўскі Тадэвуш, член Варшаўскай рады
Ждановіч Томаш, плябан у Серніках
Жылевіч Павел, асэсар гродзенскай камісіі
Жылінскі Людвік, мерацкі земскі суддзя і камісар
Жынеў Матэуш, стараста Воўпы
Забела Ежы, член Віленскай рады
Забела Стэфан, гродзенскі мешчанін
Заблоцкі Францішак, сакратар аддзела інструкцый Варшаўскай рады
Заблудаўскі Лейб Маісеевіч, гродзенскі жыхар
Завадскі Ян, смаленскі гараднічы, віленскі фуражовы камісар
Завістоўскі Шыман, член дэпутацыі забеспячэння гродзенскай камісіі
Заёнчак Іосіф, прэзідэнт Варшавы
Заёнчак Кацярына
Закрэўскі Ігнацій, прэзідэнт Варшавы
Залескі Міхаіл, сакратар аддзела жыўнасці гродзенскай камісіі
Залескі Станіслаў, крымінальны суддзя гродзенскай камісіі
Заліўскі , віленскі мечнік
Занеўскі Антон, рэгент скарбовага архіва ВКЛ, пісар гродзенскай парадкавай камісіі
Заянчкоўскі Францішак, інфлянтскі канонік
Зель, віленчук
Зэйдлер Готліб, член Віленскай рады
Зялінскі Іосіф Антон, войт Гродна, член скарбовага аддзела гродзенскай камісіі

Зялінскі Мікалай, мерацкі камісар
Ігельстром Ота Магнус, расійскі пасол у Варшаве
Ігнатовіч Антон, віскі падстолій, член дэпутацыі бяспекі гродзенскай камісіі
Імбра Фелікс, літоўскі скарбовы дваранін, сакратар дэпутацыі забеспячэння гродзенскай камісіі
Іцкавіч Ілія, гродзенскі мешчанін
Ёдкоўскі
Казакевіч Ігнацій, смаленскі чашнік
Казаноўскі Андрэй, генерал-маёр міліцыі Гродзенскага павета
Казлавіцкі Іосіф, шляхціц
Калантай Гуга, ксёндз, член Вышэйшай рады паўстання у Варшаве
Калантай Ежы, арандатар Дубна
Каменскі Ян, член дэпутацыі забеспячэння гродзенскай камісіі
Кандыба Станіслаў, шляхціц
Капіца Антон, асэсар гродзенскай камісіі
Канопка Ян, генеральны рэвізор скарбу ВКЛ у 1793 г., член скарбовага аддзела гродзенскай камісіі
Канцэвіч Лявон, гродзенскі праваслаўны святчэнаслужыцель
Карржанеўская Тэрэса
Каржанеўскі Іосіф
Карловіч Людвік, мерацкі камісар
Карп Бенедыкт, упіцкі харунжы
Карп Маурыцы Францішак, жмудскі ротмістр, член Варшаўскай рады паўстання
Карп Самуэль, палкоўнік ВКЛ
Карповіч Людвік, мерацкі камісар
Карповіч Міхаіл, ксёндз, смаленскі архідз'якан
Касакоўскі Шыман, апошні вялікі гетман ВКЛ
Кастравіцкі Ігнацій, генерал-ад'ютант, лідскі войскі і дэлягат у Віленскай радзе
Касцюшка Тадэвуш Бенавентура, вярхоўны дыктатар паўстання
Кінштэт Іосіф, ротмістр
Клава Тадэвуш, прэзідэнт Гродна
Кланіцкі Іосіф, гродзенскі мечнік і цывільна-вайсковы камісар
Класоўская
Кліманскі Іосіф, палкоўнік і ротмістр кавалерыі
Клімашэўскі
Клукоўская Барбара, старшая гродзенскіх брыгідак

Ключэўскі Францішак, член скарбовага аддзела гродзенскай камісіі
Клячкоўскі Антон, стараста Расіен
Корн Мацей, гродзенскі абат, член дэпутацыі забеспячэння гродзенскай камісіі
Корсак Іосіф, ляснічы гродзенскай эканоміі
Корсак Самуэль, палкоўнік ВКЛ
Коцел Іосіф, палкоўнік ВКЛ
Коцел Міхаіл Казімір, ротмістр кавалерыі, ашмянскі генерал-маёр
Круповіч Іосіф, шамбелян караля, член гродзенскай Таргавіцы, ротмістр, губернатар Скідзеля, член скарбовага аддзела гродзенскай камісіі
Крушэўскі Людвік, бедзьскі харунжы, стараста Васількаўскі
Крывіцкі Ксаверый, ротмістр, стараста Рамеўкаў, крымінальны суддзя гродзенскай камісіі
Крывіцкі Фларыян, ротмістр, цывільна-вайсковы камісар Сакольскага павета, член дэпутацыі забеспячэння гродзенскай камісіі
Крычынскі Ігнацій
Крэйбіх Францішак, радца Гродна, асэсар гродзенскай камісіі
Кукевіч Тадэвуш, сакратар скарбовага аддзела Віленскай рады
Кулікоўскі Станіслаў, шамбелян караля, член гродзенскай Таргавіцы
Кундзіч Гаспар
Кушалеўскі, віленчук
Кушалеўскі Іосіф, вількамірскі дэпутат у Варшаўскай радзе
Лабенскі (Лабунскі) Іосіф, мешчанін, член дэпутацыі забеспячэння гродзенскай камісіі
Ланеўскі Ян,
Лапа Іосіф, старадубаўскі дэлегат у Віленскай радзе
Ласткоўскі Ян
Лаўцэвіч Гілярый, віленскі ротмістр
Лахніцкі Антон, віцэ-прэзідэнт Вільна
Лахніцкі Ігнацій, палкоўнік, гродзенскі камісар
Легатовіч Іосіф, радца гродзенскага магістрата
Лейзеравіч Іавель, гродзенскі мешчанін
Ліпніцкі Ежы, жмудскі падстолій, член крымінальнага суда гродзенскай камісіі
Ліпніцкі Леапольд, гродскі рэгент, сакратар гродзенскага крымінальнага суда
Львовіч, пракурор гродзенскага крымінальнага суда
Ляговіч Ежы, вількамірскі ротмістр
Лянкевіч Даніэль, пісар і радца Гродна

Лянчэўскі Андрэй

Мажэўскі Яцэк Стэфан, хелмскі лоўчы, член гродзенскай Таргавіцы

Макавецкі Казімір, слонімскі маршалак

Макоўскі Ян, асэсар гродзенскай камісіі

Малін(оў)скі Фелікс, надворны падкаморы караля

Малішэўскі Якуб, радца Гродна

Мальчэўскі Андрэй, ваўкавыскі чашнік, пісар Адукацыйнай камісіі, член дэпутацыі забеспячэння гродзенскай камісіі

Манюшка Пётр, рэгент гродзенскай камісіі

Мараўскі Мікалай, ваўкавыскі экспісар

Марачэўскі Мацей, лідскі дэлегат у Віленскай радзе

Мардас Тадэвуш, ашмянскі і віленскі каморнік

Мароз Ян, гродзенскі падчашы, член гродзенскай Таргавіцы

Марыконі Бенедыкт, пісар ВКЛ

Масальская,

Мастоўскі Дамінік Тадэвуш, член Варшаўскай рады

Маткевіч Іосіф, рэгент літоўскага скарбу 1792, надворны падкаморы 1793, лоўчы Анікшт 1793

Матушэвіч Тадэвуш, сакратар вайсковага аддзела Варшаўскай рады

Махвіц Зянон, скарбовы рэгент

Медушэўскі Іосіф, ротмістр пяцігорскі

Меен Ян, генерал-лейтэнант

Меер Іосіф, член дэпутацыі бяспекі Варшаўскай рады

Меер Рахель, ковенскі войскі

Меўціна

Мілкевіч Мікалай, ротмістр, член дэпутацыі бяспекі гродзенскай камісіі

Міллер Ян, член Віленскай рады

Мінкевіч Вінцэнт, віленскі дэпутат у Варшаўскай радзе

Мінчэўскі Іосіф, намеснік сакольскі

Мірскі Станіслаў, пісар ВКЛ

Міхалкевіч Філіп, крымінальны суддзя гродзенскай камісіі

Міхалоўскі Антон, мерацкі ротмістр, скарбовы дваранін, член аддзела жыўнасці гродзенскай камісіі

Міхаэліс Іосіф, сакратар сакольскай пошты, войт Саколкі, член дэпутацыі бяспекі гродзенскай камісіі

Міцкевіч Іосіф, ксёндз, член вайсковай дэпутацыі Варшаўскай рады

Міцкевіч Мацей

Міцута Антон, гродзенскі харунжы

Міхельсон Бернар, урач
Міхневіч Мацей
Міхневіч Томаш, мерацкі камісар
Мразоўскі Францішак Антон, ротмістр, крымінальны суддзя гродзенскай камісіі
Мурашэўскі
Муха
Мучынскі Мартын, віленскі камісар
Мучынскі Францішак, гродзенскі земскі і крымінальны суддзя
Мялешка Пётр
Навіцкі Ігнацій, падчашы латышоўскі
Навіцкі Іосіф, аршанскі краўчы
Нагурскі Каэтан, шавельскі харунжы
Нарбут Дамінік, лідскі войскі
Нарбут Іосіф, сакратар Віленскай рады
Наркевіч Мартын, ваўкавыскі ротмістр і падчашы
Невенглоўскі
Невядомскі Іосіф, смаленскі ротмістр
Незабытоўскі Стэфан, слонімскі дэкан
Нелюбовіч Матэвуш, член скарбовага аддзела гродзенскай камісіі
Немчыновіч Антон, дваранін літоўскага скарбу
Несялоўскі Іосіф, навагрудскі ваявода
Падляская
Пажарскі Казімір, гродзенскі пробашч
Палітальскі Міхаіл, гродзенскі земскі судзя
Палонскі Барталамей, член дэпутацыі забеспячэння гродзенскай камісіі
Палубента Ігнацій, лідскі земскі рэгент
Палубінскі Мацей,
Панцэржынскі Людвік, харунжы, член дэпутацыі бяспекі гродзенскай камісіі
Паплаўская Феліцыя, гродзенская шляхцянка
Паплаўскі Вінцэнт, пісар вайсковага аддзела Варшаўскай рады
Пастольскі Пётр, член скарбовага аддзела гродзенскай камісіі
Пасуловіч, віленчук
Патоцкі Ігнацій,
Патоцкі Станіслаў Счэсны, генерал кароннай артылерыі
Пац Іосіф, вілейскі стараста
Пацэй Аляксандр, літоўскі абозны

Пачобут Мартын, ксёндз, рэктар Віленскай акадэміі
Пачобут Феліцыян, геаметр караля 1782, крымінальны суддзя гродзенскай камісіі
Пашчэвіч,
Пільхоўскі Давід, віленскі прэлат і афіцыял, суфраган
Піус Сопліца, прэор гродзенскіх кожнадзеяў
Плацыд, кожнадзей аўгусцінаў
Прозар Антон, ковенскі дэпутат у Віленскай радзе
Прэцішэўскі Рох, член Варшаўскай рады
Радавіцкі Ігнацій, ваўкавыскі лоўчы, член скарбовага аддзела гродзенскай камісіі
Радзевіч Мартын
Радзівіл Міхаіл, князь
Радзішэўскі Міхаіл, старадубскі харунжы
Ракуза Дыянісій, аршанскі ротмістр, член дэпутацыі бяспекі гродзенскай камісіі
Ракуза Казімір, сакратар гродзенскай міліцыі
Рамановіч Матэвуш, віленскі фуражовы камісар
Раманоўскі Ян, гродзенскі шляхціц
Растаноўскі Якуб, гродзенскі бурмістр і віцэ-прэзідэнт
Рафановіч Якуб, віцэ-прэзідэнт Гродна
Раціборскі
Рашкоўская Вірыдзіана, старшая гродзенскіх бернардынак
Рашкоўскі Людвік, гродзенскі шляхціц
Ромер Антон, троскі падваявода, камісар
Рудзінскі Ян, ад'ютант Ш. Касакоўскага
Рупейка, віленскі суддзя
Руцкі
Рыбек Ян, падпалкоўнік, сакратар гродзенскай сакрэтнай пошты
Рык Самуэль, віленскі вайсковы камісар
Рыміша Ігнацій, навагрудскі абозны
Рыхлоўскі Мацей
Рэйнікэ Хрыстафор, гродзенскі мешчанін
Рэнно Фелікс, шамбелян караля
Рэпнін Мікалай Васільевіч, князь, галоўнакамандуючы расійскімі карнымі войскамі
Сабалеўскі Ваўрынец, паштмайстар Гродна, сакратар дэпутацыі бяспекі гродзенскай камісіі
Сабалеўскі Станіслаў

Садлуцкі Вінцэнт, земскі рэгент, сакратар скарбовага аддзела гродзенскай камісіі

Садлуцкі Міхаіл, гродзенскі земскі суддзя, маршал гродзенскай таргавіцкай канфедэрацыі

Сакалоўскі Францішак, член гродзенскай кантрыбуцыйнай камісіі

Сакалоўскі Ян, ротмістр, член скарбовага аддзела гродзенскай камісіі

Сакалоўскі Станіслаў, сакратар гродзенскай пошты

Сапега Францішак, князь

Сапоцка Вінцэнт, крымінальны суддзя гродзенскай камісіі

Сапоцка Міхаіл

Свентажэцкі Іосіф, сакратар аддзела парадку Варшаўскай рады

Свяжынскі Іосіф, гродзенскі дэкан, член дэпутацыі бяспекі гродзенскай камісіі

Сівіцкі Дамінік, прэор гродзенскіх дамініканаў

Сікорскі Станіслаў, член гродзенскай кантрыбуцыйнай камісіі

Сільвестровіч Алаіз, член аддзела парадку Варшаўскай рады

Сільвестровіч Вінцэнт, крымінальны суддзя гродзенскай камісіі

Сільвестровіч Юліян, цывільна-вайсковы камісар, член аддзела інструкцый гродзенскай камісіі

Скарбек Ігнацій, канюшы, член дэпутацыі забеспячэння гродзенскай камісіі

Скірмунт Самуэль, лоўчы, гродзенскі судовы падстараста

Скродскі Якуб, капітан каронны, член дэпутацыі бяспекі гродзенскай камісіі

Скурэвіч Казімір, віленскі вайсковы камісар

Слуцкі Хаім Якуб, гродзенскі мешчанін

Снарскі Мацей, мерацкі камісар

Слінк Казімір, шамбелян

Ставіская (Сафія ?)

Стаканскі, віленчук

Старжынскі Стэфан, эканом Эйсмантаў

Сташэўскі Іосіф, упіцкі падкаморы

Стрыенская Разалія, старасціна Сейнаў і Віжан

Стрыенскі Ян, шэф коннай літоўскай гвардыі, арандатар Бераставіц

Струцінскі Геранім, ротмістр кавалерыі

Стрыжэўскі Мацей, член дэпутацыі забеспячэння гродзенскай камісіі

Стэфановіч Іосіф, браслаўскі ротмістр

Судзецкі Францішак, камісар віленскага шпіталя

Суднік Дамінік, люстратар гродзенскай эканоміі

Сухадолец Тадэвуш, падпалкоўнік, член дэпутацыі бяспекі гродзенскай камісіі

Сырасек Андрэй, гродзенскі мешчанін
Сыруц Флор Даліва, ковенскі земскі суддзя
Сялецкая
Сялецкі
Сяргінскі, віленскі войскі
Тавянскі Ігнацій, віленскі земскі суддзя
Тамашэўскі Іосіф, харунжы, гродзенскі гродскі суддзя
Танскі Віктар, ражанскі падстолій
Трашкоўскі Плацыд, брэсткі чашнік
Тучкоў Мікалай Аляксеевіч, маёр артылерыі
Тызенгауз Антон, харунжы, прэзідэнт Вільна
Тышкевіч Ежы, прэор гродзенскіх францыскан
Тышкевіч Мікалай, віленскі канонік
Умастоўскі Томаш, ашмянскі дэлегат у Віленскай радзе
Урбановіч Марыя, гродзенская шляхцянка
Урбановіч Ян, стралок
Француржэвіч Антон, паручнік кавалерыі
Філіповіч Ян, віленскі следчы камісар
Франкоўскі Мацей, генерал
Фрыбас Францішак, гродзенскі купец, пісар дэпутацыі забеспячэння камісіі
Хадасевіч Ян, віленскі фуражовы камісар
Халецкі Эльяш, маёр літоўскі
Халявінскі Мартын, скарбовы рэгент 1793, рэгент Галоўнага трыбунала, член дэпутацыі бяспекі гродзенскай камісіі
Хілкевіч Іосіф, прэзідэнт Саколкі
Хлявінскі Антон, палкоўнік 3 палка польнай булавы ВКЛ 1793 г.
Хлявінскі Габрыэль
Хлявінскі Казімір, расіенскі падстараста, член Варшаўскай рады
Храпавіцкі Мікалай, аршанскі маршалак
Храптовіч Іосіф, член скарбовага аддзела гродзенскай камісіі
Храптовіч Іяхім, член дэпутацыі бяспекі гродзенскай камісіі
Цёмналоскі Станіслаў, гродзенскі гродскі пісар, экзактар скарбу ВКЛ
Цыцыянаў Павел Дзмітрыевіч, генерал-маёр, камандуючы гродзенскім гарнізонам
Цяшэйка Ігнацій
Чаеўскі
Чарнабацкі
Чарняўскі Стэфан, віленскі ротмістр

Чэх Томаш, сакратар Вышэйшай варшаўскай рады

Шабуневіч Міхаіл, мерацкі лоўчы, арандатар Прэвальскага староства

Шаняўскі Ігнацій, настаўнік, член дэпутацыі бяспекі гродзенскай камісіі

Шліттэр Кляра

Шпаноўскі Іосіф, член Варшаўскай рады

Шумкоўскі Віктар, мерацкі чашнік, гродскі суддзя, крымінальны суддзя гродзенскай камісіі

Шумкоўскі Іосіф, гродзенскі гродскі суддзя 1793, краўчы, член гродзенскай Таргавіцы, асэсар гродзенскай камісіі

Шульц Пётр, віленскі следчы камісар

Шуман (Мартын ?)

Шумскі Мартын, член шпітальнай камісіі

Эльнер Антон, мерацкі земскі рэгент

Эльнер Вінцэнт, мерацкі гранічны рэгент і камісар

Эйдзятовіч Леанард, член Віленскай рады

Эйнаровіч Самуэль, брэсцкі актавы пісар

Эйсмант Адам, гродзенскі земскі пісар, член скарбовага аддзела гродзенскай камісіі

Эйсмант Андрэй, гродзенскі земскі суддзя, крымінальны суддзя гродзенскай камісіі

Эйсмант Антон, пробашч у Эйсмантах, камісар гродзенскага аддзела бяспекі

Эйсмант Бенавентура, гродзенскі камісар

Эйсмант Іосіф, сакратар вайсковага аддзела гродзенскай камісіі

Эйсмант Мацей, гродзенскі стольнік, член дэпутацыі забеспясчэння гродзенскай камісіі

Эйсмант, віцэ-адміністратар Гродзенскай эканоміі

Эйсмант Фердынанд, харунжы, член скарбовага аддзела гродзенскай камісіі

Эрэнкрэйц Міхаіл, член гродзенскай кантрыбуцыйнай камісіі

Юндзіл Пётр, генерал-ад'ютант ВКЛ, член дэпутацыі бяспекі гродзенскай камісіі

Юндзіл Францішак, гродзенскі падкаморы, член дэпутацыі забеспячэння гродзенскай камісіі

Юрага Ксаверый Гедройц, віленскі земскі пісар

Юрэвіч Тадэвуш, гродзенскі пробашч, рэктар езуіцкіх школ, член дэпутацыі забеспячэння гродзенскай камісіі

Юшкевіч Якуб

Ябланоўскі Дабрагост, навагрудскі ваяводзіц 1793
Яблонскі Іосіф, маркграф палаца Сангушкаў у Гродна
Ягадзінскі
Языкоў, палкоўнік
Яленскі Іосіф, мазырскі краўчы 1793, гродзенскі камісар
Янкоўская, гродзенская шляхцянка
Ясінскі Якуб, палкоўнік літоўскіх інжынераў

Дадзены зборнік працягвае публікацыі дакументаў паўстання 1794 г. у ВКЛ[1] . На гэты раз у поле зроку рэдактара і складальніка трапіла адна справа з бібліятэкі Польскай акадэміі навук у Курніку, чаму спрыяў тамтэйшы дырэктар сп. Станіслаў Серноўскі. Яна называецца "200 універсалаў і распараджэнняў з часоў нарадовага паўстання пры Т. Касцюшцы, мае адзін камплект пра паўстанне ў Літве". Усе дакументы на польскай мове. У гэтым зборніку яны перакладзены рэдактарам з максімальным захоўваннем тагачаснай стылістыкі. Старонкі скарыстанай справы не нумараваны, а пад адной назвай усе дакументы пазначаны алоўкам асобнымі лічбамі – ад № 35188 да № 35386, так што амаль кожны ліст набыў выгляд асобнай архіўнай адзінкі. Таму рэдактар вымушаны захаваць у сваіх спасылках такі парадак. Другая асаблівасць гэтай справы паходзіць з характару саміх дакументаў. Усе яны, за рэдкім выключэннем, у свой час друкаваліся, а таму нельга сумнявацца ў іх безумоўнай аўтэнтычнасці і сапраўднасці.

Нарэшце, пасля паражэння паўстання літаральна ўсе дакументы надоўга пакрыліся архіўным пылам і вярталіся з нябыту спарадычна або ў рэдкіх тэматычных выданнях, або ў спецыяльных навуковых працах польскіх гісторыкаў. Высілкамі апошніх нядаўна выдадзены навуковы зборнік артыкулаў пра Гарадзейшчыну у падзеях 1794 г. з шырокім выкарыстаннем матэрыялаў згаданай справы[2] . Прынамсі, А. Вальтаноўскі скарыстаў яе для агульнага агляду паўстання ў Гродзенскім павеце[3] , а разам з І. Урвановічам ён жа напісаў тут артыкул пра лёс кантрыбуцыі з г. Гродна. Даследчыкі прывялі спіс жыхароў Гродна пры спагнанні гэтай кантрыбуцыі паўстанцкім кіраўніцтвам, што само па сабе прадэманстравала крыніцазнаўчыя вартасці архіўнай справы[4]. Ся-

род іншага яны заўважылі пачатковыя адрозненні персанальнага складу Гродзенскай парадкавай камісіі ў параўнанні з віленскім узорам, завышаны прапагандысцкі аптымізм гродзенскіх кіраўнікоў, асабліва пры паборы рэкрутаў[5] Гэтыя заўвагі прадстаўляюцца слушнымі таксама адносна іншых мабілізацыйных акцый тамтэйшай камісіі, пра што, к прыкладу, сведчаць прыводзімыя ў канцы гэтага зборніка табліцы адносна запаўнення правіянцкіх складоў Гродзенскага павета розным харчам.

Зразумела, што інфармацыйныя каштоўнасці цытуемай справы не абмяжоўваюцца прыведзенымі прыкладамі. У гэтай сувязі можна згадаць пра распаўсюджанае ў літаратуры уяўленне аб кіруючай ролі Я. Ясінскага ў паўстанні ВКЛ. Гэты зборнік, як і папярэднія, дазваляе назваць падобныя сцвярджэнні міфам. Вядома, што Ясінскі не займаў лідыруючых пазіцый у Віленскай радзе на ўсім працягу паўстання. Прыводзімыя дакументы паказваюць, што яго прозвішча няма ні пад ніводным універсалам Рады. Гэта акалічнасць звязана з тым, што адразу пасля захопу Вільна яго папрасту выціснулі з кіраўнічага кола Рады на фронт у якасці галоўнакамандуючага ўзброенымі сіламі паўстання[6]. Дакумент пад № 4 гаворыць, што такую годнасць ён набыў часова, да перадачы усіх узброеных сіл ВКЛ пад вярхоўнае камандаванне Тадэвуша Касцюшкі. Як сведчыць дакумент пад № 12, часовыя паўнамоцтвы Ясінскага 3 мая падцвердзіла Варшаўская (Найвышэйшая нарадовая) рада, або той кіраўнічы орган паўстання у Кароне і ВКЛ, дзе вельмі сімпатызавалі рашучай расправе віленчукоў з гетманам Шыманам Касакоўскім у першы ж дзень вызвалення Вільна ад расійскага гарнізону. Сваё адціранне ад важных пасад сам Ясінскі аднойчы тлумачыў саслоўнай фанабэрыяй сваіх паплечнікаў, якія пагарджалі яго некняжацкім паходжаннем і лічылі выскачкай[7] Падобны казус ніяк не вяжацца з дэманстрацыяй той жа Радай ураўняльніцкіх ідэй тыпу пераапранання ў евангельскія лахманы, скідання ордэнаў і розных знешніх адзнак арыстакратызма, звязаных з “пышным прадстаўніцтвам” і расходамі (дак. № 6 ад 29 красавіка), урачыстай прысягай членаў пад адрачэннем

ад уласных карысцяў і поўнай паслухмянасці вышэйстаячаму кіраўніцтву (№ 7 ад 1 мая), рыцця акопаў і нашэння зброі ў адных шарэнгах з просталюдзінамі. Як пісаў аўтар узорнай прамовы святара да люду (дак. № 20 ад 9 мая), саноўныя артыбуты і рэгаліі з'яўляюцца забабонамі, бо толькі вольнасць – гэта дар божы і толькі яна адпавядае натуры чалавека. Тэатральныя пераапрананні аказался сродкам не толькі самавыратавання знаці, але і дэманстрацыі сацыяльнай роўнасці. Гэтыя пераапрананні трапілі пад адміністрацыйны сверб Гродзенскай парадкавай камісіі з яе жаданнем зрабіць усіх людзей карыснымі "па свайму прызначэнню"(№42 ад 19 мая). Зыходзячы з гэтага яна рашыла, што толькі знешні неахайны строй перашкаджае яўрэям стаць карыснымі людзьмі ў паўстанні. У выніку яўрэям адвялі тыдзень на змену вопраткі ў Гродна і 2 тыдні ў павеце(№ 81 ад 12 чэрвеня), а затым, відаць з-за супраціўлення, 11 ліпеня ім загадалі пераапрануцца да надыходу Зельвінскай ярмаркі (№ 107). Адсюль, безумоўна, вынікае крывадушна-паказальны характар такіх дэманстрацый сацыяльнага братства, які мог трываць толькі пры спрыяльных умовах агульнага натхнення.

Віленская рада лічыла сябе пераемніцай Чатырохгадовага сейма 1788-1792 гг., як вядома, перарванага інтэрвенцыяй 1792 г. і затым Гродзенскага сейма 1793 г. ). Гэта выяўляецца з яе апеляцыі да Канстытуцыі 3 мая 1791 г. або права Варшаўскага "канстытуцыйнага" сейма ў выглядзе парадкававых або цывільна-вайсковых камісій (дак. № 2, 3), пастановы камісіі паліцыі двух народаў таго ж сейма адносна бескарысных людзей, да якіх заносіліся валацугі і бадзяжнікі (дак. № 84), пабораў рэкрут паводле тарыфаў апошняй люстрацыі (№ 19, 63) і ўнясення падатку 10-га гроша (№ 8, 15). Рада збіралася накіраваць гэтыя паборы на патрыятычна-абарончыя мэты, якія павадыры Таргавіцкай канфедэрацыі 1792 г. і Гродзенскага сейма 1793 г. абярнулі з добраахвотных у несправядлівыя паборы з непаслухмяных і сапернікаў. У сваю чаргу Віленская рада адразу прымяніла тую ж тактыку паводзін да сваіх палітычных праціўнікаў, патрабаваўшы

28 красавіка ад усіх членаў таргавіцкіх канфедэрацый вярнуць у дзяржаўны скарб нарабаваныя імі грошы (дак. № 5). У знак дэманстрацыі ўласнага вялікадушша, яна абяцала аддаць суду народа і ўласнаму сумненню удзельнікаў матывы стварэння і членства ў таргавіцкіх канфедэрацыях. Потым ж яна патлумачыла, што адшукаць разрабаванае са скарбу наўрад ці ўдасца (дак. № 8 ад 1 мая). Аднак, для Гродзенскай парадкавай камісіі (дак. № 32 ад 15 мая), таргавіцкія павадыры заставаліся "перашкодай " да агульнага шчасця, ворагамі паўстання, якія зводзілі іншых да праціўных мэтаў. Таму на месцы заняліся высвятленнем пабраных таргавічанамі грошай разам з рэвізіяй актаў Таргавіцкай канфедэрацыі. Гэта рэвізія вялася валакітна (дак. № 63 ад 29 мая) і да ўсяго яна справакавала раскол у паўстанцкіх радах з - за сваёй маруднасці ў адносінах да здраднікаў і прадузятасці да радавых удзельнікаў. Гэта відаць з распараджэння камісіі ад 22 мая (дак. № 53) аб тым, што яна вымушана адступіцца ад шырокіх рэпрэсій, асабліва супраць тых, хто быў у свой час прымусова "па абставінам" запісаны у рады таргавічан і хто не праславіўся пераследам суайчыннікаў. Практычныя крокі Віленскай рады у адрас здраднікаў зваліся да секвестру маёнткаў пакараных смерцю на шыбеніцы Касакоўскага, Забелы і Швыкоўскага (дак. № 70, 78). Як паказвае пастанова пра разбор іх маёмасных спраў, Раду не натхняў працэс звароту даўгоў павешаных асоб перш за ўсё у рукі іх крэдытораў. Тое, што пасля 9 чэрвеня Рада зусім перастае цікавіцца зваротам нарабаванага таргавічанамі гаворыць, што яна не спяшалася задавальняць прыватныя інтарэсы.

Першыя акты Віленскай рады адлюстравалі шэраг незвычайных асаблівасцяў паўстання, гэтай, як сцвярджалі потым універсалы, "святой справы", распачатай і благаслаўлёнай богам (дак. № 8, 10, 19, 20, 40, 123). Аднак "святы саюз" адразу аказаўся сядалішчам не высокага прадбачання, а скорацечных чалавечых пачуццяў, сярод якіх былі і хуткасць падзей, і пераменлівы энтузіязм, і арганізацыйная непадрыхтаванасць, і прыхаваная ўнутраная неспаянасць кіраўніцтва з непазбежнымі пры гэтым

хістаннямі і непаслядоўнасцю. Так, Віленская рада адразу 24 красавіка назвала сябе часовай і ў знак гэтага проста далучыла свой акт да Кракаўскага акта Тадэвуша Касцюшкі (№ 2). Тым не меней яна не забыла тут жа прысвоіць вышэйшую ўладу у краі на неакрэслены тэрмін або"на ўвесь час, пакуль народ прызнае патрэбным гэты выратавальны саюз" (№ 3). Рада узурпавала сабе цьмянае права "пастанаўляць усё", што яна сама разам з воляй далёкага Вышэйшага начальніка паўстання прызнавала патрэбным для збавення Айчыны і што яна збіралася адмяніць толькі "са зменай абставін" па аднадумству або большасцю галасоў свайго пленума. Дыктатарскія паўнамоцтвы Рады адразу ж рабіліся і неабдымнымі, пачынаючы з увядзення інстытута камісараў у войску, да стварэння крымінальнага суда для "прысмірэння намераў супраціўных нашаму паўстанню, выпраўленню грамадскай думкі" і простаму сачэнню за падазронымі асобамі ў сваіх нетрах. Пры стварэнні крымінальнага суда ў Віленскай радзе намячалі 9 сродкаў "пасеяць страх" за непаслухмянасць указам урада, бунты або падбухторванні да іх і г. д.( № 22 ад 10 мая і № 72 ад 3 чэрвеня). Ініцыятары гэтага закону стараліся максімальна падпарадкаваць палітычны пераслед паскоранаму крымінальнаму пакаранню. Як бы яны не прызнавалі даносы крыніцай затрымкі справядлівасці, аднак усё роўна запісалі іх у склад законных падстаў для 3-дзённага следства і расправы з праціўнымі паўстанню і яго кіраўніцтву асобамі.

Друкуемыя ўніверсалы прызнавалі паўстанне справай заадно прадбачання і шляхты, або рыцарскага стану, які энергіяй сваіх вайсковых каманд у самым пачатку даў прыклад годнага наследавання, – таго, як належыць паступаць "суайчыннікам і дзецям Айчыны"(№ 17 ад 9 мая). Гродзенская парадкавая камісія не раз называла шляхту "байцоўскім рыцарствам" (№ 43 ад 20 мая і № 52 ад 22 чэрвеня) з упэўненасці у яе адзінадушны запал (№ 41 ад 19 мая) у імя дасягнення "вольнасці, самаўладдзя і незалежнасці Рэчы Паспалітай"(№ 8 ад 1 мая). Аднак, гэта рыцарства, слаўнае сваёй "вялікай дабрадзейнасцю, мужнасцю і клопатам" пра Айчы-

ну, аўтарам універсалаў давялося тут жа заклікаць прачнуцца "з нячуласці" (№ 115 ад 4 мая), "з абыякавасці і эгаізма", напамінаць пра гераічнае мінулае яго продкаў, апеляваць да Статута ВКЛ, які пазбаўляў гонару і маёмасцці за ухіленне ад паспалітага рушання (№ 19 ад 9 мая) і лічыў падобнае самым страшным злачынствам з боку ворагаў Айчыны (№ 43 ад 20 мая, № 70 ад 31 мая). Гэта гераічнае рыцарства давялося зваць у полк валанцёраў Гродзенскага павета пад абяцанне запісу ахвотнікаў у кнізе знакамітых ахвераванняў(№ 82-83 ад 12 чэрвеня), з абяцаннем вызвалення ад паспалітага рушання нават тых, хто паставіць сабе замену (№ 87 ад 14 чэрвеня) і, нарэшце, зазываць туды выдачай 30 злотых на рукі кожнаму ахвотніку ("96 ад 20 чэрвеня). Між тым К. Ельскі, адказны за фарміраванне таго рыцарскага палка, ужо 16 мая (№ 37) забараняў тайны запіс у яго усім, хто не быў адпушчаны на волю панамі.

А гэта значыць, права запісу у шляхецкі кавалерыйскі полк пазбаўлялі сялян пры тым, што самі агітатары бачылі перспектыву перамогі толькі пры "адзінстве, згодзе і нераздзельнасці" намераў( № 17 ад 9 мая), калі прызнавалася, што рухаючай сілай паўстання з'яўляецца "брацкая любоў (№ 39 ад 19 мая) і брацкая роўнасць"(№ 17 ад 9 мая) паміж людзьмі. Устанаўленне дазораў 26 ліпеня (№ 112) зыходзіла з падобнай "таварысцкай сувязі" паміж людзьмі. Гаворачы пра святасць або непарушнасць абавязкаў, у якія бог паставіў кожны сацыяльны стан, яно прама сцвярджала, што гэтыя абавязкі сяляне павінны выконваць "па абывацельскаму брацтву". Раз пораз універсалы звалі сялян "слухацца паноў" (№ 20 ад 9 мая), выконваць належныя ім павіннасці (№ 43 ад 19 мая), ды пагражалі цялеснымі пакараннямі і прымусовымі працамі за жабрацтва (№ 42 ад 19 мая), за схову дызерціраў (№ 106 ад 7 ліпеня). Сялян заклікалі чакаць узнагароды за паслухмяную працу на паноў (№ 47 ад 20 мая), утрымліваць спакой, каб заслужыць апеку урада. А паноў гэтыя ж універсалы звалі плаціць падатак 10-га гроша з фальваркаў і не рабіць гэта за конт працаўнікоў (№ 8 ад 1 мая).

Дылема барацьбы паміж перамогай і паражэннем, славай і ярмом дэспатызма (№ 39 ад 19 мая) адлюстравалася у дэвізах "смерць або перамога", "вольнасць або смерць"(№ 24 ад 10 мая). Пры тым універсалы заклікалі шляхту не бяздзейнічаць і прыносіць шчодрыя ахвераванні (№ 39). Але, як гаварыў Коцел, шляхта не спяшалася ісці збіраць "вянкі " славы (№ 23) ні ад запісу у пачэсную кнігу ахвераванняў (№ 34), ні за прадастаўленне ёй самой вызначаць цану паставак жывёлы, харча, фуражу і хлебнай ссыпкі на дзеючыя войскі (№ 95 ад 20 чэрвеня). Гродзенская парадкавая камісія з горыччу канстатавала 21 мая, што шляхта стала менш несці ахвераванняў і ёй давялося звяртацца да святарства за грашыма (№ 51). Практычна на ўсім працягу паўстання гродзенскай камісіі давялося выбіваць рэкрутаў з рыцарства павета. 9 мая камісія папрасіла сваіх абывацеляў на працягу 2 тыдняў даць з 5 дымоў у каманду мясцовага генерал-маёра аднаго коннага ахвотніка (№ 19). А ўжо праз дзень яна пераходзіць да пагроз прызанння супраціўленцаў ворагамі Айчыны, калі яны не дадуць пры рэкрутах яшчэ і 10 злотых месячнага забеспячэння. (№ 24). Камісія 20 мая саступіла некалькі дзён паншчыны для пастаўшчыкоў рэкрут і адначасова патрабавала даць на працягу 2 тыдняў кантаніста з кожных 25 дымоў разам са 100 злотымі забеспячэння. Але і гэтыя патуранні не прайшлі, бо камісіі давялося 15 чэрвеня адмяняць свой указ пра 25-дымовых кантаністаў і нават вяртаць пабраныя за іх грошы (№ 89).

Паўстанцкае кіраўніцтва Гродзенскага павета што называецца метадычна ішло насустрач матэрыяльным выгодам шляхты–рыцарства і пры увядзенні прыёма збожжавай ссыпкі у хлебныя магазіны грашыма, разам з залікам яе ў кошт падаткаў (№ 55 ад 23 мая), і калі яно ўвяло складку дымоў пры паборы пешых і конных рэкрутаў( № 101 ад 27 чэрв. і № 105 ад 5 ліпеня). У пошуках тых жа шляхецкіх сімпатый камісія ў 3 разы знізіла (з 6 да 3 злотых) агульную суму харчовага забеспячэння пры рэкруктах (№ 99 ад 23 чэрвеня). Вярхоўныя ўлады паўстання Вільна і Варшавы увялі скарбовыя заручэнні за харчовыя нарыхтоўкі пад 6-% аблігацыі

з абяцаннем натуралізацыі іх шляхам раздачы канфіскаваных уладанняў (№ 86 ад 14 чэрвеня, № 124 ад 11 верасня і № 126 ад 21 верасня). І тым не меней, заахвочванні або зусім не дзейнічалі, або не дасягалі намечанага эфекту. Кіраўніцтву даводзілася безупынна пагражаць карамі за несвоечасовую уплату дзяржаўных падаткаў і нядоімак (№ 7 ад 1 мая), у тым ліку і дабраахвотных ахвераванняў (№ 63 ад 29 мая), за няздачу рэкрутаў, пропуск без пашпартоў і утойванне дызерціраў (№ 24 ад 10 мая, № 47 ад 20 мая, № 113 ад 30 ліпеня). Святарам пагражалі смерцю і секвестрам маенткаў за утойванне і замоўчванне ўніверсалаў перад людам (№ 76 ад 5 чэрвеня і № 130 ад 27 верасня).

Першымі да ворагаў Айчыны разам з таргавічанамі трапілі бурлакі, бо ў Вільна і Варшаве на іх глядзелі толькі як на патэнцыяльных маскоўскіх шпікоў, схільных да бунту супраць акта паўстання (№ 18 ад 9 мая і № 85 ад 14 чэрвеня). Такая ўпэўненасць мела сваю гістарычную традыцыю. І зараз паўстанцкія прапагандысты адназначна падтрымлівалі яе заявамі, што ярмо, прыгнёт, дэспатызм – гэты сінонімы знешняга дыктату, што яны навязаны толькі звонку, а таму пазбавіцца ад іх можна даволі лёгка пры агульнапатрыятычным націску Дастаткова толькі падбадзёрыць слабых, запаліць раўнадушных і пакрыць сорамам і ганьбай нязгодных. Затым гэтак жа лёгка да "шкодных сыноў Айчыны" універсалы занеслі валацугаў і ўсіх тых, хто супраціўляўся паўстанню "па спосабу мыслення" і хто адводзіў "старанных ад збавіцельнага яднання"( № 32 ад 15 мая). У прамыя абавязкі гродзенскага павятовага генерал-маёра 17 мая прама запісалі даручэнне ўціхамірваць хваляванні за непаслушэнства вярхам паўстання (№ 37). Цмяныя прыкметы узнікшай "нязгоды" высвеціў 19 мая ў сваёй прамове на гродзенскім рынку быўшы таргавічанін Іяхім Храптовіч. Ён гаварыў, што многія абывацелі прысягнулі над актам паўстання аднымі "вуснамі, а не сэрцам", бо гэту прытворную прысягу "з арыстакратаў вырваў страх" (№ 39 ад 19 мая). Якраз у гэтыя ж дні– 21 мая–і Тадэвуш Касцюшка пісаў пра фальшывых патрыётаў, якія без выбара "таўкуцца

каля розных спраў" Рэчы Паспалітай дзеля прыватных інтарэсаў (№ 50 ад 21 мая). Гродзенскія вярхі прыбеглі да простага выйсця – яны 24 мая распачалі прысягу вернасці з мэтай давесці ў ходзе яе, што дабрадзейнасць заснавана на павазе рэлігіі, на "сляпым і бездакорным паслушэнстве праву і ўраду", што адзіным рухавіком паўстання з'яўляецца "брацкая роўнасць"(№ 56 ад 24 мая ). Літаральна ж у гэты дзень гродзенскія кіраўнікі распачалі канфіскацыю срэбра ў духавенства (№ 59 ад 24 мая), забаранілі несанкцыянаваныя прамовы да народа (№№ 60-61), каб ніхто не псаваў даверу да ўрада і не абрываў добрай гармоніі, адзінадушша і брацкай любві. Паступова ўніверсалы запаўняюцца прызнаннем розных перашкод паўстанню –боязі, абыякавасці, незычлівасці, маўчання. Варшаўская рада бачыла карані гэтай халоднасці і звычайнага сабатажу у тым, што мабілізацыйны цяжар патрыятычных абавязкаў падаў нераўнамерна, пераважна на актыўных і самых старацельных. Таму яна рэкамендавала распасцерці ўцяжлівыя пaборы і рэквізіцыі на ўсіх аднолькава, пораўну –няхай, гаварыла яна, да абавязка вядзе страх і пагроза суровага пакарання, у тым ліку і смяротнага (№ 116 ад 20 жніўня). У падобным духу на месцы, у Гродзенскім павеце, праводзілі прымусовы пабор рэкрут, з прымяненнем двайных штрафаў і паралельным пакараннем "у дупло" як ворагаў паўстання за няздачу абмундзіравання і харчавання (№ 118 ад 24 жніўня, № 119 ад 25 ўніўня і № 120 ад 30 жніўня).

Гэтыя застрашальныя акцыі праходзілі на заключным этапе паўстання пры усведамленні іх дарэмнасці і безпаспяховасці самім жа кіраўніцтвам, бо тая ж Варшаўская рада пісала 11 верасня, што ніякія "указы не могуць зняволіць да сляпой пакорнасці", бо пагрозы палохаюць толькі подлыя душы, а ў шляхетных ці светлых галовах яны вызываюць адзін смех і знявагу (№ 123 ад 11 верасня). За гэтымі словамі стаіць прызнанне адной з заканамерных прычын паражэння паўстання. У прыводзімых дакументах нельга не заўважыць прагу кіраўніцтва паўстаннем, у тым ліку і на мясцовым узроўні, спалучыць шырокую самахвярнасць і адрачэнне ад асабістага інтарэсу з ваяўнічай нецярпімасцю да інша-

думства. У выніку святы саюз барацьбітоў за агульныя інтарэсы і светлыя ідэалы цэментаваўся падаўленнем асобы і безупынным падтрыманнем бездакорнай паслухмянасці вярхам або ананімнай большасці. Паўстанне, гаворачы выдатнымі словамі той жа Рады, падцвердзіла пераменлівасць гістарычнага лёсу, бо бег падзей у адзін момант прымае іншы абарот і пачынае спрыяць пацярпелым. Тое, што было паражэннем, робіцца перамогай і наадварот. Гэты урок паўстання 1794 г. усяляе надзею і аптымізм усім, хто гэтак жа лічыць, што бароняць "не муры і сцены, а душы і рукі".

*1 Камісары Касцюшкі. Мн., 2004; Імем Айчыны. Мн., 2004*

*2 Grodno w XVIII wieku. Miasto i ludnosc. Bialystok, 1997*

*3 Woltanowski A. Grodno w powstaniu Kosciuszkowskim//Grodno w XVIII wieku...S. 29-42*

*4 Там жа, С. 65-171*

*5 Там жа, С. 29*

*6 Bartoszewicz K Dzieje insurekcji Kosciuszkowskiej. Berlin, Wieden, б/г. С. 217, 282*

*7 Land S., Plewkiewicz M. Portret Jakuba Jasinskiego. Warszawa, 1964. S. 143.*

*Навуковае выданне*

***Анішчанка** Яўген Канстанцінавіч*

*ЗБОР ТВОРАЎ У ШАСЦІ ТАМАХ*

*ТОМ 3*

*СССР*

*Святы саюз свабодных рыцараў.*
*Дакументы паўстання 1794 г. у Літоўскай правінцыі*

*Адказны за выпуск Віктар Хурсік*
*Рэдактар Яўген Анішчанка*
*Камп'ютарны набор Таццяны Пуцейка*

*Падпісана ў друк 15.11.2006. Фармат 60x84 1/16.*
*Папера афсетная. Гарнітура Школьная. Афсетны друк.*
*Ум.-друк. арк. 17,78. Улік.-выд. арк.10,55.*
*Наклад 75 асобнікаў. Замова 62.*

*Выдавец індывідуальны прадпрымальнік В. У. Хурсік*
*220117 Мінск, прасп. газ. "Известия", д.57, кв. 31.*
*Тэл. 2703382. E-mail: **Khursik_Viktor@tut.by***
*Ліцэнзія ЛВ 02330/0133267 выдадзена 30.04.2004*

*Надрукавана з арыгінал-макета выдаўца*
*ў друкарні ААА "Смэлтак"*
*Ліцэнзія 02330/0148765 выдадзена 30.04.2004*
*220070 Мінск, вул. Радыяльная, 36*

